* * *

*Ёсць на Валожыншчыне*
*вёска Пугачы,*
*Дзе рэчышчы сцяжын*
*не зараслі ў лугах,*
*У агародчыках красуюць касачы,*
*Буслы*
*на захад*
*сонца коцяць па дубах.*

*У сэрцах ёсць таксама*
*вёска Пугачы,*
*Таму сцяжыны не губляюцца ў лугах,*
*У агародчыках красуюць касачы,*
*Буслы*
*на захад*
*сонца коцяць па дубах...*

*29.04.1980*

# ТРАВЕНЬ

## *Мама і шчасце*

27.05.2009. Мама першы раз за месяц, які жыве ў мяне, выйшла са мной на вуліцу. Вяду за руку, як малое дзіця. Каля кожнага дрэва, каля кожнай кветачкі мама спыняецца і разглядае, што расце. Нешта сама сабе шэпча, радуецца. Радуюся і я. Як мала трэба чалавеку для шчасця!

## *Заробак і каровы*

27.05.2009. Узгадалася далёкае. Зіма. Ужо недзе месяцы тры як бацька, які працуе пастухом, не ходзіць на кароўнік — там яму няма чаго рабіць. І ён, агледзеўшыся па гаспадарцы, валяецца на ложку. І тут вяртаецца з кароўніка мама: «Чаго ляжыш? Уставай! Ідзі на работу! Там карова здохла. Трэба скуру здзерці. Заплацяць тры рублі!» Бацька няспешна ўстае, апранаецца і шкандыбае на кароўнік. І да траўня, калі пагоняць кароў на пашу, бацькаў заробак будзе залежаць ад колькасці здохлых кароў і цялят...

## *Тры тысячы*

28.05.2009. Ідучы ў краму праз двары, знайшоў тры тысячы. Радасць не вялікая, але прыемна, што і мне часам шанцуе. Не паспеў далёка адысціся ад свайго шчаслівага месца, як сустрэўся знаёмы дворнік: «Ці не маглі б вы пазычыць мне тры тысячы?» Гэтыя пазычальшчыкі грошай мне даўно і добра абрыдлі, таму я адразу адказаў: «Няма ў мяне грошай!» — і пайшоў далей. Крыху адышоўшы, спыніўся: «А можа дворнік знойдзеныя мной грошы згубіў і цяпер у яго няма чым апахмяліцца?» Хацеў вярнуцца, але перадумаў і, прыйшоўшы ў краму, укінуў чужыя тры тысячы ў скрынку, у якой збіраюцца грошы на пабудову Храма...

## *Пчолы Квяткоўскага*

29.05.2009. Патэлефанаваў мастак Алесь Квяткоўскі і запрасіў прыйсці паглядзець на новыя працы. Яго майстэрня ў ста кроках ад маёй кватэры. Першае, што мне давялося ўбачыць,— гэта карціна, прысвечаная Анатолю Сысу. На ёй пчаліны рой падняў паэта высока над зямлёй і людзі пад гэтым роем стаяць, як пад дрэвам, і глядзяць уверх, як на Бога. «Як назваць працу?» — пытаецца Алесь. Я, доўга не думаючы, адказаў: «Пчаліны бацька». Потым ён паказаў мне карціну, над якой яшчэ працуе. На ёй я стаю на памосце, што на дрэвах, сярод вулляў, а ўнізе — як у пекле. «Ты будзеш з сабакам, і ў кожнага з вас па кулямёту!» — заявіў Алесь і дадаў, што карціну можна будзе назваць «Абаронцы пчол». Пасмяяўшыся, мы развіталіся. І толькі я адчыніў дзверы на вуліцу, як пачуліся гучныя воплескі і ў неба ўзляцела куча рознакаляровых балонікаў, нібыта ветрам быў падхоплены пчаліны рой з карціны Алеся Квяткоўскага... Побач з майстэрняй мастака ў двары выпускнікі развітваліся са школай...

## *Наглая і красівая*

29.05.2009. Адзінокага старога, які любіць выпіць, нашы суседзі за сценкай затапілі. Не разабраўшыся, ён прыйшоў сварыцца з намі. На званок у дзверы выйшаў я і пачаў спакойна тлумачыць, што мы не вінаватыя. Хвілін дзесяць тлумачыў і, магчыма, яшчэ б больш, калі б мая Людміла не разагнала нас. Праз хвілін пятнаццаць стары з'явіўся зноў і, сутыкнуўшыся нос у нос са мной, запытаўся: «Гэта тут жыве наглая і красівая?!»

## *Аляксандр Межыраў*

30.05.2009. Сёння даведаўся, што нядаўна на 86-м годзе жыцця памёр рускі паэт Аляксандр Межыраў, які з 1994 года жыў у Амерыцы. Мне здавалася, што ён даўным-даўно сышоў у лепшы свет... Я меў шчасце, калі вучыўся ў Літінстытуце, быць слухачом яго семінара паэзіі. Ён заікаўся, таму чытаў паэзію спяваючы. І ў гэтым быў нейкі шарм, бо ўсё, што гаварыў паэт, здавалася суцэльным белым вершам...

## *Мае героі*

31.05.2009. На лесвічнай пляцоўцы сустрэў маладую суседку. Павіталіся. І тут жа ўспомнілася:

*Табе шчэ дваццаць, мне ўжо сорак пяць,*
*Табе шчэ жыць, а мне ўжо ўспамінаць,*
*Нібы шукаць у прыску вугалі*
*Чырвоныя, як кроў маёй зямлі,*
*Дзе ўжо я жыў, дзе сёння ты жывеш,*
*Нібы агню аддадзены мой верш,*
*Які згарыць і застанецца тло,*
*Як ад цябе ў маёй душы святло,*
*Калі цяпер ты выйдзеш з цягніка.*
*Цягнік ідзе, нібы цячэ рака,*
*Куды нікому двойчы не зайсці.*
*І ты пайшла, але ў маім жыцці*
*Усё-ткі ты была, як гэты дзень,*
*Як гэта сонца ў восеньскай вадзе.*
*І жыць табе, а мне ўжо ўспамінаць...*
*Табе шчэ дваццаць, мне ўжо сорак пяць...*

Аднак гэтыя радкі не пра яе. Яны з маёй аповесці «Лісты і залатое лісце», у якой мая суседка існуе так, як і ў рэальным жыцці, са сваім мужыком, што ў мяне за сценкай начамі яе і любіць, і б'е, і потым яна ходзіць з падбітымі вачыма. Цяпер яны жывуць больш-менш мірна. Гадуюць сына. Я не ведаю, хто яна, як і яна не ведае, хто я, і што бурны перыяд яе кахання апісаны ў маім творы. Мужык суседкі са мной не вітаецца, нібыта прачытаў маё тварэнне і цяпер не ведае, што са мной утварыць...

* * *

31.05.2009. Гляджу фільм пра рамантычнае каханне. І раптам верш:

*Я не забыў вас, не забыў*
*І вас ніколі не забуду.*
*Я вас любіў, я вас любіў*
*І больш любіць не буду,*
*Бо вы — чужая, я — чужы,*
*І ўжо не зменіцца нічога,*
*Як не мяняюцца крыжы*
*На Храме ў Бога...*

# ЧЭРВЕНЬ

## *Навальніца*

1.06.2009. Баюся навальніцы яшчэ з дзяцінства. Асабліва, калі пад навальніцу трапляю ў вёсцы. Тады ўжо ў думках малюся, у хаце чапляю галёшы на разеткі, каб з іх не выскачыла маланка. І наогул для мяне грымоты, як бамбёжка... Сённяшняя навальніца не напалохала, а, наадварот, акрыліла душу сваёй грымотнай нечаканасцю і прыгажосцю маланак. Я стаяў каля акна ў сваім кабінеце, у якім на стале кучы чужых вершаў і прозы, і глядзеў у неба. І мне хацелася разуцца і пабегаць па калюгах. Але...

## *«Тытанік» і аэробус*

1.06.2009. Сёння памерла апошняя пасажырка «Тытаніка». Ёй было 93 гады. І сёння над Атлантыкай прапаў аэробус, які ляцеў рэйсам Рыа-дэ-Жанейра — Парыж, на борце якога было 216 пасажыраў і 12 членаў экіпажа... Існуе стагоддзямі праверанае, што нічога выпадковага не бывае. Няўжо і гэтыя смерці нечым звязаныя паміж сабой у космасе нашага існавання, ці гэта толькі я іх паставіў побач і задумаўся?

## *Прыгажосць — страшэнная сіла*

2.06.2009. Вечарам з працы вяртаюся дахаты. На маёй лесвічнай пляцоўцы маладая прыгожая незнаёмая жанчына з дзяўчынкай школьніцай звяртаецца да мяне: «Мы ключы забыліся! Не можам у кватэру зайсці. Муж у камандзіроўцы. Дапамажыце ўзламаць дзверы». Доўга не думаючы, бяру з дому манціроўку і выходжу на лесвічную пляцоўку. Спрабую ўзламаць дзверы. На грукат-стукат з'яўляецца сусед Дзіма, які, убачыўшы мяне за працай, забірае манціроўку і пачынае з такім азвярэннем ламаць дзверы, што аж трэскі лятуць ува ўсе бакі. Крыху

аддыхаўшыся, лаўлю сябе на пытанні: «Адкуль гэта раптам узялася ў нас новая суседка? Яе пару дзён назад не было! А што, калі гэта нейкая аферыстка? Мы ўзламаем дзверы, а яна вынясе з чужой кватэры ўсё, што зможа...» Уважліва агледзеўшы незнаёмку з галавы да ног, звяртаюся да Дзімы: «Канчай ламаць!» А Дзіма, нібыта мяне не чуе, працягвае штурм кватэры, бо незнаёмка, пачуўшы мяне, сказала: «Чым хутчэй узламаеце, тым больш заплачу!» Кончылася ўсё тым, што я адабраў у Дзімы манціроўку і прапанаваў незнаёмцы выклікаць майстра па ўскрыцці дзвярэй. Майстра прыехаў праз паўгадзіны, а я за гэты час даведаўся, што сапраўды ў нас два дні таму з'явіліся новыя суседзі...

### *Калі паэт, то сядзі...*

4.06.2009. У гэтым годзе Васілю Быкаву было б 85... Успомнілася мая першая сустрэча з вялікім пісьменнікам. Гэта было на святкаванні трыццацігоддзя часопіса «Маладосць» у 1983 годзе. Я тады быў зусім маладым, і мяне рэдакцыя запрасіла выступіць ад імя ўсёй літаратурнай моладзі. Святкаванне праходзіла ў Доме літаратара. Я прыйшоў загадзя і мяне, каб не блытаўся сярод гасцей і наогул каб не ўцёк, Леанід Дайнека адвёў у кабінет літкансультантаў, дзе ўжо сядзеў Васіль Быкаў, якога я адразу пазнаў. Сказаўшы «Добры дзень», я сеў на вольнае крэсла. Васіль Уладзіміравіч, агледзеўшы мяне, грозна запытаўся: «Хто ты такі?!» — «Паэт. Віктар Шніп...» — нясмела адказаў я. «Ну, калі паэт, то сядзі!» — весялей сказаў Васіль Быкаў і пачаў распытвацца, адкуль я, хто мае бацькі, чым займаюся...

* * *

4.06.2009. У мяне ў кабінеце на сцяне партрэты Льва Сапегі і Васіля Цяпінскага. Гляджу на іх, як у вокны, за якімі спыніўся мінулы час, каб напамінаць нам, з чаго пачыналася нашае Сёння...

### *Жамойцін і Бембель*

5.06.2009. Рыхтуем да друку кнігу «Смаргоншчына літаратурная». Сярод аўтараў — Алесь Жамойцін. На сённяшні дзень мала хто яго ведае, і ён зусім не ўспамінаецца ў абоймах творцаў, на якіх «трымаецца зруб сучаснай беларускай літаратуры». А гадоў дваццаць пяць таму пра першую кніжку Алеся пісаў і прарочыў яму вялікую літаратурную будучыню Ніл Гілевіч. Даўным-даўно паэт жыве ў Кушлянах і працуе ў Музеі

Францішка Багушэвіча. Для мяне сваім служэннем Беларусі Алесь Жамойцін падобны да Алега Бембеля, які пайшоў у Жыровіцкі манастыр, каб служыць Богу...

### *Сядзіба Каганца і Апалінэра*

6.06.2009. Дзяржынскі раён. Вёска Вялікія Навасёлкі. Сюды мяне з жонкай прывёз сябра Барыс, каб паглядзець на рэшткі палаца, пра які ён вычытаў у кнізе, прысвечанай Мінскай вобласці. Вёска сапраўды вялікая. У ёй шмат дрэў, зелянее старадаўні парк, на ўскрайку якога мы і знайшлі двухпавярховы з чырвонай цэглы палац, у якім замест падлогі крапіва. Па ўсім бачна, што яшчэ гадоў дваццаць таму на ім была страха. І, калі б у Навасёлках было талковае начальства, то не былі б побач збудаваны два шэрыя будынкі, у якіх размясціліся пошта і крама, а ўсё гэта магло быць у палацы. У глыбіні парку захаваўся стары панскі маёнтак, у якім пасля вайны быў дзіцячы дом, а цяпер — бальніца. Выязджаючы з вёскі, каля дарогі сярод дрэў і кустоў заўважылі чорны крыж. На жаль, не спыніліся і не паглядзелі, хто там пахаваны. Ужо ў Мінску нам патэлефанаваў сябра і сказаў, што ў Вялікіх Навасёлках мы бачылі спадчынную сядзібу старадаўняга шляхецкага роду Кастравіцкіх, які даў Беларусі пісьменніка Каруся Каганца, а Францыі — Гіёма Апалінэра...

### *Ад нас застануцца не нашы пасады*

8.06.2009. «Ты харошы паэт. Але ў цябе няма патрэбнай для вялікага паэта біяграфіі...» — кажа мне знаёмы літаратар, які, мяркуючы па тоне размовы, лічыць, што ў яго патрэбная біяграфія ёсць. «І якой жа біяграфіі ў мяне няма?» — цікаўлюся, хоць і ведаю, што суразмоўца мае на ўвазе. «У цябе ўсё добра ў сям'і. Ты не п'янствуеш. Ты спакойны. Ты займаеш пасады. Ты часта друкуешся. Табе ўзнагароды даюць...» — пералічвае літаратар. Я пагаджаюся з ім і маўчу пра тое, што пасля заканчэння архітэктурна-будаўнічага тэхнікума не забраў дакументы, каб не пайсці працаваць. І не пайшоў, а сем гадоў жыў у Мінску без прапіскі, час ад часу па ўжо несапраўдным студэнцкім білеце ўладкоўваючыся грузчыкам на лікёра-гарэлачны завод «Крышталь». Ніколі не быў у камсамоле. Не служыў у войску, бо тры гады не маглі мяне адшукаць, а калі знайшлі, то знайшоўся ў абласным ваенкамаце чалавек, які, запытаўшыся, ці хачу я служыць, і пачуўшы маё «не», сказаў: «Добра. Ідзі пішы вершы...» І я пайшоў далей біць лынды па Мінску і пісаць вершы... І сёння, азіраючыся ў сваё мінулае, я нікому не

зычу таго, што мне давялося перажыць з 1978 па 1985 год... І не трэба мне «патрэбнай для вялікага паэта біяграфіі», а тым больш што «ад нас застануцца не нашы пасады...»

### *Крызіс і перабудова*

8.06.2009. Сустрэў пісьменніцу Ніну Загорскую. На яе пытанне пра жыццё адказаў: «Усё было б добра, калі б не сусветны фінансавы крызіс». Ніна Сямёнаўна тут жа сказала: «Гэты крызіс прыдумалі тыя ж людзі, якія ў свой час прыдумалі перабудову...»

### *У дзяцінстве і цяпер*

8.06.2009. З паэтам Глебам Артханавым успамінаем пра дзяцінства. «Яшчэ зусім нядаўна ў Свіслачы можна было купацца...» — кажа мой суразмоўца. А я дадаю: «А цяпер там толькі тонуць...»

### *Агуркі і яблыкі па пяць капеек*

9.06.2009. У выдавецтва тэлефануюць не толькі пішучыя людзі, каб запытацца, калі можна прынесці рукапіс ці «чаму мяне не выдаеце, а друкуеце ўсякіх графаманаў», а часам і чытачы, каб проста пагаварыць. Вось і сёння патэлефанаваў чытач: «Можна з вамі пагаварыць?» — «Можна»,— адказваю я. І чалавек пачынае свой маналог: «Я палкоўнік у адстаўцы. У Мінску жыву дваццаць два гады. Выбар быў, дзе пасля службы застацца: Адэса ці Мінск. Жонка настаяла, каб паехаць жыць у Беларусь, бо ў вас жывуць спакойныя людзі. І я цяпер не шкадую. Пенсія ў мяне 900 тысяч. Суседзі пытаюцца: «За што табе такая пенсія?» За тое, што на месцы не сядзеў, а да пенсіі жыў, куды пашлюць. У маім пяціпавярховым доме ў пад’ездзе працуе толькі адзін мужчына, а ўсе астатнія п’юць. Бяда! Калі я служыў у Адэсе, у мяне быў «Жыгуль». Я на ім па пляжы ездзіў. Следам дзеўкі бегалі. Красата! Жыць тады можна было. Яблыкі і агуркі былі па пяць капеек! Вы памятаеце?» — «Не памятаю...» — адказваю я і кладу трубку...

### *Фотаздымак Яўгена Крупенькі*

9.06.2009. Мне з «ЛіМа» вярнулі пазычаны фотаздымак Яўгена Крупенькі. Імя для творчай моладзі зусім не вядомае. А прайшло ж пасля смерці паэта толькі гадоў пятнаццаць! І дзе сёння тыя ўдзячныя вучні, якія хадзілі да Яўгена Мікалаевіча

як да літкансультанта «Чырвонай змены», пры якой працавала літаб'яднанне «Крыніцы»? Няўжо таксама памерлі? Не! Жывуць! Працуюць! Друкуюцца! Кожны думае пра сябе! А быў жа пры жыцці Крупенька не самым апошнім у літаратуры! Ды не адзін Яўген Крупенька амаль забыты! Анатоль Вялюгін, Аляксей Русецкі, Пятрусь Макаль... І ці не такі чакае лёс многіх сённяшніх творцаў, што адзін аднаго запісалі ў класікі?.. «Такі...» — кожны, хто паўторыць гэтае слова, падумае пра іншых і ні ў якім разе пра сябе...

## *Літво і пітво*

10.06.2009. Коэльё, Муракамі, Кундэра... Літаратура для масавага чытача. Віно, шампанскае, гарэлка... Пітво для шумнага застолля. І першае, і другое прыносіць задавальненне. Але хто адважыцца паставіць знак роўнасці паміж літаратурнай творчасцю і пітвом? Відаць, толькі масавы чытач і п'яніцы, якія даўно нічога не чыталі...

## *Чэрвеньская завея*

10.06.2009. Нарэшце цёпла. Навокал — тапалёвы пух, нібыта пачалася чэрвеньская завея. І ў нас на працы на дзявятым паверсе калідор, як дарога, замеценая снегам...

* * *

10.6.2009. Жанчына, якая спазнілася на аэробус, што пацярпеў катастрофу над Атлантыкай у дзень, калі памерла апошняя пасажырка «Тытаніка», сёння загінула ў аўтакатастрофе. Выпадкова, ці гэта затанулы «Тытанік» збірае пасажыраў?

## *Не шукай...*

11.06.2009. У мяне на камп'ютары запісана песня «Не шукай...» у выкананні Данчыка. Калі бывае дрэнны настрой або проста сумна, я слухаю гэтую цудоўную песню: «Не шукай ты мяне каля жытніх палёў, не шукай, не шукай... Калі к сэрцу майму ты дарог не знайшоў, не шукай, не шукай... Не кажы ты мне слоў, што не грэюць цяплом, не кажы, не кажы... Калі сэрца тваё не палае вагнём, не кажы, не кажы...» І я адразу весялею, і мне хочацца жыць, любіць, кахаць, піць віно, спяваць і плакаць...

*Не вінаваты я!*

12.06.2009. Каля піўбара маладая жанчына гучна адчытвае падпітага мужа: «Апошні раз кажу! Каб болей не піў! І нават каб паху не было!» Мужчына не агрызаецца, а, як малое дзіця, якое толькі што было злоўлена за шкодніцтвам, глядзіць, нервова міргаючы, на жонку. І калі я праходзіў міма, мужчына павярнуў галаву да мяне, і ў яго вачах я прачытаў: «Не вінаваты я!»

* * *

12.06.2009. Не было дажджу. І было дрэнна, што няма дажджу. Цяпер ідзе дождж. І ўжо дрэнна, што ён ідзе. Нам, людзям, не дагодзіш...

*Не хвалюйцеся!*

15.06.2009. На фестываль песні і паэзіі ў Маладзечна былі запрошаны паэты. Перад тым як накіраваць выступоўцаў у навучальныя ўстановы горада, Міхась Казлоўскі, які курыраваў нас, патэлефанаваў дырэктару адной з навучальных устаноў, каб даведацца, як там падрыхтаваліся да сустрэчы свайго земляка Кастуся Цыбульскага. Дырэктар бадзёра адказаў: «Вы не хвалюйцеся! Мы ведаем, што ў нас будзе выступаць паэт Цыбулькін!»

*Паэт і бомба*

15.06.2009. Фотакарэспандэнт газеты «Культура» Юрый Іваноў спазніўся на выступленні паэтаў і, каб усё-ткі вярнуцца з фестываля песні і паэзіі дамоў з поўным фотарэпартажам, звярнуўся да мяне з просьбай пайсці з ім на цэнтральную плошчу Маладзечна і папазіраваць. Я не адмовіўся, хоць і быў гатовы ў любы момант згубіцца сярод людзей, якія прыйшлі на свята. Плошча была ачэплена міліцыяй, і прайсці на яе можна было толькі праз спецыяльныя праходы. Фотакарэспандэнт прайшоў без чаргі, а я хвілін дзесяць стаяў. І, калі мяне пачалі абшукваць, перад міліцыянерам з'явіўся Юрый Іваноў і незадаволена сказаў: «Гэта паэт! Навошта вы яго правяраеце?!» Міліцыянер, працягваючы абшукваць мяне, адказаў: «А што, калі гэты паэт з сабой бомбу нясе?..»

*Алесь Жук і «Усё забудзецца...»*

15.06.2009. Падпісаўшы дамову на выданне кнігі ў серыі «Школьная бібліятэка», да мяне зайшоў павітацца празаік Алесь

Жук. Напачатку мы адзін аднаму паскардзіліся на дажджы, а потым я пацікавіўся: «Над чым новым цяпер працуеце?» — «Пішу вольную прозу. Кароткую, бессюжэтную. З сюжэтамі мне стала пісаць нецікава. Пішу пра тое, што мне помніцца. А кніжка будзе называцца: "Усё забудзецца..." — адказаў Алесь Аляксандравіч і, сумна ўсміхнуўшыся, дадаў: — Пішу, і мне цікава, але ці будзе каму цікава напісанае мной, не ведаю...»

### *Махалёты ў Амерыцы не лётаюць...*

15.06.2009. Адчыняюцца дзверы, і ў мой кабінет заходзіць чалавек гадоў шасцідзесяці. Невысокі і вусаты, як я. Нясмела прывітаўшыся, кажа: «Вы, відаць, мяне пазналі?» — «Ага...» — адказваю я і спрабую ўспомніць, калі і з якім творам гэты чалавек прыходзіў да мяне. «Я вам прынёс махалёт»,— узрадавана тлумачыць мужчына прычыну свайго прыходу. «Прыпамінаю...» — кажу я і працягваю слухаць. «Пасля наведвання вас я стаў папулярным. Мне пачалі званіць бізнесмены. Пазваніла двое. Потым усё заглухла, і мной перасталі цікавіцца. У Амерыцы спрабавалі рабіць махалёты па маіх чарцяжах, але яны там чамусьці не лётаюць...» — «У нас грошай няма на ваш махалёт»,— перапыняю аповед канструктара, і ён, падзякаваўшы мне за ўвагу, самотна зачыняе дзверы за сабой...

### *Рыхтуем да друку*

16.06.2009. Рыхтуем да друку «Чужую бацькаўшчыну» Вячаслава Адамчыка. Сёння да мяне прыходзіў Адам Глобус — прынёс ранейшае выданне гэтага рамана, якое вычытваў сам Вячаслаў Уладзіміравіч, для зверкі з новым наборам. Кніжка выйдзе ў наступным месяцы ў серыі «Школьная бібліятэка». Спадзяюся, душа Вячаслава Уладзіміравіча, убачыўшы з неба сваю «Чужую бацькаўшчыну» на паліцах кнігарань, усцешыцца, што я і пра яго не забыўся... Аднак не ўсё ад мяне залежыць...

### *Вышыванка і Барадулін*

17.06.2009. Да мяне ў рэдакцыю зайшоў Алесь Камоцкі. Пагаварыўшы пра сваіх бацькоў, прыгадалі Рыгора Барадуліна. Ён цяпер ва Ушачах. Яму там добра. Гады два таму Рыгор Іванавіч часта гаварыў пра сваю смерць, думаў пра тое, як ён і ў чым будзе ляжаць у труне. Хацелася яму быць у вышыванцы, і Алесь расстараўся, каб Рыгору Іванавічу яе пашылі. Пасля таго,

як з’явілася ў Паэта вышыванка, ён перастаў гаварыць пра сваю смерць. «А дзе Рыгор Іванавіч хоча, каб яго пахавалі?» — пытаюся ў Алеся. «Ніякіх варыянтаў. Толькі побач з маці»,— адказвае суразмоўца, і я пагаджаюся з выбарам Паэта і ўспамінаю яго радкі: «Трэба дома бываць часцей! Трэба дома бываць не госцем!..»

## *Пацюпа і Тарас на Парнасе*

17.06.2009. Юрась Пацюпа цяпер у сваіх Азёрах. Піша каментары да «Тараса на Парнасе». Тэлефаную, каб прыспешыць справу, бо час ужо кніжку здаваць у друкарню. Падымае трубку Юрасёва маці, і пакуль яна яго кліча, я ўяўляю Пацюпу, які ў шортах колеру хакі сядзіць у скураным фатэлі за дыхтоўным пісьмовым сталом і п’е каву з каньяком... Крыху ахрыплы голас самога Пацюпы вяртае мяне ў рэальны свет...

* * *

17.06.2009. Язэп Янушкевіч зноў з’ехаў у Польшчу. І цяпер мы не можам з ім скантактавацца, каб зняць пытанні ў яго прадмове да факсімільнага выдання «Дудкі беларускай» Францішка Багушэвіча. Аднак справа на месцы не стаіць, як і не стаяла, калі рыхтавалі двухтомны Збор твораў Дуніна-Марцінкевіча, да якога пісаў каментары Язэп Язэпавіч. Пісаў так доўга, што часам здавалася, нібы піша сам пра свае творы стары Дунін-Марцінкевіч, а Янушкевіч стаіць над яго душой і чакае гатовага матэрыялу...

## *Pexeso*

18.06.2009. Нядаўна выдалі кнігу «Мінск: падарожжа па горадзе», вокладка якой зроблена ў форме гульні, вядомай у Еўропе пад назвай pexeso. Квадраты з карцінкамі-выявамі знакамітых мясцін і асоб, кожная з якіх паўтараецца двойчы, выразаюцца і перамешваюцца. Удзельнікі гульні па чарзе разбіраюць карцінкі і параўноўваюць выявы. Выйграе той, у каго па сканчэнні гульні карцінак з аднолькавымі выявамі назбіраецца больш. Я амаль два тыдні пераадольваў спакусу паспрабаваць самому згуляць ў pexeso і сёння, убачыўшы на стале ў нашага мастака парэзаную вокладку кнігі «Мінск: падарожжа па горадзе» прапанаваў яму згуляць. Згуляў і прайграў. Зайшоўшы да сябе ў кабінет, адчуў жаданне вярнуцца да мастака, каб зноў згуляць і на гэты раз выйграць. Праз паўгадзіны палова выдавецтва гуляла ў pexeso...

## *Гітара і оперны голас*

18.06.2009. Па далькажыку пазваніў мой даўні сябра паэт Павел Дзмітрук. Ужо некалькі гадоў я не чуў яго. Пахваліўшыся жонкамі, пачалі расказваць адзін аднаму пра дзяцей. Паўлава дачка займаецца стварэннем лялек і вельмі паспяхова. А сын наогул вучыцца ў Санкт-Пецярбургу ў кансерваторыі на оперпага спевака. Недзе ў дзявятым класе хлопцу захацелася іграць на гітары, і ён папрасіў бацьку купіць яму інструмент за баксаў трыццаць. Павел запытаўся ў сына: «Навошта табе гітара за трыццаць баксаў? Калі купляць, дык хаця б за баксаў трыста. Да ўсяго, калі ў цябе няма слыху, дык наогул ці трэба нешта купляць? Схадзі спачатку на праслухоўванне ў гурток мастацкай самадзейнасці». Хлопец пайшоў і, вярнуўшыся, сказаў, што яго праслухаў выкладчык з нашай кансерваторыі, які кіруе гуртком, і параіў кідаць сваю школу і ехаць у Маладзечна, дзе вучацца таленавітыя дзеці. Аказалася, што ў сына Паўла Дзмітрука голас опернага спевака. І калі б не захацеў хлопец навучыцца іграць на гітары, то ў лепшым выпадку сёння б вучыўся на якім-небудзь філфаку ці журфаку, а то і наогул служыў бы ў войску і, маршыруючы па пляцы, оперным голасам спяваў: «Не плач дзяўчонка, прайдуць дажджы...»

## *Вальтэр і Казлоўскі*

19.06.2009. У «Кнігазборы» Міхась Казлоўскі выдае Выбраныя творы Віктара Вальтэра, які, нарадзіўшыся ў 1902 годзе, пражыў усяго дваццаць дзевяць гадоў. У кнігу ўвайшлі раман «Роджаныя пад Сатурнам» і аповесць «Аднабочнікі». І гэта не першы літаратар, творы якога Міхась вяртае нам з нябыту. Ён вяртае, а некаторыя таварышы, трымаючы ў руках яго працу, пачынаюць выказваць свае думкі, як гэта можна было б зрабіць лепей, крытыкуюць, і амаль ніхто добрага слова не кажа маладзечанскаму краязнаўцу. Ды яму, па вялікім рахунку, нашых удзячных слоў і не трэба, для яго галоўнае — калі не можаце і не хочаце дапамагчы, дык хоць не перашкаджайце рабіць справу...

## *Хата без маці*

20.06.2009. З братам прыехалі ў свае Пугачы. Дома бацька ўжо амаль чатыры месяцы адзін, пасля таго як захварэла маці, якая цяпер жыве ў нашай сястры. Ідзём праз нудотны дождж з аўтобуснага прыпынку. Нікога знаёмага. І не дзіўна —

старыя жыхары выміраюць, а засяляецца нейкая набрыдзь, якая, пажыўшы ў вёсцы пару гадоў, едзе далей шукаць жыццё на дурніцу. Чым бліжэй падыходжу да роднай хаты, тым нясцерпней хочацца плакаць. Але трымаюся. Са мной малодшы брат...

* * *

20.06.2009. З братам капаемся ў градах. Бацька сядзіць на лаўцы каля хаты і назірае за намі. Час ад часу паглядаю на дзверы, бо мне здаецца, што яны вось-вось адчыняцца і выйдзе мама, і скажа: «Пара абедаць...» Але дзверы не адчыняюцца...

### *Пугачоўскі цырульнік*

20.06.2009. Прыехаўшы ў вёску, заўсёды стрыгу і галю бацьку. Бывае такое, што яму і вуха нажніцамі, і шыю брытвай парэжу, а ён сядзіць і трывае. Ды і сёння неяк вытрываў мяне як цырульніка. Праўда, калі мой брат зайшоў у пакой, не змаўчаў: «Вова, садзіся, няхай Віця і цябе паголіць...» Брат, убачыўшы акрываўлены твар бацькі, замахаў рукамі і запытаўся ў мяне: «Няўжо такая брытва вострая?»

### *Нядзеля*

21.06.2009. Раніца. Сонечна. На электрычцы едзем у Фаніпаль да Севы Гарачкі ў госці. Сядзім. У вагоне не шмат людзей... Вечарэе. Дождж. Вяртаемся дамоў. Ледзьве заціснуліся ў электрычку. Стаім. У вагоне палова студэнтаў і п’яных...

### *Дом і вершы Севы*

21.06.2009. Сева Гарачка ўжо некалькі гадоў будуе свой дом. Не хату, а дом. Хата не можа быць двухпавярховай. І мы, прыехаўшы ў госці да Севы, сядзім у доме за сталом, п’ем віно і чытаем вершы. Дакладней, адзін Сева чытае, а мы ўсе слухаем і не слухаем. Жонка Севы паэтка, але ў доме гаспадар Сева, і таму толькі ён чытае нам вершы са школьных сшыткаў у лінейку. На вуліцы ідзе дождж, а нам добра, бо Сева чытае вершы ў сваім доме...

### *Чакаем восені...*

21.06.2009. Сева Гарачка паказвае гасцям сваё багацце і расказвае пра сабаку, ката, папугая, хамяка, чарапаху, індыкачак. У

агародзе расце чатыры градкі бульбы, градка агуркоў, буракоў і яшчэ шмат чаго, і вельмі шмат кветак і нятоптанай травы. Гэтай восенню Сева збіраецца стварыць на сваіх сотках невялічкі парк, дзе кожнае дрэва будзе пасаджана пісьменнікамі, якіх ён запросіць у госці. Абяцае да кожнага дрэва пачапіць шыльдачку з нержавейкі з прозвішчам таго, хто садзіў. Словам, чакаем восені...

## *Загадка Васіля Сахарчука*

22.06.2009. Сярод патрэбных папер на маім стале ляжыць кніга Васіля Сахарчука «Мой вечны бор», якая ў 2004 годзе стала маёй першай рэдактарскай працай у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Я час ад часу бяру яе ў рукі і перачытваю творы, спрабуючы разгадаць прычыны самагубства цудоўнага паэта. З Васілём я пазнаёміўся ў 1981 годзе ў Доме творчасці «Каралішчавічы» на семінары маладых літаратараў Беларусі. Напачатку некалькі гадоў перапісваліся, а потым, калі Васіль прыязджаў у Мінск, сустракаліся ў «ЛіМе», дзе я працаваў. Ужо сёмы год, як паэт па сваёй волі сышоў у іншы свет, напісаўшы незадоўга перад гэтым ад імя паэта Васіля Гадулькі «Споведзь самотніка», у якой ёсць радкі: «І я лячу над роднаю зямлёю, над роднай хатай зоркаю свячу, і разумею ўсіх, хто быў са мною, але да іх вяртацца не хачу». Па сутнасці, гэта ён напісаў, думаючы пра самога сябе. І чым больш учытваюся ў вершы Сахарчука, тым больш адчуваю холад адзіноты, у якім ён апошнія гады жыў, саграючыся чаканнем выхаду кнігі «Мой вечны бор». Але, на жаль, так і не дачакаўся. І, відаць, Васіль Сахарчук, даючы назву кнізе «Мой вечны бор», думаў не пра звычайны лес, а пра тыя крыжы на могілках, дзе яму вечна ляжаць. А значыць, ён рыхтаваўся да свайго сыходу. І хто мог яго стрымаць? Жонка? Сябры? Выхад кнігі? Не ведаю... Але дакладна ведаю, што паэтам у гэтым свеце сапраўды бывае настолькі цяжка жыць, што яны аднойчы канчаткова вырашаюць сысці ў свой вечны бор, у якім няма ні зайздрасці, ні спрэчак, ні звадак, бо ўсе мы ляцім да зор...

## *Загадка Алеся Асташонка*

23.06.2009. 1 чэрвеня было б 55 гадоў празаіку Алесю Асташонку, калі б ён 6 верасня 2004 года па ўласнай (а можа і не) ахвоце не пайшоў з жыцця. Апошніх гадоў восем ён жыў ва Украіне, хаваючыся (а хавацца было трэба) ад людзей, якія абяцалі яго знайсці і адправіць на той свет. Час ад часу ад

Асташонка ў Мінск сябрам прыходзілі лісты з урыўкамі ягоных перакладаў. Пісаў зрэдку Алесь і мне. У лістах ён не даваў амаль ніякіх звестак пра сваё жыццё-быццё, але затое заўсёды на некалькіх старонках былі спісы твораў, якія ён напісаў і пераклаў, і якія мяркуе перакласці або напісаць. І сёння, узгадваючы Алеся Асташонка, я не магу не задацца пытаннем: «А дзе тое ўсё, што Алесь стварыў у замежжы?», бо, думаю, хоць Алесь і вярнуўся ў Беларусь жменяй попелу, але гэта быў толькі яго попел, а не ягоных рукапісаў...

### *Чалавек з бомбай*

23.06.2009. Рэзка адчыняюцца дзверы, і ў мой кабінет заходзіць мужчына, які адразу ад парога заяўляе: «Я вам прынёс бомбу!» Я спалохана гляджу на наведвальніка і прапаную сесці. Ён садзіцца насупраць і падае мне загорнутую ў белую паперу тоўстую ў сіняй вокладцы самвыдатаўскую кнігу. «А дзе бомба?» — пытаюся. «А вось гэта і ёсць бомба!» — адказвае мужчына і пачынае расказваць пра сябе: «Я працаваў у прамысловым аддзеле ЦК партыі. Цяпер на пенсіі, а рабіць жа нешта трэба, і я вось напісаў паэму. Выдайце!» Пагартаўшы кнігу, я заўважыў, што наведвальнік зарыфмаваў-раскрытыкаваў гісторыю Расіі за апошнія дваццаць гадоў. «І што гэтым вы хочаце сказаць?» — пытаюся ў мужчыны. «Я сам з Валгаграда. У нас не хочуць мяне друкаваць. Надрукуйце вы! І вам будзе слава, а мне грошы!» — кажа наведвальнік, а я, яшчэ крыху пагартаўшы, аддаю кнігу назад са словамі: «Хавайце сваю бомбу, а то яна яшчэ чаго добрага наша выдавецтва падарве...»

### *Жыў на Вілейшчыне...*

24.06.2009. На Вілейшчыне жыў і працаваў настаўнікам паэт Уладзімір Дубовік. На пачатку 80-х гадоў у яго выйшла першая кніга. Потым другая. Мяне разам з ім разглядалі на секцыі паэзіі наконт прыёму ў СПБ. Я прайшоў, а Уладзіміра завалілі. Пасля гэтага ён стаў рэдка друкавацца і яшчэ радзей з'яўляцца ў сталіцы, а потым і зусім знік. Неяк, выступаючы ў адной з бібліятэк Вілейшчыны, я пацікавіўся іх земляком Уладзімірам Дубовікам. Мне расказалі, што Уладзімір, аднойчы ідучы з электрычкі, трапіў пад вялікі дождж, прамок і, прастыўшы, праз некаторы час памёр... І няма Уладзіміра Дубовіка ні ў энцыклапедыях, ні ў літаратуразнаўчых пераліках тых, хто жыў і працаваў у 80-я

гады мінулага стагоддзя. Колькі паэтаў з падобным лёсам на нашай зямлі! А колькі іх яшчэ будзе! І не заўсёды знойдзецца хто-небудзь, каб сабраць і выдаць усё тое, што напісаў забыты паэт...

## *Цялега*

24.06.2009. Успомнілася. Працую ў «ЛіМе». Тэлефонны званок: «Прывітанне. Гэта я, Цялега. Віцёк, можна я табе вершаў сваіх прышлю?» — «Прысылай...» — паспяваю сказаць, бо сувязь перарываецца, пасля чаго я доўга ўспамінаю, хто такі Цялега, і не магу ўспомніць. Недзе праз год у рэдакцыю прыходзіць Анатоль Шушко і прыводзіць свайго аднакурсніка па філфаку Цялегу. Мы знаёмімся, і Цялега абяцае праз тыдзень выслаць вершы. Праходзіць тыдзень, месяц, год, пяць, а вершаў усё няма, і тут я выпадкова на вакзале сустракаюся з Шушко, які праз слёзы паведамляе, што едзе на пахаванне Цялегі, які, пасварыўшыся з жонкай, павесіўся...

## *Сыс і танцы*

24.06.2009. Неяк у канцы 80-х з Іванам Рубіным і Анатолем Шушко трапіў у госці да Анатоля Сыса, які жыў у інтэрнаце Белтэлерадыёкампаніі. Спачатку пілі віно і чыталі вершы, потым спрачаліся, спявалі, пілі віно і чыталі вершы, а потым пілі віно і паціху па адным на сваіх месцах каля стала засыналі. Толькі я паспеў заснуць, як пачуўся крык Сыса: «Пад'ём! Пачалася дыскатэка! Усе ідзём на танцы!» Сыс быў у адных трусах і, убачыўшы, што я прачынаюся, яшчэ гучней закрычаў: «Паэты! Шашкі на гала! За мной!» — і, скідаючы на хаду трусы, выбег з пакоя. Я, праўда, не распранаючыся, але босы, папёр за Сысом, а Рубін і Шушко, нешта прабубнеўшы нам услед, працягнулі спаць. З танцаў я ўцёк праз хвілін пяць. Хутка вярнуўся і голы Сыс, які ці то нам, ці тым, хто застаўся на танцах, пракрычаў: «Вы ўсе пралятаеце!» — і паваліўся на свой ложак...

## *Крылатыя грошы*

25.06.2009. Напачатку года Людміла Васільеўна Несцяровіч арганізавала мне і Людміле Рублеўскай сустрэчу з чытачамі ў Сувораўскім вучылішчы. Як звычайна, мы ўзялі кніжак для продажу, і Несцяровіч удалося прадаць іх на 78 тысяч. Пасля імпрэзы на аўтобусным прыпынку, два разы пералічыўшы,

Людміла Васільеўна пачала аддаваць мне грошы. Спачатку дала тры тысячы па тысячы, потым дваццаць пяць па пяць і нарэшце пяцьдзясят. Я не паспеў узяць апошнюю купюру, як наляцеў вецер і вырваў яе з рук у Несцяровіч. Пяцьдзясятка ўзляцела над аўтобусным прыпынкам, потым паляцела над вуліцай, уздымаючыся вышэй і вышэй, і праз пару хвілін знікла ў вячэрнім небе над Траецкім прадмесцем. А тут якраз прыйшоў патрэбны аўтобус, і я з Рублеўскай, хуценька зайшлі ў яго. Праз некалькі прыпынкаў мы гучна засмяяліся — у маіх руках была сумка Людмілы Васільеўны з яе рэчамі...

### *Зьніч і рабы божыя*

25.06.2009. Гартаючы кніжыцу Зьніча «За мурам», успомніў, як у канцы дзевяностых гадоў я з Алесем Разанавым і Леанідам Галубовічам у рэдакцыі «ЛіМа» чакалі паэта з Жыровіцкага манастыра. Чакалі доўга. Зьніч з’явіўся ў канцы працоўнага дня, як святло ў канцы тунэля. Не ведаю, што адчувалі Алесь з Леанідам, а мне было неяк нязвыкла глядзець на даўно знаёмага паэта ў манастырскай апратцы, з якім яшчэ некалькі гадоў таму ў майстэрні яго бацькі, скульптара Андрэя Бембеля, пілі віно і чыталі багахульскія вершы. Пры развітанні мы кланяліся Зьнічу, а ён, гледзячы на нас, як на сапраўдных рабоў Божых, блаславіў...

### *Край свету*

27.06.2009. Калі б я цяпер быў у вёсцы, то сядзеў бы на беразе сажалкі і лавіў рыбу. Над вадой лыталі б ластаўкі, у траве поўзалі б мурашкі, і кусалі б мяне камары, і не лавілася б рыба. Але я цяпер сяджу ў гарадской кватэры і зрэдку выходжу на балкон, нібыта на край свайго свету...

### *Кропля і слова*

30.06.2009. Зайшоў да мяне ў кабінет Віктар Гардзей і аддаў першы том Выбраных твораў Вячаслава Адамчыка, па якім падрыхтавана кніга «Чужая бацькаўшчына», што хутка выйдзе ў серыі «Школьная бібліятэка». Разгортваю кнігу і бачу напісанае: «Сыну Уладзіміру — бацька. Як кропля вады жывіць зялёны ліст, так слова жывіць чалавечую душу. Але ж якою шкоднаю бывае паводка. Не менш шкодны і слоўны вадаспад. Як знайсці тую

меру слоў, што не тапілі б, а жывілі б чалавечую душу? Серада, 5 ліпеня 1995 года. Вяч. Адамчык». Дык вось чаму Адам Глобус піша хоку і іншыя творы, кароткія па форме!..

### *Куры без маці*

30.06.2009. Яшчэ тыдзень таму ў вёсцы ў бацькі было дванаццаць курэй. На мінулыя выхадныя налічылі ўсяго толькі чатыры. Дзе астатнія падзеліся? Коршак палавіў? Суседзі пакралі? Бацька не ведае. Калі мама жыла ў вёсцы, то такога ніколі не здаралася...

### *Усе чакаюць*

30.06.2009. Увесь час усе нечага чакаюць... І мала хто сёння ў гэты момант чакае сваёй смерці. Нічога ў гэтым дзіўнага няма. Але ўсе, хто прачытае гэтыя радкі, успомняць тое, чаго чакаюць, бо чакаюць нечага ўсе...

## ЛІПЕНЬ

* * *

2.07.2009. У час абеду выйшаў у краму. Набраўшы ежы на тысяч дзесяць, стаю ў чарзе. Перада мной хлопец купляе бутэльку піва і пачку гандонаў. Нядрэнны ў чалавека будзе абед!

### *Ліпскі і Купала*

7.07.2009. Сёння Купалле. Цвіце ліпа. Тэлефануе Ліпскі і пытаецца пра кнігу, прысвечаную Купалу, якую ён падрыхтаваў для нашага выдавецтва. Кажу як ёсць: «Кніга на афармленні ў мастакоў. Цяпер яе выхад залежыць толькі ад іх». Ліпскі дзякуе за інфармацыю і дадае: «Я жыву блізка каля музея Купалы. Часта прыходжу ў сквер да помніка і, стоячы перад Купалам, думаю: «Якія мы маленькія перад ім!»

### *Рунь і каласочкі*

8.07.2009. Вярнуўся з прэзентацыі кнігі маіх землякоў «Нашчадкі» (Сучасная паэзія Валожыншчыны), што выйшла ў выдавецтве «Чатыры чвэрці». Імпрэза праходзіла ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры. Людзей сабралася нямала. Усе хто хацеў, хораша выступілі. Найбольш запомніліся словы Аляксандра Кулака, які, гаворачы пра кіраўніка літаб'яднання «Рунь» Валянціну Гіруць-Русакевіч, сказаў: «Яна збірае нас, як каласочкі пасля камбайна...»

### *Мы ж не дзеўкі, але...*

12.07.2009. З сынам сябра ідзём з лецішча ў Дзяржынск на маршрутку. Прайшлі недзе кіламетр, а наперадзе яшчэ кіламетры тры. Дождж збіраецца, і хоць бы якая машына дагнала. І раптам бачым — едзе! Сышлі з асфальту на ўзбочыну ў мокрую траву. Алесь глядзіць на мяне так, нібыта просіць: «Дзядзька! Галасуй,

каб падвезлі!» — «Мы ж не дзеўкі! Нас ніхто не падвязе!» — кажу і позіркам праводжу машыну, якая, праехаўшы паперадзе нас метраў пятнаццаць, спынілася. Мы, не верачы сваім вачам, няспешна ідзём да машыны. За рулём маладая, прыгожая жанчына. Праз дзесяць хвілін мы былі ў Дзяржынску. Вось табе і «мы ж не дзеўкі»...

## *Ёсць фільмы...*

14.07.2009. Ёсць фільмы, і даволі для мяне класныя, якія адзін раз паглядзеўшы, баюся другі раз глядзець. Сёння пачаўся серыял «Майстар і Маргарыта». Гартаючы каналы, натрапіў на яго кадры і хуценька пераключыўся. Не магу глядзець! А чаму — і сам не ведаю. Праўда, думаючы пра нежаданне бачыць раней гледжаны фільм, чамусьці ўспомнілася выказванне: «У адну і тую ж раку нельга ўвайсці двойчы»...

## *Кніга з «Куфэрка Віленшчыны»*

16.07.2009. Пра тое, што ў «Кнігазборы» павінен выйсці томік Віктара Вальтэра (1902 — 1931) «Выбраныя творы», я ўжо раней пісаў. А сёння Міхась Казлоўскі, дзякуючы якому стала магчымым выданне гэтай патрэбнай кнігі, падарыў мне яе. Радасна, бо з небыцця вяртаецца яшчэ адно імя багдановічаўскага лёсу. Разгортваю кнігу і чытаю: «Бібліятэчка альманаха «Куфэрак Вілейшчыны». №13». Вось табе і на! Адразу напароўся на памылку, бо правільна: «Куфэрак Віленшчыны»! Пішу пра гэтую недарэчнасць не таму, што вось я такі ўважлівы, а таму, каб ведалі, што кніга Віктара Вальтэра папоўніла «Куфэрак Віленшчыны», багацце для якога, хутка ўжо дзесяць гадоў, збірае мой сябра і зямляк Міхась Казлоўскі. Нізкі яму паклон.

## *Мы ўсе разумныя...*

16.07.2009. Мы ўсе разумныя, калі думаем пра чужыя ўчынкі, якія ў нас саміх не выклікаюць захаплення, і таму мы часцей гаворым: «Я б так не рабіў!», чым: «Малайчына! І я б так зрабіў!» А найбольш мы ўсе разумныя нічога не рабіць, а толькі назіраць... Мы ўсе разумныя... А хто ж тады дурань? Той, хто працуе?

## *Сярэдзіна лета*

17.07.2009. Учора жонка коратка падстрыгла мяне. Сёння апрануў ільняную кашулю без каўняра. Паглядзеў у люстэрка.

«Вязень падрыхтаваны да гільяціны»,— самі па сабе вырваліся з маіх вуснаў словы.

### *Айсберг*

17.07.2009. Чалавечае жыццё — гэта айсберг у акіяне вечнасці, дзе сам чалавек — гэта тыя дзесяць працэнтаў айсберга, якія заўсёды пад сонцам часу...

### *Мама і тата*

19.07.2009. На лавачках каля пад'ездаў цэлымі днямі сядзяць бабулі, як кантралёры на прахадной у інтэрнаце. Выйшаўшы на балкон, можна пачуць, пра што яны гавораць. І вось сёння я стаў слухачом адной гісторыі, якую расказала сваім сяброўкам бабуля з суседняга пад'езда: «Гэта было даўно. Я тады з сям'ёй жыла ў рабочым інтэрнаце. Зіма. На вуліцы лютаўскі мароз. Муж суседкі панёс смецце выкідаць. Выкінуў і, каб высыпалася апошняя паперчына, якая прыклеілася да дна, ён пастукаў вядром аб кантэйнер, у якім пасля яго стуку зашавялілася смецце. Мужчына яшчэ раз пастукаў, і ў смецці пачуўся слабы піск. «Відаць, нехта кацянё выкінуў»,— падумаў сусед і пачаў разграбаць паперы. Аж раптам бачыць: у брудных анучах загорнута дзіця. Прынёсшы малое дамоў, сусед зайшоў да нас: «Хадзіце паглядзіце! Жонка мая сына нарадзіла, а я дзяўчынку для яго прынёс!» Калі мы цалкам разгарнулі анучы, то ўбачылі хлопчыка. У суседзяў быў такі ж малы. І яны нікуды знайдыша не здалі, а гадавалі хлопчыкаў разам, гаворачы, што яны блізняты. Сапраўдная ж маці знайдыша жыла ў суседнім пад'ездзе і ніколі, пакуль малы рос, не падышла да яго на вуліцы. Знайдыш закончыў на выдатна школу, потым інстытут і стаў хутка зарабляць добрыя грошы і дапамагаць прыёмным бацькам. І тут ягоная маці, калі яе можна так назваць, падала ў суд на людзей, якія выгадавалі яе сына, патрабуючы, каб ёй вярнулі дзіця, якое яны ў яе скралі. Адбыўся суд. Але жанчына, якая выкінула ў сметніцу свайго малога, нічога не дамаглася. І сёння той хлопец жыве. У яго ёсць свая сям'я, і людзей, якія яго выгадавалі, ён называе мамай і татам...»

### *Святар і паэт*

22.07.2009. Патэлефанаваў Міхась Казлоўскі. Ён, вычытаўшы ў «Маладзечанскай газеце» невялічкую інфармацыю, у якой гаварылася, што ў Дубраўскай царкве бацюшка Іван Крупко правёў службу «За Беларусь і беларускі народ», адшукаў тэлефон майго

земляка-патрыёта. Бацюшка аказаўся не толькі свядомым беларусам, але і паэтам. Цяпер Міхась рупіцца, як дапамагчы Івану Крупко выдаць кніжку. А вершы святара сапраўды вартыя чытацкай увагі...

### *Благаславіце душу паэта...*

23.07.2009. У ноч з 13 на 14 лістапада 2008 года Віктару Праўдзіну прысніўся сон, у якім ён ішоў у холдынг «ЛіМ» і сустрэў Алеся Пісьмянкова, які яшчэ на пачатку 2004 года памёр. «Алесь, куды ідзеш?» — запытаўся ў яго Віктар. «Іду на працу».— «А дзе ты працуеш?» Алесь не адказаў, а папрасіў дапісаць верш, які ён не можа ніяк закончыць. «Я не магу дапісаць, бо я ж празаік!» — сказаў Праўдзін. «Добра. Тады перадай Шніпу, няхай ён дапіша!» — папрасіў Пісьмянкоў і, зачытаўшы свой твор, знік у дзвярах холдынга. Прачнуўшыся, Праўдзін успомніў толькі два радкі: «Благаславіце душу паэта. Благаслаўляйце нас кожны дзень!» У гэты дзень памерлі Генадзь Кісялёў і Аляксандр Дракахруст. А я пакуль што не выканаў просьбу Алеся Пісьмянкова...

### *Яшчэ адзін дзень...*

25.07.2009. Яшчэ адзін дзень прайшоў праз мяне. І ў маёй душы засталося неба ў аблоках, кроплі дажджу, першае пажаўцелае лісце, галасы людзей, гул машын і сто гадоў самоты...

### *Вялікія Крывічы*

30.07.2009. Дзякуючы сябрам, еду на родную Валожыншчыну. Мінаем Русакі. Пасля ўказальніка «Вялікія Крывічы» праз кіламетры два канчаецца асфальт і пачынаецца брукаванка. Па гэтай вясковай дарозе сярод ярка пафарбаваных хат пад'язджаем да царквы, насупраць якой праз дарогу могілкі. Мая душа цягнецца да крыжоў, пад якімі ляжаць мае бабуля Ганна (08.1892—01.1989), дзед Міхась (Жыў 53 г. Забіты 14 верасня 1943 г.) і дзядзька Ваня (19.01.1926—29.01.1996). І ўсё ж іду напачатку разам з усімі да царквы. На жаль, на замку. Агледзеўшы Храм, доўга блукаем сярод магіл. Знаходжу магілу свайго школьнага прыяцеля Мікалая Мікалаевіча Салаўя (Жыў 19 г. Памёр 5.05.1979 у час тэрміновай службы). Ён і я былі закаханыя ў адну дзяўчыну... Побач з магілай Мікалая свежы грудок яго маці (Салавей Надзея Аляксандраўна. 10.05.1922—8.01.2008)...

## *Лягезы*

30.07.2009. Наведаўшы могілкі ў Вялікіх Крывічах, заехаліся ў Лягезы. Тут я з васьмі месяцаў да сямі гадоў гадаваўся ў бабулі Ганны і маіх дзядзькоў і цётак. Раней у вёсцы было людна. Цяпер засталося пяць чалавек, адна карова і адзін конь. Якраз дома былі дзядзька Віця і цётка Стася з пяцігадовай праўнучкай. Сабака, зазвінеўшы ланцугом, выбег нам насустрач, але не забрахаў, нібыта пазнаў гасцей. Каля хаты чыста і ўтульна, а за плотам — трава ў чалавечы рост. Пастаяў каля ліпы, якой гадоў дзвесце. Паглядзеў у калодзеж, нібыта хацеў убачыць сябе малога і, не ўбачыўшы, пасядзеў, як дзед, на ганку. Нас клікалі за стол, але мы адмовіліся, бо, выязджаючы з Мінску, не планавалі заязджацца ў Лягезы. Сфатаграфаваўшыся на памяць, паехалі ў Пугачы да бацькі...

## *Сяргей Новік-Пяюн і нож у сэрцы*

31.07.2009. Сяргей Новік-Пяюн (27.08.1906 — 26.08.1994). Апошніх пяць гадоў яго жыцця мы былі суседзямі. Ён жыў на вуліцы Купрыянава ў доме № 9 на другім паверсе ў аднапакаёвай кватэры, палову якой займалі скрынкі, напоўненыя рукапісамі, выразкамі, малюнкамі дзяцей, што прыходзілі да яго. А да яго хадзілі многія. Ён любіў гасцей. І ягоная кватэра была своеасаблівым культурным цэнтрам, дзе часта сустракалася беларуская інтэлігенцыя і радавалася, што Беларусь стала незалежнай краінай. А як сам радаваўся Сяргей Міхайлавіч! І колькі разоў мне давялося слухаць знакамітыя «Зорачкі» ў аўтарскім выкананні! І цяпер часам, гуляючы па вуліцы Купрыянава, спыняюся каля дома Новіка-Пяюна і ўспамінаю тыя часы, калі мы сябравалі. А помніцца вельмі шмат, бо не было тыдня, каб я з жонкай не завітваў да яго. Сёння чамусьці ўспомніўся званок Сяргея Міхайлавіча: «Тэрмінова хадзіце да мяне! Ратуйце! Мне загналі нож прама ў сэрца!» Пачуўшы такое, я кінуў тэлефонную трубку і, на хаду апранаючыся, пабег да паэта. Дзверы былі не замкнутыя. Забягаю ў кватэру. У вітальні крыві няма. Заглядаю ў пакой. Чыста, а гаспадар ляжыць у ложку і праз слёзы ў вачах глядзіць на мяне. Я пытаюся: «Міліцыю выклікалі?», а Сяргей Міхайлавіч, сумна ўздыхаючы, адказвае: «Ніякая міліцыя, ніякія дактары мне ўжо не дапамогуць!» — «А дзе нож?» — пытаюся я, азіраючыся. Праз некаторы час, супакоіўшыся, Сяргей Міхайлавіч расказаў мне, што дзяўчына, якая ўжо гадоў пятнаццаць прыходзіць да яго, для якой ён піша вершы і наогул жыве, колькі месяцаў таму выйшла замуж, і пра гэта ён сёння даведаўся. І я ўсё зразумеў...

# ЖНІВЕНЬ

## *Апошнія дні адпачынку*

8.08.2009. Раніца. Выходжу на балкон і гляджу ў неба. А там ніводнай хмурынкі і ластаўкі лётаюць. Чамусьці здалося, што я ў Адэсе, у якой ніколі не быў...

## *Бульба і Барадулін*

8.08.2009. Скрабу маладую бульбу. І раптам узгадалася вельмі даўняе. Мне было дваццаць і я амаль кожны тыдзень хадзіў у госці да Рыгора Барадуліна. У школьным сшытку за дзве капейкі прыносіў яму свае новыя вершы. Мяне заўсёды кармілі. Рыгор Іванавіч прапаноўваў выпіць, але я адмаўляўся, і мы сядзелі на кухні і гаварылі. Часта Барадулін хацеў паглядзець, як я абіраю бульбу, і нават хацеў паспаборнічаць, у каго лупіна будзе танчэйшай і даўжэйшай. На спаборніцтва з Рыгорам Іванавічам я так і не адважыўся. І цяпер вось, скрабучы бульбу, узгадваю тыя памятныя і дарагія майму сэрцу сустрэчы з Паэтам і ў думках дзякую яму...

## *Канчаецца...*

8.08.2009. З неба асыпаюцца зоркі... З дрэў асыпаецца лісце... З людзей выпадаюць зубы і вылазяць валасы... Неба і дрэвы — гэта паэтычна. Людзі — гэта практычна. Ад людзей стамляешся. Неба і дрэвы супакойваюць. Канчаецца дзень. Канчаецца ноч. Канчаецца адпачынак. Ізноў ты п’еш гарбату і збіраешся на працу, каб не бачыць ні зорак, ні прыгажосці ў ападаючым лісці, а каб стамляцца ад людзей, у якіх выпадаюць зубы і валасы...

## *Каб не вяртацца*

8.08.2009. Сяджу дома. Ды і не хочацца нікуды ісці! І гэта не проста лянуюся, а не хачу ісці, бо трэба будзе вяртацца...

## *Што сёння патрэбна?*

8.08.2009. Сёння патрэбны кароткія творы, як кароткія спаднічкі ў жанчын, бо лета ж!

* * *

10.08.2009. Першы дзень на працы пасля адпачынку. Адпачынак праляцеў так хутка, што павукі не паспелі развесіць на маім стале паміж рукапісамі павуцінне, каб злавіць муху, якая засталася жыць без мяне ў маім кабінеце...

* * *

19.08.2009. Раптам захацелася ў Варшаву, у якой я ніколі яшчэ не быў. У Варшаву не сённяшнюю, а сярэдзіны дзевятнаццатага стагоддзя. Разумею, што такое падарожжа немагчымае, але... Расплюшчваю вочы і бачу за вакном чатырохпавярховую хрушчоўку і каля пад'езда адзінокую бабульку, у якой, відаць, таксама ёсць свае мроі. І, магчыма, яна ўжо была ў той Варшаве, у якой мне ніколі не быць...

## *Казашка Баха і піва*

22.08.2009. Студэнтка чацвёртага курса Літінстытута казашка Баха пасварылася са сваім аднакурснікам армянінам. Пасварылася і прыйшла да мяне: «Звадзі ў кіно! Хачу паглядзець фільм пра тваю Беларусь "Ідзі і глядзі"!» Я не адмовіўся. Пайшлі на Калінінскі праспект, дзе якраз у адным з кінатэатраў ішоў патрэбны фільм. Да пачатку сеанса было яшчэ амаль дзве гадзіны і я, купіўшы білеты, прапанаваў пасядзець у піўбары на праспекце. Зайшлі. Я замовіў вялікі збан піва і цэлы кілаграм крэветак. П'ём, размаўляем, смяёмся. Час ідзе да разліку, і я пачынаю думаць: «А ці хопіць у мяне грошай, каб расплаціцца?» Адной рукой трымаю куфаль з півам, а другой абмацваю ў кішэні грошы, якія засталіся пасля набыцця білетаў на фільм. Здаецца, рублёў пяць у мяне ёсць. Але ці хопіць? Клічу афіцыянта. Ён кладзе на стол паперку для разліку. Гляджу. Ды ё-па-рэ-сэ-тэ!!! У мяне такіх грошай няма! А піва ўжо выпіта і кілаграм крэветак амаль скончыўся. Пытаюся ў Бахі: «У цябе грошы з сабой ёсць?» — «Няма...» — адказвае казашка. Што рабіць? Уцякаць? Нікуды не ўцячэш! На ўваходзе стаіць граміла і нікога проста так не ўпускае і не выпускае. Клічу зноў афіцыянта і тлумачу, што ў мяне не хапае грошай. А ён і слухаць не хоча: «Калі няма грошай, то няма чаго з дзеўкамі швэндацца па барах!!» Што рабіць?

Узгадваю, што ў мяне з сабой ёсць гадзіннік, праўда, з адной стрэлкай і без шкла. Па ім у вёсцы праехаў гусенічны трактар, і яго на дарозе знайшоў мой бацька. У мяне не было гадзінніка і я, едучы ў Маскву на вучобу, захапіў з сабой бацькаву знаходку. «Вазьміце ў залог гадзіннік! У ім адна стрэлка, па ім трактар праехаўся, а ён усё працуе і працуе!» — кажу я. «Што вы сюды, жартаваць прыйшлі? Я зараз міліцыю паклічу!» — раззлаваўся афіцыянт. «Вы прабачце мне! Я ўпершыню дзяўчыну частую, а тут такая няўвязка!» — пачаў прасіцца я. «Нічога не хачу ведаць! Плаціце і ўсё!» — злуецца афіцыянт. Недзе праз паўгадзіны я ўспомніў, што ў мяне ж ёсць з сабой членскі білет Саюза пісьменнікаў СССР, і я вырашыў паспрабаваць пакінуць білет у залог. Дастаю членскі білет і нясмела кажу: «Я паэт. Вучуся ў Літінстытуце...» — «Што вы сказалі? Паўтарыце!» — «Я паэт...» — яшчэ больш нясмела сказаў я. «Паэт!!» — радасна выгукнуў афіцыянт, нібыта ўва мне раптам прызнаў свайго збрыдлівага брата. Разгаварыліся. Высвятлілася, што афіцыянт любіць паэзію. Да ўсяго ў гэты бар часта прыходзяць паэты, а самае галоўнае — тут, за гэтым столікам, дзе мы сядзім, сядзеў, піў і спяваў свае песні Уладзімір Высоцкі. Праз пару хвілін афіцыянт для мяне і Бахі прынёс бясплатна па куфлі піва...

### *У гасцях у нікарагуанца Карласа*

23.08.2009. У Літінстытуце на другі год вучобы пазнаёміўся з паэтам з Нікарагуа Карласам. Хлопцу за трыццаць. Ён удзельнічаў у вызваленчай вайне, быў паранены і цяпер кульгае на правую нагу. Ён мяне і паляка Анжэя Новака запрасіў да сябе ў госці. Прыйшлі. У пакоі паўзмрок. Акрамя Карласа сядзяць на ложках яшчэ два нікарагуанцы і чатыры нікарагуанкі. Кампанія з намі блытана размаўляе па-расейску. Між сабой гавораць на сваёй мове. Мы нічога не разумеем, але мы прыйшлі з трыма пляшкамі гарэлкі. Пачаліся танцы і песні. Калі скончылася наша гарэлка, Карлас дастаў з тумбачкі бляшанку з дробна парэзаным тытунем. Пачалі рабіць цыгаркі. Праз хвілін дзесяць у пакоі амаль нічога не было бачна ад дыму. І стала наогул весела і лёгка. Захацелася адчыніць акно і выскачыць з яго, бо за плячыма адчуваліся крылы і яны хацелі распрасцерціся... Потым я даведаўся, што мы курылі марыхуану.

### *Карлсан з Нікарагуа*

23.08.2009. Сяджу ў гасцях у нікарагуанца Карласа. Успамінае пра сваё дзяцінства. Час ад часу Карласа называю Карлсанам. Ён

на гэта ніяк не рэагуе, бо мы п'ём рускую гарэлку і закусваем беларускім салам. Ужо ў шостым класе Карлас пераспаў амаль з усімі настаўніцамі, пасля чаго бацькі ажанілі яго з суседчынай дачкой Хуанітай. Праз тры гады ў сям'і Карласа было трое дзяцей, ад якіх ён уцёк у партызанскі атрад, дзе і пачаў пісаць вершы. І цяпер вось ён, ветэран вайны, амаль класік нікарагуанскай літаратуры, сядзіць са мной у інтэрнаце Літінстытута, п'е рускую гарэлку, закусвае беларускім салам і ўспамінае пра сваё дзяцінства...

## *Дама ў чорным*

25.08.2009. Літовец Леанідас любіў шампанскае. Ён яго купляў цэлымі скрынямі і прыносіў у інтэрнат Літінстытута. Піў сам і частаваў нас, сваіх аднакурснікаў. Неяк адзначыўшы з землякамі чарговае нацыянальнае свята, Леанідас пачаў самастойна працягваць святкаванне. Святкаваў цэлы тыдзень. І ў тую ноч, калі дапіваліся апошнія пляшкі шампанскага, Леанідас пастукаў мне ў дзверы: «Вітаўт! Ідзі паглядзі! Нейкая курва ў чорным ужо трэцюю ноч на нашым паверсе стаіць каля тэлефона!» Я выйшаў у калідор. Каля тэлефона, які быў у метрах дзесяці ад нас, нікога не было. «Бачыш! Стаіць!» — паказаў на тэлефон Леанідас. «Ага! Бачу! Я зараз яе праганю!» — сказаў я і пачаў лаяцца на даму ў чорным, якой не было каля тэлефона...

## *Каб не лез*

26.08.2009. У дзве гадзіны ночы разбудзіў паляк Анжэй: «Пайшлі да Гены Суздалева. Там ужо нашы дзяўчаты нас чакаюць!» Неахвотна апранаюся і іду следам за палякам. У Гены з Чалябінска за сталом, на якім ужо стаяць дзве пляшкі «Выбаровай», сядзяць казашка Мадзіна і мая зямлячка Вера. Пасля першай выпітай пляшкі Анжэй перавёў Веру на канапу і пачаў чапляцца да яе. Я, доўга не думаючы, падышоў да паляка і, прыпадняўшы яго за грудкі над канапай, з усяе сілы ўрэзаў у нос. Пасля ўдару Анжэй стукнуўся галавой аб сцяну і аб'ехаў на канапу, як нежывы. З носа пацякла кроў. Дзяўчаты, падняўшы віскат, уцяклі з пакоя. Гена на нейкі момант разгубіўся: «Гэта ж міжнародны скандал!» Разгубіўся і я. А паляк ляжыць на канапе і не кратаецца. Гена пачаў прыводзіць у прытомнасць нашага сябра. Сяк-так ажывіў, і тут Анжэй да мяне: «За што ты мяне ўдарыў?» — «А каб да маёй зямлячкі не лез!» — адказаў я і, абняўшы Анжэя, папрасіў у яго прабачэння за разбіты нос...

*Сустрэнемся другім разам*

26.08.2009. З аспірантам Андрэем з Адэсы ідзём па Цвярскім бульвары. Ідзём не проста так, а разглядаем дзяўчат на лавачках і, выбраўшы якую, знаёмімся. «Гэта будзе твая»,— кажа Андрэй і піхае мяне падсесці да дзяўчыны. Саджуся, а сябар ідзе далей. Пачынаю знаёміцца. Дзяўчына вучыцца ў інстытуце і будзе займацца прагнозам надвор'я. Дзяўчына то харошая, а ўжо, яшчэ не ўстаўшы, бачу, што яна вышэйшая за мяне. Прапаную схадзіць у Цэнтральны дом літаратара і папіць кавы. Згаджаецца. Устаём. Яна за мяне вышэй на цэлую галаву. Куды мне з такой! Прайшоўшы метраў дзвесце, я, нібыта раптам успомніўшы, кажу: «Чуць не забыўся зусім! Мяне ж рэктар Літінстытута чакае! Давайце сустрэнемся другім разам. Я вам патэлефаную».

*У гасцях у якутак*

27.08.2009. Масква. Усесаюзны семінар маладых літаратараў. Гасцініца «Орлёнок». Мяне і Леаніда Галубовіча дзве прыгожыя маладыя якуткі запрасілі ў госці. Захапіўшы пару пляшак гарэлкі, стукаемся ў нумар да дзяўчат. Дзверы адчыняюцца і да нас кідаюцца абдымацца нашы новыя знаёмыя паэты з-пад Урала. Нейкі час мы не выстаўляем гарэлку на стол, спадзеючыся, што нашы супернікі хутка сыдуць у свае нумары. Аднак хлопцы сядзяць і не думаюць нікуды ісці. Якуткі толькі ўсміхаюцца. Усё канчаецца тым, што мы дастаём пляшкі і, выпіўшы ўсю гарэлку і крыху пашумеўшы на развітанне, пакідаем якутак рускім паэтам.

*Венгр і балгарын*

28.08.2009. Раніцай у гаспадарчай краме з палякам Анжэем, купляючы лямпачкі, пазнаёміліся з прадаўшчыцай. Анжэй сябе прадставіў венграм, а мяне балгарынам. Дамовіліся вечарам, калі закончыцца праца, падысці да яе і правесці дахаты. Дзяўчына была вельмі сімпатычная. Яна адна, а нас двое. Што рабіць? Я купіў пляшку гарэлкі і ў абед заглянуў да Анжэя. Паабедалі так, што Анжэй заснуў, а я а палове восьмай вечара пайшоў у краму да прадаўшчыцы, каб правесці дахаты. Прыйшоўшы, адразу прызнаўся, што я ніякі не балгарын, а Анжэй ніякі не венгр. Дзяўчыну гэта не засмуціла. І вось мы ідзём каля астанкінскага мясакамбіната да прыпынку электрычкі на Мыцішчы. Цёмна. За агароджай сабакі бягуць за намі і брэшуць. Страшнавата.

Прыйшоўшы на прыпынак і дачакаўшыся электрычкі, я наважыўся было ехаць з дзяўчынай, але яна мне сказала: «Са мной не едзь, бо назад не вернешся!»

### *Сыс і кубінскі ром*

28.08.2009. Атрымалі кватэру. Купляем паціху мэблю. Дайшло да кніжных шафаў. І так атрымалася, што на пачатку 90-х у Доме літаратара нейкая фірма гандлявала кніжнымі шафамі, і мы іх там і купілі. Прывезці шафы нам дахаты ўзяліся Анатоль Сыс і Мікола Сцепаненка. Прывезлі позна вечарам. Нічога не пабілі, не папсавалі. Засядаць не было ўжо калі, таму я запытаўся: «Як вам заплаціць?» — «Грошай не трэба! Калі ёсць пляшка, дай у дарогу»,— сказаў Анатоль, і я вынес са сваіх запасаў літровую пляшку кубінскага рому. Хлопцы абрадваліся. Назаўтра сустракаю Сыса, пытаюся: «Ну як там кубінскі ром?» Сыс незадаволена махнуў рукой: «Ляснуўся! Толькі сабраліся выпіць, як у мяне выслізнула з рук пляшка і разбілася!»

### *Войцэх і дваццаць капеек*

28.08.2009. Пад інтэрнацкімі вокнамі Літінстытута залатая восень. Стаю і любуюся. Праўда, баліць горла. Недзе прадзьмула. Трэба было б выпіць нанач якую-небудзь таблетку ад прастуды. У мяне лякарстваў няма. Побач праходзіць паляк Войцэх. У яго ёсць усё, што ні папытайся. Падымаемся на ліфце на наш сёмы паверх. Пытаюся пра таблеткі. Кажа, каб зайшоў праз паўгадзіны. Пачакаўшы, заходжу. Войцэх у акулярах сядзіць за сталом і перабірае кучу лякарстваў. «Дай таблетку ад горла»,— прашу аднакурсніка. «Пакажы горла!» — загадвае, як доктар, Войцэх. Паказваю. «У цябе ангіны яшчэ няма. Антыбіётыкі піць рана»,— кажа Войцэх і таблетак не дае. «Дай таблетку ад горла!» — не адстаю ад паляка. «Нясі дваццаць капеек! Дам!» — нарэшце згаджаецца Войцэх падлячыць мяне. І я купіў адну таблетку за дваццаць капеек...

### *Вальдэмар і масквічка*

29.08.2009. У паляка Вальдэмара ў Варшаве засталася жонка. Першы месяц ён па ёй сумаваў, а потым, калі пазнаёміўся з масквічкай, перастаў ёй пісаць лісты і званіць. Я сябраваў з Вальдэмарам, і ён мне амаль усё расказваў пра свае адносіны з рускай сяброўкай. Мне было нават неяк зайздросна, што паляк

дома мае жонку, і тут яшчэ каханку завёў, а я ўсё ніяк не магу знайсці сабе пару. Вальдэмар так закахаўся, што пачаў думаць, як застацца ў Маскве. Але ж трэба неяк развесціся з жонкай. Справа вырашылася сама, калі Вальдэмар раней часу прыехаў на зімовыя вакацыі ў Варшаву і застаў жонку з каханкам. Здавалася, што на гэтым усе нечаканасці для Вальдэмара скончацца. Ды дзе там! Вярнуўшыся раней на тры дні з зімовых вакацый, шчаслівы Вальдэмар з вакзала вечарам адразу ж паехаў да масквічкі нанач, каб ёй расказаць, якая ў яго кепская жонка і што ён хутка з ёй разводзіцца. Але масквічка дома была не адна, а з нікарагуанцам Карласам...

## *Дэзерцір*

30.08.2009. Мой аднакурснік Генадзь Суздалеў пасябраваў з адзінокай маладой жанчынай з Падмаскоўя. Яна пісала вершы, але Гена не любіў паэтэс, і таму ў яго пры знаёмстве з падобнымі асобамі была ўмова: ці ты выкідаеш з галавы тое, што ты паэтэса і мы ў тэмпе вальса рухаемся да ложка з усімі наступствамі, ці ты будзеш і далей псаваць паперу сваімі рыфмамі і мы пасля першай жа сустрэчы разбягаемся. Маша выбрала першы варыянт і пасля некалькіх начэй у нашым інтэрнаце запрасіла Суздалева да сябе дамоў. Гену аднаму ехаць было лянотна, і ён угаварыў мяне скласці яму кампанію. Не ведаю, як атрымалася: ці выпадкова, ці мой сябра дамовіўся з Машай, але ў гэты ж вечар да яе прыйшла нанач сяброўка. І вось мы сядзім учатырох на кухні і частуемся. Ма́шына сяброўка спрабуе дагадзіць мне: то падасць кавалачак мяса, то салёны агурочак, то соку падалье. А я п’ю гарэлку не закусваючы і думаю, як бы гэта ўцячы ад сваёй залётніцы, якая мне зусім не спадабалася. І калі на дне апошняй пляшкі заставалася грам сто, я сказаў, што схаджу ў патрэбнае месца і хутка вярнуся. Схадзіўшы куды хацеў, я прашмыгнуў у пакой, у якім павінен быў застацца з сяброўкай Машы, і замкнуўся. Праз нейкі час мне грукалі ў дзверы, але я рабіў выгляд, што сплю, і нікому не адчыніў. А раніцай на кухні мы пахмяляліся ўжо ўтраіх: Гена, Маша і я.

## *Зарабіў*

30.08.2009. У інтэрнаце Літінстытута ўкраінец Іван Царынны жыў з жонкай. І вось неяк адправіла яна мужа ў краму, каб закупіў прадуктаў на выхадныя. Іван схадзіў і купіў усё па спіску. Прынёс у пакой. І тут жонка ўгледзела, што мяса, акрамя ўсяго

што кашчавае і смярдзючае, не важыць кілаграм. Накрычаўшы на Івана, выгнала яго з мясам назад у краму. Ну і пайшоў Іван у краму і таксама нарабіў там гвалту. І ўжо, збіраючыся ісці дамоў, каб больш напалохаць прадаўцоў, паказаў членскі білет Саюза пісьменнікаў СССР. Падзейнічала. Прыбегла загадчыца крамы і запрасіла да сябе ў кабінет. Іван Царынны не адмовіўся пайсці і, пасля распіцця пляшкі каньяку з загадчыцай крамы і добрага сексу з ёй, вярнуўся дамоў з трыма кілаграмамі мяса.

### *Сваю машыну не абмінеш...*

30.08.2009. Яму абрыдла жыць. І ён вырашыў атруціцца. Купіў дыхлафосу, але, калі ішоў дахаты, п'яныя падлеткі адабралі ў яго торбу з пакупкай. Прыйшоўшы дамоў, вырашыў павесіцца. Вяроўка парвалася, і ён застаўся жывым. Тады ён надумаў пайсці ў шматпавярховік і скінуцца з апошняга паверха. Але, калі ішоў да сваёй мэты, яго збіла машына. І цяпер ён ляжыць у бальніцы з паламанымі нагамі і рукамі, і яму, як ніколі, хочацца жыць...

### *У Яснай Паляне*

30.08.2009. Восень. Ясная Паляна Льва Талстога. Ідзём у лес да магілы пісьменніка. Сцяжына ўсё вузее і вузее. І вось і месца пахавання: на абсыпаным залатым бярозавым лісцем і ігліцай ялін магільным грудку ні валуна, ні крыжа. І, каб не шыльдачка побач на дрэве, то можна было прайсці міма магілы Льва Талстога ў пошуках вялікага шыкоўнага помніка. Паклаўшы кветкі, вяртаемся назад. Нашу сцяжыну перапаўзае змяя. Празаік з Ноўгарада хапае калаціну і кідаецца забіць змяю. А паэт з Казані, схапіўшы яго за руку, крычыць: «Не забівай! Можа, гэта сам Леў Талстой паўзе!»

### *Гарэлка і Залатая арда*

31.08.2009. На маім паверсе побач з кухняй жыў паэт з Манголіі. Кожны раз, калі ён атрымоўваў стыпендыю, да яго прыязджалі землякі і п'янствавалі, пакуль не канчаліся грошы. На кухні цэлымі суткамі манголы варылі мяса. А я, заходзячы, заўсёды з імі вітаўся. І, відаць, мая ветлівасць ім спадабалася, бо аднойчы яны мяне запрасілі да сябе ў госці. Я не адмовіўся. У пакоі было чалавек дзесяць. На стале красавалася дзесяцілітровая пачарнелая каструля з канінай, а вакол стаялі

двухсотграмовыя гранёныя стаканы з кумысам і некалькі пляшак з рысавай гарэлкай. Манголы, калі я зайшоў да іх у пакой, усталі і пачалі нешта па-свойму гаварыць. Гаспадар махнуў рукой, і яны селі. Пасадзілі мяне каля манголкі, якая тут жа наліла мне ў гранёны стакан кумысу і дабавіла ў яго гарэлку. Давялося гаварыць тост за сяброўства. А пасля тоста давялося і выпіць да дна, не закусваючы, мангольскі напой. Праз хвілін пяць я адчуў сябе зусім п'яным і пачаў манголам расказваць па-беларуску, як Вялікае Княства Літоўскае біла Залатую арду. Манголы паразіналіся і пачалі глядзець на мяне, як на нейкі цуд, бо не разумеюць, на якой жа гэта мове я, ап'янеўшы, раптам загаварыў. Выпіўшы яшчэ стакан кумысу з гарэлкай, я пачаў есці каніну і далей манголам расказваць па-беларуску пра перамогі ВКЛ над Залатой ардой.

*Савецкі Саюз*

31.08. 2009. Да Генадзя Суздалева ў госці заехаў зямляк-афганец, маёр, Герой Савецкага Саюза. Гена запрасіў мяне да сябе ў пакой, каб піць гарэлку ўтраіх. П'ём, я і Гена чытаем з кніжкі вершы Мікалая Трапкіна, а Герой расказвае пра сваю вайну ў Афгане. Выпіўшы тры пляшкі, начытаўшыся вершаў і наслухаўшыся пра афіцэрскія дуэлі на вайне, я з Генам плачу. Наш Герой спіць, а па радыё гучыць песня: «Мой адрас не дом і не вуліца, мой адрас — Савецкі Саюз...»

# ВЕРАСЕНЬ

## *Як пасяліцца ў любімага пісьменніка?*

3.09.2009. Здаецца, была пятніца. Вечарэла. Я з жонкай глядзеў тэлевізар і размаўляў пра шаснаццацігадовага сына Максіма, які дзесяць дзён жыў у манастыры з дзецьмі святароў і шчырых вернікаў. Да прыезду нашага сына там усё было так, як і павінна быць у манастыры. Са з'яўленнем Максіма ўсе дзяўчаты закахаліся ў яго, і цяпер кожны дзень нехта з іх яму тэлефануе. І ў самы разгар размовы пра сына зазвінеў дальказжык. Тэлефанавала дзяўчына, якая толькі што паступіла на філфак і даўно захапляецца маёй творчасцю. Пачуўшы гэта, я тут жа выйшаў у другі пакой. Дзяўчына, коратка расказаўшы пра тое, што яна зняла кватэру і заплаціла за яе, але трапіла да алкаголікаў і ледзь збегла адтуль, запыталася: «Можна пажыць у вас?» Я разгублена прамовіў: «Дзе?», бо ў гэты час мая Людміла пацікавілася: «Хто там тэлефануе?» Я жонцы нічога не адказаў, а незнаёмка сказала: «Ну, там, дзе вы жывяце...» — «Ну, я жанаты... Гэта па-першае. Па-другое, у мяне дзеці, дый маці цяпер жыве з намі. Так што я сам у не лепшых умовах...» Больш нічога я не паспеў сказаць, бо філфакаўка перарвала размову. На пытанне жонкі: «Хто ж там тэлефанаваў?», я адказаў коратка: «Ай! Не зразумеў!», і Людміла пакінула мяне ў спакоі. Я ж задумаўся: «Бедная дзяўчына толькі прыехала ў вялікі горад, а яе тут жа абабралі! Ну й народ у нас! Ды й я не паспеў ёй нічога добрага сказаць...» У панядзелак, прыйшоўшы на працу, я расказаў пра гісторыю з філфакаўкай знаёмаму пісьменніку. Той падзівіўся з паводзін дзяўчыны і пасмяяўся з мяне: «Глядзі, Шніп! Яна яшчэ да цябе дахаты прыйдзе з дзіцем і скажа, што гэта тваё малое!» І ўсе дні з мінулай пятніцы па сённяшні дзень я хадзіў з філфакаўкай у галаве: «Як яна там, небарака? Відаць, недзе сядзіць на вакзале і плача...» Два дні таму нават хацеў патэлефанаваць ёй, але ў дальказжыку нумар тэлефона не

захаваўся. І тут сёння разгортваю свежы нумар «Нашай Нівы» і пад рубрыкай «Розыгрыш» чытаю: «Як пасяліцца ў любімага пісьменніка?», дзе апісваецца, як супрацоўнікі «НН» разыгралі Адама Глобуса, Уладзіміра Арлова, Зміцера Вішнёва і мяне.

## *Нечаканы госць*

5.09.2009. Зіма. Мне дваццаць. Прыехаў на выхадныя ў вёску. Мяцеліца. Бачу праз акно: да нас нехта ідзе. Госць прыйшоў з Дубраў — гэта недзе кіламетраў шэсць ад маіх Пугачоў. І госць нечаканы — паэт, настаўнік Вячаслаў Міхасёнак. Прыйшоў спецыяльна, каб пазнаёміцца. Мама хуценька накрыла на стол. І мы хораша пасядзелі — чыталі вершы, расказвалі пра сябе, спрачаліся. Нагаварыўшыся, Вячаслаў раптам прапанаваў завесці мяне ў сваты да сваёй нядаўняй вучаніцы, якая жыве ў Пугачах. Я доўга адмаўляўся і ледзьве адмовіўся. Развітваючыся, Вячаслаў сказаў: «Калі б я быў маладзейшы, то я сам з ёй ажаніўся б!» — і, уздыхнуўшы, пайшоў у мяцеліцу.

## *Старэйшы і старэйшая*

8.09.2009. У сям'і было пяцёра дзяцей. Бацькі працавалі ў калгасе і старэйшыя дзеці, дванаццацігадовы хлопчык і адзінаццацігадовая дзяўчынка, даглядалі малодшых, якія яшчэ не хадзілі ў школу. У той жнівеньскі дзень бацькі затрымаліся на працы і дзеці, як заўсёды, гулялі ў двары. Старэйшая дзяўчынка прыдумала забаву для ўсіх: даскочыць да дратоў, якія працягнуты з хаты да склепа. Скакалі па чарзе, пачынаючы з малых. Меншыя не даскочылі. Застаўся старэйшы. Ён ува ўсім стараўся быць прыкладам для малодшых і таму добра разагнаўся і падскочыў так, што схапіўся за ніжні дрот... Хлопчыка хавала ўся вёска.

## *Бацькі і дзеці*

9.09.2009. Бацькоўскі сход у гімназіі-каледжы мастацтваў. Усе ў зале сядзяць, як мышы пад венікам. Як заўсёды, дырэктарка робіць устаноўку, якімі павінны быць дзеці на працягу навучальнага года. І напрыканцы выступлення просіць, каб такога не было, як яна некалькі дзён сама бачыла, як дзевяцікласніца, спыніўшыся ў 50 метрах ад гімназіі-каледжа мастацтваў, зняла з сябе доўгую спадніцу і засталася ў міні, у якой і прыйшла на вучобу. І тут жа пасля двухгадзіннага маўчання зала ажыла — усе рассмяяліся, як дзеці.

## *Нет*

10.09.2009. Сёмы клас. Мая аднакласніца, у якую я закаханы, сядзіць за апошняй партай у другім радзе, а я за другой на першым. Час ад часу я азіраюся, каб паглядзець на яе, і кожны раз спадзяюся, што нашы позіркі сустрэнуцца. Ды дзе там! Яна на мяне зусім не глядзіць. Але я ўпарты, і каб аднакласніца звярнула на мяне ўвагу, пачынаю пісаць вершы пра каханне і даваць іх усім пачытаць. Але гэта мне не дапамагае. І тады я пішу запіску, у якой пытаюся, ці згодная яна са мной сябраваць. Чакаю адказу амаль цэлы ўрок, і перад самым званком на перапынак мне перадаюць шматок прамакаткі, на якім напісана: «Нет».

## *Сяброўства*

10.09.2009. Яны пасябравалі яшчэ ў школе. Потым разам вучыліся ў адным інстытуце. Збіраліся пажаніцца, але не пажаніліся. Бацькі былі супраць. Пасля размеркавання яны раз'ехаліся ў розныя гарады. Ён напісаў Ёй каля сотні лістоў. Яна ні на адзін не адказала. І вось яны выпадкова сустрэліся на вакзале ў Мінску. Ён ехаў у Маскву, а Яна ў Вільню. І яны некалькі гадзін прабылі разам. Ім было добра, і пры развітанні яны дамовіліся пісаць адзін аднаму. Яна напісала каля сотні лістоў, а Ён ні на адзін не адказаў. Цяпер яна адна жыве ў Вільні, а Ён адзін — у Маскве. Ім разам на дваіх хутка будзе семдзесят гадоў.

## *А дзе вы друкаваліся?*

10.09.2009. Ён нарадзіўся ў 1930 годзе. У дваццаць гадоў, закахаўшыся, пачаў пісаць вершы. У дваццаць пяць жаніўся. У трыццаць у яго было ўжо трое дзяцей. Хапала клопату, але вершы пісаліся. Хацелася выдаць першую кніжку, прысвечаную жонцы. Збіраўся з кніжкай пяць гадоў, а сабраўшыся, з рукапісам не пайшоў у выдавецтва ў Мінску, а ў час адпачынку паехаў у Маскву ў «Маладую гвардыю». У рэдакцыі адразу запыталіся: «А дзе вы друкаваліся?» — «Пакуль што нідзе»,— адказаў малады чалавек. «Ну тады надрукуйцеся спачатку ў Мінску, а потым ужо прыязджайце да нас!» — параілі ў выдавецтве. І паэт вярнуўся дамоў. А дома праблемы — жонка закахалася ў іншага. Ледзьве не дайшло да разводу. І ён вырашыў — вось пайду на пенсію і там займуся выданнем кнігі. Дажыў да пенсіі. А тут Савецкі Саюз разваліўся. І зноў стала не да выдання кнігі. І толькі

сёння паэт прыйшоў да мяне з рукапісам вершаў пра каханне. Вершы добрыя, іх можна друкаваць, але цяпер фінансавы крызіс...

* * *

11.09.2009. (Прыснілася). Іду па праспекце ў холдынг «ЛіМ». Навокал разваліны. А будынак на Захарава, 19 стаіць, як і стаяў. Заходжу. На ўваходзе сядзіць Раіса Баравікова. Замест кабінетаў адна вялікая зала. Там-сям за сталамі працуюць людзі. Усе незнаёмыя. Мне Баравікова выдае ганарар. Грошай няшмат, але з імі можна сходзіць у кафэ «Бярозка», якое побач, і крыху пасядзець. І я хачу пачаставаць Андрэя Федарэнку. Мне кажуць, што ён тут даўно не працуе — з'ехаў у Амерыку і цяпер там выдае часопіс «Маладосць». Выходжу на вуліцу, а на вуліцы — зіма...

### *Дома*

11.09.2009. Ездзіў у Ракаў. Вяртаючыся на маршрутку, каля вакзала ўбачыў старога, які сядзеў пад дрэвам на бардзюры. Каля яго на зямлі стаяла пачатая пляшка таннага віна. На нейкі момант нашы позіркі сустрэліся. Цяпер я дома. А з маёй памяці не знікае адзінокі стары...

### *Ветлівыя*

12.09.2009. Вяртаюся з крамы. З майго пад'езда выходзяць з торбамі два мужыкі бамжаватага выгляду. Вітаюцца са мной. Няспешна падымаюся да сябе на другі паверх, думаючы пра незнаёмцаў: «Адкуль такія ветлівыя?» Падыходжу да сваіх дзвярэй і бачу, што пад нагамі няма гумовага дыванка. І ў суседзяў таксама няма...

### *Дзень бібліятэк*

15.09.2009. Сёння свята — Дзень бібліятэк. Насустракаўся з чытачамі, навыступаўся! Слухалі, дзякавалі. На апошняй сустрэчы да мяне падышоў мужчына пенсійнага ўзросту: «Я — доктар! Можна мне сказаць вам пару слоў?» Я насцярожыўся: «Зараз, відаць, скажа, што я невылечна хворы і мне засталося жыць пару дзён!» Доктар, паглядзеўшы мне ў вочы, сказаў: «Я пішу вершы!» — і пачаў чытаць урывак з паэмы пра выхаванне дзяцей...

## *Просьба*

16.09.2009. Тэлефанавала Валянціна Коўтун. Пыталася пра выданне сваіх твораў. Потым між іншым паведаміла, што ёй нядаўна тэлефанаваў малады журналіст (прозвішча не назвала) з «дробнай газеты» з просьбай дапамагчы яму напісаць фельетон пра мяне і Людмілу Рублеўскую, бо мы часта друкуемся. Валянціна Міхайлаўна ў дапамозе журналісту адмовіла...

## *Аўтографы Караткевіча*

29.09.2009. Сёння а палове дванаццатай да мяне ў кабінет зайшла жонка вядомага кампазітара. Абмеркаваўшы магчымасць выдання кнігі пра яе мужа, яна дастала з папкі чатыры аркушы пажоўклай паперы з вершамі Уладзіміра Караткевіча, якія былі напісаны недзе ў 1964 годзе. І са словамі «я ўжо немаладая, каб іх захоўваць у сябе» перадала іх мне. Потым паведаміла, што Уладзімірам Караткевічам было напісана лібрэта, але яно не прайшло цэнзуру і цяпер захоўваецца (...). «Вы малады і вы, спадзяюся, не забудзецеся выцягнуць лібрэта ў гэты свет, калі прыйдзе спрыяльны для гэтага час»,— сказала жанчына. Пасля таго, як яна пайшла, я ўзяў першы том Збору твораў Уладзіміра Караткевіча і паглядзеў, ці друкаваліся перададзеныя мне вершы. Два друкаваліся цалкам, адзін без чатырох радкоў і адзін не друкаваўся зусім...

# КАСТРЫЧНІК

## *Кампазітар*

1.10.2009. Учора вечарам патэлефанаваў Яўген Рагін з газеты «Культура» і стаў прасіць да раніцы напісаць песню пра работнікаў культуры. Я доўга адмаўляўся, і ўсё ж ён мяне ўгаварыў. Давялося сабрацца з натхненнем і напісаць. Раніцай прадыктаваў па тэлефоне тэкст сябру, а праз паўгадзіны па мяне прыйшла машына, і мяне адвезлі ў кватэру да Ігара Лучанка. Гаспадар нас чакаў — была заварана гарбата і падрыхтавана печыва. Я спадзяваўся, што гасцяваць давядзецца хвілін дзесяць-пятнаццаць. Ды дзе там! Ігар Міхайлавіч пачаў з таго, што сказаў: «Я даўно памёр! І ніякіх песень болей не пішу!» Мой куратар, пачуўшы такую заяву, перавёў размову на надвор'е, на яблыкі, на грыбы. Пагаварылі пра гэта ўсё недзе з паўгадзіны, і толькі потым Лучанок узяў мой тэкст і пачытаў. «Відаць, што майстра зрабіў! Але ж я песень не пішу! Я памёр! Ідзіце да Зарыцкага. Ён напіша!» Зноў недзе з паўгадзіны пілі гарбату і слухалі Лучанка. Памаленьку дабраліся да раяля. Хвілін дзесяць слухалі песні Ігара Міхайлавіча, а потым ён тут жа пры нас падабраў музыку да майго тэксту. Просім, каб запісаў ноты. А ён: «Я песень не пішу! Я тут не жыву! Я памёр!» Яшчэ прайшло паўгадзіны, калі Ігар Міхайлавіч дазволіў нам пакінуць яго разам з маім тэкстам. Не паспеў я прыехаць дахаты, як патэлефанавалі мне і перадалі, што Ігар Лучанок напісаў музыку да майго тэксту і хоча са мной сустрэцца ў Саюзе кампазітараў. Я прыехаў праз паўгадзіны. Ігар Міхайлавіч з'явіўся пазней. Павёў у кабінет. За ім зайшло некалькі чалавек. Перад тым як сесці за стол, Ігар Міхайлавіч сказаў: «Зрабіў! Але апошні раз!» — і кінуў шапку аб падлогу. Дастаў з папкі ноты і, пасварыўшыся на прысутных, сыграў новую песню на мой тэкст...

## *Замежная мова*

6.10.2009. Літінстытут. Верасень 1985 года. Дзелімся на групы вывучаць замежныя мовы. Выбар невялікі, але ёсць: англійская, нямецкая і для замежнікаў — руская. Я запісаўся на рускую мову. Потым раз на тыдзень хадзіў на лекцыі разам з палякамі, манголамі, татарамі і грузінамі, дзе нас вучылі пісаць і гаварыць па-руску. І цяпер у мяне ў дыпломе па замежнай мове стаіць пяцёрка...

## *Вандроўка*

12.10.2009. У мінулую суботу быў у вандроўцы, якую арганізаваў прафкам нашага выдавецтва. Спачатку наведалі Будслаў. У касцёле нас сустрэў малады і высокі манах, з рукамі вялікімі і мускулістымі. Я адразу ўявіў яго воем, які з мячом бароніць родную зямлю. А праз нейкі час у манаху ўбачыў і ка́та, які адсякае галовы ерэтыкам. Пасля Будслава паехалі ў Глыбокае, дзе наведалі царкву, а потым касцёл. У царкве апускаліся ў скляпенне, нібыта ў старажытнасць, і ўзлазілі на званіцу, каб яскравей убачыць сучаснасць. Не абмінулі Мосар, дзе якраз у касцёле быў ксёндз Булька. Ён нас заклікаў, каб не пілі і болей маліліся Богу. Хадзілі на мясцовыя могілкі, на якіх вельмі чыста і бяздрэўна, нібыта яны знаходзяцца не ў Беларусі. Экскурсію вёў Яраш Малішэўскі, і ён для нас быў Асветнікам.

## *Вавілон*

14.10.2009. (Прыснілася). Вавілон. Я адзін з яго будаўнікоў. Сёння ў нас прафесійнае свята, і мы з самага ранку п’янствуем. Калі б учора не прадалі сто мяшкоў цэменту і сто тысяч цаглін патрыцыям на будаўніцтва бардэляў, то сёння б сумавалі на рыштаваннях, а так усім весела, і толькі Граждан злосны. Ён з самага ранку агітуе нас канчаць п’янку і распачынаць бестэрміновы страйк, бо яму ў трэсце не далі трынаццатай зарплаты. Мы цярпелі Граждана да абеду, а потым... а потым Вавілонская вежа абрынулася. Граждан атрымаў пенсію па інваліднасці, а нам далі па дзесяць гадоў за «разбазарванне будаўнічых матэрыялаў»...

## *Наталля Семяжон і Максім Танк*

16.10.2009. Да мяне на працу прыходзіла дачка Язэпа Семяжона Наталля. Гадоў пяць не бачыліся, таму не адразу пазнаў яе. Амаль паўтары гадзіны расказвала пра бацьку і свайго дзядзьку

Максіма Танка. Яўген Іванавіч за два тыдні да смерці паклікаў да сябе Наталлю і папрасіў, каб прасачыла, калі ён памрэ, каб не пахавалі на Маскоўскіх могілках. «Не хачу я там ляжаць побач з некаторымі жулікамі, а хачу быць з бацькамі ў роднай зямлі!» — казаў Максім Танк і, гледзячы ў акно, каб пляменніца не бачыла слёз, пытаўся: «Няўжо ўсё, што я напісаў і зрабіў, дарэмна і нікому не патрэбна?» — «Не дарэмна! Яно патрэбна нам, беларусам, і сёння, і заўтра, і праз сто гадоў спатрэбіцца!» — адказала Наталля.

* * *

17.10.2009. Учора ў Музеі Максіма Багдановіча адкрылася выстава карцін Алеся Квяткоўскага «Мая хата без сяброў — не хата», прысвечаная Анатолю Сысу. Весці імпрэзу спадар Алесь папрасіў мяне. Выступілі Таццяна Шэляговіч, Рыгор Сітніца, Сяржук Сыс, спявала песні на словы Анатоля Вікторыя Ільынская. Адкрыццём гэтай выставы распачаўся літаратурна-мастацкі марафон, прымеркаваны да 50-годдзя з дня нараджэння Анатоля Сыса. Людзей было нямала. Шмат было тых, каму паэт казаў: «Не хадзіце за мной!» — і не было тых літаратараў, якія і пры жыцці Сыса шарахаліся ад яго, як ад заразнага...

## *Лякарства*

19.10.2009. Літінстытут. Хварэю. Адзін у пакоі. Ніхто не прыходзіць адведаць, і толькі вечарам у пятніцу пасля заняткаў зайшоў паляк Анжэй. Колькі хвілін пасядзеў моўчкі каля мяне, як каля паміраючага, і пайшоў. І не паспеў я пакрыўдзіцца на Анжэя, як у пакой з гітарай уварваўся нікарагуанец Карлас, а следам за ім тры казашкі і паляк. Праз хвілін пятнаццаць я спяваў рэвалюцыйныя песні і танчыў...

## *Карлас і Ваганькаўскія могілкі*

21.10.2009. Нікарагуанец Карлас на летнія вакацыі не паехаў да сябе на Радзіму. Тры месяцы падпрацоўваў начным вартаўніком на Ваганькаўскіх могілках. Потым часта расказваў пра Ясеніна з Высоцкім, якія па выхадных хадзілі сярод магіл, курылі кубінскія сігары, пілі савецкае шампанскае і клікалі яго ў сваю кампанію.

## *Падарожжа па стагоддзях*

22.10.2009. Учора хадзіў у Нацыянальны мастацкі музей Беларусі на адкрыццё выставы твораў жывапісу «Падарожжа па мінулым стагоддзі» Уладзіміра Тоўсціка. Падарожжа было светлым. Да ўсяго, змог скарыстацца магчымасцю паглядзець жывапіснае палатно вялікага італьянскага майстра Парыса Бардона (1500 — 1571) «Мадонна з дзіцем паміж святым Энрыка з Упсалы і святым Антоніа», якое было напісана ў 1550 годзе.

* * *

24.10.2009. На мінулым тыдні глядзеў па тэлевізары, як у нейкай краіне людзей на могілках хаваюць толькі на той час, за які могуць заплаціць сваякі. Заплацілі за год, за два, за тры, а мінуў гэты час, парэшткі чалавека дастаюць з труны і, пераклаўшы голымі рукамі ў мяшок, які вельмі падобны на нашыя мяшкі з-пад цукру, выносяць з тэрыторыі могілак, каб спаліць... Мінуў тыдзень, а мне і сёння жудасна...

## *Прыстойная манера*

27.10.2009. Пад загалоўкам «Нацыянальны беларускі маньерызм — свой від сучаснае сатыры» у «Новым часе» надрукавалі артыкул, у якім ёсць радкі: «Родапачаткоўцам беларускага паэтычнага маньерызму, пасьля актыўнай літвучобы ў Маскве і, відавочна (наколькі можна меркаваць), выключнага кантактаваньня з імперскім куртуазным бамондам, стаўся Віктар Шніп, які апублікаваў незалежным чынам першае выданьне сатырычнага праэкту «Чырвоны ліхтар»... З гэтай пары адкрыта друкаваць і агучваць маньерызм сталася прыстойнай манерай ня толькі ў кулуарах, але і на іншых пляцоўках». А прыстойная манера пачалася ў сярэдзіне 90-х гадоў, калі першыя творы з «Чырвонага ліхтара» былі надрукаваны ў «НН»...

## ЛІСТАПАД

### *Сыс быў у гасцях*

1.11.2009. Вярнуўшыся з Гарошкава ад Сыса, Міра Лукша і Ганна Кандрацюк начавалі ў мяне з Людмілай. Ляглі спаць пасля дванаццаці. Толькі заснулі, як у пакоі, дзе адпачывалі нашы госці, нешта так загрукатала, што мы з Людмілай прачнуліся. «Відаць, заплечнік Міры паваліўся»,— выказаў я сваю думку і, перавярнуўшыся на другі бок, працягнуў спаць. Раніцай заходжу да дзяўчат, і яны мне паказваюць на рассыпаныя па падлозе кніжкі, якія ўжо некалькі гадоў у куце каля кніжнай шафы былі акуратна складзены і ніколі не падалі. Сярод кніжак бялелі паперы з вершамі Людмілы. Я іх падняў, і першы твор, які мне трапіў у рукі, быў верш «Памяці Анатоля Сыса». «Значыць Сыс з Гарошкава прыехаў з вамі і ноччу падаў знак аб сабе, абрынуўшы кіпу кніжак!» — сказаў я, і ўсе са мной згадзіліся.

### *Сыс яшчэ ў гасцях*

1.11.2009. Міра Лукша і Ганна Кандрацюк, якія, прыехаўшы ў Гарошкаў, атрымалі на тры дні часовую прапіску ў хаце Анатоля Сыса, з самага ранку паехалі на могілкі ў Калодзішчы, каб адведаць магілу Альгерда Невяроўскага. Я з Людмілай застаўся дома. Ніяк не можам ачуняць ад грыпу. Пад абед зайшоў у госці мастак Алесь Квяткоўскі. Сядзім удваіх на кухні, гамонім пра Сыса. «Летам я ў Гарошкаве быў шэсць дзён. Няма там чаго маляваць...» — сказаў Алесь, і ў гэты момант з падаконніка звалілася сетка з апельсінамі. «Ну, ёсць там што маляваць!» — гледзячы спалохана на мяне, выправіўся Алесь. І мы тут жа прыйшлі да думкі, што Толік з намі на кухні.

## *Сыс паехаў у Жыровічы*

1.11.2009. Міра Лукша і Ганна Кандрацюк ад нас паехалі ў Жыровічы да Зьніча, а з імі паехаў і Сыс. Праўда, ён не хацеў, каб яны хутка развіталіся з намі, і таму паблытаў Міры матузкі на абутку, і ёй давялося з імі крыху павалэндацца. Пасля таго, як з хаты выйшлі нашы госці, адразу ўзнікла адчуванне святла, прасторы. І тое, што адбывалася ў нас у кватэры апошнія паўдні, закончылася, як нейкі неверагодны сон, які ўсім, хто быў у нас, сніўся адначасова.

## *Лужанін і чорны матыль*

13.11.2009. Вечарына, прысвечаная 100-годдзю Максіма Лужаніна, праходзіла ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры. Невялікая зала была запоўнена ў асноўным слухачамі Акадэміі МУС. Не ведаю, ці зразумелі прысутныя, пра што амаль дзве гадзіны гаварылі А. Вярцінскі, М. Скобла, А. Бутэвіч, М. Кляшторная, А. Сідарэвіч і В. Стралко, але ў зале было ціха. Вечарына пачалася з праслухоўвання выступлення Лужаніна, якое было запісана на яго сямідзесяцігоддзе. І толькі загучаў запіс, як адразу на голас паэта аднекуль прыляцеў вялікі чорны матыль. Убачыўшы яго, Бутэвіч прашаптаў мне на вуха: «Гэта Максім Лужанін...» А як закончыўся запіс, дык і чорны матыль невядома куды знік...

## *Вяршынін*

16.11.2009. На мінулым тыдні на сямідзясятым годзе жыцця памёр паэт-гумарыст Мікола Вяршынін. Гэта ён, Яўген Крупенька і Мікола Федзюковіч у сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя пры газеце «Чырвоная змена» апекаваліся літаб'яднаннем «Крыніцы», праз якое прайшлі дзясяткі маладых літаратараў. Кажуць, Вяршынін памёр ад свінога грыпу...

## *Аспірант і сала*

29.11.2009. Субота. На заняткі ў Літінстытут не трэба, і можна паспаць даўжэй, чым звычайна. Ды дзе там! А пачатку дзявятай разбудзіў аспірант з Адэсы Андрэй: «Табе праслалі бандэроль! Відаць, з вёскі сала! Пайшлі атрымаем!» Я іду на пошту, а Андрэй у краму за хлебам. Доўга стаю ў чарзе. І атрымоўваю з выдавецтва «Мастацкая літаратура» карэктуру сваёй кніжкі «Пошук радасці». Андрэй злуецца, і мне даводзіцца зноў стаяць у чарзе, але ўжо ў краме за салам.

# СНЕЖАНЬ

## *Дзяўго і патроны*

20.12.2009. У маіх Пугачах ад чарговага інсульту памёр сусед Дзяўго. Было яму за семдзесят. Апошнія гады жыў адзін. Да дзяцей у горад не захацеў ехаць. Казаў: «Калі прыйдзе час паміраць, то хачу памерці ў роднай хаце...» Суседам Дзяўго быў нядрэнным, хоць і «гануровым», бо ягоная жонка працавала ў канторы бухгалтарам. Сам ён шафярыў на грузавіку. Машына часта стаяла каля хаты. Успомнілася, як недзе напачатку сямідзясятых я са сваімі сябрамі шукаў зброю па лясах. Назбіралі таго-сяго. Патронаў жа было малавата. І вось мы надумалі ўкрасці ў Дзяўго патронаў ад паляўнічага ружжа, якое ён нярэдка пакідаў у машыне. І ўкралі. А ў кабіну па патроны лазіў я. Сусед прапажу адразу заўважыў, але злодзеяў не знайшоў — мае сябры мяне не выдалі. Потым у мяне дома ў школьным партфелі захоўвалася частка знойдзеных патронаў ад нямецкіх аўтаматаў, вінтовак, пісталетаў і ад суседавага ружжа. Партфель некалькі гадоў вісеў на сцяне пад старой фуфайкай, пакуль мама не знайшла мой склад і не выкінула ў балота. Сустракаючыся з Дзяўгом, я заўсёды ўспамінаў ягоныя патроны і, часта мне карцела прызнацца яму ў сваім зладзействе. Але так і не прызнаўся...

## *Прыехаў пісацель*

20.12.2009. Паўдня ўспамінаў імя суседа Дзяўго, які памёр. Ледзьве ўспомніў. Міця. А як імя яго жонкі? Не магу ўспомніць. Усе звалі яе Дзяўговай або бухгалтаркай. Ды і мяне мала хто ў Пугачах зваў Віцем. Для старых я быў Толем (па-бацьку), або Нінін хлапец, а калі пачаў друкавацца ў раёнцы, стаў паэтам, «пісацелям». З гэтай нагоды ўспомнілася вельмі даўняе. Недзе гадоў трыццаць назад зімнім вечарам я прыехаў у вёску. На аўтобусным прыпынку мяне чакалі хлопцы: «Пайшлі з намі ў клуб! Там з табой хоча пазнаёміцца адзін чалавек! Пайшлі!» І я, не заходзячы дамоў, пайшоў з сябрамі на танцы. На ганку

мяне сустрэў загадчык клуба. Павітаўшыся, прапанаваў прайсці да яго ў кабінет. Заходжу. Накурана. За сталом у дыме сядзяць двое мясцовых аўтарытэтаў і наш новы ўчастковы міліцыянер. «Не бойся! Сядай!» — прапанаваў сяржант. Я нясмела прысеў. «Дык ты, мне кажуць, пісацель?» — з усмешкай зазірнуў мне ў вочы міліцыянер. «Ну і што?» — пытаннем на пытанне адказаў я. «А ці п'юць нашы пісацелі самагонку?» — «П'юць. А што?» — «А я з пісацелямі ніколі не піў! Хачу выпіць з табой!» — сказаў міліцыянер, і тут жа загадчык клуба дастаў з-пад стала поўны трохлітровы слоік...

### *У маіх Пугачах*

23.12.2009. Калі ў школе на ўроках матэматыкі я ад настаўніцы пачуў, што Лабачэўскі — матэматык і творца неэўклідавай геаметрыі, то я адразу нашага вясковага Лабачэўскага прызнаў за вялікага матэматыка, і ён быў для мяне матэматыкам да таго часу, пакуль не ўкраў у нас з гарышча сала. І яшчэ. У суседа было прозвішча Балотнік, і я пра яго думаў, што гэта пад яго кіраўніцтвам было сялянскае паўстанне недзе там у Расіі. І доўгі час я прыглядаўся да яго, баючыся, каб ён у маіх Пугачах не ўчыніў паўстанне супраць калгаснага строю. Пра свайго ж прапрадзеда Кандрата я думаў, што гэта ён Кандрат Крапіва, байкі якога я вучу ў школе... Словам, мае Пугачы для мяне былі цэлай краінай, у якой ёсць усё, пра што напісана ў кніжках.

### *Квяткоўскі працуе*

27.12.2009. Да сябе ў майстэрню мяне і Людмілу паклікаў мастак Алесь Квяткоўскі. Цяпер ён працуе над трыпціхам «Стог. Рэшата. Збан» паводле маіх верлібраў. Атрымоўваюцца вельмі цікавыя творы. Да ўсяго, Алесь жыве задумай карціны «Пагоня на Грунвальд». Нечакана нашу размову перапыніў тэлефонны званок ад Вітаўта Чаропкі. І мы чуем: «Прыязджай! Пачынаю «Пагоню на Грунвальд». Ты будзеш ехаць у першай харугве... Цябе першым і заб'юць!»

### *Квяткоўскі прынёс «Збан»*

27.12.2009. Дамоў ад Алеся Квяткоўскага вярнуўся поўны ўражанняў. Не паспеў запісаць іх, як званок у дзверы адарваў мяне ад камп'ютара — прыйшоў Алесь з карцінай «Збан», якую ён пасля майго з Людай сыходу дапрацаваў. Люды з Максімам

дома ўжо не было, і давялося мне, маёй хворай маме і Веранічцы слухаць цэлую лекцыю па стварэнні шэдэўраў і пра «Пагоню на Грунвальд». Потым я з Алесем сядзеў на кухні і слухаў ягоныя расповеды пра Вільню, пра Клайпеду, пра мастацтва, пра паэзію... І ўсё было хораша. І раптам Алесю патэлефанавалі... І ўсё скончылася...

### *Ці ёсць у вас праблемы?*

28.12.2009. Пры паляках сям'я майго дзядзькі Івана Іосіфавіча Шніпа была адной з самых багатых у наваколлі. Дзякуючы грашам бацькі, дзядзька Іван у свой час закончыў сямігадовую гімназію ў Гарадку, што ў васьмі кіламетрах ад Пугачоў. Потым дзядзька працаваў у канторы і меў мянушку «Касір». Але ўсё гэта было пасля, а вось у 1939 годзе, калі ў нашы Пугачы прыйшлі Саветы і сагналі ўвесь народ на плошчу, дзе цяпер аўтобусны прыпынак і крама, і запыталіся: «Пугачоўцы, ці ёсць у вас праблемы? Калі ёсць, мы вам дапаможам пазбавіцца іх!», то дзядзькаў бацька сказаў: «У мяне адна праблема — няма рынку збыту збожжа!» І бальшавікі на другі ж дзень увялі Іосіфу Шніпу такі падатак, што ён да Новага года вазіў і здаваў збожжа, і так і не змог разлічыцца з бальшавікамі. А вясной яму не было ўжо чаго сеяць...

### *Самая старая хата*

28.12.2009. У цэнтры Пугачоў стаіць самая старая ў нашай вёсцы хата. Ёй недзе гадоў 150. Пры мне там жылі Вярбіцкія. На адной палавіне хаты — была іх сям'я, на другой — калгасная бібліятэка. Раней там жылі сем'і старшынь калгаса, была крама. А напачатку гэтая хата належыла мясцовым яўрэям, якія ў ёй трымалі гандлёвую лаўку. Мой дзед Юзя часта заходзіў у яе і набываў цыгарэты і выпіўку. Часам яму давалі напавер, бо ведалі, што ён разлічыцца. А разлічыцца дзед мог, бо яму з Амерыкі стрыечныя сёстры прысылалі даляры. Відаць, прысылалі шмат, бо дзед аднойчы так напіўся, што пачаў у даляры загортваць махорку і раздаваць сабутыльнікам, каб курылі, і яны курылі. Цяпер самая старая хата ў Пугачах пустуе...

### *Залаты хлеб*

29.12.2009. Пасля прыходу Саветаў у канцы 30-х гадоў у вёсцы Лягезы ў Мацісўскіх, якія жылі па-суседстве з сям'ёй маёй мамы, згарэла хата. Куды ім было дзецца з васьмю дзецьмі? І

яны прыйшлі да маіх дзеда Міхася і бабулі Ганны, у якіх сваіх дзяцей было васьмёра. І так у адной хаце жыло дваццаць чалавек, пакуль Мацієўскія будаваліся. З пажару мала што ўдалося выратаваць. Мая мама адразу звярнула ўвагу на суседчын хлеб, які быў не чорнага, а залатога колеру. І яна адразу ж шэптам папрасіла ў сваёй маці: «Хачу залатога хлеба...» Суседка пачула і дала дзяўчынцы лусту. Хлеб быў з мякіны.

## *І я ўсіх люблю*

29.12.2009. Не выключаючы святло, сплю на падлозе на надзіманым матрасе ў пакоі побач з мамай. Яна паварушыцца, і я тут жа прачынаюся. Гляджу на маму, а потым на гадзіннік, які стаіць побач са мной. Усё нармальна. Сплю. Мама закашляла і я зноў прачынаюся. Гляджу на маму, а потым на гадзіннік. Прайшло пятнаццаць хвілін. Сплю далей. Зноў прачынаюся. Гляджу на маму, на гадзіннік. Прайшло яшчэ дваццаць хвілін. Накрываюся з галавой. Засынаю. Прачынаюся. Сын прайшоў на кухню папіць вады. Гляджу на гадзіннік. Прайшло яшчэ пятнаццаць хвілін. Сплю далей... Прачынаюся... Сплю... Прачынаюся... І я ўсіх люблю...

## *Дзяўчынка Люда і яма*

30.12.2009. Вясновая раніца. Вёска Лягезы. Мне гадоў пяць. Гуляю з дзяўчынкай Людай. Яна на год старэйшая за мяне. Прапануе мне пераскочыць яму, у якую ссыпаюць на зіму бульбу. Я не спрачаюся з ёй. Скачу і падаю ў яму. Люда ўцякае, і я сяджу ў яме да абеда, пакуль не вяртаецца са школы яе старэйшая сястра.

* * *

31.12.2009. Самае дрэннае, што адбылося ў маім жыцці ў 2009 годзе — гэта інсульт у мамы. А самае добрае — мама жыве...

# СТУДЗЕНЬ

* * *

1.01.2009. Лёг спаць у дзве гадзіны. У тры прачнуўся ад званка па мабільным: «З Новым годам! Вас віншуе студэнт першага курса гістфака Алесь...» Прозвішча спрасоння не запомніў, але адразу згадаў мінулагодні нашаніўскі розыгрыш, калі па заданню рэдакцыі студэнтка першага курса прасілася на кватэру. Можа зноў разыгрывалі? Але, як бы там ні было, усё ж прыемна чуць добрыя словы пра сябе і ў свой адрас у тры гадзіны ночы ад невядомага гісторыка! Потым я ляжаў і думаў, а можа чалавеку няма дзе пераначаваць, а я толькі падзякаваў за віншаванне...

## *Трэба дома бываць часцей*

3.01.2010. Праз электронную пошту аб'явіўся кампазітар Зміцер Яўтуховіч, з якім я напісаў шмат эстрадных песень. На пачатку 90-х ягоныя песні гучалі па радыё і тэлебачанні з раніцы да вечара. Усё было ў творчым плане цудоўна, але сям'і кампазітара не было дзе жыць і тварыць. Рабочы інтэрнат, невялічкі пакойчык. І Дзіма вырашыў з'ехаць у Амерыку. З'ехаў. І ў нас з'явіліся іншыя песні і іншыя куміры. У 2006 годзе Яўтуховіч прыязджаў у Беларусь. У Доме літаратара была творчая сустрэча з ім. Дзіма спадзяваўся, што будзе народу — не ўбіцца ў залу, а прыйшло крыху больш за сотню...

## *Перадвавагодняя аблава*

4.01.2010. Мне шаснаццаць гадоў. Вучуся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме і жыву ў інтэрнаце на вуліцы Змітрака Бядулі. Да пачатку 1977 года застаецца гадзіны чатыры. З сябрамі скінуліся на дзве пляшкі кубінскага рому. У краму выпала ісці мне. Пайшоў. Купіў. Вяртаюся ў інтэрнат. На вахце аблава — фізрук з ваенруком правяраюць сумкі. «Куды нясеш пітво?» — грозна пытаецца ваенрук. Я разгубіўся толькі на момант: «Еду ў госці да дзядзькі з цёткай. Для іх купіў...» — «Раз для

сваякоў купіў, то і едзь да іх!» — сказаў фізрук і не прапусціў мяне ў інтэрнат. Давялося Новы год сустракаць у дзядзькі Барыса і цёткі Галі. Ранкам, прыехаўшы ў інтэрнат, даведаўся, што мае сябры, якія адправілі мяне за пітвом, праз хвілін дваццаць пасля таго, як я паехаў да сваякоў, самі хадзілі ў краму за кубінскім ромам і потым разам выпівалі з фізруком і ваенруком, бо тыя прыйшлі ў інтэрнат у пошуках студэнтаў, з якімі можна на халяву выпіць... А я не зразумеў іх перадпавагодняй аблавы...

## *Граматы*

5.01.2010. Шосты клас. Школьныя спаборніцтвы па бегу на лыжах. Дыстанцыя — кіламетр. Я прыбег трэцім. Мой сусед і аднакласнік Сашка Балотнік заняў першае месца. Яму далі ганаровую грамату, а мне — нічога. Было вельмі крыўдна, а тым больш, што за нашымі спаборніцтвамі сачылі дзяўчаты. Сашка сваю грамату павесіў дома ў куце, у якім вісела ікона. І калі я прыходзіў да Сашкі, то заўсёды ўспамінаў пра сваё трэцяе месца. У сёмым класе зноў былі спаборніцтвы па бегу на лыжах, у якіх я адмовіўся ўдзельнічаць, і мне па фізкультуры паставілі тройку. Сашка заняў першае месца, і яму зноў далі ганаровую грамату, якую ён пачапіў побач з першай узнагародай. У восьмым класе Сашка зноў перамог, і яго адправілі на спаборніцтвы ў Ракаў, з якога ён вярнуўся з граматай за другое месца. Закончыўшы школу, я паехаў вучыцца ў Мінск, стаў друкавацца ў газетах, а Сашка застаўся ў вёсцы. Выдаўшы першую кніжку вершаў, я неяк зайшоў да аднакласніка ў госці, і мы, добра выпіўшы, успомнілі пра нашы спаборніцтвы на лыжах. І так паразуспаміналіся, што кончылася тым, што Сашка сарваў з-пад іконы свае ганаровыя граматы і парваў.

## *У кампаніі паэтаў і афіцэраў*

7.01.2010. Учарашні вечар правёў у кампаніі паэтаў і афіцэраў. Недзе на пятым тосце адзін з гасцей задаў прысутным пытанне: «Хто казаў трэці тост?» Адразу ж устаў пажылы афіцэр, і яму былі перададзены нажніцы, каб ён укараціў свой гальштук, бо не аб’явіў тост за каханне, за жанчын. Пару хвілін мужчына круціў у руках нажніцы, шкадаваў гальштук, які ён навязаў першы раз і які зроблены вядомай замежнай фірмай і каштуе вялікія грошы, а потым пад шум прысутных адрэзаў сантыметраў дзесяць ад гальштука. Калі б трэці тост казала жанчына, і ён быў бы не за каханне, то ёй давялося б укараціць сабе спадніцу або сукенку...

## *Рыбалка*

8.01.2010. Выпаў першы снег. Добра прымарозіла. І я пасля школы з суседскімі хлапчукамі пайшоў да Хмарышаўскага балота, каб пакатацца па лёдзе. Прыйшлі і бачым, што на мелкаводдзі да лёда месцамі папрымярзалі ладныя карасі. І мы пачалі ламаць лёд і лавіць рыбу, і так захапіліся лоўляй, што незаўважна для сябе перабраліся на глыбокую мясціну. І тут мне «пашанцавала» так, што я паслізнуўся на ільдзіне і паляцеў у ваду пад лёд. Добра, што хлопцы не разгубіліся, і я праз пару хвілін, забыўшыся пра свой улоў, бег, ледзянеючы, дахаты...

## *Млын жыцця*

9.01.2010. Чытаю кнігу майго земляка, краязнаўца Генадзя Равінскага (15.07.1933—25.06.1999) «Млын жыцця». Успамінаюцца нашы сустрэчы ў рэдакцыі Валожынскай раёнкі, дзе мы збіраліся на пасяджэнні літаб'яднання «Рунь». На пачатку 80-х для мяне сустрэчы з Равінскім былі лікбезам па гісторыі нашага краю і ўсёй Беларусі. Вялікі дзякуй табе, Генадзь Антонавіч...

## *Дарога да бацькоў*

9.01.2010. З сястрой Валяй іду з Дубраў з электрычкі да бацькоў у Пугачы, каб разам з імі сустрэць 1979 год. Аўтобусам не паехалі, бо з-за мяцеліцы не ходзіць. Я іду па гурбах першым, сястра спяшаецца за мной, але ўсё роўна мае сляды мяцеліца замятае, і Валі даводзіцца ісці па цаліку, як і мне. Да роднай вёскі дзесяць кіламетраў. Час ад часу прыпыняемся, каб адпачыць. Зрэдку перамаўляемся пра нялёгкую дарогу, але маўчым пра тое, ці варта было ў такое надвор'е ехаць да бацькоў...

## *Усё цячэ, усё мяняецца...*

9.01.2010. Чытаю ў Генадзя Равінскага: «Каля Міхалава ў Іслач упадае рэчка Яршоўка. Даўжыня яе 30 кіламетраў, сярэдні нахіл воднай паверхні — 1,4 метра. На рачулцы было 4 млыны». Сама ж Яршоўка пачыналася ў Лягезах, дзе я да школы гадаваўся ў бабулі Ганны. Пішу «пачыналася», бо гадоў дзесяць таму, калі я з жонкай быў у Лягезах і павёў яе паказаць рачулку майго дзяцінства, то ў рэчышчы сярод кустоў чаромхі, лазы і алешніку, дзе раней цякла вада, ужо расла высокая трава...

### *Кміт і Макасіцкі*

9.01.2010. Мяне ў дзяцінстве мама, будучы ў добрым настроі, называла Кміткам або Кмітам, а калі злавалася — Макасіцкім. Па сённяшні дзень не ведаю, хто такія былі гэтыя Кміт і Макасіцкі. І, на жаль, у мамы цяпер не спытаеш...

### *Памёр святар Юозас Булька*

9 студзеня ў Мінску на 85-м годзе жыцця памёр пробашч касцёла святой Ганны ў Мосары Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці Юозас Булька. 9 кастрычніка мінулага года я з супрацоўнікамі выдавецтва быў у Булькі ў гасцях. Ён нас усіх блаславіў на цвярозае жыццё. І сёння якраз спаўняецца 26 месяцаў, як я не ўжываю алкагольных напояў...

### *І я быў хакеістам...*

9.01.2010. Зімой пасля школы амаль кожны дзень на Малышоўцы з сябрамі гуляў у хакей. Гулялі без канькоў, клюшкі былі з крывых бярозак, а замест шайбы выкарыстоўвалі абцас. Не было такой зімы, каб ніводнага разу не былі ў мяне падбіты вочы шайбай або клюшкай. Ды і ногі, і рукі былі ўсе ў сіняках. Траўмы былі балючымі, але ж задавальненне ад забітых галоў было большым...

### *Футбол і балельшчыкі*

9.01.2010. Не паспяваў толкам сысці снег з сенажаці, якая была за нашымі соткамі, як я з сябрамі пачынаў гуляць у футбол. Паглядзець на нашу гульню збіралася шмат людзей, сярод якіх хапала дзяўчат. І мы часам так загульваліся, што дамоў не хадзілі абедаць. Трава амаль не расла, бо мы яе стоптвалі, і нас бацькі недзе ў канцы траўня пачыналі ганяць з сенажаці. Мы перабіраліся на школьны двор, і там не давалі спакою вартаўніку, які баяўся, што павыбіваем вокны ў школе. Дзякуючы таму, што сярод нас быў сын старшыні калгаса, на краі вёскі за лазняй каля вялікай сажалкі было спецыяльна зроблена футбольнае поле. Перайшоўшы на новае месца, мы хутка закінулі гульню, бо сюды ніхто з нашых балельшчыкаў не даходзіў...

## *Мы былі маладыя...*

10.01.2010. Мой даўні сябра Лёня Шчарбінскі нарадзіўся ў Гудах, што ў кіламетрах дваццаці ад маіх Пугачоў. Я пасябраваў з ім на пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя дзякуючы літаб'яднанню «Рунь» пры раёнцы. Лёня служыў прапаршчыкам у Кіяўцы, а я быў басяком, пра што ніхто не ведаў. Мы былі маладыя, і мы пісалі вершы. Вяртаючыся з Валожына з літаб'яднання, мы перасаджваліся на свае аўтобусы ў Ракаве. Перад тым як развітацца, бралі пляшку гарэлкі і ішлі ў ракаўскую сталоўку. Садзіліся за столік, які стаяў за калонай, частаваліся і чыталі вершы. Прыгод ніякіх не было, але я і сёння памятаю смак тых катлет, салатаў і вараных яек, якімі мы закусвалі. І вельмі шкада, што тая старая сталовая і крамы, якія былі каля яе, некалькі гадоў таму згарэлі...

## *Грыбы ў лістападзе*

10.01.2010. Свой чарговы вайсковы адпачынак Лёня Шчарбінскі ўзяў у лістападзе. Заехаўшы ў Пугачы на матацыкле з каляскай, сябрук павёз мяне да сябе ў Гуды, каб разам схадзіць у грыбы. Па дарозе Лёня расказаў, што зусім блізка ад яго вёскі знаходзіцца Малая Люцінка, дзе больш за сорак гадоў жыў і тварыў класік беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Заехалі, каб паглядзець на ліпу, якую садзіў пісьменнік, але яе ўжо не было — няўдумлівыя людзі спілавалі. Прыехаўшы ў Гуды, мы пайшлі ў грыбы. Я шукаў баравікоў і таму, калі праз паўгадзіны блукання па лесе мы сустрэліся, я здзівіўся — у Лёні быў поўны кошык грыбоў, а ў мяне — пуста. Аказалася, у лістападзе не трэба шукаць баравікоў, бо ў гэты час растуць зялёнкі, падзялёнкі і курачкі, пра якія я ніколі не чуў у сваёй вёсцы, і іх у нас не збіралі...

## *Дом творчасці «Іслач»*

10.01.2010. Пачынаючы з 1988 года да канца 2001 я з сям'ёй, нягледзячы на тое, што ад Ракава блізка мая родная вёска, праводзіў летнія адпачынкі ў Доме творчасці «Іслач», дзе мы пражылі, калі нават прыблізна палічыць, недзе каля паўгода. Якія гэта былі цудоўныя дні і вечары! На жаль, няма таго, што раньш было. Восенню 2003 года я заязджаў з сябрамі паглядзець на Дом творчасці, які ўжо год быў безгаспадарным. Тады ўжо ў будынку былі павыбіваныя многія вокны, паркет у калідорах

узняўся, а месцамі пачалі расці дрэўцы... Колькі разоў пасля зноў хацелася заехаць і паглядзець, што ж там робіцца, але не заязджалі, каб не псаваць тое светлае, што засталося ад «Іслачы», у якой мы раней жылі...

### *Як на невядомым вакзале...*

10.01.2010. Гляджу на сваю старэнькую і нямоглую маму, якая і ўноч, і ўдзень ляжыць, то сядзіць на канапе, дзе пад падушкай схаваны каляндар, а ў насоўцы крыху грошай, і бачу ў ёй пасажырку на невядомым вакзале, якая чакае свайго цягніка, час прыбыцця якога ведае толькі Бог...

### *20090 год?*

14.01.2010. Яшчэ не прывык пісаць 2010 і таму механічна атрымоўваецца 20090... А можа мы і жывём у 20090 годзе?

### *Добры прыклад старэйшых*

14.01.2010. Тэлефанаваў літаратуразнаўца Уладзімір Казбярук. Яму пад 90. Я думаў, што пачне прасіць, каб выдалі новую кніжку, а ён падзякаваў за задавальненне, якое атрымаў ад прачытання маіх балад у «Полымі». Узгадаліся такія ж званкі ад Адама Мальдзіса, Уладзіміра Юрэвіча, Эдзі Агняцвет... Асабліва быў уражаны тэлефанаваннем Эдзі Сямёнаўны, з якой я зусім не быў знаёмы асабіста. Беручы прыклад са старэйшых, і я, калі што з прачытанага вельмі спадабаецца, тэлефаную аўтару і кажу пра гэта...

### *Аўтамат з кранікам*

14.01.2010. Сяджу дома. Тэлефонны званок. Нейкі мужчына злуецца: «Ну і што будзем рабіць? Мы накідалі ў ваш аўтамат грошай! А ваш кранік не робіць ні чарта!» — «Які аўтамат? Які кранік?» — спакойна пытаюся і спрабую здагадацца, пра што ідзе размова, бо некаторыя аўтары, каб даведацца пра лёс сваіх твораў, тэлефануюць мне і дахаты, і на святы, і ў восем гадзін раніцы. «Які кранік? Ваш кранік у аўтамаце!» — працягвае злавацца невядомы. «Вы, відаць, не туды патрапілі! Гэта кватэра...» — усміхаючыся, кажу і чую: «Не туды трапілі! Раз так, мы ваш долбаны аўтамат раздалбаем...»

## *Былі часы...*

14.01.2010. Павіншаваў з 90-годдзем Міколу Аўрамчыка, які вучыў мяне жыццю ў літаратуры ў канцы 70-х у «Маладосці», куды я прыносіў вершы. Падзякаваўшы за віншаванне, Мікола Якаўлевіч сказаў: «Ведаеш, Віктар, сёння ноччу амаль не спаў. Успамінаў. Успамінаў і цябе. Ты ў мяне быў адзін з усіх маладых, хто найчасцей прыходзіў да мяне. Скажу табе паправіць нейкія радкі, і ты ўжо, глядзіш, праз пару дзён прыносіш папраўленае. Былі ж такія, што зробіш заўвагу, а ён пасля гэтага на некалькі месяцаў знікне. А Алесь Гаўрон нават з падрыхтаванымі вершамі знікаў, часам на год... Былі часы...»

## *Шніп і Шніпас*

14.01.2010. Недзе з паўгода назад мне патэлефанаваў незнаёмец з Літвы і прадставіўся Кейстутам Шніпасам. Ён бізнесовец і калекцыянер, і ў вольны час займаецца пошукамі сваіх радаводных галін. Я гаварыў па-беларуску, ён — па-расейску з акцэнтам. Пасля тэлефоннай размовы Кейстут прыслаў адрас сваёй паштовай скрынкі, па якой я тут жа выслаў яму свае «Балады радаводу». У адказ маўчанне. Шукае перакладчыка?

## *Мыла*

16.01.2010. Па тэлевізары прагучала інфармацыя, што з бяздомных сабак робяць гаспадарчае мыла. Цяпер разумею, чаму яно такое смярдзючае...

## *Канапа*

17.01.2010. Пасля эпапеі з новай канапай, якую дзве гадзіны грузчыкі і я валаклі ў хату на другі паверх праз акно на кухні, не магу супакоіцца — светла-рудая скураная канапа стаіць у маёй галаве так, як гэта бывае з бульбай, якую цэлы дзень выбіраеш, з ягадамі, якія доўга збіраеш, з дровамі, якія пілуеш...

## *1+2*

18.01.2010. На працы хацеў здзівіць дырэктара сваёй канапнай эпапеяй. Не атрымалася, бо тут жа дырэктар расказаў гісторыю, якая адбылася ў 1975 годзе ў Мінску на вуліцы Куйбышава. А было так. Памёр чалавек. Прывезлі труну з нябожчыкам, каб ён пераначаваў апошні раз у сваёй кватэры, якая на пятым

паверсе. Занеслі ў пад'езд, а далей не змаглі — труна вельмі вялікая, не пралазіць. Надумаліся на вяроўках цягнуць праз балкон. І ўжо амаль дацягнулі, як абламаўся балкон, і ўсе рухнулі на зямлю. Да аднаго нябожчыка дадаліся яшчэ два...

### *Вароны на Нямізе*

19.01.2010. Вяртаючыся з працы, іду каля крамы «Алеся» да станцыі метро «Няміга» і кожны раз бачу на ялінах і ў паветры варон. І не было такога вечара, каб іх не было. Што іх сюды прыцягвае, і што іх тут трымае? І кожны раз думаю, што гэта нашчадкі тых варон, якія пасля бітвы на Нямізе доўгі час карміліся і жылі тут...

### *Дзве нечаканасці*

21.01.2010. Многія з нас нечакана з'явіліся ў гэты свет таму, што бацькі, займаючыся сексам, не думалі пра наступствы, не бераглiся. І многія з нас нечакана пакідаюць гэты свет, бо не берагуцца...

### *Па дарозе дамоў...*

21.01.2010. Аўтобус «Мінск—Пугачы» праходзіць праз Бузуны, якія знаходзяцца ў чатырох кіламетрах ад Ракава. У маім юнацтве жыхароў гэтай вёскі называлі «кітайцамі», з-за якіх часам не толькі мне было цяжка набыць білеты ў Мінску, каб паехаць дамоў. Аднак вёска славілася не толькі тым, што ў ёй жыло вельмі шмат людзей, але і тым, што яе жыхар Франц Іосіфавіч Зяневіч з 1912 па 1918 год служыў на крэйсеры «Аўрора» і прымаў удзел у штурме Зімняга. Прайшоў час, і ў аўтобусе «Мінск—Пугачы» заўважна паменела пасажыраў, і ці хто ўжо з бузуноўцаў ведае, што іх аднавясковец быў рэвалюцыянерам...

### *Памяць...*

22.01.2010. З Далідовічавага лесу, як з зялёнага мора, усплывае сонца. Па палявой дарозе іду басанож у грыбы. Пыл яшчэ не паспеў астыць за кароткую чэрвеньскую ноч. Сярод дарогі наперадзе нешта ляжыць чорнае. Падыходжу. Мёртвы крот, і на ім і над ім зеленкаватыя мухі. З той раніцы мінула каля сарака гадоў...

## *Тамара і цётка*

22.01.2010. Прыехаўшы ў Мінск вучыцца ў тэхнікуме, я цэлы год жыў на кватэры ў сваёй цёткі. Па суседстве жыла дзесяцікласніца Тамара. Час ад часу, ідучы на вучобу, сустракаўся з ёй на лесвічнай пляцоўцы. Не ведаю, чым я спадабаўся, але аднойчы мае стрыечныя сёстры перадалі ад Тамары запіску, у якой яна прызнавалася мне ў каханні і прапаноўвала сустрэцца. Я ўжо збіраўся вечарам ісці на сустрэчу, але з працы прыйшла цётка і сказала: «Я ведаю, куды ты збіраешся! Калі ты пойдзеш сустракацца з Тамарай, можаш не вяртацца дамоў, бо я цябе выганю! Маці ў яе разводная, і яна сама цягаецца з салдатамі!..» І на сустрэчу з Тамарай я не пайшоў. Дзяўчына яшчэ доўга перадавала мне запіскі, пакуль я не перайшоў ад цёткі жыць у інтэрнат свайго тэхнікума...

## *Няма*

22.01.2010. Пасля школы зноў пачаў пісаць лісты Зоі. Яна, як і раней, не адказвала. І ўсё ж надзей на сяброўства не губляў і дачакаўся ліста, у якім Зоя пісала, што яна вучыцца ў тэхнікуме, дзе трэба шмат чарціць, і ведаючы, што я вучуся ў архітэктурна-будаўнічым, папрасіла дапамагчы ёй зрабіць курсавую. Здавалася б, вось той чаканы момант, калі магу сустрэцца з дзяўчынай, якую кахаю, але замест таго, каб сустрэцца, адпісаў, што ўжо няма таго хлопчыка, які быў гатовы бегаць за ёй...

## *Света*

22.01.2010. У сямнаццаць гадоў нечакана для сябе заўважыў, што сяброўка маёй сястры Света вельмі прыгожая дзяўчына. Вершаў ёй я не пісаў. Плёў з дзьмухаўцоў вяночкі. І вось пляту вяночкі, жартую, а дзяўчаты полюць грады. Наплёў вяночкаў шмат, і калі Света сабралася ісці дамоў, я ёй падарыў іх. Самы прыгожы нават надзеў Свеце на галаву. Як яна радавалася! А які я быў шчаслівы! І не ведаю, што было б далей, калі б вечарам не пайшоў у клуб і па дарозе не натрапіў на свае вяночкі з дзьмухаўцоў, якія валяліся ў дарожным пыле...

## *Падарунак*

22.01.2010. Патэлефанаваў празаік Валера Казакоў, з якім я пазнаёміўся і пасябраваў у Літінстытуце ў Маскве. Ён цяпер гасцюе ў Мінску. Сустрэліся. Паўспаміналі нашу залатую

маладосць. Валера да мяне прыйшоў у інтэрнат на Дабралюбава. У афіцэрскай форме. Развітваючыся, зямляк падарыў мне на тасёмцы пусты аўтаматны патрон з куляй: «Гэта, каб не забыўся пра партызанскую Беларусь!»

### *Сын*

22.01.2010. Вярнуўся сын з экскурсіі. Іх клас вадзілі ў Нацыянальную бібліятэку. «Чаму так доўга?» — пытаюся. «Пасля экскурсіі з Іллём Дубоўскім хадзіў яшчэ на могілкі...» — адказвае Максім. «Такім марозам! На якія?» — незадаволена бурчу. «Да Быкава, Караткевіча...» — тлумачыць сын. І я маўчу...

### *Сяржант*

25.01.2010. Калісьці і я быў нежанаты. Для мяне гэта не было трагедыяй, але мне хацелася мець сям’ю, і я ў 23 гады пачаў згаджацца на сяброўскія прапановы ажаніць мяне. З кім мяне толькі не знаёмілі! Нават адзін са знаёмых паэтаў прапанаваў пазнаёміць мяне са сваёй сястрой. Я згадзіўся. Прыйшоў да сябра ў госці. Сяджу, хвалююся, чакаю, калі прыйдзе мая будучая нявеста. А яна ўсё спазнялася з працы. Прыйшла... у форме малодшага сяржанта міліцыі. А можа, трэба было і закахацца? Ды не! Сэрцу не загадаеш!..

### *Прыходзька і новабудоўля*

27.01.2010. Гэта было даўно. Паэт Пятро Прыходзька ішоў у краму праз новабудоўлю і ўваліўся ў катлаван. Спрабаваў вылезці, але не змог. Пачаў крычаць: «Людзі! Памажыце! Людзі! Я паэт Прыходзька! Памажыце!» Крыкі пачулі будаўнікі. Падышлі да катлавана і бачаць, што нейкі мужык, магчыма, злодзей, выкачаны ў гліну, просіць дапамагчы вылезці і называе сябе паэтам. «А чым дакажаш, што ты паэт?» — запытаўся самы кемлівы і цвярозы будаўнік у Прыходзькі. Пятро Фёдаравіч не разгубіўся і пачаў чытаць свае вершы...

### *У чаканні...*

29.01.2010. Мая мама кожны тыдзень па панядзелках просіць паглядзець перадачу «Жди меня», а па пятніцах — «Поле чудес». Пасля інсульту іншых перадач яна не памятае. І цяпер усё яе рэальнае жыццё праходзіць у чаканні «Поля цудаў», а пасля «Поля цудаў» у чаканні «Чакай мяне»...

# ЛЮТЫ

* * *

5.02.2010. У 80-я гады аўтобус Валожын-Пугачы заязджаў ў Эпімахі. Яшчэ тады я звярнуў увагу на цагляныя сцены на ўскрайку Гіравіч, праз якія праходзіў аўтобус. І толькі сёння ад сваяка даведаўся, што тыя цагляныя сцены, якія яшчэ захаваліся — гэта рэшткі карчмы, дзе ў 1812 годзе спыняўся Напалеон.

## *Дзюбайла і Габручыха*

6.02.2010. Павел Дзюбайла, працуючы на пачатку пяцідзясятых гадоў завучам у маіх Пугачах, круціў любоў не толькі з мясцовай бухгалтаркай, якая потым нарадзіла дзяўчынак-блізнят, а і з жонкай Габрука Рабца Тамарай. Жанчына была родам са Смаленскай вобласці, яе Габрук у Пугачы прывёз з вайны, і таму Тамару ў вёсцы ўсе называлі «рускай». І такая ўжо ў Дзюбайлы і Габручыхі была любоў, што кончылася тым, што яна за Паўлам, кінуўшы мужа з дачкой, з чамаданам папёрлася ў Аляхновічы на электрычку. А ў Аляхновічах Дзюбайла ад Габручыхі ўцёк у невядомым накірунку. Паплакаўшы на вакзале, вечарам Тамара з чамаданам вярнулася ў Пугачы. І хоць Габрук быў суровым мужам, але два разы ўдарыўшы блудлівую жонку, пусціў у хату...

## *Камуна і смерць*

6.02.2010. У Крывічах ёсць памятны знак, што тут у 1918 годзе была арганізавана першая ў Валожынскім раёне камуна. Тут жа ў Крывічах ёсць могілкі, ходзячы па якіх, можна натрапіць не на адну старую магілу, на якой напісана: «Быў забіты...»

## *Аўрамчык і Гракові*ч

7.02.2010. Тэлефануе паэт Эдуард Гракові ч і кажа: «Бачыў цябе па тэлебачанні. Ты хваліў Міколу Аўрамчыка на вечарыне яго 90-годдзя. Скажы праўду: харошы ён чалавек ці не, і што ён

пра твае вершы казаў, калі ты яму іх прыносіў у «Маладосць»?» — «Казаў, што вось тут трэба паправіць, а тут вось вельмі добра. Пішы. Прынось новае»,— адказаў Эдуарду. «А-а-а. Ну тады зразумела. А мне казаў, што вось тут дрэнна, а вось тут яшчэ горш...» — уздыхнуў паэт Эдуард Гракові́ч і паклаў трубку.

### *Мужчына-паэт і жанчыны*

7.02.2010. Мужчыну прыслалі ў Дуброўскую школу працаваць настаўнікам беларускай літаратуры. Кватараваў у старых. Побач жыла адзінокая кульгавая жанчына. Мужчына праз год па разліку сышоўся з суседкай. Жылі некалькі гадоў нядрэнна, але таго шчасця, якога хацелася мужчыну, у іх не было. І закахаўся ён у другую жанчыну, у якой нядаўна памёр муж. Кінуўшы кульгавую, мужчына перайшоў жыць да ўдавіцы. А тут да ўдавіцы прыехаў сын афіцэр, якому не спадабалася, што з ягонай маці жыве настаўнік беларускай літаратуры, які піша нейкія вершы і час ад часу нават друкуецца. Скончылася тым, што афіцэр павесіўся. У Дубровах адразу ж загаварылі, што ў ягонай смерці вінаваты настаўнік. І настаўнік вярнуўся да кульгавай, якая ўжо не магла хадзіць. Мужчына каля дзесяці гадоў глядзеў спаралізаваную, пакуль яна не памерла. Праз некалькі гадоў памёр і мужчына, які быў цудоўным паэтам і якога хваліў Уладзімір Караткевіч...

### *Калыска паліцай*

7.02.2010. З Пугачоў пры немцах у паліцыі ў Гарадку служылі два чалавекі: Кулік і Калыска. Пра лёс Куліка я не ведаю, а вось з Калыскам даводзілася сутыкацца. Пасля вайны ён адсядзеў 20 гадоў недзе ў Сібіры. Выжыў, бо быў добрым шаўцом. Вярнуўшыся ў Пугачы, Калыска працаваў у Новым Двары ў КБА закройшчыкам. На працу хадзіў каля нашых сотак і далей напрасткі праз поле і лес. Ведаючы, што Калыска былы паліцай, я пабойваўся яго, і нават часам думаў пра тое, што ў лесе недзе хаваецца цэлы паліцэйскі атрад Калыскі, які ў любы момант можа захапіць мае Пугачы і мяне, як піянера, расстраляць...

### *Стары паэт і жанчыны*

7.02.2010. Жыў-быў у вёсцы стары паэт. Час ад часу пісаў вершы, а так займаўся гаспадаркай, якая прыносіла немалы прыбытак. У семдзесят ён меў кніжачку вершаў. У дзяцей былі свае сем'і, і ён жыў спакойна з жонкай, і так бы, відаць, і далей жыў, але аднойчы суседзі яму сказалі, што яго старая гуляе

з мужыкамі. «Людзі кажуць, што ты маеш хахаляў! Ці праўда гэта?» — запытаўся паэт у жонкі. «Ну і што, калі маю? Табе ж семдзесят!» — адказала жанчына, якой ужо было семдзесят два гады. Пакрыўдзіўся паэт і сышоў з хаты. Стаў жыць у Мінску ў адзінокай дачкі. Летам дачка купіла бацьку пуцёўку ў санаторый і адправіла старога падлячыцца. Прыехаў паэт у санаторый, афармляе дакументы, і тут да яго падыходзіць незнаёмая жанчына, на гадоў пятнаццаць маладзейшая, і прапануе пасяліцца разам у адным пакоі. Паэт напачатку аднекваўся, а даведаўшыся, што гэтай жанчыне цыганка наваражыла, што яна прыедзе ў санаторый і пазнаёміцца з дзядком, з якім будзе доўга і шчасліва жыць, згадзіўся. З санаторыя паэт адразу ж паехаў жыць да новазнаёмай жанчыны, і ўжо з ёй жыве дзесяць гадоў. Прыязджаючы да дзяцей у вёску, чуе ад былой жонкі: «Вяртайся дамоў! Трэба адзін аднаму дараваць! Вяртайся...»

### *Шышкі і кніжкі*

8.02.2010. У сямідзясятыя гады ў маёй школе ўсё нешта збіралі: то металалом, то макулатуру, то рабіну, то шышкі. Я доўга не ўдзельнічаў у такіх зборах — мама не дазваляла займацца абы чым. А мне ўсё-ткі хацелася самому зарабіць хоць пару рублёў. І вось у класе сёмым у час зімовых канікул і я цягаўся па заснежаным лесе і збіраў шышкі. За два тыдні ледзьве напоўніў мяшок. Прывалок у школу, і мне далі некалькі рублёў. Было радасна. У час летніх канікул я з сябрамі гуляў на школьным двары, і мы раптам уздумалі залезці ў школьны хлеў і паглядзець, што там ляжыць. Залезлі і ўбачылі вялікія кучы ссохлых шышак, гнілой рабіны і мокрай макулатуры...

### *У Лягезах*

9.02.2010. Сваёй хаты напачатку мы не мелі і жылі ў бацькавых бацькоў — маіх дзеда Юзі і бабулі Параскі. Дзед працаваў у калгасе, быў адукаваны, любіў пагаварыць. Бабуля была швачкай, і пра яе ведалі далёка ад Пугачоў. Мела нават вучняў. Аднак усё ж мы жылі беднавата, і, калі мне споўнілася восем месяцаў, гадаваць мяне забрала бабуля Ганна (пражыла сто гадоў), маміна мама, у невялікую, усяго 10 хат, вёску Лягезы, ля якой працякае рачулка Яршоўка. У Лягезах, што ў пяці кіламетрах ад Пугачоў, я і гадаваўся да школы. Быў я хлапчуком цікаўным і непаслухмяным. Зімой вечна цягаў за сабой саначкі і збіраў на іх сухое галлё, абламанае з дрэў вятрамі. Цягаў галлё пад хату, складаў

у кучу. Для чаго? Цяпер не памятаю. Але час ад часу з-за яго на мяне пакрыквалі маміны браты — дзядзькі Ваня і Віця, і сёстры — цёткі Шура і Аля. Яны на той час яшчэ сваіх сем'яў не мелі і глядзелі за мной, як за родным сынам. Расказвалі розныя гісторыі, бралі мяне на вечарынкі, на кірмаш у Ракаў і ў Яршэвічы. Бабуля Ганна (дзявочае прозвішча Мацієўская) адна выгадавала васьмёра дзяцей. Муж яе, Міхаіл, загінуў у 1944 годзе — падарваўся на міне, едучы ў Ракаў. Уцалелі мой дзядзька Ваня, што сядзеў на возе ззаду з коцікам на руках, і жарабятка. Я потым з дзядзькам Ванем пасвіў нашчадка таго жарабяткі, амаль казачнага чырвонага каня. І калі часам дзядзька прыходзіў з працы нецвярозы, ён расказваў мне пра сваю бяду, якую перажыў, будучы хлапчуком. Расказваў так, што сам плакаў, і ад слёз не мог утрымацца і я...

* * *

9.02.2010. З дзядзькам Ванем, які ў вёсцы Русакі працаваў конюхам, я даглядаў коней і нават некалькі разоў хадзіў з ім у начное. Дзядзька мяне любіў, і я яго называў татам, а цётку Алю — мамай. І калі прыйшоў час майго вяртання ў Пугачы (трэба было ісці ў школу), мяне не хацелі аддаваць маім бацькам. Ды і я сам не хацеў некуды з'язджаць з Лягезаў. І цяпер, калі еду з Мінску ў Пугачы каля Лягез, у мяне ад успамінаў на вачах слёзы...

## *Вяртанне*

10.02.2010. Летам 1967 года ў адзін дзень у Лягезах адбыліся два вяселлі — жаніўся мой дзядзька Ваня і выходзіла замуж цётка Аля. Тады ўпершыню я і пазнаёміўся бліжэй са сваёй роднай сястрой Валяй, якая на год маладзейшая за мяне. Мы з ёй адразу пасябравалі, і нібыта не было тых гадоў, калі мы гадаваліся не разам. У Пугачы мяне з поўным мехам цацак праводзілі амаль усе Лягезы, і ўсе плакалі. У той дзень па дарозе дамоў, а ў нас ужо была свая хата, мы трапілі пад вялікую навальніцу. Казалі, што той дождж быў мне на шчасце...

## *Лабірынты метро*

11.02.2010. Часта сніцца адзін і той жа сон, у якім я еду ў метро. Саджуся ў Мінску, а на наступным прыпынку ўжо Масква. Выходжу на нейкай змрочнай станцыі і пераходжу на другую лінію. Еду далей і трапляю ў Тбілісі. Станцыя жоўта-рудая, як з гліны. Хачу вярнуцца дамоў і... прачынаюся.

## *Караткевіч жартуе*

11.02.2010. На працу патэлефанавала пажылая жанчына і, прадставіўшыся кінарэжысёрам, папрасіла дазволу проста пагаварыць са мной — ёй раптам успомніўся Уладзімір Караткевіч, з якім яна сябравала, і ёй захацелася пачуць беларускую мову. Гаварылі амаль гадзіну. Яна родам з Украіны. Вучылася ў Маскве, а потым па размеркаванні трапіла ў Мінск. З Уладзімірам Караткевічам пазнаёмілася на кватэры Міхаіла Пташука, якую ён толькі што атрымаў. Мэблі ніякай не было. На газетах сядзелі, і газеты былі сталом. Яна была побач з Караткевічам. Ён увесь час жартаваў. «Вы ведаеце, чаму міліцыянеры па горадзе ходзяць па трох?» — запытаўся Караткевіч. «Не ведаю...» — адказала кінарэжысёрка. «Ходзяць па трох, таму што адзін з іх умее крыху чытаць, другі крыху пісаць, а трэці, каб гэтыя два праклятыя інтэлігенты памяталі, што яны міліцыянеры...»

## *Зямлячка*

13.02.2010. На кніжнай выставе каля нашага стэнда цэлы дзень былі людзі. Адны куплялі кнігі, другія цікавіліся коштам, трэція раілі, што выдаць. Пазнаёміўся з зямлячкай з-пад Ракава Галінай Іосіфаўнай. Яна ў свой час вучылася ў Аксакаўшчыне ў тэхнікуме разам з маім аднакласнікам Сашкам Балотнікам. Усё ведае пра яго і нават тое, што ён памёр, спрабуючы праглынуць дрэнна перажаванае сала. Ведае маіх сваякоў у Лягезах і ў Ракаве. Цяпер жыве ў Заслаўі. Гаворыць па-беларуску. Купіла некалькі кніжак для ўнука. Цяпер успамінаю пра яе, і на душы светла. Зямлячка як сваячка...

## *Лісткі календара*

15.02.2010. У мамы ёсць адрыўны каляндар. Яна яго трымае пад падушкай. Кожную раніцу адрывае лісток, які хавае ў кішэню халата. У другой кішэні ў яе ў хустачцы ляжаць грошы. Пераапранаючыся ў новы халат, мама спачатку пераклала грошы, а потым і скамечаныя лісткі календара. Хацеў іх выкінуць у сметніцу, але ўбачыўшы, што на некаторых лістках нешта мамай накрэмзана, пакінуў...

## *Дзядзька і вандроўкі*

16.02.2010. Мой родны дзядзька Славік вельмі любіў геаграфію і ў дванаццаць гадоў, начытаўшыся кніжак, пачаў уцякаць з дому ў вандроўкі. Назад у Пугачы вяртала міліцыя. Бацькі,

спадзеючыся задобрыць сына і думаючы, што ён больш пасля гэтага не будзе ўцякаць ад іх, купілі яму ровар. На той час, а гэта былі пяцідзясятыя гады, у нашай вёсцы было толькі два ровары. Славік амаль тыдзень катаўся ў наваколлі і раптам зноў знік. Дамоў міліцыя прывезла хлопца праз месяц — Славік, прадаўшы ровар у Мінску, купіў білет і паехаў у Сібір. Даехаў да Урала...

* * *

16.02.2010. Дзякуючы сваяку Анатолю Блашчытыну (па маці Шніп) працягваю адкрываць для сябе родныя мясціны. Учора даведаўся, што ў васьмі кіламетрах ад маіх Пугачоў нарадзіліся браты Бенядзікт і Уладзіслаў Дыбоўскія. Цяпер буду чакаць вясны, каб з'ездзіць у Адамарын, дзе захаваліся рэшткі маёнтка братоў Дыбоўскіх, маіх землякоў-паўстанцаў...

## *Мама і «Малочная кароўка»*

16.02.2010. Кожны панядзелак маму адведвае мой малодшы брат Вова, прыносячы з сабой торбу ўсялякіх прысмакаў. Учора таксама прыходзіў. Звычайна пасля таго, як сыходзіць Вова, мама прапануе частавацца ўсім прынесеным. На гэты раз, спадзеючыся, што ніхто не заўважыць, яна сабе пад падушку схавала нейкі пакецік. Ноччу я прачнуўся ад шапацення — мама дастала пакецік з-пад падушкі і ўсю ноч ела з яго цукеркі. Раніцай у сметніцы з'явілася куча абгортак з надпісам «Малочная кароўка»...

* * *

16.02.2010. Зіма, як патоп. Гляджу ў акно, як у ілюмінатар карабля, які сеў на белыя падводныя рыфы...

## *Я ўспамінаю...*

18.02.2010. Апошнім часам часта ўспамінаю свае Пугачы. І хочацца вярнуцца ў дзяцінства, дзе ў маёй вёсцы амаль кожны месяц нараджаліся дзеці і недзе раз у год, а то і радзей паміралі старыя. І ўся вёска праводзіла іх у апошні шлях. А цяпер... я ўспамінаю свае Пугачы.

## *У школе*

20.02.2010. Сын Максім пайшоў у школу рыхтавацца да ўдзелу ў алімпіядзе па прадмеце «Чалавек і грамадства». Абяца-

лі за ўдзел дзясятку. А я ў школе хадзіў на канюшню выкідаць гной — ставілі пяцёрку па гісторыі...

*Галоўнае — жывыя...*

20.02.2010. Напрыканцы сакавіка, калі пачынаў раставаць снег, у нас за Юстынавай гарой у лагчавіне некалькі тыдняў шырокай ракой цякла вада. На школьных вакацыях часта не было чаго рабіць, і я з сябрамі з самага ранку ішоў за Юстынаву гару і пераходзіў на другі бок разводдзя, у лес. Наблукаўшыся па вясновым лесе, пачыналі вяртацца ў вёску — а перайсці ўжо ваду на тым самым месцы было немагчыма. Часам цячэнне нас збівала з ног, і мы падоўгу не маглі вылезці на бераг. І толькі вечарам, калі цячэнне замаруджвалася, дамоў вярталіся мокрыя і галодныя, і самае галоўнае — жывыя...

* * *

20.02.2010. (Прыснілася). Стаю каля роднай хаты, а над вёскай лятуць дзікія белыя гусі. Іх столькі, што з-за іх не бачна неба. І раптам гусі пачынаюць садзіцца на зямлю побач са мной. Мне радасна і страшна. Узыходзіць сонца, і гусі знікаюць. Я іду на балота і шукаю гнёзды дзікіх гусей. Знайшоўшы, збіраю ў шапку яйкі і нясу іх дамоў. Прыношу ў хату снег...

*Не бойся ты іх!*

21.02.2010. Каля дарогі з Лягез у Русакі была гара, на якой рос сасоннік. З чатырох гадоў я туды пачаў хадзіць катацца на санках. Хадзіў адзін. І вось неяк прыходжу на гару і бачу, што па соснах з мяшкамі лазяць дзеці старэйшыя за мяне. Я напалохаўся іх і, уцёкшы дамоў і расказаўшы цётцы Алі пра тое, што бачыў у ляску, пачуў: «Не бойся ты іх! Гэта ж піянеры шышкі збіраюць!»

*Зброя і дзяцінства*

21.02.2010. У Пугачах у хаце пад падлогай доўгі час у мяне быў схаваны самаробны пісталет. Дакладней, нешта падобнае да пісталета, з якога ўсё-ткі можна было страляць. Такая штука была не толькі ў аднаго мяне, а і ў маіх сяброў. Час ад часу мы збіраліся на Юстынавай гары і стралялі. Апошні раз я скарыстаў свой пісталет 26 сакавіка, калі мне споўнілася 15 гадоў — даваў

у свой гонар салют пятнаццаццю стрэламі. А ў 16 гадоў я сваю зброю выкінуў у сажалку...

*Бялюткі снег і залатая салома*

21.02.2010. Ідзе дробны бялюткі снег. Месцамі перамяло палявую дарогу. З бацькам на возе, што на колах ад трактарнага прычэпа, едзем пад Татарскія па салому на кароўнік. Вялізны замецены стог сярод поля, як белы будынак без вокан і коміна. Праз паўгадзіны, нагрузіўшы воз, вяртаемся ў Пугачы, пазначаючы свой шлях залатымі ніткамі саломы...

*На месцы гары*

21.02.2010. Каля Лягез на месцы гары з сасоннікам, у якім я ў дзяцінстве любіў гуляць і збіраць казлякі, вялікі глыбокі кар'ер, з якога яшчэ некалькі гадоў назад бралі пясок. Цяпер на дне кар'ера кучы ламачча і смецця...

*У лесе*

21.02.2010. Мне дзесяць гадоў, бацьку сорак, а дзеду Юзю шэсцьдзясят. Каля Залесь ляснік нам даў дзялянку на прачыстку лесу. Бацька з дзедам пілуюць і сякуць пазначаныя для дзяржавы дрэвы, а я палю на вогнішчы ламачча. Пасля таго, як мы ачысцім сваю дзялянку, нам можна будзе ўзяць некалькі кубаметраў самага дрэннага лесу на дровы. Ляснік ведае, колькі на нашай дзялянцы павінна з'явіцца свежых пнёў, таму нічога лішняга не спілуеш. Аднак бацьку і дзеду патрэбны новыя слупкі для агароджаў, і яны, калі пачало змяркацца, спілавалі дзве бярэзіны. Пні, якія засталіся, замазалі зямлёй і засыпалі лісцем і мохам. Ноччу гатовыя бярозавыя слупкі прывезлі дамоў і схавалі на гарышчы ў сена, каб потым толькі вясной іх укапаць у зямлю. Цяпер у тым лесе, дзе я ў дзяцінстве з бацькам і дзедам рабіў прачыстку, ад паваленых бураломамі дрэў не прайсці...

*Дэбют у «Дні паэзіі-80»*

21.02.2010. У 1979 годзе я ўпершыню са школьным сшыткам, у якім былі акуратна перапісаны творы, прыйшоў у выдавецтва «Мастацкая літаратура». Хлопцы-паэты параілі занесці вершы ў «Дзень паэзіі-80» складальніку Вадзіму Спрынчану. «Мы

напісаныя ад рукі творы не прымаем і не разглядаем!» — убачыўшы мой сшытак, катэгарычна заявіў Вадзім Браніслававіч. Я пачаў прасіць: «Ну хоць пачытайце! Можа іх не варта і перадрукоўваць!» — «Выдавецтва разглядае толькі надрукаваныя на машынцы творы!» — паўтарыў гаспадар кабінета. «У мяне няма машынкі! І, можа, не варта мне траціць грошы на перадрук. Пачытайце...» — не здаваўся я. «Ну добра. Пакіньце. Праз тыдзень зойдзеце забраць свой сшытак»,— сказаў Вадзім Браніслававіч і правёў мяне з кабінета. На наступным тыдні я зноў прыйшоў у выдавецтва. На стале ў Вадзіма Спрынчана ляжаў мой сшытак і каля дзесяці аркушаў паперы з маімі перадрукаванымі творамі, якія складальнік «Дня паэзіі-80» выбраў да друку...

## *Праверка з Валожына*

21.02.2010. Красавік. Вучуся ў 7 класе. У панядзелак на апошнім уроку зайшла класная кіраўніца і папярэдзіла, каб усе заўтра прыйшлі ў школу добра апранутымі і падрыхтаванымі — з Валожына прыедзе праверка, і хто атрымае двойку, таго выганяць са школы. Вярнуўшыся дамоў, вырашыў заўтра не хадзіць на заняткі. А каб не пайсці вучыцца, надумаў захварэць. І пайшоў я ў Гаік да сажалкі, на якой яшчэ цалкам не растаў лёд. Разуўшыся, зайшоў у ледзяную ваду. Стаяў, пакуль ад холаду не пачало калаціць. Вярнуўся дамоў прамерзлы да касцей. Залез на печ, дзе сябе адчуў хворым. Пачаў кашляць. Мама, пачуўшы мой кашаль, захвалявалася: «Ну што там? Захварэў?» — «Захварэў...» — прамармытаў я. «Заўтра сядзі дома!» — сказала мама. Назаўтра я не пайшоў у школу. Аднак не захварэў, а з Валожына праверка не прыехала...

## *Думаць вершы*

22.02.2010. Вясновая паводка. Якраз у гэты час у школе вакацыі. Абуўшы бацькавы гумовыя боты і ўзяўшы блакнот, іду ў затоплены Гаік. Дабіраюся да купіны, на якой расце бярозка, і саджуся, як пісаў Алесь Пісьмянкоў, думаць вершы. Навокал вада, і я гляджу ў ваду і бачу неба, у якім плывуць аблокі, чапляючыся за леташнюю мёртвую траву. У школе вывучаем «Новую зямлю», і мне хочацца напісаць нешта падобнае, але сваё. Нічога ў галаву не прыходзіць, і я, прасядзеўшы гадзіны дзве сярод паводкі і потым яшчэ набраўшы вады ў боты, вяртаюся дахаты...

### *Выздараўленне*

23.02.2010. Два тыдні не хадзіў у школу — хварэў адзёрам і свае чатырнаццаць гадоў сустрэў у ложку. Ляжаў з высокай тэмпературай, і часам думаў, што памру. Вокны ў хаце былі завешаны, каб у мяне ад святла не псаваўся зрок. Мне было страшна і хацелася жыць. І калі я ачуняў, і ўпершыню выйшаў на вуліцу, дзе навокал ужо амаль растаў снег і ў агародзе ў аблітай брудам траве капаліся чарнюткія, аж бліскучыя, шпакі, я заплакаў. Пастаяўшы хвіліну, сеў на лаўку каля хаты. Паветра пахла жыццём. У чыстым небе, як у калодзежнай вадзе, плавала залатое сакавіцкае сонца. Паглядзеўшы на яго, я чыхнуў, і ў мяне з носу пайшла кроў. На нейкі момант спалохаўшыся, заціснуў пальцамі нос. Кроў чырвонай змейкай папаўзла па руцэ і схавалася пад рукавом, пакінуўшы за сабою чырвоную палоску, нібы святочную стужку...

### *Вылучэнне ў дэпутаты*

25.02.2010. Тэлефанавалі з вёскі з просьбай да мяне балатавацца ў дэпутаты ад мясцовай выбарчай акругі. Адразу ж узгадалася падзея дваццацігадовай даўнасці, калі мяне ад Саюза пісьменнікаў адправілі ў адну з мінскіх школ на сход выбаршчыкаў агітаваць за вылучэнне Ніла Гілевіча ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. Поўная вялікая зала чакала самога старшыню СПБ, і першым было пытанне: «А чаму сам Гілевіч не прыйшоў?» Давялося тлумачыць і адказваць на ўсе пытанні, якія настаўнікі збіраліся задаць Гілевічу. Адказваў доўга, а потым выйшаў на сцэну самы гаваркі настаўнік і сказаў: «Я прапаную вылучыць кандыдатам у дэпутаты ад настаўнікаў Віктара Шніпа! Ён малады, талковы хлопец, паэт не горшы за Гілевіча! Хто за?» У зале ўсе паднялі рукі. «Хто супраць? Хто ўстрымаўся?» Ніхто! «Я не магу! Я прашу вас вылучыць Ніла Гілевіча!» — пачаў прасіць я. «Не! Мы вылучым цябе!» — «Не хачу!» Скончылася тым, што я ўцёк са сходу. А Ніла Гілевіча вылучылі, здаецца, ад Маладзечанскай выбарчай акругі...

* * *

27.02.2010. «Давайце жыць дружна!» — хочацца сказаць, гледзячы на ўсё, што адбываецца ў нашым штодзённым жыцці. І я кажу, але мяне ніхто не чуе, як і я многіх і многае не чую...

## *Сутарэнні Ромула*

27.02.2010. На гэтым тыдні заходзіў да мяне на працу сябра з Маладзечна Міхась Казлоўскі, які быў другім, пасля мяне, чытачом рукапіса новага рамана «Сутарэнні Ромула» Людмілы Рублеўскай. Міхась прывёз выразку з газеты, дзе незнаёмая настаўніца піша: «Я не разумею, чаму ніхто з чыноўнікаў не заўважае таго, што робіць Людміла Рублеўская? Гэта ж Уладзімір Караткевіч сённяшняга дня! Дастаткова даць дзіцяці пачытаць толькі адзін раздзел з яе любога рамана, і ўсё — дзіця не адарваць ад беларускай кнігі. На сённяшні дзень Рублеўская — самая дастойная кандыдатура для такой (дзяржаўнай) прэміі».

## *Старыя*

28.02.2010. На вуліцы змрочна і няўтульна. Каля дома, што насупраць нашага, ходзіць туды-сюды захутаная ў вялікую цёплую хустку і ў доўгім вясковым кажуху бабуля. Мая мама, угледзеўшы старую праз акно, нешта пачала мармытаць сабе пад нос. Пытаюся: «Хочаш на вуліцу?» Мама нічога не адказала, а, махаючы рукамі і пакульгваючы, вярнулася да сябе на канапу і накрылася коўдрай аж па вочы...

# САКАВІК

* * *

2.03.2010. Учора вечарам па АНТ у прэзентацыі гурта «3+2» прагучалі мае «Анёлы». А сёння на працы супрацоўнікі мяне віншавалі з песняй, англійскі варыянт якой будзе гучаць у Осла на Еўрабачанні. Гадзін пяць у мяне быў цудоўны настрой. Потым, калі застаўся ў кабінеце адзін, у галаве зашкрэблася пытанне: «Ну і што?»

## *Празаік Цодзік Кацман*

2.03.2010. Канец працоўнага дня. Я ўжо думкамі ў дарозе дахаты. Тэлефонны званок вяртае да рэальнасці: «Вас турбуе празаік Цодзік Кацман! Мне патрэбен Віктар Шніп!» — «Я вас слухаю...» — адказваю, успамінаючы, хто гэта такі — Цодзік Кацман. «Ці прачыталі мой рукапіс?» — хрыплым голасам пытаецца празаік. Не паспяваю нічога сказаць, як чую: «Я там вам двухтомнік здаваў! Спадзяюся, вы яго не згубілі!» — «А чаму не трохтомнік?» — «Трохтомнік да майго юбілею выходзіць у Маскве. А вы абяцалі два тамы!» — «Нічога я не абяцаў!» — «Дык вы, відаць, рукапіс згубілі!» Я пачынаю думаць, як не пасварыцца з Кацманам, а ён заяўляе: «Гадоў пяць назад мы ў адной кампаніі выпівалі і я тады вам даў свой рукапіс. Вы яго не згубілі?» — «Не... Не згубіў... здаецца...» — «Тады я вам прызнаюся. Я ў вас даўно закаханы!» — кажа Цодзік Кацман. «Няўжо?» — разгублена пытаюся я. «Прыязджайце да мяне ў гасцініцу...» — кажа незнаёмец і... пачынае рагатаць, і я пазнаю свайго даўняга сябра з Маладзечна Міхася Казлоўскага.

## *Мама ў чаканні*

3.03.2010. З суботы мой брат Вова будзе ў адпачынку. На тыдзень паедзе ў вёску, куды забярэ ад нас маму, у якой 5 сакавіка будзе год, як яна атрымала інсульт. Прашу маму: «Палічы, колькі дзён засталося да вёскі». Мама дастае з-пад падушкі адрыўны каляндар і пачынае лічыць: «Айн, цвайн, драйн...»

## *Сыс і Валодзя*

4.03.2010. У адным з выдавецкіх кабінетаў супрацоўнікі ачышчалі ад смецця вугал. Праходзячы міма па калідоры, сярод пажоўклых папер і кніжак я ўбачыў кніжку Анатоля Сыса «Сыс», выдадзеную «пры дапамозе спадарыні Валянціны Якімовіч» у «Мастацкай літаратуры» ў 2002 годзе. Падняў. Чытаю: «Валодзя, калі б ня ты, дык мяне б, як паэта ня було б. 24 верасня 2002». Цяпер «Сыс» будзе ў мяне дома. Гэта ўжо трэцяя Сысава кніга, знойдзеная мной у выдавецтве...

## *Рамонт і кнігі*

4.03.2010. У канцы 90-х гадоў у кабінетах часопісаў «Полымя», «Беларусь» і штотыднёвіка «ЛіМ» рабілі касметычны рамонт. Супрацоўнікаў рэдакцый часова перасялілі ў Дом літаратара. Неяк з лімаўцамі я надумаўся запытацца ў будаўнікоў, ці хутка яны закончаць сваю работу. Зайшлі ў будынак і ўбачылі растаптаныя, залітыя фарбай кнігі ўдзячных аўтараў, падпісаныя рэдактарам і іх намеснікам часопісаў «Полымя» і «Беларусь». Асабліва шмат валялася падарункаў Таісе Бондар, якая ўжо на той час працавала галоўным рэдактарам «Всемирной литературы»...

## *Перад Святам*

5.03.2010. Сёння на працу некаторыя мужчыны ішлі з кветкамі, жанчыны — задумлівыя. Цяпер з працы некаторыя жанчыны вяртаюцца з кветкамі, мужчыны — нападпітку і задумлівыя...

## *Мама едзе ў вёску*

6.03.2010. Мама прачнулася а палове сёмай. Пакуль гатаваў снеданне, яна апранулася ехаць у вёску. «Яшчэ рана! Распранайся і паляжы! У гадзін дзесяць за табой прыедуць...» — кажу маме, а яна глядзіць мне ў вочы і матае галавой, нібыта нічога не разумее. Пасядзеўшы крыху, мама паказвае на кніжную шафу: «Пашпарт. Пашпарт...» Прайшло тры месяцы, я пра яе пашпарт даўно забыўся, а яна ўспомніла. Адшукаўшы сярод папер мамін дакумент, аддаў ёй. Яна адразу ж пашпарт паклала ў кішэню і сказала: «Усё...»

* * *

6.03.2010. Год таму ў гэты дзень мама з інсультам трапіла ў Ракаўскую бальніцу. Ад гэтай навіны на душы было вусцішна.

З Людай дапазна ездзілі па аптэках, шукаючы раствор для кропельніц і катэтары — па тэлефоне даведаліся, што ў бальніцы нічога гэтага няма. Аптэкі працавалі толькі дзяжурныя. Адшукалі ўсё. Назаўтра раніцай на выдавецкай машыне паехаў у Ракаў. Мама ўжо ляжала ў палаце пад кропельніцай. Чамусьці ўсё патрэбнае знайшлося, і тое, што я прывёз, праляжала ў мамы пад ложкам два тыдні...

## *У бібліятэцы*

6.03.2010. Неяк пасля выступлення ў горадзе N мне і Міхасю Казлоўскаму загадчык бібліятэкі прапанаваў павячэраць у кампаніі трох сімпатычных бібліятэкарак. Мы не адмовіліся, бо да нашага дызеля было больш як тры гадзіны. Вывесіўшы абвестку, што бібліятэка па тэхнічных прычынах часова не працуе, мы прайшлі да стала, які ўжо быў багата накрыты. І вось сядзім ушасцёх, выпіваем, жартуем, чытаем вершы. На вуліцы цямнее, але святла не ўключаем. І раптам у пакой адчыняюцца дзверы і да нас заходзіць высокая жанчына. Я напачатку падумаў, што гэта бачыцца ад выпітага, але, пасля таго, як жанчына падышла да загадчыка бібліятэкі і, падняўшы яго з-за стала за вуха, моўчкі павалакла ад нас, зразумеў: пара дамоў! На хаду закусваючы, мы з Міхасём пачалі развітвацца з бібліятэкаркамі. Адна прашаптала на развітанне: «Гэта жонка нашага загадчыка...»

* * *

8.03.2010. Патэлефанаваў у вёску і павіншаваў маму са Святам. Даведаўся ад брата, што першы дзень пасля яе прыезду ў вёску бацька ўсё нешта бубнеў сам сабе. Учора ж амаль цэлы дзень бацькі разам спявалі...

## *Вада і брат*

8.03.2010. На вясновых вакацыях з малодшым братам Вовам бадзяюся па вадзе ў Гаіку. На хаду прыдумляю ўсялякія гісторыі і расказваю. Брат уважліва слухае. У Гаіку на сажалцы яшчэ ляжыць лёд. Ён стаў белы і рыхлы, як снег. Заходжу на лёд і кажу: «Я праліваў кроў на Падэкале!» — і тут жа правальваюся ў ваду па самае горла. Вова выцягвае мяне з сажалкі і мы, мокрыя, як жабы, вяртаемся дамоў...

## *Казах і поўня*

9.03.2010. Сваячніца пісьменніка N, паехаўшы ў Казахстан уздымаць цаліну, выйшла там замуж за мясцовага. Праз некалькі гадоў жанчына прывезла мужыка да сябе ў вёску, каб пазнаёміць з раднёй. Вечарам казах перад сном выйшаў на вуліцу і праз хвіліну з крыкам прыбег назад у хату: «Ай-яй-яй! Гэта ж трэба! І ў вас ёсць поўня ў небе!»

## *Янушкевіч і Кісялёў*

10.03.2010. Прачытаў у «Дзеяслове» №44 нататкі Язэпа Янушкевіча пра Генадзя Кісялёва. Напісана больш пра сябе, чым пра свайго настаўніка, але цікава. Каторы раз лаўлю сябе на думцы, што з майго земляка Язэпа мог бы атрымацца добры раманіст, які б пісаў на гістарычную тэматыку. Аднак, Язэпу ўжо за пяцьдзясят, а ён усё ніяк да канца не разбярэцца ні з Дунінымі-Марцінкевічам, ні з Багушэвічам...

## *Васілеўскі і народныя мастакі*

10.03.2010. Былы «лімавец» Пятро Васілеўскі цяпер працуе вартаўніком. А было, здаецца, нібыта ўчора, калі Пятро на рэдакцыйнай лятучцы (кіраваў Алесь Пісьмянкоў) запланаваў гутарку з Гаўрыілам Вашчанкам, абяцаючы праз пару дзён здаць матэрыял. Прайшоў тыдзень, два, месяц, тры, паўгода, а Пятро ўсё плануе і плануе Вашчанку і, не здаўшы матэрыял, раптам прапанаваў запланаваць гутарку з Леанідам Шчамялёвым. Запланавалі. Праз тыдзень зноў запланавалі тое ж самае, праз месяц зноў, праз тры зноў. Прайшло паўгода і, не здаўшы Шчамялёва, Васілеўскі зноў запланаваў Вашчанку. І не здаў... Словам, былі часы...

## *1979*

10.03.2010. Вясна. Інтэрнат архітэктурна-будаўнічага тэхнікума. Прачынаюся сярод ночы ад стуку ў дзверы: «Усім з’явіцца ў тэхнікум на сход!» Чаго і што — ніхто з нас не ведае. На хаду апранаючыся, бяжым у актавую залу. Каля сцэны з мікрафонам стаяць вайскоўцы. Чалавек дзесяць. Праз хвілін пяць старэйшы па званні аб’явіў, што нас сабралі разнесці позвы. Па спісах кожнага прысутнага выклікалі да сцэны і адпраўлялі ў ноч з заданнем. Дайшла чарга і да мяне, але я ў кішэні выпадкова знайшоў стары рэцэпт на лякарства ад ангіны і, выправіўшы даты, сказаў, што я хворы і не магу ноччу хадзіць па вуліцах. Вайскоўцы

ўважліва паглядзелі на мой рэцэпт і на мяне, і адпусцілі. Мае ж сябры да раніцы разносілі позвы па кватэрах. Яшчэ ніхто не ведаў, што ў канцы года савецкія войскі распачнуць вайну ў Афганістане...

### *Чаму?*

11.03.2010. Выступаў у дзіцячай бібліятэцы № 4 перад гімназістамі 9 класа. З трыццаці чалавек было толькі сем хлопцаў, а астатнія дзяўчаты. Хапала пытанняў да мяне, але найбольш запомнілася пытанне гімназісткі, якая сядзела за першым сталом: «Чаму вы пішаце па-беларуску?»...

### *У вёсцы*

12.03.2010. Ужо цэлы тыдзень, як мама ў вёсцы з бацькам пад наглядам майго брата Вовы. Адчуванне такое, нібыта жыццёвая рэчка ўвайшла ў звыклае рэчышча, і мама па-ранейшаму здаровая, і не агледзешся, як трэба зноў садзіць бульбу і рабіць агарод. А на самай справе ў гэтым годзе садзіць бульбу не будзем зусім. Гаспадарка звужаецца і звужаецца да печы, з якой і пачалася пяцьдзясят гадоў таму...

### *Хваробы*

15.03.2010. «А потом меня постигла серьёзная болезнь — я влюбился»,— пісаў Іван Бунін. А нас апошнім часам усё наведваюць несур'ёзныя хваробы — то птушыны грып, то свіны, а то проста галава баліць...

### *Любоўная гісторыя*

15.03.2010. Чытаю лісты, якія пісаліся пятнаццаць гадоў таму закаханым адзінокім мужчынам да замужняй жанчыны. Яму тады было 50, і ён называў сябе: «Стареющим мавром с диктаторскими замашками». Любоўная гісторыя закончылася, і паўгода назад жанчына пажаўцелыя лісты ў поліэтыленавым пакеціку вярнула мужчыну, бо пабаялася далей трымаць іх дома. Сёння мужчына прынёс свае лісты ў выдавецтва, каб выдаць іх у кнізе, прысвечанай сваёй творчасці...

### *Што такое шчасце?*

16.03.2010. Учора патэлефанаваў прафесар-пенсіянер: «У 1985 годзе ў газеце «Знамя юности» мне было заказана растлу-

мачыць моладзі «што такое шчасце». Я працу нядаўна закончыў, і ў мяне атрымалася 140 старонак. Можна, я вам прынясу іх для выдання?» Пасля працяглай размовы пра выдавецкія справы і пра тое, што такое шчасце, я пагадзіўся, што прафесар-пенсіянер прынясе рукапіс кнігі і я пагляджу яго. У дзесяць гадзін раніцы стары прыйшоў да мяне. Заглядаю ў папку, а там... вершы...

*Ала Канапелька*

17.03.2010. Рыхтуем зборнік літаратараў Хойнікаўшчыны. Чытаю Алу Канапельку. Вершы знаёмыя, напісаныя гадоў 20, а то і 30 назад. Так светла і з такой шчырай і ўзнёсла-балючай любоўю да Радзімы цяпер амаль ніхто не піша. На жаль, і сама Ала нічога новага даўно не друкуе...

*Брыльянты і Зыкіна*

18.03.2010. «Самы вялікі брыльянт Людмілы Зыкінай коштам амаль 2 мільёны даляраў знайшлі на лецішчы яе прыслугі» — паведаміла сёння «Камсамольская праўда». Хутка будзе дзевяць месяцаў, як спявачка памерла...

*Гаспада*

18.03.2010. У канцы працоўнага дня тэлефонны званок: «Гаспадзіна Шніпа можна пачуць?» Гадаючы, з якой жа гэта краіны мне тэлефануюць, адказаў: «Я слухаю...» — «Гэта вас турбуе Гулезава. Як там мая кніжка?» — «Якая ваша кніжка?» — «Как стать первой свиньёй?» — «Помню такую. Яе рыхтуе гаспадзін Юрась Пацюпа. Тэлефануйце яму»,— адказаў я.

*Любоў*

20.03.2010. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь у лісце да замужняй жанчыны піша: «Я болен тобой! Я люблю тебя. Я хочу только тебя. А ты, зараза, спишь...»

*Дзень паэзіі*

21.03.2010. «Тюман... Тюман... Усё далемна...» — гледзячы ў акно на туман, раптам успомніў сказанае ў Доме творчасці «Іслач» двухгадовай дачкой Лёні Галубовіча дваццаць гадоў таму. Сёння Сусветны дзень паэзіі.

*Бульба*

21.03.2010. У двары з машыны прадавалі бульбу. Купіў пятнаццаць кілаграм. Успомніліся маці і бацька. Захацелася ў вёску, і не на адзін дзень. Ды дзе там — праца, як ланцуг, не пускае...

*Язэп задумаўся...*

23.03.2010. Наведаўся Язэп Янушкевіч. Я пахваліў яго распавед пра Генадзя Кісялёва, што быў у «Дзеяслове», і сказаў, што яму варта напісаць гістарычную аповесць пра Дуніна-Марцінкевіча, бо ён ведае пра гэтага класіка больш, чым хто. А высвятляць, на якой мове была напісана «Пінская шляхта» — няўдзячны занятак. Язэп задумаўся. І пайшоў...

*Мальдзіс і Прушынская*

23.03.2010. Атрымаў па пошце ад Адама Мальдзіса пераклад маёй «Балады Андрэя Мрыя», зроблены дачкой паэта, і яе ліст. Н. Прушынская піша: «Уважаемый Адам Мальдис! Получила Ваше новогоднее поздравление и балладу Виктора Шнипа. Спасибо Вам за всё. Баллада очень понравилась, спасибо и автору. Я сделала подстрочник для своих близких — не очень, конечно, точный и складный. Посылаю вам его. Сегодня мы с мужем побывали у Оксаны (сестра), читали стихи и перевод. Оксана всплакнула... Всего вам самого лучшего в новом году, прежде всего — здоровья! 13.01.2010. Н. Прушинская».

*Прычыны смерці*

25.03.2010. У газетах пішуць, што спявачка Валянціна Талкунова, як і Янкоўскі, Абдулаў, Турчынскі, стала ахвярай ствалавых клетак, з дапамогай якіх яна амаладжвалася. Словам, багатыя паміраюць ад ствалавых клетак, а бедныя — ад сталовак, у якіх харчуюцца...

*Свіслач*

25.03.2010. Свіслач вызвалілася ад лёду. І цяпер чайкі на вадзе, як лапікі нерасталага снегу...

*Сумна*

25.03.2010. Сёння першы дзень, які падобны на вясновы. На працы хапае клопатаў. І мне сумна. У час абеду выбраўся на

праспект. Прайшоўся. Моладзь нікуды не спяшаецца, а старыя ледзь сунуцца па вуліцы. І я сярод іх, як з іншай планеты. Стала яшчэ самотней. Заўтра 26 сакавіка... І мне будзе 50...

### *Казачніца*

25.03.2010. Прыходзіла пажылая жанчына. Прыносіла казкі пра хітрых лісічак, пра шустрых зайчыкаў, пра старых мядзведзяў, якім дзвесце гадоў. Я жанчыне сказаў, што мядзведзі столькі не жывуць, а яна мне: «Гэта ж казка!» — «Ну добра! Няхай жывуць!» — пагадзіўся, але казкі вярнуў назад. Развітваючыся, казачніца прызналася: «Да пенсіі я працавала ў міліцыі. Цяпер мне няма чаго рабіць, дык я казкі пішу...»

### *З вакон радзільнага дома*

29.03.2010. Пісьменнікі Уладзімір Арлоў, Навум Гальпяровіч, Пятро Васючэнка, якія нарадзіліся ў Полацку, ганарацца тым, што першае, што яны ўбачылі з вокнаў радзільнага дома — гэта крыжы Сафійскага сабора. Я нарадзіўся ў Мінску ў радзільным доме на Валадарцы. Атрымалася так, бо, калі прыйшоў час мне з'явіцца на свет, бацькаў малодшы брат замест таго, каб маю маму везці ў Валожын, павёз у Мінск. І першае ў жыцці, што я ўбачыў з акна — былі турэмныя вежы Пішчалаўскага замка, дзе ў свой час сядзеў Якуб Колас і быў павешаны Пуліхаў...

### *Людміла і спадарожнік*

29.03.2010. Сяброўка нашай сям'і Людміла Шчарбінская нарадзілася ў 1957 годзе. Якраз у той час быў запушчаны ў космас першы савецкі спадарожнік. Тады Людміле было ўсяго тры тыдні, але яна кажа, што памятае, як маці, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, вынесла яе на вуліцу і паказала, што над імі ў небе пралятае спадарожнік...

### *Адпачываю*

29.03.2010. Учора з сябрамі і роднымі быў у Валожыне. У ДК мае землякі святкавалі мой юбілей. Сёння сяджу дома і адпачываю ад добрых слоў у свой адрас...

# КРАСАВІК

* * *

1.04.2010. На маёй юбілейнай вечарыне пісьменніца Алена Масла падарыла мне сексуальную Музу негрыцянку. Актрыса Галіна Дзягілева і супрацоўніца Купалаўскага музея Людміла Давыдоўская, разглядаючы падарунак, налічылі ў лялькі па чатыры пальцы на руках і нагах. «А што, вы не ведаеце, што ў неграў па чатыры пальцы?» — сур'ёзна гаворачы, пажартаваў я. Жанчыны задумаліся...

*Айцец-езуіт Адольф Шніп*

2.04.2010. Бадзяючыся па інтэрнэцкіх сутарэннях, знайшоў: «Вільня. Парафіі быў перададзены былы аўгусьцінскі касьцёл, апекаваліся ёй айцы-езуіты (а. Павел Мацевіч і а. Адольф Шніп), было 122 вернікі». А некаторыя мне кажуць: «Не пішы пра Храмы і пра Бога!»...

*З роду Шніпоў*

3.04.2010. Ад Леаніда Маракова даведаўся, што а. Адольф Шніп у 1937—1938 (?) гадах быў святаром грэка-каталіцкага касцёла найсвяцейшай панны Марыі Усходняй місіі ордэна езуітаў у Слоніме. Па меркаванні Маракова а. Адольф Шніп нарадзіўся не пазней 1910 года. Рэпрэсій пазбег, бо быў пераведзены ў Вільню апекавацца былым аўгусцінскім касцёлам. Як склаўся лёс маладога святара з роду Шніпоў, майго кроўнага сваяка — мне пакуль што не вядома...

*Песня Адраджэння*

5.04.2010. На дзень народзінаў мне з радыё падарылі аўдыёдыск з маімі песнямі, якія ў іх захаваліся ў фондах. З дзесяці твораў асабліва прыемна было паслухаць «Песню Адраджэння», якую выконваюць «Сябры» з Данчыкам. Запіс быў зроблены ў

1992 годзе, калі Данчык гасцяваў у Мінску і кампазітар Зміцер Яўтуховіч зацягнуў яго да «Сяброў» у студыю. У свой час «Песня Адраджэння» часта гучала па радыё...

### *На канале «Культура»*

6.04.2010. Цэлую гадзіну на канале «Культура» быў з Галінай Шаблінскай. Гаварылі пра літаратуру. Пасярэдзіне перадачы пяць хвілін гучалі мае вершы ў прачытанні артыста і пісьменніка Анатоля Жука, які ў мінулым годзе нечакана памёр. Сёння ў выдавецтве атрымалі з друкарні сігнальныя экзэмпляры кніжкі казак «Буль-Буль», у якой ёсць і творы Анатоля. Словам, напісанае і запісанае застаецца. І ўсё ж...

### *Хоўхлава і Сымон Будны*

7.04.2010. Вярнуўся з электрычкі. Стомлены, але задаволены. Ездзіў у Маладзечна і ў вёску Хоўхлава. Сустрэчы з чытачамі арганізаваў краязнаўца Міхась Казлоўскі. У Хоўхлаве ў другой палове 16 стагоддзя жыў і працаваў Сымон Будны — адпаведная шыльда прымацавана на будынку мясцовай школы. Захаваўся і касцёл (дакладней яго фундамент), які памятае славутага асветніка. Касцёл драўляны, і ён у свой час гарэў, але быў адноўлены. З Хоўхлава да маіх Пугачоў 14 кіламетраў...

### *Юбілейны марафон*

8.04.2010. У музеі Якуба Коласа была мая вечарына. Мінулі ўжо два тыдні з дня майго юбілею. А мяне ўсё кожны дзень віншуюць, а я ўсё выступаю, выступаю і цалуюся...

### *Перад Радаўніцай*

11.04.2010. Сонечна і неба чыстае, як дзіцячая сляза. Сям'ёй едзем у Чыжоўку на могілкі...

На могілках у Чыжоўцы процьма народу. Усе прыйшлі і прыехалі да сваіх родных і блізкіх, і ўсе прысутныя сярод помнікаў на нейкі час сталі, як родныя...

З Чыжоўскіх могілак да вакзала дабіраліся цэлую гадзіну. У падземным пераходзе зайшлі ў кафэ, бо ўжо не было сіл, каб шукаць нешта больш шыкоўнае. Пакуль чакалі свой заказ побач з намі прайшоў бомж, як прывід, увесь у чорным і, узяўшы з непрыбранага стала недаедзены бутэрброд, выйшаў няспешна з кафэ. А так усё ж было прыемна пасядзець сярод маладзёнаў, якія радуюцца жыццю...

*Кнігі і мае родныя*

12.04.2010. У сямідзясятыя гады ў Пугачах у маіх дзеда Юзі і бабулі Параскі ў хаце і на верандзе было некалькі тысяч кніжак. Пасля чарговага разводу іх у вёску прывёз мой дзядзька Славік, які быў вялікім кнігалюбам і ведаў амаль усяго Ясеніна на памяць. Дзед і бабуля кніжак не чыталі, але і мне не давалі...

*Пачалася вясна*

12.04.2010. Сядзеў адзін дома. Нудзіўся. І раптам вярнулася з горада Людміла з білетамі ў Купалаўскі тэатр на сем гадзін. У мяне былі іншыя планы на вечар, таму я не адразу ўспрыняў яе прапанову. І калі пачаў збірацца, то давялося доўга перабіраць увесь летні абутак і адзенне, ад якога я адвык за зіму. Нанерваваўся, але ўсё ж сабраўся. Нудоты як і не было...

*Ірландыя і Беларусь*

12.04.2010. Вярнуўся з Людмілай з Купалаўскага тэатра, дзе ішоў спектакль Брайана Фрыла «Пераклады» у пастаноўцы Мікалая Пінігіна. П’еса пра Ірландыю... Прабівае да слёз... І чаму я не артыст Купалаўскага тэатра?

*Чакаецца вандроўка*

13.04.2010. Дамовіўся з Анатолем Блашчытыным (Шніп па маці) пазнаёміцца з Леанідам Жыткевічам у Навасёлках. Ён не толькі аднакласнік Анатоля, але і наш блізкі сваяк. У вольны час Леанід малюе і цяпер у яго ўся хата завешана карцінамі. Гадоў сто назад нашы могілкі (уніяцкія) былі ў Навасёлках, якія непадалёку ад цяперашніх, што ў Дубровах. Каля Навасёлак ёсць і пахаванні французаў, якія загінулі ў час вайны 1812 года...

*«Подиум» і бабуля Параска*

14.04.2010. Па MTV усёй сям’ёй кожны вечар глядзім конкурс дызайнераў-мадэльераў «Подиум». І я амаль кожны раз успамінаю сваю бабулю Параску, якая і пры паляках, і пры саветах была швачкай. Яе як цудоўную майстрыцу людзі ведалі далёка ад нашых Пугачоў. Бабуля сама прыдумляла фасоны адзення, кроіла, шыла і вучыла іншых. Гэтым усё жыццё і пражыла. Я і сёння памятаю сшытыя ёю касцюмы, сукенкі, блузкі, бравэркі, кажухі, штаны-галіфэ і часам адчуваю плячамі цяпло ад палітца, якое яна мне справіла да майго першага класа...

### *Ракетчыкі*

14.04.2010. Некаторыя мае знаёмыя служылі ў ракетных войсках Савецкага Саюза. І ніводзін па сённяшні дзень не расказаў, як яны запускалі ракеты і, наогул, як служылі. Ведаю, што яны ўсе давалі падпіску аб захаванні ваеннай таямніцы, прымалі прысягу. Але ж даўно ўжо няма ні таго Саюза, ні тых ракет, а мужыкі ўсё маўчаць. А можа была там такая служба, што няма пра што і гаварыць?..

### *Кветкі і дзеткі*

15.04.2010. З Людмілай вярнуўся з Музея гісторыі беларускай літаратуры, дзе суполка «Літаратурнае прадмесце» віншавала мяне з юбілеем. Зноў у кватэры свежыя кветкі і галодныя дзеткі...

### *Браты-святары з Пугачоў*

16.04.2010. Сёння даведаўся, што айцец-езуіт Адольф Шніп, які ў 1939 годзе апекаваўся аўгусцінскім касцёлам у Вільні, нарадзіўся і гадаваўся ў маіх родных Пугачах. Адольф меў брата, які таксама быў святаром. Іх сядзіба была там, дзе цяпер стаіць хата Лабачэўскіх...

### *Вулканічны дождж*

17.04.2010. На вуліцы дождж. Людзі кажуць, ён з Ісландыі, вулканічны. Па ўсёй Еўропе не лётаюць самалёты, бо небяспечна. Дваццаць чатыры гады таму ішоў Чарнобыльскі дождж...

* * *

19.04.2010. Сёння маёй маме Шніп Ніне Міхайлаўне 80 гадоў. Цяпер яна жыве ў маёй сястры Валі. Здароўе пасля інсульту не вельмі, але па хаце тэпае і ўжо цэлы месяц збіраецца паехаць у вёску садзіць бульбу...

### *Гаспадар*

19.04.2010. Мінуў год, як бацькі прадалі карову. І цяпер акрамя сабакі і катоў — ніякай гаспадаркі. На мінулым тыдні бацька выцягнуў з пуні зляжалае сена і спаліў на бульбянішчы. Суседка скардзілася: «Мог усю вёску спаліць!»

## *Катынь*

19.04.2010. Учора глядзеў фільм Анжэя Вайды «Катынь». У спісах расстраляных прагучала: «Рублеўскі Антон Міхайлавіч». Магчыма, гэта нехта з бацькавага роду маёй Людмілы. Зноў успомніўся мой дзед падхарунжы войска польскага Шніп Язэп Іванавіч 1911 года нараджэння, які ў 1939 годзе трапіў у савецкі палон і, толькі дзякуючы таму, што сарваў з сябе пагоны і апрануў салдацкі шынель, быў вывезены ў канцлагер пад Харкавам, адкуль вясной 1941 года ўцёк...

## *Знак з Ерусаліма*

19.04.2010. Прыходзіў аўтар гадоў пад пяцьдзясят, які адразу ж заявіў: «Я пішу вершы і хаджу ў царкву!» Агледзеўшы мяне і прысеўшы насупраць, ён з палатнянай торбы дастаў аркуш, спісаны алоўкам, і прапанаваў пачытаць. Я пачытаў. Потым ён даў мне яшчэ адзін верш. Я прачытаў і запытаўся: «І гэта ўсё?» — «На сёння ўсё!» — адказаў незнаёмец і пачаў расказваць пра сябе: «У мяне вялікі вопыт напісання вершаў. Я сур'ёзна пішу ўжо два гады! Чытаю Біблію. Тое-сёе я ўжо ў ёй зразумеў, але з некаторымі месцамі я не згодны. У 2008 годзе за дзесяць дзён да Вялікадня я паслаў свой верш у Ерусалім. У час свята я глядзеў па тэлевізары рэпартаж з Гроба Гасподняга і ўбачыў людзей з беларускім сцягам. Гэта быў мне знак, што мой твор атрымалі! Пасля гэтага я пайшоў па рэдакцыях...»

## *Чакаю вандроўку*

21.04.2010. Тэлефанаваў Анатоль Блашчытын. На Радаўніцу ён ездзіў у Дубравы на могілкі. Шмат каго са знаёмых бачыў. Дамовіўся з Леанідам Жыткевічам наконт нашай травеньскай вандроўкі па ваколіцах Навасёлак, дзе захаваліся ўніяцкія і французскія могілкі. Па дарозе ў Пугачы ў Татарскіх засталося мала вяскоўцаў. Ужо недзе каля дзесяці хат перабудаваны пад лецішчы. Успомніўся Татарскі клуб, у які я некалькі разоў хадзіў на танцы, спадзеючыся, што з Еленкі прыйдзе мая аднакласніца Шымель Зоя. Пасля сканчэння Пугачоўскай школы з ёй так і не сустрэўся ні разу...

## *Бібліятэка Янкі Сіпакова*

21.04.2010. Працоўны дзень закончыўся светла — прыходзіў Янка Сіпакоў. На маё пытанне: «Што новага пішаце?», ён адказаў: «Цяпер перадаю землякам у Оршу сваю бібліятэку. Ужо тысячы

тры перадаў, а ў мяне недзе дзесяць тысяч кніг. Сяджу, перабіраю і пішу твор «Мая бібліятэка»...»

### *Курэнне*

22.04.2010. «Курэнне шкодна для вашага здароўя» — папярэджвае надпіс на цыгарэтнай пачцы. Калі я ўпершыню закурыў, а мне было тады гадоў трынаццаць, такіх надпісаў не было. Памятаю, мой сусед і аднакласнік Сашка Балотнік недзе раздабыў цэлую пачку «Фільтра» і павёў мяне, Тоніка Руткевіча і Віцьку Балотніка ў Гаік, каб навучыць курыць. Скурылі адразу без перапынку па дзве цыгарэты і нам усім, акрамя Сашкі, стала так дрэнна, што здавалася, нібы тут у кустах мы і памром. Пасля гэтага я не курыў да дваццаці гадоў...

### *Мулявін з Сасноўцаў*

23.04.2010. На пачатку 70-х узнікла мода адпускаць вусы, як у Мулявіна. І тады нярэдка можна было бачыць мужчын, падобных да «Песняра». У суседніх Сасноўцах быў хлопец, які па выхадных, прыехаўшы з Мінска, наведваўся на вялікім чырвоным матацыкле ў наш клуб на танцы. Ён быў модна апрануты, з магнітафонам, з якога гучалі мулявінскія песні, невысокага росту і з вусамі, як у Мулявіна. І я, школьнік, думаў, што гэта і ёсць сапраўдны Мулявін, чые песні чую па радыё і тэлебачанні. Каля хлопца (яго ўсе называлі Мулявіным) вечна збіралася моладзь, а я баяўся падысці і асабліва пасля таго, як ён аднойчы запытаўся: «Можа, песню для «Песняроў» маеш?» Песень ніякіх я не меў, а тым больш для «Песняроў». І ўсё ж пытанне пра песню ў мяне доўга сядзела ў галаве і я праз некалькі гадоў пасля школы нешта было насачыняў, каб пры сустрэчы паказаць Мулявіну. Аднак сустрэча не адбылася. Мулявін утапіўся...

### *Авяр'ян Дзеружынскі і дачка*

29.04.2010. У выдавецтва прыходзіла дачка дзіцячага паэта Авяр'яна Дзеружынскага. Адразу ўспомніўся Дом творчасці «Іслач», дзе неяк мы разам адпачывалі. Паэта часта можна было застаць у лесе за спевамі. Голас у яго быў цудоўны. Ды і чалавек ён быў някепскі. Любіў пагаварыць і пажартаваць. Дачка пыталася, што рабіць з рукапісамі, якія засталіся ў кватэры пасля смерці бацькі. Параіў недрукаванае паказаць нам, астатняе здаць у архіў да Ганны Запартыкі. Ужо на парозе Дзеружынская сказала: «Мінула шмат гадоў як бацька памёр, а помніка яму я ніяк не магу паставіць. Бедная зусім...»

# ТРАВЕНЬ

## *Крупы і макароны*

1.05.2010. Кватаруючы ў дзеда з бабуляй на вуліцы Герасіменкі ў доме № 1, гаспадарам казаў, што вучуся (чытаў кніжкі і пісаў вершы), а бацькам і ўсім астатнім — працую на будоўлі. Усе верылі, і нават цяпер некаторых не магу пераканаць, што я сем гадоў жыў у Мінску без прапіскі і без працы. Мае падпрацоўкі грузчыкам на лікёра-гарэлачным заводзе «Крышталь» давалі магчымасць плаціць за кватэру 15 рублёў і купляць крупы і макароны. Былі і ганарары за вершы. Калі не падпрацоўваў, то мой кожны дзень быў запоўнены бадзяннем па горадзе. Выходзіў з дому ў дзевяць гадзін і вяртаўся ў гадзіны чатыры. Зімой сядзеў на вакзале або на Галоўпаштамце. Чытаў і пісаў. У цёплую пару года мяне можна было ўбачыць і на вакзале, і на Галоўпаштамце, і ў парках, і ў скверах на лавачцы. Хадзіў на ўсе і ва ўсе рэдакцыі на літаб'яднанні. Ніколі не адмаўляўся, калі нехта мяне запрашаў да сябе дамоў. Была магчымасць хоць раз на тыдзень добра паесці. І, відаць, з таго часу ў мяне захавалася звычка мець запас круп і макаронаў. Гэтага прадукту і сёння ў мяне прыхавана па некалькі кілаграм на чорны дзень...

* * *

2.05.2010. Усю ноч ішоў дождж. І ён размыў мае ўчарашнія планы на сённяшні дзень...

## *Неяк сумна*

2.05.2010. Раптам заўважыў, што жыву больш успамінамі, чым планамі на будучае. Ва ўспамінах усё пэўнае і зразумелае, а ў будучым толькі назвы дзён, месяцаў і гадоў нязменныя...

## *Касмічная глыба*

5.05.2010. Сёння на працы трапіўся пад рукі нейкі часопіс, у якім я вычытаў, што ў хуткім часе ў нашу Зямлю можа ўрэзацца касмічная глыба вагой у тысячы тон. Ад сутыкнення ў зямлі ўтворыцца варонка глыбінёй у кіламетр і дыяметрам больш трох. Калі ж касмічная глыба шарахне ў акіян, то варонка будзе глыбінёй ў два з паловай кіламетры і дыяметрам больш дзесяці. Хвалі ўздымуцца на сотні метраў і пыpскі схаваюць на цэлы год сонца. Нават у Афрыцы будзе холадна. Да канца артыкул не дачытаў, бо, нягледзячы на дождж, прыйшоў невядомы паэт і прынёс каля трох кілаграмаў вершаў...

## *Сярэбраныя галасы*

6.05.2010. У «Нашай Ніве» за 5 траўня гісторык Андрэй Вашкевіч піша: «Ніколі не быў аматарам творчасці паэтаў, якія жылі ў БССР у міжваенныя гады. (...) Так я думаў да той пары, пакуль у рукі не трапіла выдадзеная колькі год таму выдавецтвам «Мастацкая літаратура» кніга вершаў рэпрэсаваных беларускіх паэтаў «Сярэбраныя галасы. Душа мая тужлівая...». Творы, змешчаныя ў гэтай кнізе, сталі адкрыццём, дзвярыма ў душы людзей, якія ў пераважнай большасці пайшлі з жыцця ледзь-ледзь дажыўшы да трыццаці год». Прыемна, што кніга, якую я ўкладаў, змяніла думку гісторыка пра паэзію ў БССР у міжваенныя гады. Аднак, дзякуючы спадару Вашкевічу, я пераканаўся яшчэ раз, што ўсё-ткі мы бываем не аматарамі таго ці іншага творцы, ні разу не чытаўшы яго...

## *Мой дзед і Перамога*

8.05.2010. Майго дзеда Юзю (Іосіфа Іванавіча) забралі ваяваць у 1944 годзе. На жаль, калі дзед быў жывы, я не распытаўся, што ён, як былы падхарунжы войска польскага, які ўцёк вясной 1941 года з савецкага палону, рабіў тры гады пры немцах. Аднак, дакладна ведаю, што ў паліцыі і ў партызанах ён не быў. Забраны на фронт, дзед адразу ж трапіў на штурм Кёнігсберга, за што і атрымаў адпаведны медаль. Потым гнаў немцаў па тэрыторыях Польшчы і Германіі. Быў кантужаны. Пасля Перамогі ўсё лета ехаў ваяваць з Японіяй. Не даехаў, бо вайна закончылася. Дамоў вярнуўся толькі пад Новы год. У Дзень Перамогі дзед заўсёды чапляў на пінжак узнагароды. Памёр 5 лістапада 1982 года на 72-м годзе жыцця...

## *Святло Вільні*

12.05.2010. На мінулыя выхадныя Міхась Казлоўскі быў у Вільні. Учора вярнуўся ў Маладзечна, а сёння мне патэлефанаваў і расказаў, як цэлы дзень хадзіў па могілках, дзе пахаваны нашы слаўныя людзі. І ў маёй памяці, як у начы агонь, засвяцілася Вільня... І захацелася пайсці купіць білет на цягнік і паехаць да Вострай брамы...

## *Невядомыя рукапісы*

14.05.2010. У абед да мяне на працу зайшла пажылая жанчына з вялікім чорным скураным партфелем. Павітаўшыся, я адразу пацікавіўся: «У вас вершы ці проза?» — «Я нічога не пішу. У мяне проста ёсць да вас справа»,— адказала незнаёмка. «Што за справа?» — запытаўся я і прапанаваў жанчыне прысесці. Яна села і пачала расказваць пра тое, што ў іх гімназіі № 14, дзе яна працуе, ёсць вартаўнік, якому восемдзесят гадоў. У свой час ён быў рэпрэсаваны і сасланы на Урал, дзе разам з ім адбывалі пакаранне некаторыя дзеячы культуры. І вось у гэтага дзеда ёсць рукапісы твораў пісьменніка, якому ў 2014 годзе споўніцца з дня нараджэння 100 гадоў. «А як прозвішча пісьменніка?» — запытаўся я. «Не ведаю. Наш вартаўнік прасіў высветліць, ці можна паказаць вам тыя рукапісы, якія ён захаваў»,— адказала жанчына, ад якой я нічога больш не даведаўся ні пра вартаўніка, ні пра пісьменніка. Дамовіліся, што яна мне патэлефануе і дасць нумар, па якім можна звязацца з дзедам...

## *Хлеб і марфлот*

15.05.2010. У гадоў дванаццаць мне захацелася хутчэй вырасці і пайсці ў войска. Дзядзька Барыс, які служыў у марфлоце, даведаўшыся пра маю мару, параіў: «Еж паболей хлеба і ты трапіш, як і я, служыць на Чорнае мора». Пасля размовы з дзядзькам я пачаў старацца есці хлеб. Стараўся недзе да гадоў шаснаццаці, пакуль зразумеў, што войска — гэта харошая школа, але лепей яе праходзіць завочна...

* * *

17.05.2010. Маме стала зусім дрэнна. Паклалі ў Ракаўскую бальніцу. Адчуваю сябе хворым...

## *На вакзале*

19.05.2010. Чакаючы маршрутку ў Ракаў, зайшоў у падземны пераход, каб схавацца ад дажджу. Стаю з поўнай торбай. Настрой ніжэй нуля. Праз хвілін дзесяць бачу: да мяне ідзе міліцыянер і глядзіць здалёку проста мне ў вочы. «Будзе, відаць, дакументы пытацца. А дакументаў у мяне з сабой аніякіх!» — падумаў я і хуценька ўліўся ў людскі натоўп, што ішоў у горад. Міліцыянер пад дождж не палез...

## *Дарога да мамы*

19.05.2010. У Ракаў заехаў за пяцьдзясят хвілін. Усю дарогу думаў пра маму. Потым за дваццаць хвілін дабраўся з вакзала да бальніцы. Перад бальніцай спыніўся, бо стала неяк страшна ісці далей. Пайшоў дождж, і я пайшоў. Адразу не мог знайсці маміну палату. Заходжу. Мама ляжыць на ложку каля акна. Ёй толькі што паставілі кропельніцу. Жывая!

## *У палаце з мамай*

19.05.2010. Пасля кропельніцы мама з маёй дапамогай села на ложку. Усё, што прывёз, не хацела браць. Пытаюся, ці снедала. Кажа, што ела. Прапанаваў яшчэ паесці. Захацела толькі варанае яйка. Пагаварылі, памаўчалі. У палаце з мамай яшчэ дзве жанчыны. Адна ходзіць, а другая, старэйшая, ляжыць і цяжка дыхае. Праз хвілін дваццаць у нашу палату прыадчыніліся дзверы і пачалі зазіраць па чарзе хворыя, і я пачуў іхні шэпт: «Паэт да маці прыехаў... Шніп...»

## *У Ракаўскім вакзале*

19.05.2010. У бальніцы прабыў больш гадзіны. Толькі выйшаў ад мамы, як пайшоў дождж. Крыху прамачыўся, але ісці да маршруткі было лёгка — мама трымаецца і, дасць Бог, ачуняе. Стоячы на прыпынку, вырашыў заглянуць у Ракаўскі вакзал, у якім не быў гадоў пяць. У гэтым будынку, калі быў маладым, часта, едучы дамоў, чакаў свайго аўтобуса. Часам даводзілася сядзець па некалькі гадзін, таму нярэдка пісаў вершы. І напісаў нямала, бо сем гадоў кожную пятніцу быў праездам у Ракаве. Спадзеючыся пасядзець на тых жа памятных мне лаўках, адчыняю дзверы і бачу прадуктовую краму з гарэлкай, каўбасамі, рыбай, макаронамі...

## *Няма таго, што раньш было...*

20.05.2010. Быў у мамы ў Ракаўскай бальніцы. Яна ўжо для свайго ўзросту больш-менш нармальна сябе адчувае. Вяртаючыся ў Мінск, на вакзале ўбачыў аўтобус «Валожын-Пугачы». Зазірнуў. Аніводнага знаёмага твару...

## *Першы прыпынак у царкве*

23.05.2010. У Навасёлкі знаёміцца з траюрадным дзядзькам Леанідам Жыткевічам, які цяпер на пенсіі і ў вольны час малюе, давялося ехаць аднаму — Людміла прастыла, а сын Максім паехаў з аднакласнікамі ў Тальку на экскурсію. Анатоль Блашчытын — мой далёкі сваяк — уляцеў у электрычку на Маладзечна за хвіліну да адпраўлення. Усю дарогу прагаварылі, таму гадзіна язды праляцела незаўважна. У Дубровах нас ужо чакаў Леанід на машыне. Побач стаяў нейкі дзіўны трактар, за рулём якога сядзеў стары. Да яго залезла пажылая кабета з электрычкі, і яны паехалі. Леанід паведаміў, што гэты трактар чалавек змайстраваў сам. Яму цяпер 77 гадоў. Па дарозе ў Навасёлкі спыніліся каля Дуброўскай царвы, дзе якраз ішла служба — Анатоль захацеў пакінуць памінальныя запіскі. У царкве было каля дзесяці чалавек. Збудаванне драўлянае. На ўваходзе вісіць шыльда на беларускай мове: «Беларуская Праваслаўная царква ў імя Нараджэння Прасьвятой Багародзіцы. Адноўленая ў 90-х гадах 20-га стагоддзя стараннямі свяшчэнніка Іаана Крупко». Святар у Дубровах вядомы і як паэт. Асобныя ягоныя вершы краязнаўца Міхась Казлоўскі дапамог надрукаваць у Маладзечанскіх газетах. У Храме шмат іконаў. Многія тканыя. Напрыканцы службы ў царкву была занесена шырокая сіняя лава — пачалася падрыхтоўка да адпявання памерлага. Памёр пяцідзесяцітрохгадовы Руды з Навасёлак. Леанід не змог успомніць, як яго завуць. Адстаяўшы да канца службу, мы працягнулі сваю дарогу...

## *У Дуброўскай школе*

23.05.2010. Пасля царквы Леанід Жыткевіч павёз мяне і Анатоля Блашчытына ў Дуброўскую школу. Нас ужо чакалі дзве настаўніцы, якія правялі экскурсію па кабінетах і школьным музеі. На калідорах і ў класах ціха — у суботу дзеці не вучацца. Гадоў пятнаццаць назад тут было каля 400 вучняў. Дзеці хадзілі не толькі з Дуброў, але і з далёкіх вёсак. Да маіх Пугачоў сем кіламетраў. Мог тут канчаць дзесяцігодку і я, калі б пасля васьмі

класаў Пугачоўскай школы не паступіў у Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум. Цяпер у школе 66 вучняў. У свой час у школе працаваў паэт Вячаслаў Міхасёнак, які сябраваў з Уладзімірам Караткевічам і які шмат разоў бываў у Дубровах. Уладзімір Караткевіч з Адамам Мальдзісам бывалі і ў маіх Пугачах — хадзілі ў госці да свайго сябра Паўла Дзюбайлы, які ў нас працаваў настаўнікам. Анатоль Блашчытын загарэўся жаданнем зрабіць адпаведную шыльду і прымацаваць яе на будынак Пугачоўскай школы. Харошая ідэя. Трэба будзе неяк яе ажыццявіць. Калідоры Дуброўскай школы ўпрыгожаны карцінамі Яўгеніі Васілеўскай. Заглянулі ў школьны краязнаўчы музей. Усё зроблена з густам і з любоўю да роднай вёскі і людзей, якія ў ёй жылі і жывуць. У музеі захоўваюцца здымкі выпускных класаў, на якіх шмат знаёмых твараў. Дамовіліся з настаўнікамі, што я прыеду да іх восенню, калі пачнецца новы навучальны год, каб выступіць перад школьнікамі.

## *Мастачка з Пугачоў*

23.05.2010. У маіх Пугачах 3 ліпеня 1928 года нарадзілася мастачка Яўгенія Мікалаеўна Васілеўская. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, яна паступіла на завочнае аддзяленне Маскоўскага мастацкага ўніверсітэта, дзе вучылася пяць з паловай гадоў. Пасля заканчэння ўніверсітэта 12 гадоў працавала настаўніцай малявання ў Дуброўскай школе. Потым была лабаранткай у калгасе. Выйшаўшы на пенсію, працягвае па сённяшні дзень маляваць. Яе карціны ўпрыгожваюць школу, ёсць у дамах аднавяскоўцаў і ў царкве вёскі Дубровы. Я хацеў пазнаёміцца з мастачкай, але, на жаль, мне сказалі, што яе якраз сёння няма дома...

## *Дубровенская рымска-каталіцкая парафія*

23.05.2010. Упершыню Дуброва ўпамінаецца ў летапісах у 1453 годзе, калі тут Глябовічамі быў фундаваны касцёл. У 1576 годзе на месцы старога касцёла Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка ўзвёў новы касцёл і надзяліў святыню новым фундушам. У 1625 годзе тут знаходзіўся кляштар ордэна бернардзінцаў. У 1670 годзе сур'ёзна пашкоджаны ў час вайны Расіі з Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай (1654—1667 гг.) касцёл адрэстаўравала на свае сродкі Марцыбяліна Глябовіч. У 1770 годзе святыня зноў была адрэстаўравана Матэвушам Марцынкевічам і асвечана пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны і святых апекуноў Мацвея Апостала і

Станіслава Біскупа. Драўляны, пабудаваны ў выглядзе крыжа, пакрыты гонтаю касцёл завяршаўся купалам па цэнтры і чатырма вежамі — адной маленькай над вялікім алтаром і трыма большымі над бабінцам (прытворам). Пры касцёле была адкрыта школа для шляхты і мяшчан. У 1787 годзе касцёл згарэў. Ролю святыні часова выконвала шопа з бруса, з крыжамі над крухтай і прэзбітэрыем, з закрыстыяй. У алтары быў змешчаны абраз Найсвяцейшай Марыі Панны з Дзіцяткам на руках. Адам Хмара, тайны саветнік і ваявода мінскі, розных польскіх і расійскіх ордэнаў кавалер, які з 1791 года стаў новым уладаром мястэчка Дуброва, у 1796 годзе заснаваў на месцы раней існуючых драўляных касцёлаў, на пагорку, што дамінуе над мястэчкам, новую мураваную святыню ў стылі класіцызму пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. У 1805 годзе Храм быў асвечаны. У тым жа годзе Адам Хмара памёр і быў пахаваны, як фундатар, у сутарэннях касцёла. Скляпы святыні сталі радавой пахавальніцай і для ўсіх пакаленняў яго нашчадкаў. Гэта была прыгожая каменная святыня даўжынёй 48,5 аршынаў, шырынёй 33,5 і вышынёй 22 аршыны, пабеленая звонку і ўнутры. У 1842 годзе ў Дубровенскай парафіі налічвалася 2326 каталікоў. Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гадоў касцёл быў зачынены, а дубровенскія каталікі былі адпісаны да Ракаўскай парафіі. У 1868 годзе касцёл перабудавалі пад праваслаўную царкву. Пасля царскага маніфеста 1905 года аб свабодзе сумлення каталікам дазволілі ў Дуброве ўзвесці драўляную капліцу. За аснову быў узяты будынак, што стаяў за 20 сажняў ад панскага дома Льва Львовіча Ваньковіча. У ім зрабілі алтар, а над уваходам узвялі невялікую вежу са звонам. Капліцу асвяцілі 28 снежня 1906 года. У 1919 годзе будынак святыні вярнулі каталікам. У 1926—1929 гадах ён быў рэстаўраваны і зноў набыў аблічча касцёла. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны колькасць парафіян перавышала 2 тысячы чалавек. У чэрвені 1948 года пасля арышту ксяндза Яна Казіміравіча Татарскага (нарадзіўся ў 1890 годзе, працаваў у Дуброве з 25 лістапада 1943 года), касцёл зачынілі, а ў 1949 годзе ён перададзены Дуброўскаму спіртзаводу пад склад і з часам ператварыўся ў руіну. У верасні 1954 года ксёндз Я. Татарскі вярнуўся з турмы, але быць пробашчам касцёла ў Дубровах яму савецкія ўлады забаранілі. Стаў працаваць настаяцелем касцёла ў Ракаве. Па хадайніцтве вернікаў і пры дапамозе ксяндза-дэкана Пралата Даўгіловіча-Навіцкага была адроджана Дубровенская парафія і зарэгістравана пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны і Святога Юрыя ў 1995 годзе. З восені таго ж года пачалі

адбываецца богаслужэнні ў каплічцы, пад якую прыстасавана частка дома былой плябані. Душапастырства ў парафіі выконваецца святаром Красненскага касцёла. Дзесяць год пачэсна выконваў гэтую місію ксёндз Пётр Пятрога. З восені 2005 года гэтыя абавязкі даручаны ксяндзу Андрэю Яркаўцу. Пра ўсё гэта я даведаўся ў музеі Дуброўскай школы. Сцены касцёла і сёння стаяць на ўзгорку, як напамін пра тое, што яшчэ не ўсё страчана...

### *Бібліятэка на вуліцы Каліноўскага*

23.05.2010. Дуброўская бібліятэка знаходзіцца на вуліцы Кастуся Каліноўскага. І тое, што ёсць такая вуліца ў вёсцы — гэта не выпадковасць, бо калі ўспомніць, што пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гадах касцёл у Дубровах быў зачынены, то можна смела сказаць, што многія парафіяне, якіх было каля двух з паловай тысяч, змагаліся з расейскімі войскамі. І гінулі, бо ў кіламетрах дзесяці на могілках у вёсцы Плябані пахавана некалькі паўстанцаў. Да ўсяго, думаю, і мае аднавяскоўцы не сядзелі ў той час у запечку.

У бібліятэцы мяне і маіх сваякоў Леаніда і Анатоля чакалі і сустрэлі вельмі ветліва. Жанчыны адразу паскардзіліся, што кніжак у іх толькі шэсць тысяч. Тут жа ўспомнілася хатняя бібліятэка Янкі Сіпакова, у якой 10 тысяч тамоў. На стэндзе выстаўлены кнігі па гісторыі Беларусі. Сярод іх — маленькая танюсенькая кніжачка вершаў Вячаслава Міхасёнка. На самым бачным месцы «Дадзеныя ўзросту вёсак на 2010 год»: «Дубровы — 557 г., Еленка — 219 г., Бортнікі — 363 г., Навасёлкі — 219 г., Гойжава — 307 г., Кайцені — 259 г., Пазнякі — 210 г.». Думаю, што і маім Пугачам недзе пад 300 гадоў, а мо і болей. «А колькі кіламетраў ад вас да Еленкі?» — пацікавіўся я. «Кіламетры тры»,— адказала бібліятэкарша і тут жа дадала: «Я ведаю, што там нарадзілася ваша аднакласніца Зоя Шымель, пра якую вы ўзгадваеце ў сваіх творах пра каханне». «Так. А ці не ведаеце вы, дзе цяпер Зоя?» — запытаўся я. «Не ведаю. Але я распытаюся ў свайго сваяка, які жыве ў Еленцы»,— абяцала жанчына і прапанавала папіць гарбаты. Мы ветліва адмовіліся. І толькі пераступілі нагой за парог, як нас перастрэў на ровары загарэлы мужчына. Гэта спецыяльна прыехаў, каб пазнаёміцца са мной, аднакласнік Анатоля і Леаніда Косця Лёля, які да пенсіі быў адным з мясцовых начальнікаў...

## *Міліцыянер і шкілет*

23.05.2010. У Дубровах жыве былы міліцыянер. Выйшаўшы на пенсію, ён пачаў запіваць. І, відаць, зусім адпіўшы мазгі, бо нармальны чалавек не будзе трывожыць памерлых, ён раскапаў сутарэнні касцёла, дзе былі пахаваны былы ўладар Дуброў Адам Хмара і яго нашчадкі. Знайшоўшы чалавечы шкілет, былы міліцыянер прынёс яго дамоў і паставіў сярод хаты. Вечарам вярнулася з працы жонка і, убачыўшы шкілет, так перапалохалася, што перастала гаварыць...

## *Хмарышкі*

23.05.2010. Каля маіх Пугачоў ёсць мясціна, якая і па сённяшні дзень называецца Хмарышкі. Раней там быў маёнтак, дзе жыў пан Хмара. Яшчэ гадоў трыццаць назад там быў сад і зараслыя травой фундаменты вялікіх будынкаў. Па сённяшні дзень захавалася возера, у якім водзіцца рыба. І, відаць, гэты наш пан быў адным з нашчадкаў Адама Хмары, які ў Дубровах больш двухсот гадоў назад збудаваў касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны.

## *Польскія кашары*

23.05.2010. У канцы ліпеня 1919 года Дубровы апынуліся пад панскай Польшчай. Потым палякі адступілі, і Дубровы былі заняты Чырвонай арміяй, але ненадоўга, і паводле Рыжскай дамовы ад 18 сакавіка 1921 года па 1939 год Дубровы сталі прыгранічным мястэчкам. У той час недалёка ад цэнтра вёскі Дубровы па правым баку дарогі Дубровы-Гарадок, на ўзгорку, дзе цяпер хаты Соф'і Салавей і Івана Салаўя, стаялі кашары. Так называлася польская пагранічная застава. Мяжа праходзіла паміж вёскамі Уша і Туркаўшчына, за 4 кіламетры ад Дуброў. У кашарах былі казарма, канюшня, лазня, сталоўка, скляпы і іншыя гаспадарчыя пабудовы. Каб пракарміцца, салдаты для сябе гадавалі свіней і кароў. Пабудовы стаялі на моцных фундаментах. Некалькі фундаментаў захавалася да нашага часу, бо калі з хутароў пачалі ссяляць гаспадароў у вёску, то хутаране пабудавалі свае дамы на іх, а так усё было разбурана і знішчана...

## *Глафіра*

23.05.2010. Пасля наведвання Дуброўскай бібліятэкі, Леанід Жыткевіч завёз мяне з Анатолем Блашчытыным да сябе ў Навасёлкі паабедаць. Нас сустрэла ветлівая гаспадыня, якая

прадставілася «Глафіра», а я ці то ад стомы, ці проста недачуў, падпісваючы кніжкі, напісаў: «Шаноўным Леаніду і Графіні...» Праўда, тут жа паправіўся, а хаця б і мог пакінуць, як напісаў, бо Глафіра, сапраўды, крыху падобная да графіні...

## *Крыніца*

23.05.2010. Ідучы па Навасёлкаўскай вуліцы да старых уніяцкіх могілак, я звярнуў увагу, што каля плота адной хаты месціцца невялічкая ўтравелая балаціна, ад якой прама па вуліцы метраў сто цячэ вада, а потым па пракапанай канавіне сцякае праз поле да рачулкі. Падумалася, што гэтая вада з прарванай водаправоднай трубы, да якой нікому няма справы, але Леанід Жыткевіч, нібы здагадаўшыся, пра што я думаю, сказаў: «Гэта крыніца. Яна цячэ круглы год...»

* * *

23.05.2010. Ад Навасёлкаўскіх уніяцкіх могілак застаўся зарослы кустамі пагорак. Праўда, месцамі з зямлі віднеюцца каля дзесяці помнікаў, па якіх можна даведацца, што яшчэ ў 1926 годзе тут хавалі людзей. І пра тое, што тут, на пагорку, могілкі нагадваюць касачы і кусты шыпшыны. Словам, яшчэ не прайшло і дзевяноста гадоў, а ўжо толькі такія дзівакі, як я са сваімі сваякамі Леанідам і Анатолем, якім дарага наша мінулае, прыходзяць да магіл нашых продкаў. Вяртаючыся назад у вёску, я выказаў меркаванне, што яшчэ пройдзе гадоў пяцьдзясят, а то і меней, як з пагорка пачнуць браць пясок для будоўляў і ніхто не спыніцца, натрапіўшы на чалавечыя чарапы і косці. Леанід і Анатоль не сталі мне пярэчыць...

* * *

23.05.2010. У Навасёлках ад хаты Леаніда Жыткевіча да месца, дзе пахаваны французскія салдаты, што загінулі ў 1812 годзе, метраў трыста. Праз хвілін дзесяць я, Леанід і Анатоль Блашчытын з кургана разглядаем наваколле. Прыгожа. Пытаюся: «А тут раскопкі былі?» — «Не. Тут ніхто не капаўся. А, відаць, калі капануць на метры тры, то можна натрапіць на французскія косці»,— адказвае Леанід і, паказваючы рукой удалеч на зарослую ельнікам гару, кажа: «А там замчышча. На гары і сёння ёсць вялікі роўны пляц, на якім, кажуць, стаяў вялікі і непрыступны замак». Збіраемся ісці да замчышча, але нечаканы навальнічны дождж парушае нашы планы...

### *Міклашэўскі і Рублеўская*

28.05.2010. З сённяшняга «ЛіМа» даведаўся, што памёр пісьменнік Яўген Міклашэўскі. Гэта ён сказаў Людміле Рублеўскай перад яе ад'ездам у Маскву на вучобу ў Літінстытут, каб, калі ўзнікне якая праблема, зайшла за дапамогай да Шніпа. І яна зайшла дзеля цікавасці, і цяпер у яе куча праблем...

### *Мой аднакласнік Сашка*

29.05.2010. Сёння майму сябру дзяцінства і суседу Сашку Балотніку было б 50 гадоў. Ён быў здаравейшы за нашых аднакласнікаў, і ўсе яго баяліся. Пабойваўся і я, але і Сашка ніколі да мяне не чапляўся. Недзе гады чатыры назад, калі я прыязджаў у вёску і корпаўся у градах, да плота падышоў Сашка і папрасіў пазычыць тысячу. Я даў яму пяць. І гэта была наша апошняя сустрэча. Ён памёр у адзіноце 1 студзеня 2007 года — задушыўся куском сала, якое, добра не пražаваўшы, спрабаваў праглынуць...

* * *

29.05.2010. *Зялёныя дрэвы стаяць за вакном,*
*Нібыта бакалы з зялёным вінам,*
*Якому да восені стаць залатым,*
*Каб восені нашай напіцца у дым,*
*Што хмарамі будзе чарнюткімі плыць*
*Над светам, дзе дом мой самотны стаіць,*
*Дзе я ля вакна, адзінокі, сяджу,*
*Чакаючы сонца ў краіне дажджу...*

Хоць і сонца свеціць, а ў мяне такі настрой, нібыта дождж ідзе...

# ЧЭРВЕНЬ

## *Місія*

1.06.2010. Едучы на працу, у аўтобусе сустрэўся з прафесарам Іванам Чаротам. Паскардзіліся адзін аднаму на надвор'е, Іван пацікавіўся здароўем маёй маці, а потым сказаў, што нядаўна пахаваў сябра. Сябар адзінаццаць гадоў адзін даглядаў хворую маці. Маці памерла, а ён праз паўгода атрымаў інсульт, потым другі і на трэцім памёр. Мужчыну было 72 гады. «Такая ўжо была ў яго місія...» — сумна падвёў вынік жыцця свайго сябра Іван Чарота.

## *Андрэй Вазнясенскі*

1.06.2010. Памёр Андрэй Вазнясенскі. Узгадалася мая першая сустрэча з паэтам у бары Цэнтральнага дома літаратараў у Маскве. Гэта быў 1986 год. Мы, сябры-аднакурснікі, прыйшлі ў бар ужо нецвярозыя і, убачыўшы Вазнясенскага, тут жа кінуліся да яго. Ён быў з жонкай, з якой пазнаёміў нас. Потым мы пілі за кошт паэта і закусвалі бутэрбродамі з чырвонай ікрой. Адзін перад адным цыталі ягоныя вершы. Паэт усміхаўся...

## *Маладыя гады і Карачынцаў*

2.06.2010. Аспірант Літінстытута Андрэй Тусічышны сябраваў з артыстам Мікалаем Карачынцавым і часта мне расказваў пра яго. Даведаўшыся, што я са сваёй Людмілай ніяк не магу купіць білеты ў «Ленком», Андрэй прапанаваў пазнаёміць нас з Карачынцавым. І ўжо была назначана сустрэча з артыстам, і мы ўжо амаль сабраліся ісці, але я, падумаўшы: «Не хапала мне яшчэ, каб Карачынцаў адбіў у мяне маю дзяўчыну!», не павёў Людмілу ў «Ленком»...

## *Гардзей і Рудкоўскі*

2.06.2010. Заходжу ў кабінет да Віктара Гардзея. Гляджу, а ён ужо каторы дзень займаецца не планавай працай — чытае

вершы Міхася Рудкоўскага. Прывітаўшыся са мной, Віктар паведаміў: «Хачу падрыхтаваць да выдання ў серыі «Беларуская паэзія ХХ стагоддзя» томік вершаў Міхася. Калі мы такіх хлопцаў, як ён, не выдадзім, дык ніхто пра іх не ўспомніць! Вось мы выдалі год назад кніжку Міколы Федзюковіча, а сёння ўжо яго паставілі ў пазакласнае чытанне...» Нічога не сказаўшы, я ўзяў адну з тоненькіх кніжак Міхася Рудкоўскага і пачытаў з яе некалькі вершаў. «Колькі ён пражыў?» — запытаўся я. «Усяго 53 гады...» — адказаў Віктар. І я, яшчэ прачытаўшы пару твораў паэта, пайшоў у камп'ютарную, дзе набіраецца перспектыўны план выдавецтва на 2011 год, і ў яго ўпісаў кніжку Міхася Рудкоўскага, якую рыхтуе Віктар Гардзей...

* * *

4.06.2010. Пайшоў другі тыдзень, як мама пасля бальніцы ў мяне. За гэты час яна паправілася на дзвесце грамаў, а я на два кілаграмы схуднеў...

### *Не забываецца...*

4.06.2010. Цэлую ліпеньскую ноч бушавала навальніца. Страшна грымеў гром і жахалі маланкі. На вуліцы пад віхламі ў калюжынах валяліся абламаныя галіны і я, шасцігадовы хлапчук, ідучы па Лягезах гуляць да Сашкі Баранова, месцамі з цяжкасцю прабіраўся праз іх. Калі ўжо заставалася да хаты сябра метраў сто, я спыніўся перад велізарнай паваленай ліпай. Выдзертыя з зямлі карэнні, як змеі велічынёй па некалькі метраў, грэліся на сонцы. Каля кроны паваленага дрэва стаяў Сашка і нешта разглядаў у траве. Заўважыўшы мяне, сябра паклікаў: «Ідзі сюды! Паглядзі, што я знайшоў!» Пералезшы праз мокры і слізкі ствол ліпы, я падбег да Сашкі, спадзеючыся ўбачыць нешта прыгожае. У траве ляжаў вялікі чорны крумкач і па яго вялікіх расплюшчаных вачах поўзалі зялёныя мухі...

### *Дождж як пачатак патопу*

4.06.2010. Ідучы дамоў па вуліцы праз дождж, узгадаў свае радкі: «Гэты дождж, як пачатак патопу, што затопіць і змые Еўропу...» І канцоўка: «Дождж ідзе, але ён перастане, Сонца з хмараў усё-ткі прагляне, Бо ў Еўропе стаіць мая хата, Дзе жывуць мае мама і тата». Яшчэ жывуць...

## *Малітва*

4.06.2010. Учора, ідучы дахаты, зайшоў у Петрапаўлаўскі сабор на Нямізе. Пачытаў малітву за здароўе родных, паставіў свечку. І сёння зайшоў у Храм. Памаліўся, паставіў свечку. І на змрочнай вуліцы адчуў цеплыню ў халодным дажджы...

## *Мама і санкі*

5.06.2010. Цэлы дзень была мяцеліца і вечарам аўтобус з Мінска ў вёску не прыйшоў. Раніцай, узгрузіўшы на санкі напакаваныя сумкі і торбы свежанінай, мама павяла мяне і зяця Віцю на Караблянскі аўтобус у Кудзяўцы. Там заўсёды зімой расчышчана дарога, але да яе трэба ісці тры кіламетры. І мы пайшлі праз цемру па бездарожжы. Мама, час ад часу, усё хапалася дапамагчы нам цягнуць гружаныя санкі, якія і пустыя важаць кілаграмаў дваццаць. Недзе праз гадзіну мы дабраліся да прыпынку. Не паспелі аддыхацца, як прыйшоў аўтобус. Завалокшы свае сумкі і торбы ў яго, мы паехалі ў Мінск, а мама, памахаўшы нам на развітанне рукой, пацягнула праз мяцеліцу пустыя санкі дамоў...

## *Торф*

5.06.2010. Мне гадоў дзесяць. На балоце каля Хмарышак бацьку і дзеду дапамагаю капаць торф. Людзей навокал шмат і не толькі з Пугачоў. Усе стараюцца, каб паспець да дажджоў нарыхтаваць паліва на зіму. Падсохлы торф возім на кані дамоў, дзе складаем у паветку. Глыбокія, недзе па тры метры, тарфяныя ямы напрацягу некалькіх дзён напаўняюцца рудой балотнай вадой. У некаторых мінулагодніх ямах цвітуць белыя гарлачыкі. Я спрабую нарваць іх, каб прынесці дамоў, але, паслізнуўшыся, трапляю ў ваду. І мне ніхто не дапамагае вылезці, бо ўсе капаюць торф...

## *Шнапс*

5.06.2010. У Пугачах Лёнек Шніпоў некалькі чалавек. У аднаго з іх мянушка Шнапс. Ён старэйшы за мяне на гадоў дзесяць, і калі яшчэ я хадзіў у Пугачоўскую школу, то Шнапс ужо жыў і працаваў у сталіцы. Ён быў мадняком і здаравяком. Прыходзячы ў клуб на танцы, Лёнька паводзіў сябе, як кароль, і ўсе стараліся дагадзіць яму, абы толькі не пачалася бойка. Калі ж пачыналася бойка, то Шнапс кідаў усіх, хто трапляўся ў яго на шляху, праз сябе аб падлогу. Я Шнапса баяўся. І неяк, калі я ўжо бадзяўся па Мінску і друкаваўся, мы сустрэліся адзін на адзін на вячэрняй

вуліцы ў Пугачах. «Здароў, Віцёк!» — павітаўся Шнапс. «Добры дзень...» — няўпэўнена адказаў я. «Чытаў твае вершы. Маладзец!» — сказаў Лёнька і пачаў распытвацца пра мае адносіны да паэзіі Вазнясенскага, Яўтушэнкі, прозы Караткевіча. Я нешта яму адказваў, а сам думаў, каб як хутчэй развітацца са Шнапсам. Лёнька ж не адставаў ад мяне і праз хвілін дзесяць нашай размовы прапанаваў пайсці да яго дахаты паслухаць замежную музыку і выпіць па сто грам. Не ведаю, чым бы закончылася мая сустрэча са Шнапсам, калі б у гэты час не ішла мама з кароўніка і, убачыўшы мяне, не паклікала дамоў...

## *Шнапс у школе*

5.06.2010. У Дуброўскай школе Шнапс быў самым непаслухмяным вучнем. На перапынках гойсаў па калідорах як угарэлы, а на ўроках перашкаджаў і вучням, і настаўнікам. Настаўніцкія крыкі «Выйдзі з класа!» на Шнапса не дзейнічалі. Недзе ў класе шостым на адным з урокаў Лёнька давёў настаўніка фізікі да поўнага шаленства, што той, не змогшы выцягнуць вучня з-за парты, схапіў яго разам з партай і выкінуў на школьны калідор. На парце, як на санках, Лёнька праехаў метраў дзесяць...

## *Кола*

7.06.2010. Мне гадоў пяць. Стаю на гасцінцы на Русакі і назіраю, як воз з белым канём, пыльна праімчаўшыся побач, падымаецца пад гару. І раптам у метрах ста ад мяне ад воза адвальваецца кола і, падскокваючы, коціцца з гары проста на мяне. «Уцяка-а-а-ай!» — чуецца з воза крык цёткі. «Трыма-а-а-ай!» — крычыць дзядзька. А я стаю як укапаны. А кола ўсё бліжэй і бліжэй...

## *Паэт і матылі*

7.06.2010. Пасля абеда да мяне прыйшоў новы аўтар гадоў трыццаці. З пакета дастаў ладную папку і працягнуў мне. «Вершы?» — пацікавіўся я. «Ага...» — адказаў наведвальнік. Развязваючы тасёмкі на папцы, мне чамусьці падалося, што, як толькі я разгарну рукапіс, з яго адразу вылятуць featuresрознакаляровыя матылі. І матылі вылецелі, а ў папцы засталіся вершы. Вершы добрыя. Малады чалавек пасля васьмі класаў працуе на будоўлі каменшчыкам. Раней свае творы нікому не паказваў. Не было часу. На развітанне, пахваліўшы маладога паэта і растлумачыўшы, чаму

мы не можам цяпер выдаць яго кніжку, параіў яму пакуль што звярнуцца ў «Нёман». Паэт пайшоў, а ў маім пакоі засталіся лётаць матылі з ягонай папкі...

### *Улан*

8.06.2010. Патэлефанаваў Анатоль Блашчытын: «Я ў тваёй кніжцы «Проза і паэзія агню» знайшоў недакладнасць. Ты пішаш: «Крысціна Андрэеўна — маёй бабулі Параскі родная сястра...» Гэта няправільна, бо Крысціна Андрэеўна — не сястра тваёй бабулі Параскі, а жонка Янкі Шніпа, які быў бацькам твайго дзеда Юзі». І расказаў мне Анатоль пра майго прадзеда Івана Кандратавіча Шніпа (1866—1916): «Янка быў уланам у царскім войску і ў час Першай сусветнай вайны ўдзельнічаў у баях з немцамі на фронце, які праходзіў па тэрыторыі цяперашняга Смаргонскага раёна і каля возера Нарач. Прадзед твой там і загінуў. У час нямецкага нападу яму шабляй была адсечана галава. Пра гэта вестка прыйшла ў Пугачы ад аднавяскоўцаў, якія таксама ваявалі з немцамі. Янка недзе ў Смаргонскім раёне і пахаваны ў брацкай магіле. Казалі, што ён быў высокі, прыгожы, добра адукаваны. Ды ўсе Шніпы высокага росту...» — «Адзін я няўдалы...» — перабіваючы Анатоля, я тут жа пачуў: «Што той высокі рост? Галоўнае, каб галава добрая была. А ў цябе галава ёсць...»

### *Сумна*

9.06.2010. Сёння цэлы дзень да мяне ў выдавецтва прыходзілі з творамі адны пенсіянеры. Хоць бы адна маладая паэтка! Чытаючы наведвальнікаў, узгадаўся Саша Чорны: «Холостой стаканчик чая. Хоть бы капля коньяку! Добросовестно скучаю и зелёную тоску заедаю колбасой»...

### *Маўзон і яго жонка*

10.06.2010. Тэлефонны званок: «Вас турбуе жонка драматурга Аркадзя Маўзона. Хачу даведацца пра яго п’есы, якія гадоў дваццаць ляжаць у выдававецтве. Ці можна іх забраць?» Пачуўшы, што рукапіс можна забраць, жанчына паскардзілася, што з-за Дударава нікуды не прабіцца і пра драматургаў, якія памерлі, усе забыліся. Гаворым доўга і шчыра. Жанчыне 92 гады і яна яшчэ цікавіцца ўсім, што адбываецца ў беларускай культуры. На развітанне запыталася як мяне завуць. «Віктар Шніп»,— адказаў

я. «Шнік?» — перапыталася жанчына. «Шніп!» — паўтарыў я. «Шнір?» — «Шніп!» — «Шніл?» — «Не! Шніперзон!» — «А-а-а! Шніперзон. Вельмі прыемна!» — нарэшце пачула мая суразмоўца.

## *Царазабойца*

12.06.2010. Да палавіны дагледзеў фільм Шахназарава «Царазабойца». Далей не стаў, не таму, што фільм не спадабаўся, а таму, што цара і яго сям'ю расстраляюць...

* * *

12.06.2010. Узгадалася. Гадзіны чатыры ночы. Цемра непраглядная. З аднакласнікамі вяртаюся з Еленкі з танцаў. Дарога праз лес. Страшна аж жутка, бо здаецца, што навокал за намі сочаць вурдалакі, якія ў любы момант могуць напасці на нас. І мы ідзём моўчкі і не азіраючыся. І ў мяне перад вачыма, як ікона, постаць аднакласніцы, з якой танцаваў...

## *Валік*

12.06.2010. Даведаўся, што хлопца з Сасноўцаў, які быў падобны да Мулявіна, звалі Валікам. За паўгода да самагубства Валік пачаў казаць знаёмым: «Я абрыд не толькі вам, а ўжо і самому сабе!» І неяк, едучы на матацыкле, п'яны Валік убачыў каля дарогі цыстэрну з аміякам. Спыніўся. Залез на бочку, адчыніў люк і нырнуў у смярдзючую вадкасць. Ад Валіка застаўся матацыкл і шкілет...

## *Мухля*

12.06.2010. Непадалёку ад нашага дома ёсць невялікі парк, які ўсе называюць Мухляй. У парку існуе вадаём. Яшчэ гады тры назад яго рэгулярна чысцілі ад смецця і ў спякотныя дні ў ім купаліся дзеці і падпітыя дарослыя. Побач з вадаёмам на беразе стаяў жалезны, пафарбаваны ў сіні колер, стэнд, які папярэджваў, што купацца нельга. На стэндзе была інфармацыя, з якой можна было даведацца ў які год і колькі чалавек патанула. Цяпер стэнда няма. Ніхто не купаецца, а ў вадаёме плаваюць дзікія качкі і пух ад таполяў. А нядаўна сярод ціны і смецця зацвілі жоўтыя гарлачыкі...

## *Навіны з Пугачоў*

13.06.2010. З Пугачоў тэлефанавала цётка Аля. Расказала, што ўсю ноч бушавала навальніца. На мінулым тыдні ў вёсцы памерлі два мужчыны. Аднаму было 38 гадоў. Лавіў у сажалцы рыбу, седзячы на беразе пад кустом. Вечарам знайшлі мёртвага ў вадзе. Другі мужчына, пенсіянер, ішоў вечарам дахаты і памёр па дарозе. Цётка сказала, што абодва, у свой час, любілі добра выпіць...

## *Скарб*

13.06.2010. Мне было трынаццаць. Начытаўшыся кніжак пра скарбы, я вырашыў закапаць свой сшытак з вершамі пад рабінай на ўзмежку нашых сотак. Мне ўяўлялася, што пройдзе шмат гадоў і нехта знойдзе мае вершы і будзе радавацца такой нечаканай знаходцы. Загарнуўшы сшытак у цэлафан, а цэлафан вымазаўшы ў салідол і паклаўшы гэты скрутак у вялікую бляшанку, я закапаў яго пад рабінай. Месяцы тры кожны дзень хадзіў да свайго скарба правяраць, каб ніхто яго без пары і часу не дастаў. Пачалася зіма. Усё пазамятала, а каля рабіны наогул намяло велізарную гурбу, якая вясной доўга не магла растаць. За зіму я надумаўся, каб мой скарб набыў большую каштоўнасць, да сваіх вершаў дакласці некалькі старых злотых, якія даўно знайшоў у Гаіку ў сметніцы. Дадаўшы злотых да свайго сшытка з вершамі, я зноў засыпаў яму. Восенню да скарба даклаў яшчэ пяцьдзясят капеек драбязой. Праз зіму не пашкадаваў рубля. Закончылася вясна, прайшло лета, і я паехаў у Мінск вучыцца. І перастаў хваляваца за свой скарб...

## *У Беларусі пчолы, як гусі*

14.06.2010. Учора з Людмілай хадзіў на дзень народзінаў да мастака Алеся Квяткоўскага. У майстэрні акрамя нас былі Алесева жонка Вікторыя і філосаф Уладзімір, які праз гадзіну пайшоў у горад па справах. Павінен быў прыехаць літаратуразнаўца Алесь Бельскі і яшчэ некалькі мастакоў, але ў іх не атрымалася выбрацца з дому. Таму кампанія была невялікая, але ўсё ж было каму гаварыць і пра паэзію, і пра карціны. Апошнім часам Алесь малюе пчол. Гледзячы на новыя работы, я сказаў: «У Беларусі пчолы, як гусі!» Сказаў і задумаўся: «Чыё гэта: ці я толькі што прыдумаў, ці паўвека назад Караткевіч?» Сёння на працы пра пчол, што як гусі, пацікавіўся ў Юрася Пацюпы. Ён адразу ж заявіў: «Гэта радок Рыгора Барадуліна!»

*Глебавы*

14.06.2010. З самага ранку патэлефанаваў Ігару Вярсоцкаму, які для кніжкі пра кампазітара Яўгена Глебава, якая выйдзе ў нас, у сваім выдавецтве рыхтуе музычны дыск. Ад Ігара пачуў сумную навіну: 30 мая памёр сын Глебава Радзівон, які быў вельмі таленавітым кампазітарам, але які так і не змог выйсці з ценю геніяльнага бацькі. Жонка Яўгена Глебава Ларыса Васільеўна засталася адна...

*Пятро Ліпай*

14.06. 2010. «Не той паэт, хто піша вершы, а той, хто вып'е першы!» — любіў, гучна смеючыся, казаць пляменнік Пятра Глебкі Пятро Ліпай. І ўжо болей ён гэтых слоў не скажа, бо ён памёр. Быў Пятро чалавекам гаваркім, завадным. Пісаў вершы і песні. Тое-сёе друкавалася, выконвалася на эстрадзе. А памёр Пятро Ліпай пасля таго, як у нейкім піўбары яго моцна пабілі...

*Пра закаханага паэта*

15.06.2010. Учора глядзеў японскі фільм пра закаханага паэта. Сёння нарадзіліся радкі:

*Вы мая адзінота зямная,*
*Вас адну я люблю, як турму,*
*У якой я з-за Вас паміраю,*
*Ды без Вас і на волі памру.*
*І не зменіцца ў Вас анічога,*
*І не спыніцца сонца і час.*
*Не любіце мяне нежывога,*
*Я й жывым быў, як мёртвы, для Вас...*

*Дождж*

19.06.2010. На вуліцы дождж. Каля майго акна высокія дрэвы з густымі галінамі, як марскія водарасці, і я сяджу ў кватэры, як у падводным царстве...

*Бацька і ўколы*

19.06.2010. Паўтары гады, як бацька ў вёсцы жыве адзін. Сёння яго наведалі мае брат з сястрой, Вова і Валя. Пакуль яны корпаліся ў градах, бацька схадзіў да доктаркі на ўколы.

Вярнуўся і прылёг паляжаць. Валя пацікавілася: «Што за ўколы прапісалі? Дарагія?» — «Вітаміны. Надта ж дарагія! Аж па сто дваццаць рублёў!» — адказаў бацька...

*Калі б не камары...*

22.06.2010. Пад шум самотнага дажджу ўзгадаўся Дом творчасці «Іслач» сярэдзіны 90-х гадоў. Лета. 21 чэрвеня. Я з Людмілай і дзецьмі адпачываем. Да нас вечарам у пакой зайшла наша новая знаёмая і прапанавала разам з ёй пайсці і на беразе рэчкі сустрэць раніцу 22 чэрвеня, калі 50 гадоў таму пачалася вайна. І мы пайшлі. Прасядзелі гадзіны тры каля вогнішча, час ад часу паглядаючы ў светлае начное неба і ўяўляючы, як лятуць варожыя бамбавозы. Сядзелі б і даўжэй, калі б не камары...

*Анатоль Жук і нумар тэлефона*

24.06.2010. У мяне на працоўным стале ў выдавецтве ляжыць кніга вершаў артыста Анатоля Жука «Туга» з подпісам: «Віктару Шніпу — Паэту Сапраўднаму, што даволі рэдкая з'ява. З павагай Ан. Жук. 28.04.2008 г.» Час ад часу я заглядаю ў «Тугу» і прачытваю па некалькі вершаў. І заўсёды мне на вочы трапляе нумар тэлефона, які Анатоль пакінуў на развітанне ў кніжцы, папрасіўшы, каб тэлефанаваў, калі яго не будзе ў тэатры. Хутка будзе год, як Анатоля Жука няма на гэтым свеце, а мне ўсё хочацца набраць нумар яго тэлефона...

* * *

26.06.2010. Шустрыя ластаўкі ў высокім блакітным небе, як рыбкі ў вадзе...

*Рудыя штаны*

26.06.2010. З ракаўскай таўкучкі мне мама прывезла абнову — рудыя штаны. Я тут жа іх апрануў і пабег пахваліцца сябрам, якія ўжо сядзелі ў камбайне, што стаяў на вуліцы каля хаты Віцькі Балотніка. Не паспеў я падысці блізка, як пачуліся крыкі: «Манах у рудых штанах! Манах у рудых штанах!» І я, на момант спыніўшыся, пачаў кідаць каменне ў камбайн. Хлопцы не заціхлі, а яшчэ мацней пачалі крычаць: «Манах у рудых штанах!» Не ведаю, чым бы мая вайна з сябрамі скончылася, калі б не выйшаў камбайнёр і не разагнаў нас. Вярнуўшыся дамоў, я са злосцю сцягнуў з сябе рудыя штаны і парваў...

* * *

30.06.2010. Гадоў дваццаць таму ўпершыню ў Мінск прыехаў Данчык. У Палацы прафсаюзаў быў арганізаваны ягоны канцэрт. Народу сабралася поўная зала. Гадзіны тры гучалі цудоўныя беларускія песні. У мяне з сабой быў магнітафон «Вясна» і я ўвесь канцэрт запісаў на касету. Пасля гадзіну ехаў на тралейбусе дамоў з уключаным магнітафонам і ніхто не сказаў мне, што я перашкаджаю, бо гучалі словы: «Не шукай ты мяне каля жытніх палёў, не шукай, не шукай... Калі к сэрцу майму ты дарог не знайшоў, не шукай, не шукай... Не кажы ты мне слоў, што не грэюць цяплом, не кажы, не кажы... Калі сэрца тваё не палае агнём, не кажы, не кажы...» Цяпер слухаю па камп'ютары гэтую песню і бачу на сцэне Палаца прафсаюзаў маладых Данчыка і Анатоля Сыса і мне сумна і светла.

*Сяргей Новік-Пяюн і Вераніка*

30.06.2010. Жывучы побач з Сяргеем Новікам-Пеюном, я з Людмілай і малой Веранічкай часта бываў у яго. Кожны раз Сяргей Міхайлавіч даваў Вераніцы аркуш паперы і алоўкі, каб малявала. А мы, дарослыя, размаўлялі пра літаратуру, слухалі песні паэта ў яго выкананні. Развітваючыся, Сяргей Міхайлавіч акуратна браў малюнкі нашай дачкі і складаў у папку з надпісам «Малюнкі Веранікі Шніп». Паэт верыў, што з малой дзяўчынкі, якая ўсё малюе нейкіх каляровых чарвякоў, атрымаецца сапраўдная мастачка. І ён не памыліўся — сёння наша Вераніка студэнтка трэцяга курса Беларускай акадэміі мастацтваў...

*Сяргей Новік-Пяюн і Максім*

30.06.2010. 1 мая 1993 года ў нас з Людмілай нарадзіўся сын Максім. На другі дзень пасля таго, як Людміла выпісалася з раддома, Сяргей Новік-Пяюн запатрабаваў, каб мы з каляскай падышлі пад ягоныя вокны і паказалі малога. Мы так і зрабілі. А Сяргей Міхайлавіч, як з неба, з вакна сваёй аднапакаёўкі блаславіў на шчаслівае жыццё нашага Максіма. Потым з Максімам і Веранікай мы яшчэ часта бывалі ў паэта, але, на жаль, апошнія месяцы жыцця ён часта хварэў і памёр 26 жніўня 1994 года. Цяпер пытаюся ў сына: «Памятаеш, як мы хадзілі да паэта Сяргея Новіка-Пеюна і ён табе, як і Вераніцы, даваў паперу і алоўкі для малявання?» — «Памятаю»,— адказвае Максім. «А што ты памятаеш?» — пытаюся далей. «Паэта памятаю...» — чую ў адказ...

## ЛІПЕНЬ

### *Бацька і сын*

2.07.2010. Мужчына працаваў у судзе і ягоны бацька да самай пенсіі таксама там жа быў суддзёй. Сабраўшы грошай, стары паехаў адпачываць на Чорнае мора. Праз тыдзень мужчыну прыйшла тэлеграма, што ягоны бацька памёр і трэба яго забраць дамоў. Мужчына пра сваю бяду расказаў на працы і заявіў, што ён не паедзе забіраць бацьку, бо ў яго на гэта няма ні грошай, ні часу. І суддзі самі паехалі ў Крым, забралі і прывезлі труну з памерлым. Мужчына, развітаўшыся з бацькам, сказаў, што ў яго няма грошай і часу на пахаванне і ён хоча, каб памерлага крэміравалі, а урну з прахам ён забярэ і завязе на могілкі, дзе пахавана яго маці. Суддзі зрабілі памінкі, а урну з прахам свайго калегі перадалі мужчыну. Праз два гады мужчына звярнуўся ў суд, бо ў ягоную кватэру залезлі злодзеі. Сярод украдзенага ў спіску была і урна з прахам бацькі абрабаванага...

* * *

2.07.2010. «Час ідзе і лес стары радзее»,— радкі паэта Уладзіміра Марука. Часта іх успамінаю, калі прыходжу ў холдынг «ЛіМ». Вось і ўчора быў. З фотамайстрам Кастусём Дробавым адбіралі здымкі для кніжкі «Хойнікаўшчына літаратурная», што рыхтуецца ў нас у выдавецтве. Амаль гадзіну прабыў у Кастуся. Заходзілі супрацоўнікі «ЛіМа», віталіся, пыталіся пра жыццё-быццё. Хутка будзе сем гадоў, як тут, у гэтых мне родных сценах, я шараговы аўтар. Вельмі шмат усяго тут змянілася, а самае галоўнае — амаль няма тых, з кім я працаваў. Адны звольнены, другія самі звольніліся, а трэція памерлі... А я працаваў у «ЛіМе» амаль дзесяць гадоў...

* * *

7.07.2010. Пачатак 50-х гадоў мінулага стагоддзя. У вясковую краму на Палессі прывезлі некалькі скрынь з гандонамі. Два гандоны можна было набыць за адно курынае яйка. Мінуў тыдзень,

а пакупнікоў як не было, так і няма. І тады крамніца прыдумала, што гэта не гандоны, а модныя гарадскія надзіманыя мячыкі, і дала гандон свайму сыну, каб ён у школе зрабіў рэкламу тавара сярод вучняў. На другі дзень уся школа была засмечана надзьмутымі і лопнутымі гандонамі...

## *Стары інтэлігент і зялёнка*

7.07.2010. Старому інтэлігенту муляры фарбавалі ў кватэры сцены. І, каб колер быў прыгожы, жанчыны параілі гаспадару купіць у аптэцы зялёнкі, якую яны размяшаюць з белай фарбай. І пайшоў стары ў аптэку і нясмела папрасіў у маладой аптэкаркі: «Дайце мне на пяць рублёў зялёнкі...» Аптэкарка, засунуўшы рукі пад прылавак, нешта доўга лічыла, а потым дала пакупніку ладны пакунак. Стары прынёс пакунак дамоў, а там замест зялёнкі цэлая куча гандонаў. І пайшоў стары назад у аптэку і сказаў, што яму прадалі не тое, што ён прасіў. Аптэкарка, забіраючы гандоны, раззлавалася: «Вас, старых інтэлігентаў, цяжка зразумець, што вам дакладна трэба: ці гандоны, ці зялёнка?»

## *Не адзіял*

23.07.2010. «Я не адзіял!» — прачынаючыся пад абед, казаў сам сабе мужчына, які нядаўна стаў пенсіянерам. Крыху пасварыўшыся з жонкай і сказаўшы: «Я не адзіял!», мужчына ішоў у піўбар. Там ён піў да закрыцця. Вярнуўшыся дамоў і пачуўшы ад жонкі: «Зноў напіўся!», казаў: «Я не адзіял!» — і, не распранаючыся, клаўся спаць, каб заўтра зноў прачнуцца пад абед і сказаць сваё: «Я не адзіял!»

## *Жыццё...*

27.07.2010. На прыпынку з букетам, загорнутым у газету, сустрэў Ларысу Васільеўну Глебаву. Дзесяць гадоў таму ў яе памёр муж, кампазітар Яўген Глебаў. Мінула ўжо больш сарака дзён, як жанчына пахавала адзінага сына, Радзівона, якому было сорак чатыры гады. Сёння яна ехала на пахаванне хроснай сына...

## *Дзяўчына з сабачкам*

28.07.2010. Кожны вечар суседчына дачка, нядаўняя школьніца, выводзіць на Мухлю сабачку. «Па дзве, а то і па тры гадзіны выгульвае!» — радуецца суседка. Я маўчу, хоць ужо

колькі разоў бачыў яе сабачку, прывязанага да лаўкі, на якой дзяўчына абдымалася з белабрысым хлопцам...

* * *

29.07.2010. На вуліцы пад вокнамі мужчына косіць траву. Газонакасілка раве, нібыта пілуе дровы...

## *Дзеці і мова*

29.07.2010. Гэта было тры гады таму, калі я на цягніку ў плацкартным вагоне вяртаўся з Крыма. Побач са мной каля вакна ехала маладая сямейная пара ўкраінцаў з сынам гадоў васьмі. Яны паміж сабой размаўлялі па-руску. Хлапчук-непаседа ўвесь час ірваўся з кім-небудзь пагуляць. Непадалёку ад нас ехалі дзве пажылыя беларускі з унукам гадоў дзесяці. Праехаўшы з паўгадзіны, малы ўкраінец паклікаў да сябе малога беларуса. І яны пачалі гуляць з машынкамі і паміж сабой размаўляць — адзін чыста па-ўкраінску, а другі на беларускай трасянцы. Да ўсяго малы ўкраінец пачаў вучыць малога беларуса, як трэба вымаўляць некаторыя словы па-ўкраінску. Беларус слухаўся і стараўся. Добрую дзіцячую кампанію недзе праз паўтары гадзіны парушыла маці-ўкраінка, сказаўшы: «Малы хахол, пара ўжо спаць!»

## *Літаратурныя прарокі*

30.07.2010. Людміла купіла кніжку «Литературные пророки». Пачытаў. Змест страшны — усё пра смерць. Адразу ўзгадаў сваё:

*Гэта наша з табою вясна маладая,*
*Гэта наша з табой, гэта наша з табой*
*Зорка ў небе ўзышла, як страла залатая.*
*Я памерці хачу ад стралы залатой,*
*Не ад змроку, што ў цесных, як норы, пакоях,*
*У якіх мы жылі, у якіх мы жывём*
*І чакаем вясны, быццам казачных вояў,*
*Што святло прынясуць нам у кожны наш дом.*

Гэта было напісана 9 сакавіка 2001 года. Адшукаў і ранейшае (1988): «І памру ад лютае жуды». Пасля гэтага было: «Напішу вар'яцкіх вершаў — і памру». А сабраўся ж я жыць 107 гадоў...

* * *

30.07.2010. Заўтра ўсёй сям'ёй ідзём на вяселле. Жэніцца сын маёй сястры Валі. Даўно на вяселлях не быў, таму неяк на душы неспакойна, нібыта сам буду жаніцца...

### *Не гарыць, а выгарае...*

30.07.2010. Па тэлевізары паказваюць, як выгарае Расія. Жудасна! Узгадалася, што недзе гадоў пятнаццаць назад і ў нас пад Мінскам гарэлі балоты і ў горадзе смярдзела дымам. Мы тады былі ў Доме творчасці «Іслач» з малымі дзецьмі. Вечарам было страшнавата класціся спаць. Аднак тое, што творыцца ў суседняй краіне — гэта непараўнальная бяда, з якой самому чалавеку і не справіцца. Толькі праліўныя дажджы спыняць агонь. А дажджоў няма, і Расія выгарае...

## ЖНІВЕНЬ

* * *

2.08.2010. У суботу ўсёй сям'ёй ездзілі на вяселле. Яно было незвычайнае. Задоўга да падзеі мучыўся пытаннем: «Што буду рабіць паўдня сярод амаль ста чалавек, якія не п'юць?» І, калі вяселле закончылася, а яно праляцела хутка і весела, пачуў ад сына: «Я хачу, каб, калі буду жаніцца, і ў мяне на вяселлі ніхто не піў!»

### *Горача*

4.08.2010. У маім дзяцінстве ў вёсцы ўсё лета амаль усе дзеці хадзілі ў адных трусах: хто ў чорных, хто ў сініх. І ўсе мы былі такія загарэлыя і мурзатыя, што часам дарослыя вяскоўцы не пазнавалі, чые мы. І лета было такое доўгае, як сцяжына ў спёку да сажалкі за вёскай, і такое кароткае і імклівае, як цень ад хмурынкі, што на хвіліну схавала сонца. І, узгадваючы леты свайго дзяцінства, мне і сёння горача ў ногі ад таго пылу і пяску, па якім мы, дзеці, хадзілі босыя і ў адных трусах...

* * *

4.08.2010. Гарачыня. Думкі ў галаве, як сытыя пчолы ў гаршку з мёдам...

* * *

4.08.2010. Сёння на працы цішыня. Ніхто з аўтараў не турбуе, нібыта спякліся...

### *Наш Максім і адпачынак*

4.08.2010. Сёння адправілі сына ў юнацкі лагер у Балгарыі. Задоўга да паездкі я змог прачытаць усю праграму сынавага адпачынку. Кінулася ў вочы і засталося ў галаве, што кожны вечар будзе паказвацца «Танец жывата». Адразу ўзгадаўся наш

сямейны адпачынак на Нарачы, калі Максіму было дзесяць гадоў. Жылі, як людзі, пакуль Максім не вычытаў абвестку пра конкурс прыгажосці. Пайшлі. Пасля конкурсу былі танцы і наш Максім стаў танцаваць з самай прыгожай дзяўчынкай. Яна была з дзіцячага дома і на Нарачы адпачывала з кучай гэткіх жа сірот, як і сама. Зразумела, што дзетдомаўскія хлопцы адразу ўбачылі ў Максіме канкурэнта, таму да самага канца адпачынку даводзілася мне і Людміле час ад часу ахоўваць свайго сына, калі ён сустракаўся з прыгажунькай. Дзяўчынку звалі Даша. Ад'язджаючы дамоў, Максім абмяняўся з новай сяброўкай тэлефоннымі нумарамі, але, прыехаўшы дамоў, заўважыў, што дзяўчынка не пазначыла, з якога яна горада. Доўга наш Максім чакаў званка ад Дашы, але так і не дачакаўся...

## *Кожны дзень...*

5.08.2010. На працы праз акно бачу карчму, зробленую ў вясковым стылі. На вуліцы стаіць печ, каля печы сабачая будка, у якой, прывязаным за нагу, жыве певень. Кожны дзень у печы смажаць яешню і кураціну. Кожны дзень певень кукарэкае: ці то ён радуецца, што ў яго іншы лёс, чым у яго братоў і сясцёр, ці злуецца, гледзячы на людзей і агонь у печы...

## *І яшчэ адзін пісьменнік...*

6.08.2010. У выдавецтва да мяне прыязджаў з Талачынскага раёна мужчына гадоў пяцідзесяці, які выглядае на гадоў семдзесят. Загарэлы да чарнаты, бо цэлы дзень на прыродзе — пасе кароў. У роце тры зубы — два зверху, адзін знізу. Мужчына прывёз пятнаццаць сшыткаў па дванаццаць старонак са сваімі творамі. «У мяне вочы баляць, таму я ў сказах не стаўлю ні кропак, ні косак. Вы маладзейшы і ваша такая работа — расстаўляць кропкі і коскі!» — сказаў мужчына і пачаў расказваць, пра што ён піша. А піша ён пра кароў, якія, калі вельмі горача, дрэнна дояцца. Піша пра базы дадзеных, якія знаходзяцца ў космасе, дзе збіраецца ўся наша разумовая энергія. Развітваючыся са мной, мужчына прапанаваў: «Калі вы захочаце ругаць нячыстую сілу, то ругайце яе ад майго імя. Яна мяне баіцца!»

## *«Няверная»*

6.08.2010. Бамжаватага выгляду мужык услед за мной зайшоў у краму. Я купіў пляшку квасу, а ён — чарніла. Чытаю этыкетку:

«Няверная». Мужык, заўважыўшы, што гляджу на яго пляшку, вышчарыў ва ўсмешцы адзіны зуб у роце...

*Зімой і летам*

6.08.2010. Гляджу фотаздымкі задымленай Масквы. Людзі ходзяць у павязках. Дым, як снежнае мроіва, што было мінулай зімой, калі таксама людзі хадзілі ў павязках, ратуючыся ад свінога грыпу...

*Каму горача, а каму і не...*

8.08.2010. Дзесяць гадзін раніцы. Гарачыня. Стаю, хаваючыся ад сонца, на прыпынку каля крамы «Падмурак», якая месціцца ў падвале. Вуліца была б бязлюднай, калі б з крамы, як з таго свету, раптам не выйшла чалавек дваццаць мясцовых алкаголікаў з поўнымі пляшкамі ў руках, нібыта з букетамі...

*Ці будзе канец свету?*

8.08.2010. Па тэлевізары ў навінах паказваюць, як у Еўропе дажджы затапліваюць гарады і вёскі і як выгарае Расія. Пытаюся ў мамы, ці будзе канец свету. Яна махае рукой і кажа: «Не будзе!» — «А чаму?» Мама маўчыць...

*Адкрыць Амерыку*

9.08.2010. Сны, як рэальнасць. Рэальнасць, як сон. Нічога новага. А ты сядзіш і, не выходзячы з кватэры, спрабуеш свету адкрыць Амерыку, яшчэ не адкрыўшы для сябе Беларусь...

* * *

9.08.2010. Тыдзень таму сына адправілі на мора ў Балгарыю. Не тэлефануе і не піша праз інтэрнэт, а нам з ім не звязацца. «Відаць, ужо ў нейкую закахаўся!» — кажу Людміле і чую: «Наш можа...»

*Два Юры*

11.08.2010. Узгадалася. Неяк прыходжу на працу ў «ЛіМ», а каля дзвярэй холдынга ўжо стаяць два нашы куратары, два Юры. У аднаго ў руках сігнальны нумар часопіса «Полымя» з маімі вершамі, і куратар, не вітаючыся, задае пытанне: «Гэта вы

самі напісалі такія вершы?» — «Якія?» — нібыта нічога не разумеючы, кажу я. «А вось гэтыя!» — Юра падсоўвае мне пад нос разгорнутае «Полымя». «Калі тут напісана маё прозвішча і мой здымак, дык гэта мае вершы!» — «Я ў вас пытаюся, вы самі іх пісалі?» — «Сам. А што такое?» — «І колькі вам за іх заплацілі?» — «Пакуль яшчэ не плацілі...» — «А колькі заплоцяць вось за гэты верш?» — цікавіцца Юра і паказвае на верш «Беларускае мора». Я нейкі час маўчу, бо думаю, якую лічбу назваць (завысіць ці занізіць, ці праўду сказаць), а потым і кажу: «За гэты верш будзе тысяч дзесяць, а можа і меней».— «Як гэта дзесяць тысяч?! Мы вам даем за гэты верш трыста тысяч, толькі дазвольце нашаму гурту яго спяваць!» — «Ну добра. Давайце трыста тысяч»,— задаволена ўсміхаюся, а два Юры, зайшоўшы за мной у мой рэдактарскі кабінет, замыкаюць дзверы і пачынаюць спяваць «Беларускае мора», і так хораша, што ў мяне па спіне мурашкі забегалі. Пасля гэтых спеваў у Юраў змяніліся да мяне адносіны і самае галоўнае — яны перасталі кожную хвіліну стаяць над маёй душой. Праўда, за верш «Беларускае мора» ў «Полымі» мне заплацілі дзесяць тысяч, бо бухгалтэрыя не паслухалася двух Юраў...

## *Праведалі дзядзьку*

15.08.2010. Дзядзьку Віцю 77. Жыве ён у Лягезах у бацькоўскай хаце з жонкай Стасяй, якая на гадоў дзесяць маладзейшая за яго. Цяпер у іх гасцюе малая праўнучка Карына. Нядаўна дзядзька ехаў на ровары ў Бакачы ў краму і па дарозе з гары паваліўся і паламаў рэбры. Я з Людмілай, Барысам Пятровічам і яго жонкай прыехалі праведаць пабітага. Дзядзька Віця ў добрым настроі сустрэў нас на вуліцы. І пакуль цётка Стася рыхтавала на стол, мы слухалі дзядзькавы расповеды. Даведаліся, што печ, на якой я ў дзяцінстве ляжаў з бабуляй Ганнай і слухаў яе казкі, была пакрыта рудой з прыгожым узорам кафляй яшчэ пры паляках. Узгадалася, што да вайны, па словах маёй мамы, у сям'і бабулі Ганны і дзеда Міхася было не толькі васьмёра дзяцей, але і літровая пляшка золата...

## *Яршоўка*

15.08.2010. Паўз Лягезы праз алешнік працякае невялічкая рачулка Яршоўка. У дзяцінстве нярэдка цэлымі днямі я сядзеў каля яе і глядзеў на ваду. І я вырашыў паказаць сваім сябрам і жонцы Яршоўку. Прыйшлі. А рачулкі і няма. Толькі рэчышча з белым пяском і заімшэлымі камянямі. Пасля ўжо дзядзька Віця

расказаў, што за Лягезаўскай гарой, дзе пачынаецца Яршоўка, бабры зрабілі велізарную плаціну і ўвесь луг і кустоўе затапілі. Цяпер там чатыры бабрыныя хаткі...

*Усе мы родам з дзяцінства...*

16.08.2010. Вяртаюся з працы. Гарачыня, хоць і вечарэе. Заходжу ў тралейбус і чую: «Я хачу на мора! Я хачу на мо-о-ра!! Я хачу на мо-о-о-ра-а-а!!!» Гляджу: «Хто ж гэта так раве?» А раве малы гадоў чатырох. У яго ўзросце, гадуючыся ў бабулі Ганны ў Лягезах, я не толькі не ведаў, што на свеце ёсць мора, а і пра Мінск нічога не ведаў і наогул я не ведаў, што ёсць яшчэ нейкія людзі акрамя тых недзе сарака чалавек, сярод якіх я жыў...

*А можа...*

17.08.2010. У сталоўцы каля сваёй працы сустрэў фатографа Анатоля Каляду, ссівелага і амаль бяззубага, і ўсё ж элегантнага, як гадоў 15 назад, калі ён супрацоўнічаў з «ЛіМам», дзе я працаваў. Сярод фотамайстроў Анатоль нейкі няспешны і непладавіты. Ён ёсць і нібыта яго і няма. А можа так і трэба ў гэтым жыцці: не спяшацца і не вытыркацца?

*Ранішняе*

17.08.2010. Яна стаяла на прыпынку сярод людзей. І, калі Ён заходзіў у патрэбны яму аўтобус, іх позіркі сутыкнуліся, і ў яго па душэўным спакоі разбегліся агністыя трэшчыны. Пакуль дзверы ў салон не зачыніліся, а гэта было секунды чатыры, Яна некалькі разоў зазірнула яму ў вочы і павярнулася бокам, гарэзна-ганарліва задзёршы свой востры прыгожы носік, нібы кажучы: «Падабаюся? Дык выходзь з аўтобуса!» І не паспеў Ён вырашыць, што рабіць далей, як у аўтобуса зачыніліся дзверы, і Ён паехаў. Яна ж адразу павярнулася спінай да яго, нібы паказваючы сябе ззаду і гаворачы: «Запомні мяне такую!»

*Вельмі сумна...*

22.08.2010. Сёлета за восем месяцаў у маіх Пугачах і ў навакольных вёсках сышло на той свет шэсць чалавек. І ўсе з-за п'янкі. Тыдзень назад камбайнёры, якім захацелася пакаштаваць яблыкаў на хутары, знайшлі ў садзе саракагадовага мужчыну, былога трактарыста, які павесіўся. Вісеў ён, відаць, ужо недзе з тыдзень, бо вароны паспелі яму выдзеўбці вочы і ён сам добра

падгніў. Вісельнік раней жыў у вёсцы, выпіваў і гэтым летам, пасля таго як па п’янцы разбіў трактар, яго выгналі з працы. Беспрацоўны перабраўся на хутар да такой жа жанчыны, з якой цэлымі днямі піў. Што там адбылося, пасля чаго павесіўся мужчына, ніхто не ведае, бо ягоная сяброўка нават не заўважыла, што яна адна працягвае піць. Да канца года яшчэ чатыры месяцы...

* * *

23.08.2010. 1 верасня еду ў Маскву. Паціху збіраюся ўжо цэлы тыдзень. Адчуванне, нібыта зноў еду ў Літінстытут на вучобу...

* * *

23.08.2010. Успомнілася. 1984 год. Цягнік «Мінск—Масква». У купэ на Усесаюзны семінар маладых літаратараў еду з Леанідам Галубовічам. З намі Сяргей Дубавец, Алесь Асташонак, Міхась Барэйша, Уладзімір Саламаха, Вадзім Спрынчан, Хрысціна Лялько і яшчэ некалькі чалавек. Не памятаю, пра што мы гаварылі ўсю дарогу, але запомніўся вершаваны радок Галубовіча: «Колькі ўжо гадзін еду і еду ў бок Масквы, а сонца ўсё няма і няма...»

### *Трахімёнак і дзяржаўны сакрэт*

25.08.2010. У «Доме прэсы» быў на прэс-канферэнцыі пісьменніка Сяргея Трахімёнка. Гаварылі пра ягоныя кнігі, што выйшлі ў «Мастацкай літаратуры» і ў холдынгу «ЛіМ». Ад Сяргея Аляксандравіча, як ад прафесійнага разведчыка, прысутныя даведаліся, што амерыканскіх шпіёнаў у Савецкім Саюзе распазнавалі (а гэта раней быў дзяржаўны сакрэт) па падробленых пашпартах, якія былі цалкам, як савецкія, але яшчэ лепшыя. Лепшыя тым, што амерыканцы скарыстоўвалі сашчэпкі з нержавейкі, а ў нас яны былі жалезныя, якія праз два-тры месяцы пачыналі ржавець. Словам, калі твой пашпарт не ржавее, то ты не наш чалавек...

### *Прыкметы восені*

26.08.2010. У сённяшнім дні ўбачыў новую прыкмету надыходзячай восені — на вуліцах і ў транспарце стала шмат студэнцкай моладзі...

## *Хутка ў школу...*

28.08.2010. Праз некалькі дзён дзецям зноў ісці ў школу. Спрабую ўспомніць свой першы школьны званок і не магу. Затое добра памятаю выпускны вечар. Мне ў той дзень выпала пасвіць кароў у радоўцы, таму на мерапрыемствах, якія былі днём у школе, я не быў. Вечарам, прыгнаўшы з радоўкі кароў і пераапрануўшыся ў касцюм, пайшоў у клуб. Упершыню сам запрасіў танцаваць Зою Шымель, у якую быў закаханы. Танцаваў з аднакласніцай некалькі разоў, і яна мяне запрашала на белы танец, але я так і не сказаў ёй ні слова...

## *Танцы ў час дажджу*

28.08.2010. У дажджлівае надвор'е ў вёсцы добра было хадзіць на танцы. У клубе не падымаўся пыл і не было задухі. І, калі пачыналася бойка, то чырвоныя ад крыві кашулі можна было мыць у струмені вады, што сцякаў з клубнай страхі. Байцом я не быў, але...

## *Клуб у Татарскіх*

28.08.2010. У Татарскіх клубам была звычайная з печкай хата, у якой ніхто не жыў. Неяк, расказваючы пра сваё юнацтва жонцы, вырашыў паказаць ёй клуб у Татарскіх. Прыйшлі. А на месцы хаты, сярод быльнягу адна белая печка з чорнай трубой, як помнік таму, што было і ніколі ўжо не паўторыцца...

## *У «Сталіцы»*

28.08.2010. З Людмілай хадзілі ў «Сталіцу». Яна ў крамах разглядала абутак і адзенне, а я жанчын...

## *На хвіліну...*

28.08.2010. Змрочна. Дробны дождж. З «Чырвонага касцёла» пасля вянчання выйшлі маладыя. Маладыя і прыгожыя. Мы з Людмілай на хвіліну спыніліся, нібы жыццё для нас спынілася на хвіліну...

# ВЕРАСЕНЬ

* * *

2.09.2010. Масква. Беларускі вакзал. Шэсць гадзін раніцы. Мы з Зосяй Куставай і Аленай Казак толькі што выйшлі з вагона. Сунемся з натоўпам. Таксісты прапануюць падвезці. Пытаемся пра кошт і адмаўляемся. Дарага. Спадзяемся на метро. А там вар'яцкая чарга і мы вяртаемся да таксістаў. А іх ужо няма. І раптам да нас падыходзіць высокі мужчына і, даведаўшыся, што нам трэба ў гасцініцу «Турыст», просіць тысячу. Лена Іванаўна, а яна ў нас у «Мастацкай літаратуры» галоўны бухгалтар, кажа: «Даём шэсцьсот!» — «Мала! Тысяча і ўсё тут!» — «Раз так, то мы і на метро можам заехаць!» — «Няхай будзе не па-вашаму і не па-мойму! Восемсот!» — «Шэсцьсот і не больш!» — «Давайце за семсот!» — кажа мужчына. «Не! Шэсцьсот!» — «Семсот!» — «Ну, тады за шэсьсот пяцьдзясят!» — прапануе Лена Іванаўна і таксіст, махнуўшы рукой у знак згоды, бярэ ў нас найбольшую сумку і вядзе да машыны. «Калі б вы не былі маёй апошняй надзеяй зарабіць, то я б вас за такія грошы не павёз!» — кажа таксіст і, выехаўшы з прывакзальнай плошчы, націскае на газ. Па Маскве едзе на хуткасці 100-110 кіламетраў у гадзіну. Не дзіўлюся, бо калі ехаць так, як ездзяць у нас, то цябе іншыя машыны сапхнуць з дарогі...

## *Гасцініца «Турыст»*

2.09.2010. Гасцініца «Турыст» — падрамантаваны савецкі будынак, у якім яшчэ дваццаць гадоў назад спыняліся з Саюзных рэспублік пераможцы сацыялістычных спаборніцтваў. Цяпер за 100 даляраў у суткі ў «Турысце» пасяліцца можа любы, каму ў Маскве няма дзе жыць. Праўда, «Турыст» — гэта не адна гасцініца, а сем. Я жыў у корпусе № 1. Мой нумар быў двухмесны, з просценькім тэлевізарам, з савецкім халадзільнікам, з графінам на стале і двума стаканамі. Было адчуванне, што я, пасяліўшыся ў «Турысце», трапіў у васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя...

*Станцыя метро «Пушкінская»*

2.09.2010. У Маскве станцыя метро «Пушкінская» адна з самых глыбокіх. І я з яе доўга еду на эскалатары ўверх, нібыта вяртаюся з таго свету...

*Пушкін і Красная плошча*

2.09.2010. Вечарам, пасля кніжнай выставы, я, як былы жыхар Масквы, павёў у метро на станцыю «Батанічная» Навума Гальпяровіча, Зосю Куставу і Алену Казак, каб заехаць на Пушкінскую плошчу. Дваццаць гадоў, якія мінулі пасля таго, як я жыў тут, далі знаць пра сябе, таму давялося зрабіць пяць перасадак, каб даехаць у патрэбнае места. Выйшлі з метро. Дзе ж помнік Пушкіну? Ледзьве разгледзеў з-за рэкламнага смецця. Расказаўшы дзе і што, павёў сваю кампанію на Красную плошчу. Гулялі больш за гадзіну. Назад вярнуліся, зрабіўшы ў метро адну перасадку...

*Літінстытут*

3.09.2010. У праграме Маскоўскай кніжнай выставы было запланавана і наведванне беларускімі пісьменнікамі Літінстытута. У патрэбны спіс я не трапіў і, едучы ў Маскву, планаваў знайсці час, каб самому пахадзіць па калідорах і аўдыторыях, дзе вучыўся. А тут раптам у першы дзень прыезду вечарам падыходзіць да мяне Сяргей Трахімёнак і кажа: «Паехалі заўтра ў Літінстытут!» — «Мяне ж у спіску няма!» — «Ну і што! Ты ж там вучыўся! Паехалі!» — «А хто з намі будзе яшчэ?» — «Нікога! Астнія хочуць выступаць на выставе. Няхай выступаюць, а мы з табой з'ездзім!» Доўга не думаючы, даў згоду. Назаўтра ранкам па нас прыйшла машына з беларускай амбасады. Шафёр не ведаў дарогі да Літінстытута, і мне давялося яму расказваць як ехаць. Прыехалі без спазнення. Нас сустрэў паэт Валянцін Сарокін, які працаваў у Літінстытуце яшчэ тады, калі я вучыўся. Канферэнц-зала была поўная. Цяпер на пісьменнікаў вучыцца каля тысячы чалавек. У зале былі дзве студэнткі з Беларусі — адна з Віцебска, а другая з Брэста. Іхніх прозвішчаў з вершамі ў нашым друку не сустракаў. Кінулася ў вочы, што раней выкладчыкі выглядалі гаспадарамі і студэнты іх пабойваліся, а цяпер выкладчыкі нейкія няўпэўненыя, а студэнты паводзяць сябе па-гаспадарску. Магчыма, таму, што амаль палова вучыцца за свой кошт...

* * *

3.09.2010. Ідучы па калідоры Літінстытута, адчуў сябе студэнтам, які, у свой час не давучыўшыся да канца, раптам праз дваццаць гадоў успомніў, што яму засталося толькі здаць залік па літаратуры і ён атрымае чырвоны дыплом...

* * *

3.09.2010. Амаль у самым цэнтры Масквы будуецца велізарная мячэць...

### *У Данскім манастыры*

3.09.2010. У Маскве, будучы ў раёне Данскога манастыра, не змог абмінуць гэта святое месца. Зайшоў. Толькі што закончылася служба. З царквы выйшла чалавек дваццаць. У большасці жанчыны і старыя. Заглянуўшы на хвіліну ў Храм, пайшоў паглядзець манастырскія могілкі. Пафатаграфаваў. На выхадзе сустрэўся з ахоўнікам, які не паспеў мне нічога сказаць, бо я задаў пытанне: «А хто тут з вядомых пісьменнікаў пахаваны?» Мужчына, на момант задумаўшыся, запытаўся: «Салжаніцын пісьменнік?» — «Пісьменнік!» — «Ён тут пахаваны».— «А хто яшчэ?» — «Я не ўпаўнаважаны ведаць пра тых, хто тут пахаваны» — адказаў ахоўнік і папрасіў мяне пакінуць тэрыторыю могілак...

* * *

4.09.2010. Ходзячы па Маскоўскай кніжнай выставе, лаўлю сябе на думцы, што я, беларус, тут ужо замежнік...

### *За дваццаць гадоў...*

4.09.2010. За дваццаць гадоў, якія не быў у Маскве, горад змяніўся — аброс капіталістычным рэкламным смеццем, праз якое праглядваецца шэры Савецкі Саюз...

### *Дзве хойніцкія дарогі*

6.09.2010. Па дарозе ў Хойнікі аўтобусы з гасцямі з Мінска на мяжы Гомельскай і Магілёўскай абласцей сустрэла міліцыя. Нас суправаджалі па дарозе, абапал якой, недзе за кіламетраў пяцьдзясят да сёлетняй сталіцы Дня беларускага пісьменства, было на што паглядзець. Гэта і плакаты з віншаваннямі, і

вялікія самаробныя лялькі ў нацыянальных строях, і цытаты з твораў класікаў беларускай літаратуры. Праязджаючы побач з Глінішчамі, можна было ўбачыць расфарбаваны аўтобусны прыпынак з вялікім намаляваным партрэтам Івана Мележа. На наступным прыпынку быў партрэт Якуба Коласа. На трэцім — Міколы Мятліцкага. А далей былі прыгожыя вобразы паляшучак і буслоў. Назад у Мінск мы вярталіся карацейшай дарогай, абапал якой шумелі бярозы ды сосны...

* * *

8.09.2010. У другой палове працоўнага дня зайшоў Леанід Маракоў і падарыў свой энцыклапедычны даведнік «Рэпрэсаваныя медыцынскія і ветэрынарныя работнікі Беларусі 1920—1960», які толькі што выйшаў у выдавецтве «Медысонт». Таміна ўражвае і візуальным аб'ёмам у 900 старонак, і сваім зместам. Лёня малайчына! Працуе за добрую сотню навукоўцаў. Гэта яго 28 кніжка. Гадоў пятнаццаць таму Маракоў быў паспяховым бізнесоўцам і раздаваў направа і налева падарункі. А цяпер зайшоў да мяне папрасіць хоць якой паперы, каб раздрукаваць раздзелы новай кнігі...

* * *

9.09.2010. Некаторыя новыя высотныя дамы ў Маскве, калі на іх глядзіш здалёку, здаюцца вылезлымі з зямлі і абсечанымі тунэлямі метро...

### *Алесь Наўроцкі*

10.09.2010. У дзесяць гадзін раніцы ў кабінет зайшоў незнаёмы, пажылы, у зялёнай куртцы мужчына і запытаўся: «Вы Віктар Шніп?» — «Я».— «А я Алесь Наўроцкі. Хачу ў вас у выдавецтве адшукаць свой рукапіс, які я тут пакінуў гадоў дзесяць назад Марчуку. Ліна Каўрус казала, што яшчэ тады яго здалі ў архіў. Дапамажыце адшукаць»,— сказаў паэт, які ў 1978 годзе, пратэстуючы супраць прымянення псіхіятрыі ў палітычных мэтах, выйшаў з Саюза пісьменнікаў. Пасля гэтага ў 1981 годзе яго прымацавалі да псіханеўралагічнага дыспансера і пазбавілі працы ўрача. Ну а потым паэта перасталі друкаваць. На маё пытанне, што ён цяпер піша, адказаў: «Займаюся вершамі. Напісаў паэму памерам з «Васю Цёркіна». Нікуды не нясу, бо ведаю, што ніхто не надрукуе праўду. Вершы пішу па-беларуску. Іх у мяне сабралася разам з паэмай каля 20 аркушаў. Прозу пішу па-руску і проста, як Якуб Колас». Пакуль мы шукалі патрэбную папку з творам, да нас прыйшоў Юрась Пацюпа з Яўгенам Гучком, якія пачалі цытаваць

вершы Алеся Наўроцкага з кнігі «Неба ўсміхаецца маланкаю». Алесь Піліпавіч задаволена ўсміхаўся і наогул узрадваўся, калі адшукалі ягоны рукапіс з прозай. Развітваючыся, дамовіліся, што паэт прынясе ў выдавецтва ненадрукаваныя вершы...

### *У Крэўскім замку*

11.09.2010. Дробны дождж, як дымнае мроіва, што прынесена ветрам з нашага далёкага мінулага. На дзядзінцы амаль разбуранага Крэўскага замка пасецца чорны конь. І я іду да яго, нібыта апошні абаронца зямлі беларускай...

### *Ахоўваецца...*

11.09.2010. На рэштках сцен Крэўскага замка вісіць шыльда, на якой напісана, што замак ахоўваецца дзяржавай. А дзе ж ахоўнікі? Разбуральнікі прыехалі!

* * *

11.09.2010. Стаю на рэштках сцяны Крэўскага замка. Варожыя стрэлы пралятаюць праз мяне...

* * *

11.09.2010. У свой час у Барунах на святара вучыўся мой зямляк паэт Пятро Бітэль. Будынак, у якім ён жыў і маліўся, глядзіць на прыезджых разбітымі вокнамі, за якімі яшчэ жыве наша невядомая Беларусь...

* * *

11.09.2010. У траве Гальшанскага замка велізарныя слімакі, як камяні, якія ажылі...

### *Жабкі ў Гальшанах*

11.09.2010. У траве скачуць жабкі, як зачараваныя чужынцы, што хацелі захапіць Гальшанскі замак...

### *Гальшанскі замак і Караткевіч*

11.09.2010. Хаджу па Гальшанскім замку і побач з сабой бачу Уладзіміра Караткевіча. Ён маладзейшы за мяне, і я нагляддаю за ім, каб ён часам не ўпаў з пашкоджаных сцен замка

і не разбіўся. Караткевіч яшчэ не напісаў раман «Чорны замак Альшанскі»...

* * *

12.09.2010. У пятніцу, 10 верасня, хадзіў у музычную школу № 10 на прэзентацыю кнігі пра кампазітара Яўгена Глебава, якая выйшла ў «Мастацкай літаратуры». Карэспандэнтка з радыё, якая рабіла перадачу пра імпрэзу, узяла інтэрв'ю і ў мяне, але перад размовай запыталася: «На каком языке будзіте гаварыць?» — «Што за пытанне! Па-беларуску!» — адказаў я, і дзяўчына на добрай беларускай мове пачала задаваць мне пытанні. У канцэртнай зале народу, на жаль, было зусім мала. Некалькі кампазітараў і выкладчыкаў, а таксама некалькі сяброўак Ларысы Васільеўны. І калі б не прывялі чалавек трыццаць суворaўцаў, то зала была б амаль пустая. Тэлебачанне прыехала толькі тады, калі закончылася прэзентацыя. І я вяртаўся дадому з адчуваннем, што нікому нічога не трэба — ні наша літаратура, ні цудоўная музыка Яўгена Глебава...

* * *

13.09.2010. Ідучы з працы, сустрэў Хрысціну Лялько. У свой час, дзякуючы ёй, пасля вучобы ў Літінстытуце я трапіў на працу ў часопіс «Беларусь». На пытанне, што новае пішаш, Хрысціна адказала: «На вялікія празаічныя рэчы няма часу. Пішу вершы». І было хацеў ёй сказаць, што вершы могуць і іншыя пісаць, а вось апавяданні, дзякуючы якім Хрысціна Лялько стала празаікам Хрысцінай Лялько, можа пісаць толькі яна, але прамаўчаў...

## *Грэчка*

13.09.2010. Людзі пачалі скупляць грэчку. Хто па кілаграму, хто па два, хто па пяць, а хто і болей. Я не купляю зусім, бо не адной грэчкай жыве чалавек...

## *Абарыгены і каланізатары*

19.09.2010. З крамы вяртаюся дамоў праз сквер. Праходжу міма двух кудлата-барадатых бамжоў, якія сядзяць на лаўцы, як абарыгены, і глядзяць на прахожых, як на каланізатараў...

## *Піражкі*

20.09.2010. Абедаю ў сталовай каля сваёй працы. Маладая кухарка, несучы паднос з піражкамі, зачапілася за мой позірк і

рассыпала піражкі. Тут жа сабрала піражкі з падлогі на паднос і панесла далей...

*Радня*

27.09.2010. Дзядзька Славік, скончыўшы сельскагаспадарчую акадэмію, паехаў з сям'ёй у Амурскую вобласць. Жыў ён там гадоў пяць. Быў немалым начальнікам. Вярнуўшыся на некалькі дзён у Пугачы, зноў з'ехаў з дому. На гэты раз на Украіну ў Луганскую вобласць. Гадоў дзесяць таму там і памёр. Там і пахаваны. Засталася цётка і пяцёра дзяцей. Усе Шніпы. Дзе яны цяпер і што робяць — не ведаю. Няма ні тэлефона, ні адраса...

*Без лірыкі...*

27.09.2010. У сталовай раптам узгадалася Масква. Кафэ «Ліра». Сюды амаль кожны дзень пасля вучобы ў Літінстытуце я прыходзіў і купляў сасіскі з бульбай. Цяпер на месцы «Ліры» МакДональдс...

*Мужчына і музыка*

27.09.2010. Ён пісаў музыку. Яму было 43 гады. 700 кіламетраў за рулём у Маскву і 700 назад. Вярнуўся вечарам. Глядзеў Еўрабачанне з маці, якая і адпраўляла яго ў Маскву па справах. Слухаў песні і піў гарэлку, каб расслабіцца пасля нялёгкай дарогі. Расслабіўшыся, пайшоў у свой пакой і лёг спаць. Раніцай мужчына не прачнуўся. Хавалі з крэматорыя, дзе гучала музыка, напісаная ім....

*Магчымасць і жаданне*

28.09.2010. На вуліцы грыбны дождж. А я на працы чытаю рукапіс аповесці пра тое, як добра жывецца ў замежжы. У замежжа не хачу. Хачу ў грыбы. І паехаў бы ў лес, але ж я на працы і мне трэба займець сваю думку пра рукапіс аповесці пра замежжа, у якім добра...

*Жывыя і мёртвыя*

28.09.2010. Гледзячы на поўныя шафы рукапісаў, прыйшоў да думкі: «На сённяшні дзень у выдавецтве намнога болей мёртвых рукапісаў, чым жывых аўтараў...»

## КАСТРЫЧНІК

### *Дача Андропава*

4.10.2010. Паэт Глеб Артханаў зарабляе на жыццё, працуючы архітэктарам у Расіі. Сёння ён заходзіў да мяне на працу і расказаў пра дачу Юрыя Андропава ў Падмаскоўі, якую ён нядаўна, як архітэктар, «аблагароджваў». Дача драўляная. Была збудавана ў 1949 годзе. У старых будаўнічых дакументах напісана: «Архітэктар — № 25. Падстава для будаўніцтва — загад начальніка».

### *Чайкі*

5.10.2010. Гляджу з дзявятага паверха на Свіслач. Чайкі на вадзе, як раскрышаны пенапласт...

### *107*

6.10.2010. Атрымаў ліст ад незнаёмага мне чалавека з Хабараўска з просьбай выдаць ягоную кнігу. Падобныя лісты — не рэдкасць. У канцы просьбы пажаданне: «Здаровья Вам до ста семи лет!» Можна было б на гэтае пажаданне не звярнуць увагі, калі б я ўжо гадоў дзесяць не казаў, што буду жыць да ста сямі...

### *Жук і сабака*

6.10.2010. Вяртаючыся з лецішча, да мяне ў выдавецтва зайшоў празаік Алесь Жук. Пакуль я размаўляў па тэлефоне, ён пагартаў кнігу, што ляжала ў мяне на стале і, калі я закончыў размову, зачытаў: «Я миру не чужой, однако хотя, возможно, и ничей. Меня облаяла собака; А я всё думаю: зачем?» І, паглядзеўшы ў акно, Алесь Аляксандравіч сказаў: «Што тут думаць? Сабака таму і брэша, бо гэта — сабака!»

### *Пара*

7.10.2010. У краму зайшла пара бамжоў. Абаім гадоў пад сорак. Ён застаўся каля дзвярэй з сумкамі, а яна пайшла і купіла

дзве пляшкі «чарніла». Рукі ў жанчыны чорныя, як наваксаваныя. Ды і твар не нашмат святлейшы. Абое смярдзяць і кашляюць. Паклаўшы «чарніла» ў сумку, бамжы выйшлі з крамы. І мне падумалася: «Ці перазімуюць?»

### *Сячкарня і пальцы*

14.10.2010. Часта ўспамінаю, як з бацькам у гумне рэзаў сечку. Доўгі час уручную, а потым з дапамогай матора. Я падаваў салому і бульбоўнік і ўвесь час баяўся, што вострыя нажы адрэжуць мне пальцы. І так думалася таму, што ў майго дзядзькі Вані, у якога я гадаваўся ў Лягезах да школы, была пашкоджана рука. А раз у дзядзькі няма некалькі пальцаў, то і ў мяне, як у роднага, таксама не павінна быць усё добра з рукой. І колькі я рэзаў сечку, столькі і баяўся застацца без пальцаў. І вось гады праляцелі, пракруціліся, як кола сячкарні. І стаіць цяпер сячкарня без працы, і пальцы ў мяне на руках усе, але дзядзькі Вані ўжо няма...

### *Снег і правады*

14.10.2010. Лёг спаць. Зажмурыўся і ўбачыў родную вёску. Мне гадоў дзесяць. Зіма. Гурбы вышэй платоў. Манцёры мяняюць на слупах правады. Правады ржавыя, і пасля іх на гурбах застаюцца рудыя пісягі, як на белых спінах пасля пугі крывавыя...

* * *

16.10.2010. У выдавецтва прынёс рукапіс кнігі вершаў Ігар Пракаповіч з Пастаў. Пытаюся, як справы ў школе, дзе ён працуе. Махнуўшы рукой, Ігар расказаў, як нядаўна ён з фізруком ішоў на працу. Гаварылі пра жыццё-быццё. І тут іх дагнала васьмікласніца і сказала: «Разгаварывайце на нармальном языке!»

### *Фатаграфаваць сны...*

16.10.2010. У Казіміра Камейшы вычытаў: «Можа, некалі людзі навучацца фатаграфаваць свае сны, і тады ў іх будзе магчымасць вяртаць незваротнае...» Па фатаграфіі, праўда, нічога не вернеш, але, сапраўды, нядрэнна было б фатаграфаваць сны, бо колькі ў іх таго, чаго ўжо няма і нават таго, што наўрад ці будзе ў рэальнасці...

*Гусінае пяро і думка*

17.10.2010. У дзяцінстве зімой, залезшы на печ, прымасціўшыся каля пяколка і адгарадзіўшыся занавескай ад усяго свету, пісаў у невялічкі блакнот вершы. Было вельмі рамантычна, але хацелася яшчэ нечага незвычайнага. І даведаўшыся, што ў даўнія часы паэты пісалі гусіным пяром, паўдня ганяўся па вёсцы за гусямі. Раздабыўшы пяро, паспрабаваў пісаць. Нічога не атрымалася, бо пакуль выводзіў словы, прападала думка...

* * *

17.10.2010. Цямнее. І ўсе думкі, як пчолы, вяртаюцца дахаты...

*Без зайздрасці і прыкрасці*

18.10.2010. Тургенеў пісаў пра жыццё: «Нужно спокойно принимать ее немногие дары, а когда подкосятся ноги, сесть близ дороги и глядеть на проходящих без зависти и досады: и они далеко не уйдут». Чытаючы гэтыя словы, бачу сваю нямоглую маці, якая з балкона глядзіць на двор, дзе ходзяць людзі. І яна глядзіць на іх без зайздрасці і без прыкрасці...

* * *

18.10.2010. Трапілася ў рукі мая кніжка «Пошук радасці», якая выйшла ў 1987 годзе. Яе рукапіс у 1984 годзе перад тым, як здаць у выдавецтва, чытаў Міхась Стральцоў і, калі яму нешта не падабалася, казаў: «Аддай маладым!». Найбольш Міхась Лявонцьевіч хваліў чатырохрадкоўе:

*Хата анямелая, сівая,*
*З шэраю буслянкай, бы вянком,*
*Вокнамі задумна пазірае,*
*Склаўшы рукі на дзвярах замком.*

*Строгае папярэджанне...*

19.10.2010. На прэзентацыі кнігі Аксаны Спрынчан і Яраша Малішэўскага «Энцыклапедыя музычных інструментаў» да мяне падышла пажылая жанчына і сказала: «Я вам, як галоўнаму рэдактару, раблю строгае папярэджанне за тое, што ваша выдавецтва ў 2000 годзе выдала кнігу Івана Мележа і не напісала, што ён лаўрэат Ленінскай прэміі. Ленінская ж прэмія мае ўзровень

Нобелеўскай. Болей так не рабіце!» І не паспеў я адказаць жанчыне, што ў выдавецтве працую з 2004 года, як яна, яшчэ раз папярэдзіўшы мяне, пайшла...

### *Между прочым...*

20.10.2010. Чытаю чарговы рукапіс непрызнанага генія. І раптам адчыняюцца дзверы і да мяне ў кабінет заходзіць жанчына, апранутая, як бомж. Не пытаючыся, яна садзіцца, і пакуль я думаю-гадаю, што ёй сказаць, жанчына заяўляе: «А вы так не глядзіце на мяне! Я между прочым член пісацяляў!»

### *Пісьмянкоў і Левановіч*

23.10.2010. Часта ўспамінаю Алеся Пісьмянкова, з якім некалькі гадоў працаваў у «ЛіМе». Ён галоўным рэдактарам, а я адным з ягоных намеснікаў. З Алесем было хораша працаваць, бо ён да ўсіх супрацоўнікаў адносіўся, як да родных. Стараўся не крыўдзіць нікога, перажываў за ўсіх і ўсё і часам залішне. Землякі ж для яго і наогул былі, як святыя. Памятаю, у рэдакцыю прыходзіць Леанід Левановіч. Праз хвілін пяць Пісьмянкоў кліча мяне ў кабінет: «Трэба паставіць у гэты нумар апавяданне Леаніда Кірэевіча, якое ён прынёс два тыдні назад!» — «Мы ж у мінулым нумары апавяданне тое надрукавалі!» — адказаў я і прынёс Левановічу і Пісьмянкову па газеце...

### *На Кальварыі...*

23.10.2010. З Людмілай хадзіў на Кальварыйскія могілкі. Яна фатаграфавала, а я шукаў магілу мастака Яўгена Куліка. Пакланіліся Янку Лучыне, Вячаславу Адамчыку, Генадзю Кісялёву, Ніне Гілевіч, Алесю Пісьмянкову, Алесю Асташонку. Магілы Яўгена Куліка не знайшоў, але нечакана натрапілі на помнік Івану Навуменку і ягонай жонцы. Жоўты, як агеньчык свечкі, бярозавы лісток трапятаў на помніку на павуцінцы і ад яго было светла ў душы. Цяпер будзем ведаць, дзе пахаваны яшчэ адзін пісьменнік...

* * *

23.10.2010. На Кальварыйскіх могілках восень. Сумна і светла. Праходзячы міма велізарнай кучы калодак, якімі стала старое спілаванае дрэва, убачыў у ёй кучу чарапоў...

### *Баюся...*

24.10.2010. У Кальварыйскім плоце, які аддзяляў увесь час вуліцу ад могілак, ужо гадоў пяць хаваюць крэміраваных людзей. Баюся, што праз гадоў дваццаць-трыццаць гэты плот-магіла пачне развальвацца, бо гэта ж не Крамлёўская сцяна...

### *Мы і моцарты*

24.10.2010. У свой час Моцарта пахавалі ў агульнай магіле разам з бамжамі. Цяпер некаторых моцартаў мы спальваем, як бамжоў, і хаваем у сцяну...

### *Роднасць*

24.10.2010. Ходзячы па Кальварыйскіх могілках, шукаю помнікі з беларускамоўнымі надпісамі. Іх мала, але яны ёсць. Спыняючыся каля такіх помнікаў, адчуваю роднасць з пахаваным чалавекам...

### *Холадна*

24.10.2010. На могілках халадней, чым дзе. І думкі, як апалае лісце пад нагамі, няспешна шапацяць у галаве...

### *Жыццё...*

24.10.2010. Раддом — гэта наша мінулае. Могілкі — гэта наша будучыня. Паміж раддомам і могілкамі наша жыццё... І тут тэлефонны званок разбівае маю думку, як вялікі шкляны сасуд. Пачынаю збіраць разбітае, ды не збіраецца, бо праз акно бачу, як па нашым двары ідзе дзяўчына ў джынсах і на высокіх абцасах...

### *Сонца і Сідарэвіч*

25.10.2010. Сёння на працы было горача і ад батарэй, і ад сонца. У час абедзеннага перапынку не вытрываў і, замкнуўшыся, узяў разуўся. Сядзеў босы, піў гарбату і слухаў музыку. Узгадаўся расповед Віктара Гардзея пра Анатоля Сідарэвіча, які ў маладосці працаваў у вясковай бібліятэцы. Быў зімовы сонечны дзень. І ў гэты дзень у бібліятэку, каб памяняць кніжкі, прыйшоў чытач. Прыйшоў, а бібліятэка замкнутая знутры. І чалавек глянуў у акно, а там на падшыўках газет ляжыць пад сонцам Анатоль Сідарэвіч і загарае...

## *Інсталяцыя*

25.10.2010. У час абеду патэлефанавала Людміла: «Што робіш?» — «Сяджу босы!» — кажу я. «Горача сёння»,— пагаджаецца Людміла. «Трэба абувацца, а то зараз хто-небудзь зойдзе...» — «А ты скажаш, што гэта інсталяцыя паэмы “Босыя на вогнішчы”»,— жартуе Людміла і смяецца, а я абуваюся...

## *Суздалеў і жанчыны*

26.10.2010. Паэт з Чалябінска Генадзь Суздалеў сябраваў з артыстам Валерыем Залатухіным. І так ужо атрымоўвалася, што ўсіх чалябінскіх жанчын, якім прапаноўваў выйсці замуж Генадзь, адбіваў Залатухін. Адбіваў і не жаніўся сам. І тады ў 1985 годзе Генадзь уцёк ад Залатухіна ў Маскву ў Літінстытут, дзе пасябраваў са мной. І было ў Генадзя шмат жанчын, з якімі ён хацеў пабрацца шлюбам, але перад тым, як пра гэта сказаць чарговай красотцы, Генадзь паказваў іх мне. І я ўсіх бракаваў, бо ведаў, што ў Чалябінску жыве жанчына, якая была дзесяць гадоў жонкай Генадзя, і гадуе дваіх дзяцей. І ўсё ж, вярнуўшыся назад у Чалябінск, Генадзь ажаніўся на паэтцы, якая была за яго амаль на трыццаць гадоў маладзейшая...

## *Жыццё ў нас такое...*

26.10.2010. Жыццё ў нас такое, што час ад часу ўспамінаю радкі паэта Генадзя Суздалева з Чалябінска, якія запомніў яшчэ ў Літінстытуце ў 1985 годзе:

*Бросал перед свиньями бисер.*
*Хотел их немного возвысить.*
*Они позабыли, что свиньи,*
*Прохода теперь не дают...*

## *Маціевіч і сын*

28.10.2010. Гадоў пятнаццаць таму, дакладна не памятаю, да мяне ў госці прыйшоў мастак Алег Маціевіч. Якраз у той вечар у Беластоку павінна была нарадзіць сына Міра Лукша. Алег, як будучы бацька, вельмі перажываў з гэтай нагоды: «Мірачка там цяпер адна і ёй цяжка! А я тут сяджу! Давайце вып’ем, каб Мірачцы было раджаць лягчэй!» Ну мы і выпілі па сто грамаў, а потым яшчэ па сто, а потым яшчэ. Пасля чатырохсот Алег

пачаў бушаваць. Напалохалася і мая Людміла, і нашы малыя дзеці. І я чуць з Алегам не пабіўся. Вывалакшы мастака на вуліцу, я супакоіўся, бо ўсё-ткі ж разам пілі, ды і чалавек жа чакае нараджэнне сына. Прапанову вярнуцца назад у кватэру і легчы спаць, Алег адпрэчыў і запрасіў мяне да сябе ў майстэрню, якая над «Гандлёвым домам на Нямізе». І мы папляліся. Праз метраў дзесяць Мацієвіч стаў на калені: «Я адчуваю, што Мірачка пачала раджаць! Станавіся і ты! Ёй будзе лягчэй!» Я не паслухаўся Алега, які пачаў ілбом біцца аб асфальт. «Перастань! Галаву разаб'еш!» — закрычаў я і пачаў падымаць з калень мастака. Ледзьве падняў. Прайшлі яшчэ метраў дзесяць, і Алег зноў кінуўся на калені і пачаў дзяўбціся аб асфальт і крычаць: «Мірачка, я з табой! Мірачка!» Да майстэрні мы дабіраліся гадзіны дзве. І ў той вечар Міра Лукша нарадзіла сына...

# ЛІСТАПАД

* * *

1.11.2010. Вярнуўся з філармоніі, дзе выступаў разам з аркестрам Міхаіла Фінберга на канцэрце, прысвечаным 80-годдзю з дня народзінаў Уладзіміра Караткевіча. Зала была поўная. Вечарыну адкрыў міністр культуры Павел Латушка. Вёў Генадзь Давыдзька. Ад кампазітара Эдуарда Зарыцкага даведаўся, што на словы Караткевіча напісана 27 песень і больш напісаць немагчыма, бо тэксты хоць і харошыя, але не песенныя. На жаль, тэлебачанне канцэрт не здымала, а толькі ўзяло інтэрв'ю ў Фінберга...

*Прыемна...*

2.11.2010. На працу з Азёраў вярнуўся Юрась Пацюпа. Прыемна было пачуць, што ягоная маці прачытала маю «Прозу і паэзію агню». Суседка таксама прачытала і некаторыя вершы павыпісвала сабе на памяць...

*І яшчэ адзін афарыст...*

2.11.2010. У час абеду да мяне ў кабінет зайшоў высокі хударлявы мужчына: «Прабач, што ў час абеду. Можа табе патрэбны афарызмы? У мяне напісана на цэлую кніжку!» Пагартаўшы рукапіс, я пацікавіўся: «Адкуль вы? Як ваша прозвішча?» — «Я — Васіль Дзямбіцкі. Працую на чыгунцы. Кладу шпалы, рэйкі...» — адказаў мужчына. «Раней вы паказвалі каму-небудзь свае афарызмы?» — «Паказваў Марчуку. Ён сказаў, што трэба яшчэ пісаць, каб было што выбраць. А ў 2002 годзе Алесь Масарэнка, пачытаўшы мае творы, сказаў, што ў мяне 70 працэнтаў таленту!» — «Як ён гэта вызначыў?» — «Не ведаю...» — «А як вы сваю кніжку назвалі?» — «Раней я яе называў «Трагедыя натуры», раўняючыся на шамякінскую «Трагедыю партызана». Потым была назва

«Время отведенное для жизни», а цяпер «Выводы из прожитой жизни».— «А колькі ж вам гадоў?» — «Ой, многа! Пяцьдзясят пяць!» — «Зачытайце свой лепшы афарызм».— «Любоў — гэта кагда ухажываеш за раненым». І яшчэ, пагаварыўшы пра выданне кніг, Васіль Дзямбіцкі на развітанне, усміхаючыся, сказаў: «Я цябе бачыў у Барысаве».

*У Ракаўскай бальніцы...*

3.11.2010. Ездзіў у Ракаўскую бальніцу, дзе цяпер падлечваецца мама. Яна адчувае сябе больш-менш нармальна. Ды і што хацець ад мамы пасля інсульту, бо цяпер апошнія паўтары гады для яе добра і тое, што ёй не стала горай, чым было. У бальніцы новая галоўная доктарка. Нядаўна закончыла медінстытут. Родам з маіх Пугачоў. Шніп Ірына Мітрафанаўна. Магчыма, і мая далёкая сваячніца. Піша вершы. Паказала сшытак. Пачытаў. Не ведаю пакуль што якая з Ірыны галоўная доктарка, а беларускамоўныя вершы яна піша неблагія...

*Святло зямное Вярцінскага*

4.11.2010. У шафе тэхрэдаў знайшоў «Святло зямное» Анатоля Вярцінскага з дарчым аўтографам: «Майму дарагому тэхрэду Ларысе Шлапо — з удзячнасцю і пажаданнем святла зямнога. А. Вярцінскі. 15.06.81 г.». Прачытаў і падумаў: «Вось табе і самы лепшы падарунак — кніга...»

*Уладзімір Кобрын*

4.11.2010. У «Мінскай праўдзе» ў аддзеле культуры працаваў Уладзімір Кобрын. Тады, калі я быў валацугам, часта заходзіў да Уладзіміра з новымі вершамі, і ён без чаргі друкаваў мяне. Тыя, хоць і невялікія, ганарары, якія я атрымоўваў з «Мінскай праўды», заўсёды былі для мяне дарэчы. Мінула недзе гадоў дваццаць як Уладзімір Кобрын памёр. Дзе ён пахаваны, я не ведаю, але няхай ён ведае, што я памятаю яго...

*Ахвяраванні на...*

5.11.2010. У Чырвоным касцёле, дзе месціцца тэатр «Зьніч», у фае вісяць здымкі рэстаўрацыі Грунвальдскай бітвы. Разглядаючы дзею, некалькі разоў праходзіў каля вялікай скрыні для збору ахвяраванняў. Скончыўшы вандроўку па здымках, спыніўся каля скрыні. Чытаю: «Ахвяраванні на рамонт і абслугоўванне туалета...»

## *Усяго тры хвіліны...*

6.11.2010. Пасля працы вырашыў з'ездзіць у ГУМ. Ледзьве ўціснуўся ў аўтобус № 1, бо перада мной два мужыкі гадоў па трыццаць пяць з вар'яцкімі вачыма, абступіўшы з двух бакоў дзяўчыну з сумачкай на плячы, стварылі ўражанне, што аўтобус перапоўнены. Дзяўчына паміж мужыкамі стаяла і глядзела некуды ў салон, а бліжэйшы да мяне, накрыўшы сумачку дзяўчыны сваёй сумкай, палез па грошы, і я нават пачуў, як ён маланку на сумачцы расшморгнуў. І хацеў я закрычаць, што грабяць, як другі мужык так паглядзеў на мяне, нібыта фінку мне ў жывот загнаў. А тут і кантралёрка раптам з'явілася. У хлопца, які стаяў за мной, папрасіла паказаць праязны. Глянуўшы на яго, я адразу падумаў, што ён таксама злодзей. І не памыліўся, бо хлопец дастаў дакумент пра нядаўні выхад з турмы. Закончыўшы справу, зладзеі выслабанілі з зажыму дзяўчыну і пачалі распытвацца ў нядаўняга турэмшчыка, дзе ён сядзеў. «У Магілёве...» — адказаў хлопец. «Ну як там цяпер?» — пацікавіўся той, што лазіў у сумачку. «Сядзець можна...» — «Ну пака, братан!» — сказалі злодзеі і выйшлі на прыпынку каля касцёла. Паміж прыпынкамі было ўсяго тры хвіліны язды...

## *У царкве...*

7.11.2010. Учора маму прывезлі з Ракаўскай бальніцы да нас. Сёння з Людмілай хадзіў у царкву Пятра і Паўла. Мы маліліся, а каля нас амаль увесь час бегалі малыя дзеці, як херувімы...

## *Мае святы...*

7.11.2010. У Пугачах у нашай сям'і былі два вялікія святы — Каляды і Вялікдзень. А таксама, хоць і сціпла, святкаваліся ўсе астатнія царкоўныя. Памятаю, як у Лягезах да маёй бабулі Ганны прыходзілі аднавяскоўцы, каб павіншаваць яе з Ганнамі. Кастрычніцкія святы мы ніколі не святкавалі. І наогул мая мама ўсё жыццё прапрацавала на кароўніку даяркай без адпачынкаў і амаль без выхадных дзён, і нават калі хварэла, ішла на працу. Дзень народзінаў у сям'і таксама ніколі не адзначалі. На Новы год ставілі ялінку, але не сядзелі да дванаццаці гадзін. Святкавалі Стары Новы год. Святы з застоллямі і падарункамі ў маім жыцці з'явіліся толькі тады, калі жаніўся. Праўда, і па сённяшні дзень ніяк не магу прывыкнуць дарыць кветкі...

## *Міхаіл Савіцкі*

8.11.2010. Памёр Міхаіл Савіцкі. Гадоў пяць назад у выдавецтве мы планавалі выдаць пра яго кнігу. Ужо быў знойдзены складальнік выдання, было жаданне мецць кнігу пра сябе і ў мастака. І тут раптам аб'явіўся сын Савіцкага Андрэй, які заявіў, што ён сам напіша кнігу пра бацьку і яму не патрэбны памагатыя. На гэтым усё і скончылася...

## *Тры гады*

9.11.2010. Сёння тры гады, як не п'ю. Адчуванне, нібыта прайшло тры гады пасля вайны, з якой я вярнуўся жывым...

## *Казбярук і кнігі*

10.11.2010. Уладзімір Казбярук, прынёсшы рукапіс кнігі пра Максіма Танка, пахваліўся малюнкам Караткевіча, які ён яму падарыў у 1969 годзе. Цікавы малюнак. Гаворачы пра здароўе, Уладзімір Міхайлавіч паскардзіўся: «У мяне ў хатняй бібліятэцы больш за тры тысячы кніг. Хацеў было здаць куды-небудзь, мне ж ужо 88-ы год ідзе, але ніхто не бярэ. Кажуць месца няма для кніг...»

## *Крадуць!*

10.11.2010. Вяртаючыся ў перапоўненым аўтобусе № 57 дамоў, стаў сведкам, як хлопец гадоў дваццаці пяці ўкраў у жанчыны кашалёк. «Аддай грошы! А то міліцыю выклічу!» — крычала жанчына. Злодзей нешта бубнеў, усе маўчалі, і толькі нейкі п'яны граміла заявіў: «Аддай бабе грошы! А то морду наб'ю!» На прыпынку злодзей і абрабаваная выйшлі, а ўсе астатнія паехалі далей...

## *Пабыў бацькам і жонкай*

11.11.2010. У Музеі гісторыі беларускай літаратуры сёння адбылася вечарына, прысвечаная 85-годдзю беларускага радыё. Вялі Галіна Шаблінская і Алег Вінярскі. Людзей было шмат. Выступленні былі цікавымі, асабліва ўспаміны пра кур'ёзныя выпадкі на радыё. Я ведаў, што і мне дадуць слова, таму быў гатовы ў любую хвіліну выйсці да мікрафона. Недзе праз дзве гадзіны Галіна Шаблінская аб'явіла: «А зараз выступіць вядомы паэт Анатоль Шніп!» Нехта з залы папраравіў: «Віктар Анатольевіч...» А пазней, пасля выступлення, Валянціна Коўтун,

каб даведацца пра лёс сваёй кнігі ў выдавецтве, аклікнула мяне: «Людміла...»

### *Конкурс прыгажосці*

11.11.2010. Заўтра іду на вечарыну, дзе буду ў журы выбіраць прыгажунь сярод паэтак. «А хто там будзе ў журы акрамя цябе?» — пацікавіліся ў мяне на працы. «Ну, Пятро Васючэнка!» — адказаў я. «Дык ён жа дрэнна бачыць!» — «Ну і што! Крот жа хацеў жаніцца на Дзюймовачцы!» — адказаў я...

### *Бацькі і паэт-песеннік*

12.11.2010. Выйшла кніга песень «Астравы шчасця» Аляксандра Лягчылава, рукапіс якой у выдавецтва прынеслі ягоныя бацькі, выконваючы просьбу сына, які памёр больш за пяць гадоў таму. Выданне атрымалася невялічкае — усяго 2,5 аркушы. Маці Аляксандра, убачыўшы кнігу, адразу выказала незадавальненне: «Чаму такая тонкая і не ў цвёрдай вокладцы?» Давялося хвілін дваццаць тлумачыць, што магло не быць ніякай кнігі. Мы ж выдалі ўсё за рэдакцыйныя грошы. Праўда, развітаўся з бацькамі Аляксандра Лягчылава, крыху паразумеўшыся. Думаю, што сам паэт-песеннік быў бы задаволены кнігай, якая ўпершыню выйшла ў дзяржаўным выдавецтве, і тым больш не за ўласныя грошы, якія ён зарабляў на песнях і траціў на зборнічкі тыражом 100—300 асобнікаў...

### *Для чаго...*

12.11.2010. Збіраючыся на вечарыну-прэзентацыю кнігі Алены Масла «Першая прыгажуня», напісаў экспромт у стылі Васючэнкавых «Для чаго...»:

*Для чаго ў нас прыгажуні?*
*Каб ваду цягаць са студні,*
*Каб мужчыны, нібы трутні,*
*Спаць маглі ўжо апалудні,*
*Каб былі, як святы, будні,*
*Каб жыццё камусь спаскудніць!*

*Для чаго жывуць красоткі?*
*Каб насіць зімой калготкі*
*І каб драпацца, як коткі,*

*Калі хто ў іх лезе порткі.*
*Не залез — яны трашчоткі,*
*А залез — яны залёткі.*
*Могуць збегчы ў заработкі,*
*Знікнуць раптам, як падлодкі.*
*Для тутэйшага — зачоткі,*
*А для Афрыкі — экзоткі,*
*А для Шніпа й Васючэнкі —*
*Нашы пекныя паненкі!*

* * *

13.11.2010. Дробны дождж. Адзінокі руды ліст на дрэве скукожыўся, як пісун у хлопчыка ад холаду...

*Прэзентацыя ў «Кнігачэі»*

15.11.2010. З Аксанай Спрынчан і Ярашам Малішэўскім быў на прэзентацыі іх кнігі «Незвычайная энцыклапедыя беларускіх музычных інструментаў» у кнігарні «Кнігачэй». Арганізатары прэзентацыі запрасілі з бліжэйшай школы вучняў трэціх і чацвёртых класаў з эстэтычным ухілам. Дзеткі харошыя. Слухалі ўважліва Аксаніны вершы і Ярашава іграннe на музычных інструментах, якія ён захапіў з сабой. Потым арганізатарка прэзентацыі правяла невялікі конкурс з выдачай прызоў. Дзеці актыўна уздымалі рукі, стараліся гаварыць па-беларуску. Пытанні былі лёгкія. На адно з іх: «Назавіце пераможцу дзіцячага Еўрабачання з Беларусі», дзеці амаль хорам закрычалі: «Ксенія Сабчак! Ксенія Сабчак!» Калі ім сказалі, што гэта не так, адна ціхмяная дзяўчынка, якая стаяла за натоўпам сваіх аднакласнікаў, дала правільны адказ. Напрыканцы было аб'яўлена, што можна набыць кніжку і атрымаць аўтографы. Грошай у нікога не было, і мы дзецям прапанавалі пазней прыйсці з бацькамі ці адным і набыць кнігі. «А колькі каштуе?» — пацікавіўся белабрысы хлопчык. «Трэба будзе ўзяць дванаццаць тысяч. Трыста рублёў атрымаеце рэшты»,— адказала прадаўшчыца. «Я вазьму дваццаць, каб была большай рэшта!» — тут жа сказала дзяўчынка і паглядзела наўкол, нібыта запыталася: «А хто возьме болей?»

* * *

16.11.2010. Стаю на прыпынку. З-за павароту, бачу праз голыя густыя галіны дрэў, сунецца жоўты аўтобус, як стог апалага зледзянелага лісця...

## *Генерал і кніга*

17.11.2010. У выдавецтва прыходзіў генерал-лейтэнант. Стары, стройны і прыгожы, як пісталет. Прынёс два тамы амаль з дзвюма тысячамі старонак пра тое, як ён і яго аднапалчане ваявалі. Кніга некалькі гадоў рыхтавалася ў Маскве ў прыватным выдавецтве, дзе цягнулі ўвесь час з генерала грошы. А як грошы скончыліся, расіяне аддалі генералу вёрстку і адправілі дамоў. І генерал прыйшоў да нас...

## *Хто піша?*

18.11.2010. Дырэктар РВУ «Літаратура і Мастацтва» Алесь Карлюкевіч расказаў, што апошнім часам у холдынг кожны тыдзень прыходзяць ананімныя лісты з беспадстаўнай крытыкай таго, што друкуецца ў газеце «ЛіМ» і часопісах. Зваротны адрас крытыка — праспект Пераможцаў, 11, выдавецтва «Мастацкая літаратура». У нашым выдавецтве працуюць тры пісьменнікі, якія не цураюцца «ЛіМа» і часопісаў — Юрась Пацюпа, Аксана Спрынчан і я. Хто з нас ананімшчык?

## *Бамжыха*

18.11.2010. Еду ў тралейбусе на радыё. На прыпынку каля бальніцы зайшла бамжыха гадоў шасцідзесяці з падбітым левым вокам. У салон тралейбуса яна ўнесла смурод і чатыры торбы старых мокрых газет. Я ўступіў бамжысе месца. Яна села і, паглядзеўшы на мяне, заявіла: «Я была маладая і вельмі красівая, і я магла хату... атрымаць. Мне тады было 23 гады, а яму 53. Я не захацела з ім спаць і мне давялося чакаць хату 15 гадоў...» Праз некалькі хвілін тралейбус спыніўся і я, выходзячы, пачуў услед: «Беражы здароўе...»

## *Пасля працы*

18.11.2010. Два мужыкі гадоў пад шэсцьдзясят вяртаюцца на тралейбусе з працы. Крыху, відаць, выпілі. Святлейшы кажа пачарнеламу: «Не магу я так болей жыць! Усе на галаву мне серуць! І дома! І на працы! І нават вароны мне серуць на галаву! А ў мяне галава не мякчэй жывата! Ты разумееш? У мяне галава не мякчэй жывата!» Пачарнелы маўчыць. І ўсе ў тралейбусе маўчаць, як у тэатры...

*У нашай імперыі*

19.11.2010. Тыдзень назад у нас загінуў папугай Маркус. З сённяшняга дня да ўлады прыйшоў Северус! Яму два месяцы...

*Содаль і Багушэвіч*

20.11.2010. На днях да мяне на працу заходзіў Уладзімір Содаль. Дзякаваў за верш пра Багушэвіча, напісаны мной гадоў трыццаць таму. Цытаваў:

*Ён сядзеў каля дарогі,*
*Як туман, увесь сівы.*
*— Бурачок, ты ж пахаваны.*
*— Дудка грае — я жывы.*

*— Падкажы мне, што іграці?*
*— Грай, што маеш на душы,*
*Толькі ад няшчырай песні*
*Дудку, браце, беражы.*

*І пайшоў ён па дарозе,*
*Як туман, увесь сівы.*
*— Бурачок жа пахаваны.*
*— Дудка грае — ён жывы.*

«Я нядаўна казаў скульптару Гумілеўскаму, каб зрабіў такога настрою, як твой верш, помнік Багушэвічу і паставіў яго каля дарогі ў Кушляны. Ён даў згоду, але сказаў, што на выкананне такога праекта няма грошай. Будуць грошы — будзе помнік і Багушэвічу, і Шніпу!» — на развітанне паведаміў Уладзімір Содаль і, яшчэ раз прачытаўшы мой верш, пайшоў...

*Ці будзе вайна?*

23.11.2010. «Скажыце, ці будзе вайна?» — збянтэжыў мяне на працы чарговы тэлефонны званок незнаёмага мужчыны. «Не будзе!» — коратка адказаў я і паклаў трубку. Праз хвіліну той жа незнаёмы зноў запытаўся: «Дык адкажыце мне канкрэтна: ці будзе вайна?» — «Не будзе!» — зноў коратка адказаў я. Яшчэ праз хвіліну той жа мужчына: «Вы мне скажыце: будзе вайна, ці не будзе?» — «Перастаньце здзекавацца!» — раззлаваўся я. «Ах так! Я на вас буду скардзіцца ў вышэйшыя органы!» — заявіў незнаёмы і паклаў трубку...

* * *

24.11.2010. Прыйшла дзяўчына. Студэнтка. Прыгажуня. Паэтка. Падпісваючы кніжку, запытаўся: «Як ваша прозвішча?» — «Хахель...» — адказала дзяўчына і заўсміхалася...

*Да юбілею Караткевіча*

25.11.2010. У «Доме прэсы» ўдзельнічаў у прэс-канферэнцыі, прысвечанай 80-годдзю з дня народзінаў Уладзіміра Караткевіча. Цікава было паслухаць Адама Мальдзіса, Анатоля Вераб’я, Навума Гальпяровіча, Галіну Шаблінскую і ўсіх астатніх. Праўда, найбольш мне запомнілася тое, як перад прэс-канферэнцыяй Уладзімір Гілеп, паказваючы новае выданне «Дзікага палявання караля Стаха» на чатырох мовах (беларускай, рускай, украінскай і англійскай), расказваў, як кніжку ў Польшчы за тры дні аддрукавалі, а потым пяць дзён стаялі ў чарзе, каб перавезці праз мяжу. На пытанне, за якія грошы такое шыкоўнае выданне выдаў Беларускі фонд культуры, Уладзімір Аляксандравіч адказаў: «Напазычалі! Цяпер трэба прадаць кніжку і аддаць крыдэторам». — «А калі не аддасцё?» — «Пасадзяць!» — пажартаваў Гілеп. І тут жа пачуў: «За Караткевіча пасядзець — ганарова!» — «Ганарова!» — амаль хорам паўтарылі ўсе, хто размаўляў з Гілепам.

*Заўжды застаецца душа!*

25.11.2010. РВУ «ЛіМ» на прэс-канферэнцыі ў «Доме прэсы» прэзентаваў новую кнігу пра Уладзіміра Караткевіча. Акрамя розных артыкулаў, у кніжцы змешчаны і вершы, прысвечаныя юбіляру. Сярод усяго і мой вельмі даўні твор:

*Няма Караткевічаў новых,*
*Няма і Стральцовых.*
*І сумна, і крыўдна жывецца*
*І мы ўсе ці варты граша.*
*Паэт памірае — душа застаецца,*
*Заўжды застаецца душа!*
*Ды дзеліцца слава,*
*Як доўгая лава.*
*Нат магілкі дзелім з вянкамі.*
*А хто раздзяляе?*
*Хто славы не знае,*

*А хоча зрадніца з вякамі.*
*Найлепшых губляем, бядуем.*
*Жывых жа не чулі, не чуем,*
*Што славу прыносяць Айчыне...*
*А хто нас наступным пакіне?*
*Няма Караткевічаў новых,*
*Няма і Стральцовых.*

* * *

26.11.2010. Дробненькі снег, як халодны цыгарэтны попел, што ляціць з неба, дзе сядзяць нашы памерлыя продкі і думаюць пра Беларусь...

* * *

26.11.2010. Ужо тыдзень, як у нас у хаце новы імператар — Северус. Нашаму сыну Максіму не падабаецца, як мы назвалі папугая, і ён яго кліча Рузвельтам...

### *Адзін крок*

27.11.2010. У калідоры перагарэла лямпачка. Адразу ж узгадалася, як гадоў пяць назад я прачнуўся ў дзве гадзіны ночы. Перад абуджэннем мне сніўся дождж, таму, пачуўшы шум вады, не адразу зразумеў, што адбываецца. Праз пару хвілін я ўстаў з канапы і пайшоў у цемнаце ў калідор, дзе са столі цякла вада. І не паспеў зрабіць кроку, каб уключыць святло, як адбылося замыканне электраправадоў, асвяціўшы затоплены калідор снапом іскраў. Паміж маім жыццём і смерцю быў крок...

### *Прыязджаючы ў Пугачы*

28.11.2010. Пасля школы, прыязджаючы ў вёску, калі не было спраў каля хаты, заўсёды бадзяўся па палях і глядзеў, дзе што змянілася і што засталося, як было. Мама напачатку злавалася: «Не цягайся ты па палях! Людзі будуць смяяцца!», а потым яна перастала мяне вучыць, як трэба сябе паводзіць у роднай вёсцы. А я хадзіў па палях і адзін, і з братам Вовам, і са сваёй Людмілай, і дзецьмі, і заўсёды, вярнуўшыся дамоў, адчуваў сябе хоць і стомленым, але задаволеным, нібыта, ходзячы за вёскай, шукаў і знаходзіў сябе самога...

## *Фільм «Ушедшие»*

28.11.2010. Учора з Людмілай глядзеў харошы японскі фільм «Ушедшие», дзе стары, які спальвае памерлых, сказаў: «Смерць — гэта вароты ў іншы свет...» Праўда, нічога ў гэтых словах новага няма, але...

## *Канчаецца год...*

28.11.2010. Канчаецца год... І чорныя дрэвы за маім акном, як уздубыраныя галавешкі на вялікім вогнішчы нашага жыцця...

* * *

28.11.2010. На вуліцы цёмна. Жоўтыя квадраты акон, як соты, напоўненыя мёдам жыцця...

# СНЕЖАНЬ

## *Бэла Ахмадуліна*

1.12.2010. У час вучобы ў Літінстытуце некалькі разоў слухаў Бэлу Ахмадуліну на паэтычных вечарынах у ЦДЛе. Яна чытала творы, як спявала...

## *Натхненне і шэсць пальцаў*

2.12.2010. Мастачка прынесла афармленне казак. Гляджу яго разам са сваімі супрацоўнікамі. Усе хваляць. Малюнкі сапраўды цудоўныя. І раптам бачу ў аднаго казачнага героя на руцэ шэсць пальцаў. Хачу запытацца: «Гэта памылка ці так па тэксце?», але маўчу, бо няёмка прызнацца, што казак, якія будуць у новай кніжцы, пакуль што не чытаў. І ўсё ж праз пару хвілін цікаўлюся ў прысутных: «Што намалявана не правільна?» Усе глядзяць і маўчаць. І тады кажу: «Ці бываюць людзі з шасцю пальцамі?» І чую ў адказ: «Бываюць».— «А тут намалявана правільна ці не?» — пытаюся далей. «Няправільна!» — ускрыквае мастачка, якая, калі малявала, так захапілася працай, што забылася, колькі ў людзей на руках пальцаў...

* * *

3.12.2010. Снежная роўнядзь, на якой адзінокі куст з неапалым чырвона-жоўтым лісцем, нібыта падпалены вялікі аркуш паперы...

## *Дома*

3.12.2010. Дома халаднавата. На вуліцы марозна. На працы холадна. І ўсё ж дома добра. Дома мама...

*У школу...*

3.12.2010. Збіраюся ў школу на бацькоўскі сход, нібыта збіраюся ісці ўпершыню ў рэстаран. Бяру паболей грошай і думаю: «Хаця б хапіла...»

* * *

4.12.2010. Пасля начнога снегападу ў скверы на ўсіх дрэвах на ствалах і галінах прымерзлы снег. І ўсе дрэвы, як бярозы...

*Сны пра Літінстытут*

4.12.2010. Вельмі часта мне сняцца сны, у якіх збіраюся ехаць у Маскву на вучобу ў Літінстытут. Часам прыязджаю і хаджу па Маскве, не могучы знайсці будынак, дзе вучуся. Часам засяляюся ў інтэрнат і не хаджу з усімі на заняткі, бо чакаю, пакуль прыедзе з Мінска мая Людміла. Часам еду ў метро і не магу выйсці з цягніка. Словам, сняцца нейкія праблемы, якіх у мяне падчас вучобы і блізка не было. І ўсё бачыцца ў сне і перажываецца, як і ў жыцці. І прачнуўшыся, шкадую, што сон перарваўся на самым цікавым месцы...

*Белы кот і снег*

4.12.2010. З пад'езда выйшаў белы кот. Пастаяўшы нейкую хвіліну на ганку і паглядзеўшы на сумёт на лаўцы, на якой яшчэ тыдзень назад любіў падрамаць пад восеньскім сонцам, жаласна мяўкнуў і, задзёршы трубой хвост, пабег назад у пад'езд...

* * *

5.12.2010. Машыны ў двары засыпаныя снегам, як кучы смецця...

* * *

5.12.2010. Нягледзячы на мароз, нейкі мужык ужо цэлую гадзіну швэндае ў двары пад маімі вокнамі з дзіцячай каляскай. На маім месцы некаторыя ўжо б заявілі, што за імі сочаць...

* * *

6.12.2010. Ноч была доўгая і марозная. І за ноч у двары ўсе дрэвы і машыны пакрыліся шэранню, нібыта абраслі белым мохам...

*Звязаны Сыс*

7.12.2010. Ганна Кандрацюк з Беластоку перадала новую кніжку «Дзядоўскае турнэ з Анатолем С.», у якой апісвае вандроўку з Мірай Лукша на радзіму Анатоля Сыса ў вёску Гарошкаў. Атрымаўшы кніжку, пачаў адразу чытаць. На старонцы 52 спыніўся і перачытаў вось гэтыя радкі некалькі разоў: «У момант, калі намерыліся апускаць дамавіну ў дол, пачуўся жаночы плач: «Яго там няма ўсярэдзіне!» — загаласіла сястра. І, наспуперак грамадзе, заўпарцілася, каб адкрыць труну. Публіка ўскалыхнулася, людзі крычалі, адмаўлялі. Цела даставілі ў Гарошкаў 10 траўня ў шчыльна зашрубаванай труне. Ды сама Валянціна не магла сумнявацца ў смерці Анатоля. Труп брата яна пабачыла ў яго мінскай кватэры, праз два дні пасля ягонай смерці (4 траўня 2005 г.). Раней яна была вымушана прыехаць з Брэста, каб у яе прысутнасці міліцыя зламала дзверы ў кватэру. Анатоль ляжаў мёртвы і ўжо пачарнелы ў калюжы крыві... Сам Сяргей (Сыс) не ведае, чаму паддаўся настрою. І ці не вінаватая тут кроў? Калі прыгледзецца да яго генеалагічнага дрэва, нябожчык прыходзіўся яму дзядзькам у пятым пакаленні. Сяргей рад не рад стаў тады адкручваць залатыя вінты, корпацца пры засаўках, аж упацеў. Каб пасля ўміг ахалонуць ад убачанага з-за прыпаднятай накрыўкі. «Цела ўжо пачарнела і абрасло белай шчацінай. Гэта быў страшны від. Ну, але я пазнаў яго. І сёстры пазналі. Гэта быў Анатоль, у белай кашулі з нацыянальным арнаментам». Так, гэта быў Анатоль Сыс. Па яго ў трупярню 9 траўня, каб прывезці ў Дом літаратара, ездзілі Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч і я. Акрамя нас, ездзіла і сястра Анатоля Валянціна з мужам. Там жа ў трупярні Барыс і Алесь купілі ўсё патрэбнае для пахавання. І потым пры нас пачарнеламу Анатолю апранулі вышыванку і ў вялікім чорным мяшку паклалі ў труну. Касцюм паклалі пад памерлага, бо апранаць не выпадала. Перад тым, як закрыць труну, мужчына, які рыхтаваў Анатоля да пахавання, сказаў нам: «На могілках абавязкова адкрыйце труну і разрэжце бінты, якімі звязаны ў памерлага рукі і ногі. Не забудзьцеся! Толькі голымі рукамі не дакранайцеся! Нельга! Вось вам пальчаткі!», і мужчына паклаў пальчаткі ў труну. І я захваляваўся, прачытаўшы ў Ганны Кандрацюк пра пахаванне, ці не пахавалі Анатоля Сыса са звязанымі рукамі і нагамі? І таму не дзіўна, што дух Анатоля з'яўляўся і ў выглядзе матыля на вечарыне паэзіі, і ў нашай кватэры, калі ў нас начавалі Міра Лукша і Ганна Кандрацюк, ноччу абрынуў кніжкі, на якіх раніцай мы ўбачылі аркуш паперы з вершам Людмілы Рублеўскай «Памяці Анатоля Сыса». Цяпер, каб

Анатоль нікога не турбаваў у гэтым свеце, трэба яму вызваліць рукі і ногі ад путаў. Для гэтага належыць, калі каго будуць хаваць у Гарошкаве, пакласці ў труну да памерлага нажніцы...

* * *

8.12.2010. Бог любіць дзяцей, дурняў і п'яніц. Я не дзіця і не п'яніца. Даводзіцца быць дурнем...

*Антон Янушкевіч*

11.12.2010. Патэлефанаваў Анатоль Блашчытын і паведаміў, што ўчора вечарам недзе ў гадзін дзесяць загарэлася хата Антона Янушкевіча, у якой загінуў сам гаспадар. Антон быў маім траюрадным братам. Калі я пайшоў у другі клас, Антон вярнуўся з войска. У той жа дзень я пабег да яго ў госці і ён мне падарыў сваю вайсковую шапку і некалькі значкоў, якімі я потым доўга хваліўся перад сябрамі. Антон у школе выкладаў нямецкую мову і батаніку. Часам ён сваіх вучняў вадзіў дамоў, каб паглядзець па тэлевізары фільмы пра прыроду. І калі Антон даведаўся, што я, васьмікласнік, пішу вершы, запрасіў мяне да сябе ў госці і чытаў Уладзіміра Караткевіча, гаворачы: «Вось, браток, так трэба пісаць!» І ўсё ў нас было па-брацку, па-роднаму. Потым, калі ўжо ў мяне выйшла некалькі кніжак і я вярнуўся з Літінстытута, Антон пачаў звяртацца да мяне на «вы» і мае ўсе просьбы, каб ён так болей не казаў, не дзейнічалі на яго. Нейкі час у Пугачоўскай школе Антон працаваў дырэктарам. І ўсё жыццё цікавіўся і любіў беларускую літаратуру. Антону Янушкевічу было 62 гады...

*Настаўнік Антон Янушкевіч*

12.12.2010. На ўроках батанікі Антона Янушкевіча было цікава. Ад яго школьнікі даведваліся не толькі як размнажаюцца інфузорыі, але і людзі. Настаўнікам Антон Мікалаевіч быў строгім, а пасля ўрокаў мог гуляць з дзецьмі ў футбол і даваць прыпаліць хлопцам цыгарэту. Памятаю, калі я закончыў школу і пачаў друкавацца ў газетах, Антон неяк паклікаў мяне да сябе, каб пачаставаць самаробным віном і паслухаць мае новыя творы. Тады ж ён зачапіўся за слова «вятрыска» ў маіх вершах і параіў мне яго радзей ужываць, бо «вятрыска» — гэта ласкавы вецер, а вецер у нас ласкавым бывае рэдка. Мы сядзелі доўга. Успаміналі сваіх сваякоў. І тады ж мне Антон паказаў, як пішацца па-англійску Шніп, разгарнуўшы замежны часопіс, у якім была

публікацыя нашага брата Шуркі, які працаваў у Акадэміі навук. Антон верыў, што ёсць жыццё на іншых планетах. Папярэджваў мяне, што старая Руткевічыха — баптыстка і з ёй не трэба вадзіцца. Многія ў вёсцы Антона лічылі дзіваком, бо ён, як і я, мог адзін бадзяцца па палях і лясах, нібыта шукаючы ўчарашні дзень. Сёння Антона Янушкевіча пахавалі ў Дубровах, дзе спачываюць яго вучні, продкі і сын...

## *Антон Янушкевіч і мялкашка*

12.12.2010. У восьмым класе вясной Антон Янушкевіч вучыў нас страляць з мялкашкі. Сярод маіх аднакласнікаў трапнасцю вылучыўся Сашка Балотнік. Астатнія стралялі кепска. Пакінуўшы стрэльбішча, Сашка прапанаваў Антону Мікалаевічу, паказваючы далёка на варону, што сядзела на дрэве: «Давайце паспрачаемся, што я траплю ў варону, а вы не!» Антон Мікалаевіч, доўга не думаючы, даў Сашку стрэліць. Варона на дрэве не варухнулася. І тады стрэліў Антон Мікалаевіч. І варона ўпала. На пытанне настаўніка, які паказаў на галубоў, што сядзелі на страсе зерняскалада: «Хто яшчэ хоча пастраляць?», ніхто не адгукнуўся. А Сашку болей страляць Антон Мікалаевіч не даў...

## *Янушкевічы і Брыль*

12.12.2010. Родная сястра Антона Янушкевіча Ліда замужам за адным з пляменнікаў Янкі Брыля. Цяпер яны жывуць у Польшчы. Неяк сам Іван Антонавіч, прыйшоўшы ў «ЛіМ», калі я там працаваў, распытваўся ў мяне пра Ліду з Антонам і пра ўсіх нашых сваякоў. Пагаварылі, як сваякі...

## *Гейф*

12.12.2010. На другім курсе Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума я жыў у інтэрнаце, што на вуліцы Змітрака Бядулі. У пакоі было чатыры чалавекі: мае аднакурснікі Сашка Старавойтаў, Коля Мігай і студэнт з Егіпта Гейф. Усё было добра, але неяк вечарам, калі Гейф яшчэ недзе бадзяўся па горадзе, да нас у пакой зайшлі старшакурснікі і пачалі збіраць грошы на выпіўку. Назбіралі па рублю з кожнага. Я спачатку не даваў, дык мне старшакурснікі падбілі вока. Вечарам вярнуўся Гейф і, убачыўшы мяне з фінгалам, запытаўся: «Што здарылася?» Мы адразу не прызнаваліся, але Гейф (а ён быў недзе пад два метры ростам і ў свой час служыў у марской пяхоце) сказаў, што

калі мы не скажам, хто мне падбіў вока, дык ён нам яшчэ ўсім падаб'е па воку. І мы ўсё расказалі, як і што было. Раніцай у тэхнікуме да нас па чарзе падыходзілі нашы крыўдзіцелі і кожнаму аддавалі па тры рублі.

*Янушкевіч і Новы год*

13.12.2010. Хутка Новы год. Антон Янушкевіч у Пугачоўскай школе, калі я там вучыўся, заўсёды на гэтае свята быў Дзедам Марозам. І яно праходзіла весела, шумна і надоўга запаміналася. У пачатковых класах я не пазнаваў пераапранутага сваяка і верыў, што да нас у школу прыехаў на кані, запрэжаным у сані, сапраўдны Дзед Мароз. І сёння раптам падумалася, што Антон Мікалаевіч пайшоў у той свет таму, што там ужо сабралася шмат яго вучняў, якім захацелася весела сустрэць Новы год...

*Янушкевіч і вяселле*

14.12.2010. Калі мая сястра Валя выходзіла замуж, а вяселле было ў вёсцы, сабралася шмат народу. У большасці нашы сваякі — людзі спакойныя і не «гунуровыя». Хапала ўсім і выпіць, і закусіць. На другі дзень вяселля, калі ўсе прытаміліся сядзець за сталамі і танцаваць, было вырашана прайсціся з маладымі па вёсцы і пафатаграфавацца. І, як толькі пафатаграфаваліся, Антон Янушкевіч запрасіў усіх да сябе, каб паказаць сваю новую хату. І толькі мы выйшлі на вуліцу, як Антон закрычаў: «Вясее-елле! Вясе-е-е-е-лле!» І потым усю дарогу туды і назад ён не маўчаў. І цяпер я нічога не магу ўспомніць, пра што два дні гаварыў са сваімі сваякамі, але і праз дваццаць пяць гадоў чую даўні крык Антона Янушкевіча: «Вясе-е-е-е-лле!»

*Мае продкі*

14.12.2010. Перабіраючы старыя паперы, знайшоў сшытак з запісам успамінаў майго бацькі пра нашых прадзедаў і прабабак: «У мяне была прабабка Аленка. Яна жыла ў Бакштах. Пражыла больш, чым 140 гадоў. Яе французы ў 1812 годзе душылі, але яна ўцякла. Дачка яе Магдуля — гэта маёй маткі Параскі (27.06.1909—24.06.1992) матка. Калі я адыходзіў у войска Магдуля ляжала, хварэла. Калі я год праслужыў, а служыў я спачатку ў Новасібірску (1951—1954 гады) пры кацюшы, яна памерла. Магдуля была Бабровіч. Відаць, і Аленка была Бабровіч. Аленка пахавана ў Пажарышчах. Калі я быў малым

(нарадзіўся бацька ў 1931 годзе), Аленка ўсё на печы ляжала. У дзеда Андрэя прозвішча было Сарока. Пахаваны ў Дубровах на старых могілках бліжэй да капліцы. Прабабка Аленка помніла французаў, калі яны душылі людзей лавай. Усіх задушылі, а яна ўцякла. Ёй тады было 10 гадоў. Так расказваў дзед Андрэй, які памёр у 1951 годзе. Прабабка памерла ў 1942 годзе. Яна ўсё жыццё бачыла добра. Я яе памятаю. Магдуля пахавана ў Дубровах. Яна пражыла больш, чым сто гадоў. Аленка расказвала, што французы надта спявалі ў Пугачах, а потым мерзлі ў каноплях. Рабінка расла каля дарогі, каля яе былі і пахаваны французы. У Магдулі былі дзве каровы, конь, авечкі. Каля Ракава жыў пан Здзяхоўскі, і да яго з Пугачоў людзі хадзілі ў заработкі. Быў пан Гурскі. А ў Пугачах быў пан Мароз. Маёнтак стаяў у Хмарышках. Мароз іграў у Варшаве на музычных інструментах. Гурскі быў у Бакачах. Хапала жабракоў, якія сядзелі пад цэрквамі. Лягезы — гэта футар. Палякі выганялі людзей на футары. А Саветы гналі ў вёскі. Твайго дзеда Юзі маці звалі Крыстынка. Яна вучыла дзяцей. У дзеда было 8 гектараў зямлі. У Аляхновічах жывуць мае траюрадныя браты — Федаровічы Віця, Янка і Валодзя. Янка рабіў на цягніку качагарам....» А далей я нічога не запісаў. Трэба неяк у бацькі распытаць паболей, пакуль ён памятае...

### *Вылічылі ананімшчыка*

15.12.2010. Сёння з «ЛіМа» да мяне ў выдавецтва прыходзіў Віктар Гардзей з лістамі ад ананімшчыка, які ўжо некалькі месяцаў кожны тыдзень пасля выхаду штотыднёвіка дасылае ў рэдакцыю спісаную заўвагамі і размаляваную рознакаляровымі фламастарамі старонку газеты з вершамі. Выдавецтва было б ні пры чым, калі б на канверце адваротны адрас быў іншы, а не наш. Віктар прыйшоў да мяне, бо ананім пазначыў нумар майго кабінета, дзе нібыта ён і сядзіць. Пачалі разбірацца, перабіраць рукапісы і заяўкі на выданне кніг. І хутка разам з Юрасём Пацюпам і Эдвардам Карбановічам па почырку вылічылі паэта, які піша ананімкі ў «ЛіМ». Гэта...

* * *

15.12.2010. Усё замецена. І я іду па рыпучым снезе, як па рыпучых дошках у вялікім белым палацы апошняга беларускага князя Зімы...

## *Упала сняжынка...*

16.12.2010. Упала сняжынка. А за ёй другая, трэцяя, чацвёртая... А снежнай лавіны ўсё няма і няма. Чаму? А таму, што ў нас гор няма...

## *Бацька і агонь*

16.12.2010. Зімой кожны вечар бацька паліў печку. Напачатку выносіў з яе ранейшы попел, а вяртаючыся ў хату браў ахапак дроў і вядро брыкету. А потым, стаўшы на калені перад печкай, распальваў газетамі паленцы. Часам, калі дровы былі сырыя і не хацелі гарэць, abліваў іх газай. Нярэдка, пакуль агонь разгараўся, у хату з печкі ішоў дым. Мы, дзеці, стараліся не перашкаджаць бацьку. І ён, моўчкі распаліўшы дровы, садзіўся на свой ложак каля печкі і, зачыніўшы ў ёй дзверцы, закурваў цыгарэту. А праз хвілін дзесяць у печцы агонь аж гудзеў. Потым бацька адчыняў у печцы дзверцы, каб цяпло пайшло ў пакой, і я з братам і сястрой, стаўшы на калені перад печкай, глядзелі, прыжмурыўшыся, на агонь, як на сонца...

## *Пра кніжнікаў і кнігі*

18.12.2010. Атрымаў з Маладзечна ад Міхася Казлоўскага ягоную новую кнігу «Пра кніжнікаў і кнігі», якая ўпершыню ў гісторыі Беларусі прысвечана пытанням айчыннага бібліяфільства. У анатацыі напісана: «На яе старонках распавядаецца пра дзейнасць Беларускага таварыства бібліяфілаў, якое існавала на тэрыторыі Савецкай Беларусі ў другой палове 20-х гадоў XX стагоддзя, згадваюцца імёны і кнігі забытых пісьменнікаў, даецца характарыстыка бібліятэкам і бібліяфілам мінулага. Не засталіся па-за аўтарскай увагай і такія цікавыя і маладаследаваныя тэмы, як гісторыя беларускага экслібрыса, перыядычнага друку, прасочваюцца лёсы мастакоў-афарміцеляў, архіваў, музеяў, аўтографаў, вывучаюцца малафарматныя і мініяцюрныя выданні. Асобная, часта невядомая старонка чалавечых узаемадачыненняў раскрываецца ў багатай эпісталярнай спадчыне вядомых пісьменнікаў і дзеячаў нацыянальнай культуры». Кніжка выйшла ў «Кнігазборы» накладам, на жаль, у 100 асобнікаў. Магло быць і болей, але ніхто фінансава не паспрыяў Міхасю...

## *Зусім сумна...*

28.12.2010. Другі тыдзень дома, як у лазарэце. Гэтай ноччу ў Веранікі была высокая тэмпература. Амаль ніхто не спаў. Сярод ночы аднекуль самі прыйшлі радкі:

*Калі забіваюць паэта,*
*Паэт не спыняецца жыць,*
*Бо права ён мае на гэта*
*Не менш, чым Хрыстос на крыжы.*

*І вершы яго, як малітвы,*
*Трапляючы ў нашую кроў,*
*Вяртаюць да нас забітых,*
*Нібыта здымаюць з крыжоў...*

Ранкам зазірнуў у інтэрнэт. Загінула Таццяна Сапач...

# СТУДЗЕНЬ

## *Бадлер і Цяслёнак*

12.01.2011. Працягваю купляць альбомную серыю «Великие художники». Учора займеў Анры Маціса. У тэксце пра мастака напаткаў чутае ад старога, у якога я кватараваў у 80-я гады:

*Голубка моя,*
*Умчимся в края,*
*Где все, как и ты, совершенство,*
*И будем мы там*
*Делить пополам*
*И жизнь, и любовь, и блаженство...*

Толькі цяпер даведаўся, што гэты верш напісаны Шарлем Бадлерам і перакладзены Дзмітрыем Меражкоўскім. А колькі яшчэ цудоўных вершаў, якіх не было ў тагачасных кніжках, я пачуў ад старога! Словам, не проста дзіваком, як здавалася мне тады, жыў Мацвей Сцяпанавіч Цяслёнак, які пасля вайны быў арыштаваны і сасланы ў Сібір на залатыя прыіскі...

## *Гняздо*

16.01.2011. Мне пяць гадоў. Раніца. Басанож іду па пыльнай дарозе з Лягез. Пыл цёплы, як падлога ў хаце каля адчыненай печкі, у якой на вуглях варыцца ў гаршку груца з мясам. Раптам з высокай прыдарожнай травы ўзлятае птушка. І там, адкуль птушка ўзляцела, я ўпершыню ў сваім жыцці знаходжу гняздо з жоўтадзюбымі птушанятамі. Спрабую пагладзіць іх, але яны нечакана і балюча дзяўбуць мае пальцы, і я, спалохаўшыся, уцякаю дахаты. Заўтра зноў іду да гнязда, каб птушанятам даць хлеба. Хаджу доўга каля дарогі, але гнязда так і не знаходжу...

## *Стрыжка*

16.01.2011. У дзяцінстве, калі мяне стрыглі, заўсёды плакаў. Плакаў без істэрыкі. Проста слёзы каціліся з вачэй. Паехаўшы на вучобу ў Мінск, хадзіў з доўгімі валасамі і, калі што, сам іх абразаў. І вось ужо больш дваццаці гадоў мяне стрыжэ мая Людміла. Цяпер у час стрыжкі я смяюся...

## *Людзі размнажаюцца...*

17.01.2011. Па радыё перадалі, што ў 2080 годзе на нашай планеце будзе жыць 15 мільярдаў чалавек. Адным словам, Зямля ператворыцца ў суцэльны Кітай...

## *Аня*

18.01.2011. Сёння маёй стрыечнай сястры Ані 50 гадоў. Яна нарадзілася ў вёсцы Крапіўнікі, якая ў метрах пяцістах праз рэчку Яршоўка ад Лягез, у якіх я да школы гадаваўся ў бабулі Ганны. Амаль кожны дзень хадзіў да сястры гуляць у лялькі. Шмат што помніцца з таго часу, але больш забылася. Памятаю, як мяне пакінулі дома дзядзька Ваня з цёткай Аляй глядзець за куранятамі. Глядзеў доўга, а потым пайшоў у Крапіўнікі гуляць. Вярнуўся позна. А дома мяне ўжо даўно чакала дзяга. Не ведаю, як гэта атрымалася, але, калі мяне не было, паваліліся вароты на куранят, і ўсе яны разам з квактухай загінулі. Пасля гэтага я не пайшоў да сястры ў госці, хоць мяне адпускалі з дому. Недзе праз тыдзень Аня прыйшла да мяне сама...

## *Цётка Манька*

18.01.2011. Анінай маме, маёй цётцы Маньцы ўжо 93 гады. Цяпер яна ў Крапіўніках у старэйшай дачкі Валькі. Са здароўем кепска, але цётка трымаецца. Пахаваўшы ў маладосці аднаго мужа і застаўшыся з малымі дзецьмі, выйшла другі раз замуж. Шчасце зноў было нядоўгім. І потым цётка Манька сама касіла і жала, дровы секла і дзяцей гадавала. І дзеці выраслі добрыя, бо, каб не добрыя дзеці, ці было б сёння цётцы Маньцы 93 гады...

## *У гасцях...*

19.01.2011. Быў у дзіцячым доме № 5. Трапіў туды з Інай Фраловай, у якой там працуе былая аднакурсніца па ўніверсітэце. Дзецям мы прывезлі ў падарунак кучу кніжак і два тарты. Я

думаў, што збярэцца амаль увесь дом, але мы прыехалі да канкрэтных хлопцаў, якія жывуць у адным блоку, як браты. Усіх, здаецца, чатырнаццаць чалавек. На сустрэчы было сем, астатнія на вучобе ў другую змену. Хораша пагаварылі. Потым хлопцы мне паказалі свае пакоі, дзе яны спяць і робяць урокі. Скардзіліся, што холадна. У пакоях па тры-чатыры ложкі, а пісьмовы стол адзін. П'ючы з хлопцамі гарбату, звярнуў увагу на васьмёрку, намаляваную на кубку. Пазней даведаўся, што гэтая пазнака гаворыць пра тое, што кубкі належаць групе № 8. На развітанне мы сфатаграфаваліся. І самы цікаўны хлопец, які і кніжкі адразу гартаў, атрымаўшы іх, і пытанні задаваў, правёў нас да выхаду з дзіцячага дома...

## *Карта 1866 года*

20.01.2011. На працы мастак Валера Сенчанка даў мне старыя карты беларускіх зямель. Разглядаючы частку Мінскай губерні па дадзеных 1866 года, знайшоў свае родныя Пугачы. Непадалёк фальварак Новы Двор. Цяпер вёска, у якой размешчаны Залескі сельсавет, а на месцы фальварка Хмарышкі хмызнякі і балаціна. Там, дзе быў фальварак Пятраўшчызна, цяпер вёска Пятроўшчына. Каля вёскі Сцяцкі на карце паказаны ручай Сцяцкі. Цяпер яго няма, як і няма каля маіх Пугачоў ручая Малышоўка. На карце ёсць суседнія вёскі Татары і Татарскія, але Татарскія названы вёскай Татарская. Словам, ёсць на што паглядзець і над чым падумаць...

## *Уладзімір Марук*

21.01.2011. У сённяшнім «ЛіМе» змешчаны вершы Уладзіміра Марука, які пайшоў у лепшы свет 23 студзеня мінулага года. Не буду хваліцца, што быў вельмі блізкім сябрам Валодзі, але мы адзін да аднаго адносіліся з павагай і разуменнем. Быў час, калі мы працавалі ў «ЛіМе» і сядзелі ў адным кабінеце. І мне было прыемна назіраць, калі да майго сябра (ён ужо не жыў з сям'ёй) прыязджала яго дачка Вераніка і як ён рыхтаваўся да сустрэчы з ёй. Па ўсім было бачна і адчувалася, што Валодзя вельмі любіць сваю крывінку. Сённяшнія вершы ў «ЛіМе» з прадмовай Веранікі Марук гавораць, што любоў была ўзаемнай...

## *Нікога не вінавацію...*

22.01.2011. Мужчына павесіўся, пакінуўшы запіску, каб у яго-най смерці нікога не вінавацілі. І яго, як вісельніка, пахавалі на

магілках каля плота. Мінула трыццаць гадоў, і магіла вісельніка цяпер амаль у самым цэнтры могілак...

* * *

22.01.2011. На фоне белага неба і снегу адзінокае чорнае дрэва на небакраі, як трэшчына, з якой прарвецца вясна...

*У чаканні вясны...*

22.01.2011. На вуліцы беласнежна і сумна. У такі дзень, як сёння, калі б жыў у вёсцы, я б на лыжах паехаў у лес. На любімай палянцы расклаў бы вогнішча і на дубчыках смажыў бы сала... А так сяджу ў кватэры і сачу праз акно за варонамі, што сядзяць на дрэвах, чакаючы вясны, як і я...

* * *

23.01.2011. У заснежаным скверы вароны на дрэвах, як счарнелыя ад маразоў рабінавыя гронкі...

*Канкрэтная справа*

23.01.2011. Іна Фралова, якая мяне вадзіла ў дзіцячы дом № 5 прыслала па электроннай пошце: «Хлопцы пад уражаннем да сягоння ад сустрэчы з Вамі. Астатнія шкадуюць, што не давялося пабачыцца. Першы раз чытаюць кнігі на беларускай мове без прымусу. Навыка няма, чытаюць па складах, пытаюцца словы. Адным словам, хата-чытальня...» Пайду яшчэ...

*Да 90-годдзя Івана Шамякіна*

25.01.2011. У Нацыянальнай бібліятэцы прэзетаваў кнігу «Іван Шамякін. Летапісец эпохі». Імпрэзу хораша правёў Мікола Мятліцкі. Выступалі Таццяна і Алеся Шамякіны, Алесь Савіцкі, Раіса Баравікова і Адам Мальдзіс. Найбольш з усяго запомнілася тое, што Адам Іосіфавіч выглядаў, як ксёндз, а Раіса Андрэеўна падчас свайго выступлення трымала мікрафон, як свечку ў Храме...

*Часам здаецца...*

26.01.2011. Часам здаецца, што ўсё тое, што ўжо надрукавана, нікому не патрэбна, як смецце, якое засталося пасля здабычы золата. А золата прапілі...

## *Думалі пра ВКЛ*

26.01.2011. Часта ўспамінаецца Масква і інтэрнат Літінстытута, калі мы (літовец, украінец, паляк і я) начамі за пляшкай польскага спірту, прынесенага з пасольства Польшчы, гаварылі пра землі «ад мора да мора» і адзін аднаму даказвалі, што гэта яго зямля. Яшчэ было амаль шэсць гадоў да гібелі савецкай імперыі, але ўжо адчувалася, што мы не проста так узгадваем сваю агульную гісторыю. Наша «дзяльба зямлі» заўсёды заканчвалася мірна, але не ведаю, як мае суразмоўцы, а я заставаўся пры сваім меркаванні, што ВКЛ — гэта цалкам беларуская дзяржава. Цяпер думаю, чаго больш было ў нашых начных гамонках пра землі «ад мора да мора»: разбуджанай тугі па Вялікім Княстве ці нованароджанай імперскай пыхі, якая ўзнікла ў выніку навучання ў Маскве?

* * *

30.01.2011. Калі ездзіў у вёску ў аўтобусе, нярэдка ўсю дарогу ўспамінаў дзяцінства. На душы рабілася сумна, што хоць ты плач, а людзі ў аўтобусе гаманілі, смяяліся. Адно суцяшала, што не з мяне...

## *Справа не ў паштоўках...*

30.01.2011. У старым сшытку знайшоў сваю занатоўку: «Каляды. Разаслалі каля дзясятка віншавальных паштовак. І ні слова ў адказ. Крыўдна... Знаходзім старыя віншаванні, перачытваем. Вяртаемся ў мінулае, у якім усе мы былі крыху бяднейшымі, але грошай заўсёды хапала на паштоўкі. Ды справа не ў паштоўках...»

## *Мужыкі*

30.01.2011. Перада мной, кульгаючы, два пажылыя мужыкі нясуць па пляшцы таннага «чарніла». Каля першага пад’езда чатырохпавярховіка, што па-суседску з маім домам, прыпыняюцца. Маладзейшы кажа: «Мяне папярэдзілі, што я яшчэ гадоў пяць пахаджу, а там ногі адмовяць. Хопіць мне і пяці гадоў...» — «Ну і я пад нож не лягу!» — заяўляе ягоны сябрук. Відаць, пачуўшы размову, да кульгаючых з пад’езда выйшаў на мыліцах мужчына гадоў пяцідзесяці і сказаў: «Лепш маленькі Ташкент, чым вялікі Сібір!»

## ЛЮТЫ

### *Сыс вольны...*

1.02.2011. Патэлефанавала Ларыса Раманава, якая паведаміла, што маё хваляванне пра Анатоля Сыса (ці не пахавалі паэта са звязанымі нагамі?), якое ўзнікла пасля прачытання кніжкі Ганны Кандрацюк з Беластоку «Дзядоўскае турнэ з Анатолем С.», дарэмнае. Ну і дзякуй Богу!

### *Пытанне*

2.02.2011. Пасля працы зайшоў у краму. Выбіраючы, што купіць, заўважыў разгубленую бабульку вельмі падобную на маю маці. Праз хвіліну бабулька падышла да мяне і запыталася: «А дзе тут за кварціру плаціць?»

* * *

3.02.2011. Дзень пашыраецца, як трэшчына ў чорным лёдзе...

### *У Петрапаўлаўскім саборы...*

5.02.2011. У Петрапаўлаўскім саборы на Нямізе прайшла служба ў памяць Таццяны Сапач. Калі святар назваў у пераліку памерлых імя паэткі, каля мяне з Людай уключылася святло ў вялікай люстры, і адразу ж перагарэла, нібы стрэліла, адна лямпачка. А калі скончылася малітва, у жанчыны, якая стаяла перад намі, ад свечкі загарэўся пясцовы каўнер на куртцы і праз міг патух...

### *Міхась і верш*

5.02.2011. З нататніка выпала візітоўка Міхася Сабалеўскага. Некалькі тыдняў назад з ім пазнаёміўся ў майстэрні Алеся Кваткоўскага. Адразу ўзгадалася, як 1 лютага вечарам мы сустрэліся

на прыпынку каля цырка, чакаючы аўтобус. Высветлілася, што жывём зусім побач. Пакуль дабіраліся дахаты, Міхась расказаў, як ён у пачатку 90-х гадоў у дзясятым класе напісаў верш пра Беларусь і беларускую мову. Паслаў у «Народную газету», з якой атрымаў ліст ад Людмілы Рублеўскай, дзе яна працавала літкансультантам у аддзеле культуры. Людміла тады ў лісце пахваліла хлопца за патрыятызм. Пасля школы Міхась паступіў у лінгвістычны інстытут. На трэцім курсе трэба было здаваць беларускую літаратуру, але так атрымалася, што Міхась не падрыхтаваўся да іспыту. І тут ён успомніў пра адказ з «Народнай газеты». Экзамен прымаў Леанід Казыра, якому Міхась і паказаў ліст Рублеўскай, і атрымаў добрую адзнаку...

* * *

5.02.2011. Зіма. А на вуліцы дождж, нібы ў небе сапсавалася лядоўня і пацякла...

*Паўло і Грузія*

6.02.2011. Дзякуючы «ЖЧ» Сяргея Балахонава даведаўся, што мой даўні знаёмы ўкраінскі паэт Паўло Гірнык, атрымаўшы нацыянальную прэмію імя Шаўчэнкі, пераехаў на вёску. Узгадалася Грузія, дзе з 16 па 22 ліпеня 1987 года на свяце паэзіі Уладзіміра Маякоўскага я з Паўлам жыў у адным гасцінічным нумары на турбазе імя Барыса Дэніладзэ, што каля Тбілісі. Было хораша. Хапала ўсяго: і вершаў, і віна, хоць і быў гарбачоўскі сухі закон. Неяк вечарам Павел прыйшоў у нумар з сябрам і пачаў клікаць мяне пайсці да дзяўчат, якія жылі ўтраіх у суседнім пакоі. Я тады тут жа прытварыўся вельмі п'яным і з Паўлам не пайшоў — у мяне 24 ліпеня ў Мінску чакалася вяселле з Людмілай Рублеўскай...

* * *

6.02.2011. Раніцай, ідучы ў краму, зайшоў у «Белінвестбанк» і ў банкамаце з карткі зняў грошы. Выйшаў на вуліцу і ўбачыў машыну, якая спынілася каля банка, з такім жа нумарам, як у мяне код для зняцця грошай...

*Ажыўшыя карціны*

7.02.2011. У выдавецтва прыходзіў Андрэй Смаляк з праектам «Ажыўшыя карціны». З мастаком я знаёмы яшчэ з 1987 года. Тады я працаваў у часопісе «Беларусь» у аддзеле культуры і быў

адказным за каляровую ўклейку, дзе змяшчаліся рэпрадукцыі карцін. Даводзілася прапагандаваць і Смаляка. Сёння з Андрэем прагаварыў дзве гадзіны. За гэты час ён сказаў недзе тысяч дзесяць слоў, а я слоў трыста. «Ажыўшыя карціны» — цікавы праект...

### *Нам засталася спадчына...*

8.02.2011. У інтэрнэце знайшоў матэрыялы інтэграванага курса «Валожыназнаўства» аспіранткі кафедры этналогіі і фалькларыстыкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка Ірыны Жалондзік, з якіх даведаўся: «У Валожынскім раёне захавалася 88 помнікаў гісторыі, 23 археалогіі, 28 архітэктуры, 5 палацава-паркавых ансамбляў, 2 сядзібныя паркі. У Беларусі нялёгка знайсці другі такі горад як Валожын, дзе б на невялікім кавалачку зямлі было сканцэнтравана пяць аб’ектаў — помнікаў архітэктуры класіцызму першай паловы XIX ст. Важнейшыя з іх — палацава-паркавы ансамбль, пабудаваны ў гістарычным цэнтры горада ў 1782—1806 гадах, і мураваны касцёл Святога Юзафа, які ўзнік у 1816 годзе...

Нашу мясцовасць уславуляюць не толькі выдатныя асобы, але і памятныя мясціны. Колькі іх пралягае абапал берагоў рэк Іслач і Бярэзіна! Правы прыток Іслачы працякае па тэрыторыі Налібоцкай пушчы. Тут у 1717—1867 гадах па ініцыятыве Ганны Радзівіл існавала шклаРобчае прадпрыемства, а зараз знаходзіцца санаторый-прафілакторый...» Адразу ж узгадаўся Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач», што каля Ракава. Хутка будзе дзесяць гадоў, як у Доме творчасці жывуць толькі вятры і лясныя звяры і птушкі...

### *Творы*

10.02.2011. На кніжным кірмашы нашы выдавецкія дзяўчаты прапанавалі Андрэю Смаляку купіць «Родных дзяцей» Ніла Гілевіча з аўтографам. Мастак кніжку не купіў, сказаўшы: «Я сам мастацкі твор з аўтографам...»

### *Па вуліцы Камуністычнай...*

10.02.2011. Ідучы на бацькоўскі сход у мастацкі ліцэй, які заканчвае сын, адчуў, што і я гэтай дарогай хаджу апошнія разы. А прахадзіў я тут па вуліцы Камуністычнай каля амбасады Расіі (у будынку цяпер нешта іншае), каля амбасады Украіны (бачыў як будавалася), каля сінагогі (памятаю стары будынак, а цяпер

новы, сучасны) пятнаццаць гадоў. Гэта з гадамі вучобы старэйшай дачкі. Пятнаццаць гадоў, як пятнаццаць дзён праляцелі...

* * *

11.02.2011. На кніжным кірмашы прадаваў сваю кнігу, нібыта парася, каб у добрыя рукі трапіла...

### *Немагчыма глядзець...*

11.02.2011. На кніжным кірмашы побач з нашым стэндам стэнд «Беларускай энцыклапедыі». На энцыклапедычныя кніжкі немагчыма глядзець, бо ля іх такія дзяўчаты ў кароткіх спаднічках, што вачам не да кніжак...

* * *

12.02.2011. З кніжнага кірмашу вяртаўся позна і праз прыватны сектар. Было цёмна, рыпеў снег пад нагамі і пахла дымам з комінаў, як у роднай вёсцы...

### *Чытачка*

13.02.2011. Учора на кніжным кірмашы жанчына, купляючы маю «Прозу і паэзію агню», цытавала мне незнаёмыя паэтычныя радкі, гаворачы, што яны мае і яна іх вельмі любіць. Сёння з самага ранку мая ўчарашняя пакупніца падышла да нашага стэнда і папрасіла мяне адысціся з ёй. Я адразу ж падумаў, што жанчына прывезла назад маю кніжку і цяпер хоча, каб ёй вярнулі грошы. «Прабачце! Я ўчора так хвалявалася, сустрэўшыся з вамі, што пераблытала вашы творы з чужымі»,— сказала мая чытачка і пачала цытаваць мае вершы...

### *Нашы дзеці...*

15.02.2011. Быў у дзіцячай бібліятэцы № 6, якая знаходзіцца непадалёк ад дому, дзе я жыву. Выступаў перад дзесяцікласнікамі. За першым сталом каля вакна сядзела сімпатычная парачка, якая шэптам, але так, каб было чуваць, каментавала амаль усё, што гаварыла хвілін дваццаць пра мяне загадчыца бібліятэкі. Сваё выступленне я пачаў з паведамлення, што жыву ў гэтым раёне, дзе яны вучацца, і я ведаю ўсіх мясцовых бандытаў і жулікаў. Пасля гэтага дзеці прыціхлі. Прыемна было пачуць, што гаваркі хлопец ведае, што ў нашым раёне раней было нямецкае

пасяленне, а там, дзе цяпер сквер, былі могілкі. Напрыканцы, даведаўшыся, што ў мяне ёсць сын і ён вучыцца ў мастацкім ліцэі ў 11 класе, дзяўчаты тут жа адшукалі ў «Кантакце» майго Максіма...

* * *

15.02.2011. Усё больш чарнейшым робіцца снег. Гэта з ночы, як змяя са шкуры, вылазіць дзень...

*Тэлефонны званок...*

16.02.2011. Прачнуўся ад тэлефоннага званка. Падняў слухаўку і пачуў доўгі гудок. Паглядзеў на гадзіннік. Палова чацвёртай ночы. Доўга не мог заснуць. Думаў пра старых бацьку і маці...

*Пекла і рай...*

16.02.2011. Сёння вычытаў, што золата — гэта паліва для іншапланетных караблёў і нашы продкі трапілі на зямлю з іншай планеты. Адны былі ў пекле — здабывалі ў шахтах золата, а другія былі ў раі — жылі на паверхні зямлі сярод кветак і дрэў, сярод звяроў і птушак...

*Страсці па культуры...*

17.02.2011. З Людмілай быў на тэлебачанні. Запісаліся для «Страсцей па культуры». Перадачу вяла дачка Алега Бембеля (Зьніч) Таццяна. З намі ў гутарцы пра жанчын у культуры ўдзельнічала сямейная пара — Аляксей і Валянціна Еранковы. Ён — кампазітар, а яна — тэатральны рэжысёр. Нагаварылі шмат чаго. Думаю, павінна быць цікава. Праўда, здымалі больш за гадзіну, а перадача 40 хвілін. Дарэчы, гутарка з намі для Таццяны Бембель — дэбют у ролі вядучай тэлеперадачы на канале «Лад»...

*Гарэцкія чытанні*

18.02.2011. Зранку быў у Музеі гісторыі беларускай літаратуры на XIX Гарэцкіх чытаннях, якія пачаліся з «Гульні з класікай». Прысутным былі агучаны ўрыўкі з апавядання Максіма Гарэцкага «Панская сучка» ў творчых работах студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў. Пасля гэтага было шмат цікавых дакладаў. З прывітальным словам ад «Мастацкай літаратуры» і ад сябе выступіў і я. У чытаннях удзельнічала каля пяцідзесяці

літаратуразнаўцаў. Кінулася ў вочы, што сярод прысутных было толькі некалькі маладых мужчын, а ўсе астатнія — паважнага ўзросту і шмат-шмат жанчын...

### *На вуліцы Панчанкі*

18.02.2011. Быў у СШ № 199, што на вуліцы Пімена Панчанкі. Выступаў перад старшакласнікамі. Слухалі, задавалі пытанні, чыталі мае вершы з першай кніжкі «Гронка святла». У школе ёсць музей, прысвечаны жыццю і творчасці Пімена Панчанкі, у якім каля тысячы экспанатаў. Музей хоць і школьны, але зроблены на ўзроўні дзяржаўных Купалы, Коласа, Багдановіча. Словам, жыве Беларусь...

### *Прычоска ад Аўрамчыка і Панчанкі...*

18.02.2011. Будучы ў Музеі Пімена Панчанкі, што ў СШ № 199, узгадаў вясну 1979 года. Мне тады было 19 гадоў. У часопісе «Маладосць» Мікола Аўрамчык выбраў для друку чатыры мае вершы. І вось я прыйшоў у рэдакцыю, каб сфатаграфавацца. У кабінеце Міколы Якаўлевіча быў Пімен Панчанка. І пакуль фатограф Мікола Ждановіч рыхтаваў да працы свой фотаапарат, Мікола Аўрамчык і Пімен Панчанка рыхтавалі маю прычоску да фотасесіі. Валасы ў мяне былі доўгія і непаслухмяныя. Мікола Якаўлевіч, прычэсваючы мяне, узгадаў, што, калі ён быў малады, то са сваімі сябрамі, калі ішлі фатаграфавацца, намазвалі валасы алеем, каб яны добра ляжалі. Алею ў кабінеце Аўрамчыка не было, дык мне галаву намачыў Панчанка вадой з графіна. Потым мяне з прычоскай, зробленай Аўрамчыкам і Панчанкам, сфатаграфаваў Ждановіч, і ў 9 нумары «Маладосці» з'явіліся мае вершы з фотаздымкам...

### *А фота дзе?*

18.02.2011. Пасля таго, як Уладзімір Сцяпан, прачытаўшы маю зацемку «Прычоска ад Аўрамчыка і Панчанкі...», задаў пытанне: «А фота дзе?», я амаль тры гадзіны пароўся ў папках, шукаючы патрэбнае фота. Памятаю, што тое фота я спецыяльна схаваў, каб не прапала. Схаваў так, што цяпер не магу знайсці. Праўда, у папках пазнаходзіў шмат чаго цікавага: і арыгіналы вершаў некаторых паэтаў, і рэдкія здымкі, і малюнкі, і апавяданне Алеся Асташонка, якое ён даваў у «ЛіМ» у сярэдзіне 90-х гадоў і яго там не надрукавалі, і рукапіс выступлення Ніла Гілевіча на пахаванні Максіма Танка, і...

*Фотаздымак на сцяне*

19.02.2011. Едучы ў Маскву ў Літінстытут вучыцца, захапіў з сабой свой фотаздымак, на якім я з прычоскай ад Аўрамчыка і Панчанкі. Упрыгожваючы абшарпаныя сцены свайго інтэрнацкага пакоя, я пачапіў і свой фотаздымак, на які асабліва ніхто ніякай увагі доўгі час не звяртаў. І тут неяк, вяртаючыся з тэатра, Людміла Рублеўская, з якой мы ўжо думалі пажаніцца, запыталася: «Што гэта там за партрэт дзяўчыны вісіць у цябе на сцяне?» — «Дзе?» — папрасіў удакладніць я. «Над ложкам!» — сказала Людміла. «Дык гэта ж мой партрэт!» — засмяяўся я і тут жа даведаўся, што Людзіна сяброўка, якая дрэнна бачыла і з якой Люда зрэдку прыходзіла да мяне, аднойчы сказала: «Чаго ты да яго ходзіш! У яго ёсць дзяўчына! Вельмі прыгожая! Яе партрэт вісіць у Віктара над ложкам!»

*Па дарозе да Кальварыі...*

19.02.2011. Заходжу ў тралейбус № 7, каб праехаць пару прыпынкаў да Кальварыі, і бачу перад сабой на крэсле дзяўчыну, у якой твар так моцна намазаны грымам, што мне падалося — я трапіў у катафалк, які едзе на Кальварыйскія могілкі...

* * *

19.02.2011. Сярод завадскіх будынкаў велізарная труба, з якой ідзе густы дым. Уражанне, нібыта прачнуўся вулкан...

* * *

20.02.2011. Заснежанае поле. Снег, як пена, і ўзыходзячае сонца, як Афрадыта, якая нараджаецца...

* * *

20.02.2011. Стаміўся ад усяго. І ўва мне крычыць вясковы хлапчук: «Не хачу болей быць дарослым!!!»

*У «Сталіцы» быў «Злодзей»...*

20.02.2011. Апошнім часам з Людай кожную нядзелю ходзім у «Сталіцу», дзе глядзім у відэацэнтры рэтраспектыўныя фільмы, што сталі сусветнай класікай, але ў нас ніколі не паказваліся. Сёння глядзелі чорна-белага амерыканскага «Злодзея», які быў зняты ў 50-я гады. За паўтары гадзіны ў фільме не прагучала

ніводнага слова. А фільм класны. У зале было сем чалавек. Побач з намі сядзелі дзве жанчыны, якія паміж сабой шапталіся па-беларуску...

## *На філфаку БДУ*

21.02.2011. Хадзіў на філфак БДУ, куды быў запрошаны паўдзельнічаць у святкаванні Міжнароднага дня роднай мовы. Сабралася паўнюткая зала студэнтаў і выкладчыкаў. Было тэлебачанне. Усё прайшло хораша. Я выступаў апошнім. І цяпер не магу ўтрымацца, каб не пахваліцца, што, пачытаўшы «Баладу Дуніна-Марцінкевіча», у якой ёсць радкі: «Не трэба чужога, не трэба чужога! Ні грошай, ні мовы, ні Бога, // Нічога не трэба чужога!», як гаворыцца, я «сарваў авацыю і вапарыў». Але потым хутка апусціўся на грэшную зямлю, бо даведаўся, што цяпер на філфаку амаль ніхто не піша вершаў ні па-беларуску, ні нават па-расейску...

## *Абавязкова прыйдзем!*

22.02.2011. Напярэдадні Дня абаронцаў Айчыны з Інай Фраловай наведаў у дзіцячым доме №5 знаёмых хлопцаў з групы №8. Дзеці нас чакалі. Я прынёс ім у падарунак новых беларускамоўных кніжак, а Іна велізарны набор піrожных. З прыемнасцю даведаўся, што адзін з хлопцаў пасля першай сустрэчы са мной пачаў пісаць вершы. На жаль, пакуль што пасаромеўся паказаць. За гарбатай я хлопцам расказваў цікавыя гісторыі са свайго жыцця, чытаў вершы. Калі развітваліся, дзеці запыталіся: «А ці прыйдзеце яшчэ да нас?» — «Абавязкова прыйдзем!» — адказаў я.

## *Каровы пякуць бліны*

23.02.2011. Пішу твор пра бліны. Пачытаў тое-сёе з яго сваёй Людміле, якая тут жа параіла вось гэтыя радкі не агучваць на вечарыне ў бібліятэцы імя Цёткі:

*каровы, вяртаючыся з радоўкі,*
*на цёплым пыле дарогі*
*пякуць свае бліны,*
*якія ў маёй вёсцы называюцца*
*японскімі сонцамі*

## *Жартаўнікі*

24.02.2011. Вярнуўся з працы раней, чым звычайна. Не паспеў распрануцца, як зазвінеў тэлефон. Падымаю слухаўку з думкаю, што турбуюць з працы, і чую голас дзяўчыны: «Вам халадзільнік патрэбен?» — «Не!» — адказваю я. «Дык мы зараз да вас прыйдзем і забяром халадзільнік!» — пачулася праз дружны дзіцячы смех, і я паклаў слухаўку...

## *Не спіць у шапку...*

25.02.2011. З «ЛіМа» патэлефанаваў Віктар Гардзей і паведаміў, што ўсё яшчэ працягваюць кожны тыдзень прыходзіць ананімныя лісты з адваротным адрасам, які з'яўляецца адрасам майго працоўнага кабінета: «Праспект Пераможцаў, д. 11, пакой 903». Ізноў той жа почырк, па якім быў апазнаны адзін з паэтаў, які нядаўна ў кнігарні «ЛогвінаЎ» скраў (ходзяць чуткі) шапку Пашы Касцюкевіча, і цяпер у адкрытую гуляе ў ёй па горадзе, і нават нахабна заходзіць у шапцы туды, дзе яе скраў. На гэты раз ён прыслаў пакрэмзаную газетную выразку з маімі вершамі, што нядаўна былі змешчаны ў «ЛіМе»...

## *У Цёткі...*

25.02.2011. Вярнуўся з бібліятэкі імя Цёткі, дзе Алена Масла са сваёй сястрой Наталляй Бучынскай правяла вечарыну, прысвечаную Масленіцы. Выступоўцам давялося не толькі вершы чытаць, спяваць, але і бліны пячы. Я быў у ліку першых. Калі пачалася святочная вячэра, да нас далучыўся Уладзімір Ліпскі з літоўскім паэтам Вітасам Бараўскасам і ягонай жонкай. Праспяваўшы беларускія песні, Вітас развучыў з намі літоўскую. Пасля гэтага Ліпскі і ягоныя сябры сталі развітвацца з намі. Юрась Нераток, які сядзеў каля мяне, гледзячы на літоўцаў, прашаптаў: «Быў бы цяпер тут Толік Сыс, літоўцы б, не падпісаўшы паперу, што аддаюць нам Вільню, не выйшлі б з бібліятэкі...»

## *У «Краязнаўчым даведніку»*

26.02.2011. Атрымаў часопіс «Маладосць» № 2. З рубрыкі «Краязнаўчы даведнік», якая прысвечана літаратурным мясцінам Беларусі, даведаўся, што ў вёсцы Дубровы (яна ў шасці кіламетрах ад маіх Пугачоў) жыў, вярнуўшыся з эміграцыі, польскі паэт і публіцыст Ляскарыс Ежы (1828—1888). І яшчэ: «У міжваенны

перыяд, калі вёска ўваходзіла ў склад Польшчы, у Дубровах быў створаны гурток ТБШ па ініцыятыве камсамольца-падпольшчыка, гімназіста Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны, а пасля Віленскай беларускай гімназіі Таўпекі Уладзіміра. Гурткоўцы займаліся культурна-асветнай і літаратурнай дзейнасцю, ставілі «Паўлінку» Янкі Купалы». І ўсё. На жаль, у гэты «Краязнаўчы даведнік» не трапіў паэт Вячаслаў Міхасёнак, які доўгі час жыў у Дубровах і працаваў у мясцовай школе. У Вячаслава Міхасёнка ў гасцях бываў Уладзімір Караткевіч, які напрыканцы свайго кароткага жыцця каля Дуброў прыгледзеў на хутары хату пад лецішча і збіраўся яе купіць. Няма інфармацыі і пра мастачку Яўгенію Васілеўскую, якая нарадзілася 3 ліпеня 1928 года ў маіх Пугачах і, скончыўшы Маскоўскі мастацкі ўніверсітэт, яшчэ і сёння жыве ў Дубровах...

## *А мы ўсё пішам...*

27.02.2011. Вяртаючыся з крамы, сустрэў былую суседку, якая гадоў пяць назад у нашым раёне купіла лепшую кватэру, чым мела. «Ну як жыццё?» — пацікавілася жанчына. «Нармальна»,— сказаў я. «А як там у вёсцы?» — працягнула дапытвацца былая суседка. «Нармальна. Бацька там жыве...» — адказаў я і пачуў: «Іншыя б у вёсцы трохпавярховы дом з ліфтам пабудавалі! А вы ўсё вершы пішаце, пішаце, пішаце...»

# САКАВІК

* * *

1.03.2011. У апавяданне, у аповесць, у раман можна ўставіць верш гэтак жа, як у ружжо — патрон. Як нельга ўставіць ружжо ў патрон, так і ў верш нельга ўставіць ні раман, ні аповесць, ні апавяданне. І проза з вершам — гэта як кроў з малаком...

* * *

4.03.2011. Сонечная раніца. Месцамі з'явіліся першыя праталіны. Каля кантэйнераў са смеццем некалькі бамжоў дзеляць знойдзенае. І ў мяне ў галаве з'явіўся радок пад Саўрасава: «Бамжы прыляцелі...»

## *Пан міністр*

5.03.2011. Сёння з Людмілай быў у Доме літаратара на прагоне спектакля ТЮГа «Пан міністр» па Францішку Аляхновічу. Напачатку было нудотна і хвілін дваццаць дзеі здавалася, што будзе і далей нейкая свіная нудота з чарцямі. Ды не! І калі ў канцы ў зале ўсе ўсталі і доўга апладзіравалі, то перада мной адзін драматург і адзін рэжысёр (яны сядзелі ў розных радах) проста стаялі, і я не змог зразумець па іх тварах: ці ім спектакль наогул не спадабаўся, ці аднаму такога ніколі не напісаць, а другому такога не паставіць...

## *Голая агітацыя*

9.03.2011. Праходзячы каля нядаўна падрамантаванага цырка, узгадаў, як гадоў пяць таму хадзіў сюды на працягу трох месяцаў раз на тыдзень на запіс тэлепраграмы, якую вёў Ягор Хрусталёў, дзе спаборнічалі ў цыркавым майстэрстве вядомыя тэлежурналісты, эстрадныя спевакі і артысты. Напачатку на

запіс тэлепраграмы два разы я схадзіў з жонкай, а потым яна не пайшла, бо ёй не спадабалася гэтае шоу, якое было скапіравана з расійскага і якое, у сваю чаргу, было здзёрта з амерыканскага. Каб не прападалі запрашэнні, я ўгаварыў Максіма (сыну тады было гадоў трынаццаць) хадзіць са мной у цырк. Пайшлі. У той вечар артысты тэатра, журналісты з АНТ, стаўшы часова цыркачамі, спаборнічалі паміж сабой у яздзе на конях. Ужо недзе праз паўгадзіны Максім заныў, просячыся дамоў. І тут раптам у падвешанай спявачкі, якую садзілі па-цыркавому на каня, сарваўся станік і агаліліся грудзі. Увесь цырк ажыў і заапладзіраваў, а спявачка з голымі грудзямі хвілін дзесяць скакала па крузе арэны на кані. Пасля гэтага мне ўжо не трэба было агітаваць сына пайсці са мной у цырк на запіс шоу...

### *Лягчылаў і чытачка*

10.03.2011. Ранкам мне на працу патэлефанавала жанчына: «Вы мяне не ведаеце, а я вас ведаю, як паэта, таму хачу з вамі пагаварыць».— «А ў чым справа?» — пацікавіўся я. «А справа ў тым, што мне ўжо пад восемдзесят і я люблю беларускую паэзію. Нядаўна купіла кніжку песень Аляксандра Лягчылава, якая выйшла ў вашым выдавецтве. І там я знайшла абдрукоўкі»,— сказала жанчына, і мы з ёй пагаварылі наконт памылак у кнігах. Потым жанчына расказала, што будучы на прэзентацыі кнігі Лягчылава ў гандлёвым каледжы, дзе ён працаваў, яе абурыла, што ніхто з запрошаных кампазітараў і выканаўцаў не прыйшоў. «Нядаўна я была ў «Кнігарні пісьменніка», дзе хацела купіць кніжку Лягчылава, каб падарыць знаёмай,— працягнула размову жанчына.— І мне сказалі, што такога паэта яны не ведаюць і кніжкі ў іх ягонай няма. Але пасля таго, як я пашумела, мне са склада прынеслі дзве кніжкі Лягчылава. На пытанне, чаму кніжку не выставілі ў зале, мне сказалі, што ёй ніхто не цікавіцца і яна на беларускай мове. Ну тут я і завялася, і сказала прадаўшчыцы, што калі б я не была старой, то дала б ёй за такія словы ў морду, але яна некалі нарвецца і ёй морду наб’юць за знявагу беларускай мовы...» Пасля размовы я даведаўся, што мне тэлефанавала жонка кампазітара Кіма Цесакова...

### *Янка Сіпакоў*

10.03.2011. А палове другой патэлефанавала паэтка Марыя Панкова і, плачучы, паведаміла, што памёр Янка Сіпакоў. Адразу ўзгадалася, як зусім нядаўна Іван Данілавіч клапаціўся пра

хутчэйшае выданне ў нашым выдавецтве ягонай кнігі «Двое на вуліцы» ў серыі «Проза ХХ стагоддзя». Выхад яе запланаваны на ліпень. Ён, нібыта адчуваў, што яму засталося жыць нямнога,— недзе з месяц назад прынёс спіс твораў, які абавязкова трэба ўключыць ў кнігу выбранага. І прынёс ён не толькі спіс, але і ранейшыя кнігі і часопісы, з якіх трэба рабіць набор для новага выдання. І яшчэ ўзгадалася, як Іван Данілавіч радаваўся, калі ў ліпені мінулага года мы выдалі ягоныя «Вершы, балады, прытчы» ў серыі «Школьная бібліятэка» накладам 17 119 асобнікаў. І мне было прыемна чуць, што я, як складальнік кнігі, выбраў тыя творы, якія б сам Іван Данілавіч уключыў у выдадзеную кнігу...

*Вясновае...*

12.03.2011. Тэлефонныя коды... Тэлефонныя воды... Тэлефонная вада... Нешта ў гэтым ёсць вясновае...

*Жыццё і смерць*

12.03.2011. «Перажыў два інфаркты, а памёр ад прападной язвы па дарозе ў лечкамісію. Пахавалі ў Калодзішчах...» — з размовы з сябрам пра Янку Сіпакова...

*На галоўнай вуліцы Мінска...*

14.03.2011. На галоўнай вуліцы Мінска, дзе цяпер ГУМ, у 1938 годзе стаяла цырульня. Хуткімі крокамі ў яе зайшоў малады чалавек. Падышоўшы да століка з прыборамі для стрыжкі, ён схапіў брытву і паласнуў сабе па шыі. Рана была не смяротная, і хлопец пасля лякарні трапіў у дурдом. Так беларуская літаратура страціла яшчэ аднаго паэта, талент якога быў на ўзроўні Максіма Багдановіча. Як звалі гэтага паэта і што яго падштурхнула да самагубства можна будзе даведацца з новай дакументальна-энцыклапедычнай кнігі Леаніда Маракова «Галоўная вуліца Мінска. 1880—1940 гг.», працу над якой ён заканчвае...

*Броўка і 25 працэнтаў*

15.03.2011. Пад канец працоўнага дня зайшоў у кабінет да Юрася Пацюпы і Эдварда Карбановіча, дзе ўжо гасцяваў Міхась Шавыркін. Гаворачы пра літаратуру, Міхась Мікалаевіч узгадаў сваю працу ў энцыклапедыі пры Петрусю Броўку: «На той час з Масквы была ўстаноўка, каб у энцыклапедыю мы давалі не меней сарака працэнтаў пра сваё, пра нацыянальнае. Можна

было і пяцьдзясят, але Броўка патрабаваў ад нас дваццаць пяць працэнтаў і не болей...»

*Атамныя лічбы...*

15.03.2011. Прагучала па тэлебачанні, што цяпер у свеце існуюць 443 атамныя электрастанцыі. З іх 18 — у Японіі, з якіх 11 у час землятрусу атрымалі пашкоджанні...

* * *

16.03.2011. Амаль дзве гадзіны быў на сустрэчы з адзінаццацікласнікамі ліцэя БДУ, якія, паступаючы вучыцца, хацелі стаць гісторыкамі. На сённяшні ж дзень некаторыя з іх плануюць пасля ліцэя пайсці на іншыя спецыяльнасці. Прыемна было даведацца, што ліцэісты нядаўна прачыталі новы раман Людмілы Рублеўскай «Сутарэнні Ромула», які ім вельмі спадабаўся. І нагогул для іх мая Людміла з'яўляецца любімай пісьменніцай. На пытанне, што мне даюць сустрэчы з маладымі чытачамі, я адказаў: «Упэўненасць, што жыве Беларусь!»

*Да і пасля*

16.03.2011. Яшчэ зусім нядаўна да землятрусу і цунамі па тэлебачанні паказвалі Японію, дзе робаты могуць старому чалавеку паднесці стакан вады, прыбраць у кватэры, прайсці там, дзе чалавек не пройдзе. Цяпер мы бачым Японію бездапаможную перад атамнай катастрофай і тыя клапатлівыя робаты, пра якіх мы толькі можам марыць, нібы скрозь зямлю праваліліся...

*Ранішняе тэлефанаванне*

17.03.2011. Сем гадзін раніцы. Тэлефонны званок. Маці? Бацька? Падымаю нясмела слухаўку і чую знаёмы голас кампазітара Эміля Наско: «Прабач, але не вытрываў, каб не пазваніць! Гадзіну назад закончыў новы музычны твор на тваю баладу. Ты геній!» — «Ну і ты геній!» — адказаў я.

* * *

17.03.2011. Гаворым пра Японію. І раптам рыфма: «Японцы — стронцый...»

*Забойчыя адзінкі...*

18.03.2011. Амерыка. 11 верасня 2001 года. Тэракт... Японія. 11 сакавіка 2011 года. Землятрус. Цунамі. 11 атамных электрастанцый пашкоджаны...

*Камень*

18.03.2011. (Прыснілася.) Пустэльня. Па пяску, як па вадзе, няспешна паўзе, як плыве, велізарная, як шчыт воя Рымскай імперыі, чарапаха. На чарапасе стаіць келіх з чырвоным вінам, як з крывёй. Трымаючы ў руцэ свечку, іду следам за чарапахай. Пясок мне апякае босыя ногі, а свечкі агеньчык трапечацца, як залаты матыль, які хоча з маёй рукі ўзяць свечку і панесці яе, як саломінку, да егіпецкай піраміды, якая, нібыта складзена з цюкоў саломы, бачыцца на даляглядзе. І раптам пясок робіцца чорным, як вуголле, і чарапаха вялікай рудой птушкай узлятае ў белае, як марля, неба. Свечка ў маіх руках тухне і ламаецца, як саломінка, а келіх з вінам падае мне пад ногі і разбіваецца аб камень, на якім напісана: «ЯПОНІЯ».

*З пад'езда № 6*

19.03.2011. Кожны дзень у 9 гадзін раніцы, бывала крыху пазней, з пад'езда № 6 выходзіў высокі стары і выносіў смецце ў невялікім сінім вядры. Учора старога са смеццем не было бачна ўвесь дзень. Сёння з пад'езда вынеслі старога ў вялікай сіняй труне...

*Ніна Маеўская*

20.03.2011. Учора ад інсульту памерла пісьменніца Ніна Маеўская. Нарадзілася Ніна Васільеўна 4 снежня 1938 года ў горадзе Любань. Пасля факультэта журналістыкі працавала ў рэспубліканскіх выданнях, сярод якіх былі газета «Літаратура і мастацтва» і часопіс «Беларусь». Друкавацца Ніна Маеўская пачала ў 1955 годзе. Выдала зборнікі аповесцей і апавяданняў «Ляці, верабейка» (1969), «Агата» (1970), «Надзеевіч» (1983), «Такая позняя вясна» (1984), «Холад доннай вады» (1989) і іншыя. Апошнім часам пісала вершы, якія выйшлі ў свет некалькімі кнігамі. З Нінай Васільеўнай я працаваў у часопісе «Беларусь» напрыканцы 80-х гадоў. Яна была ў аддзеле публіцыстыкі. З ёй было добра і ў час працы, і ў час адпачынку. На мінулым тыдні Ніна Васільеўна

тэлефанавала мне ў выдавецтва. Дакладней, патэлефанаваў яе муж і потым перадаў ёй слухаўку. Калі б муж Ніны Васільеўны не сказаў, з кім буду гаварыць, я б не пазнаў па голасе пісьменніцу. Голас быў ахрыплы і слабы. Ніна Васільеўна прасіла абавязкова ўключыць яе апавяданні ў кніжку пра каханне, якая плануецца выдавецтвам на наступны год у серыі «Вера. Надзея. Любоў»...

### *Пытанне*

20.03.2011. Гляджу па тэлевізары навіны з Японіі. Маладая такійка, маці, у якой двое дзяцей (аднаму два гады, другому яшчэ толькі месяц), скардзіцца ўсяму свету: «У Токіа няма ні вады, ні малака, ні падгузнікаў!..» Глядзець і слухаць жудасна. Але няўжо толькі жыхары тых тэрыторый, якія пацярпелі ад землятрусу і цунамі пастаўлялі ў сталіцу ваду, малако і падгузнікі?

### *Просьба...*

21.03.2011. Не ведаю, як даўней, а цяпер у выдавецтва лісты ад чытачоў прыходзяць вельмі рэдка. Людзі часцей тэлефануюць. Нехта скардзіцца, што не можа набыць кнігу аўтара, якога ён любіць, а нехта дзякуе за добрае выданне, што выйшла ў «Мастацкай літаратуры». Сёння прыйшоў ліст з просьбай. Не магу ўтрымацца, каб не працытаваць: «Я хочу перевести на русский язык книгу Рыгора Ивановича Бородулина «Вечалье», год издания 1980 г. Без Вас он не обойдется. Вы знаете его координаты, телефон. Пожалуйста, вызовьте его к себе и покажите ему письма, что я написала ему на Ваш адрес. Я читала энциклопедию в нашей сельской библиотеке, она слишком старая. Там только написано о нем, что он работал в журнале «Нёман» с 1972 г. Я шлёпаться не могу далеко, ноги мои отмерзают. (...) Жду ответа от него, то есть справку-разрешение на перевод книги до 15 марта. А там я собираюсь ехать на родину. (...) Там остался текучий дом по козырьку, его сбили, сбили железный парадный карниз, сняли (украли) железные ворота, нет сарая, где можно растить свиней. Я держу курей. Здесь у меня командиры (...) перебили людьми нашими мне до 30 кур уже скоро нестись им было бы или несушек. В маленьком возрасте я любила кушать яйко, шпеко, млеко. (...) Надеюсь вы поможите мне горе отгоревать. Я не пью и не курю. У меня идет время медленно. Быстрее ответьте на маё письмо. Письмо мое Бородулину Р. И. разрешаю вам прочесть.

Здравствуйте, Грыгор Иванович!

(...) Мне от Вас надо письменное разрешение на перевод Вашей книги «Вечалье». Я переведу её на русский. У нас в Белоруссии любят Любовь Донцову. Я переведу Вашу, её будут читать в России. Может и её будут любить там. За перевод я прошу Вас не деньги, а печатную машинку электрическую «Оптиму» или другую, но электрическую. Разрешение надо заверить в Натариусе, так как я не имею права дотрагиваться без Вашего разрешения к Вашим книгам. 17.03.2011 г.».

### *Дзве смерці...*

21.03.2011. «Памёр мядзведзь Кнут — жыхар берлінскага заапарка. 19 сакавіка 2011 года яго знайшлі ў басейне пасярод вальера. Абставіны і прычыны гібелі мядзведзя пакуль невядомыя». Гэтая навіна не сыходзіць са сродкаў масавай інфармацыі. А тое, што 19 сакавіка памёрла беларуская пісьменніца, акрамя яе родных і суседзяў амаль ніхто больш і не заўважыў. Ці то пісьменнікаў вельмі многа, ці то мядзведзяў вельмі мала?..

### *Было...*

21.03.2011. У выдавецтва прыходзіў Уладзімір Сцяпан. Збіраемся выдаваць ягоную кнігу пра мастака Сяргея Каткова, якому 1 кастрычніка з дня народзінаў будзе 100 гадоў. Пагаварылі пра жыццё. Валодзя пайшоў, а мне ўзгадаліся 80-я гады і падвал пад «Кнігарняй пісьменніка», дзе Сцяпан з Глобусам працавалі мастакамі-афарміцелямі. Я да іх часта прыходзіў, і мы пілі каву, чыталі адзін аднаму новыя творы, марылі. Было хораша. Нешта збылося, а нешта і забылася. Як гэта было даўно! Як гэта было нядаўна...

### *Пісьменніца з Чалябінска*

22.03.2011. З самага ранку да мяне на працу зайшла невысокая пажылая жанчына і заявіла: «Я хачу ў вас перавыдаць свае творы!» — «Якія?» — пацікавіўся я. Пісьменніца падала мне кнігу, на вокладцы якой прачытаў: «Челябинское отделение СП России», «Первый рейс», «Нина Шишкина». Я адразу ж запытаўся ў Ніны Аляксандраўны пра Генадзя Суздалева, з якім вучыўся ў Літінстытуце. І мне стала вядома, што мой аднагрупнік ужо даўнавата з Чалябінска перабраўся ў Суздаль. Сама ж Ніна Шышкіна прыехала ў Мінск тры дні таму. Адзін дзень шукала гасцініцу, другі дзень шукала Дом друку, а на трэці дзень

прыйшла ў «Мастацкую літаратуру». Горада яшчэ зусім не бачыла. Думае прадаць кватэру і з сям'ёй дачкі пераехаць у Мінск. На маё пытанне: «Няўжо вам так дрэнна ў Чалябінску?», жанчына адказала: «З-за кітайцаў няма жыцця...»

*Аляксандр Мядзведзь*

23.03.2011. Месяц назад Алімпійскі камітэт Беларусі звярнуўся ў наша выдавецтва з просьбай выпусціць кнігу, прысвечаную трохразоваму алімпійскаму чэмпіёну Аляксандру Мядзведзю. Сёння ж да нас прыходзіў сам легендарны спартсмен. Яму ў наступным годзе 16 верасня будзе 75 гадоў. Дырэктар выдавецтва і я амаль тры гадзіны размаўлялі з Аляксандрам Васільевічам. Пачулі вельмі шмат цікавага. Напрыклад, даведаліся, што ягоная бабуля Акуліна была ростам 195 см. Цяпер чатырнаццацігадовы ўнук Мядзведзя такога ж росту. У 1972 годзе амерыканцы прапанавалі трохразоваму альмпійскаму чэмпіёну за паўтары мільёна даляраў паехаць на паўгода ў ЗША на трэнерскую працу. Пра гэта даведаўся ЦК Кампартыі і не пусціў Мядзведзя ў замежжа. Словам, чакаецца вельмі цікавая кніга...

*Мужчына сярод жанчын*

24.03.2011. Раніцай, чакаючы аўтобус, на прыпынку, з якога кожны дзень езджу на працу, заўважыў, што я адзін стаю сярод (спецыяльна палічыў) дваццаці трох жанчын. Было б нічога дзіўнага, калі б вечарам, чакаючы аўтобус № 57 на прыпынку каля Купалаўскага музея амаль паўтарылася ранішняя сітуацыя. На гэты раз на прыпынку былі дваццаць тры жанчыны, я і міліцыянер...

*Анатоль Комлеў*

27.03.2011. З Анатолем Комлевым пазнаёміўся ў канцы 70-х гадоў, калі хадзіў на пасяджэнні літаб'яднання «Крыніцы», што працавала пры «Чырвонай змене». У 1985 годзе я паехаў у Маскву вучыцца і з Анатолем ужо ўбачыўся толькі некалькі гадоў таму ў электрычцы па дарозе на Лысую гару. Абмяняўшыся нумарамі тэлефонаў, мы зноў зніклі адзін для аднаго, каб сустрэцца на мінулым тыдні ў мяне на працы. Анатоль прынёс кіпу сваіх вершаў, з якіх амаль нішто не друкавалася. На кніжку ў «Мастацкай літаратуры» ён не прэтэндуе, а проста хоча, каб я пачытаў, выказаў сваю думку пра напісанае і дапамог знайсці выдавецтва, дзе можна выдацца за свае грошы. Ад Анатоля даведаўся, што, пераязджаючы са старой кватэры ў новую, яго-

ныя папкі з вершамі, якія былі напісаны на працягу дваццаці гадоў, выпадкова трапілі ў сметніцу. Са сметніцы бамжы здалі вершы ў прыёмны пункт мукулатуры, куды Анатоль спазніўся на некалькі гадзін, каб адшукаць і выкупіць свае паперы. Доўгі час Анатоль шкадаваў пра страчанае, але з часам супакоіўся, бо напісаліся новыя творы. І я, пачытаўшы іх, магу сказаць, што нядрэнныя...

*Супакоілі...*

28.03.2011. Некалькі дзён назад праз СМІ ўсяму свету стала вядома, што на адным з блокаў атамнай электрастанцыі на Фукусіме радыяцыя перавышае ў 10 мільёнаў разоў дапушчальную норму. Сёння японцы паведамілі, што з-за сапсаванага дазіметра была агучана няправільная лічба і радыяцыя перавышае норму ўсяго ў 100 тысяч разоў...

*Дзеці і настаўнікі...*

29.03.2011. Калі я вучыўся ў сёмым класе, у час вясновых вакацый настаўнікі Пугачоўскай школы арганізавалі экскурсію на радзіму Якуба Коласа. Мяне мама не пусціла, сказаўшы: «Няма чаго ў час паводкі цягацца за свет!» Сёння даведаўся, што тады грузавая машына крытая брызентам, вяртаючыся дамоў па лясной дарозе каля Нёмана, перакулілася з кучай школьнікаў у неглыбокую азярыну. На шчасце, усё абышлося вялікім пярэпалахам і вымачаным да апошняй ніткі адзеннем. Сохнучы каля вогнішча, настаўнікі загадалі дзецям, каб тыя, вярнуўшыся дамоў, маўчалі пра непрыемнае здарэнне. І ўсе маўчалі...

*Было і гэта...*

29.03.2011. На пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя аднаго паэта адправілі ад Саюза пісьменнікаў у Маскву на святкаванне юбілею Яўгена Яўтушэнкі. Дэлегат, вярнуўшыся дамоў у добрым настроі, пахваліўся аднаму супрацоўніку Дома літаратара: «Цяпер наша галоўная задача — усё расшалатаць і разваліць!»

* * *

29.03.2011. Нядаўна святкаваў свой чарговы дзень народзінаў. Было шмат віншаванняў, але найбольш запомнілася мамай прашаптанае па тэлефоне адзінае слова: «Віншую...»

## КРАСАВІК

### *Патрэбная кніга*

1.04.2011. Людміла сёння была ў БДУ і вечарам дамоў прынесла падораную выкладчыцай Ірынай Казаковай кнігу «История и теория мировой культуры». Сама кніга мяне не здзівіла. Я, не чытаючы, ведаю, што гэтае выданне спатрэбіцца і Людміле, і мне, і нашым дзецям. Прыемна ўразіла паэтычная назва выдавецтва — «Зорны верасок»...

### *Асвета і Клышка*

1.04.2011. Сёння быў на ўрачыстасцях, прысвечаных 60-годдзю выдавецтва «Народная асвета». Было шмат узнагарод, кветак, віншаванняў. Але найбольш прыемна было паслухаць Анатоля Клышку, «Буквар» якога выходзіць ужо 43 гады...

### *«Мы з Санькам у тыле ворага»*

1.04.2011. У наша міністэрства звярнуўся вялікі начальнік, каб для яго сына-школьніка знайшлі цікавую кніжку пра вайну на беларускай мове. Міністэрства тут жа азадачыла наша выдавецтва, і я адразу ўзгадаў сваю любімую кнігу Івана Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага», якая некалькі гадоў таму ў нас перавыдавалася. Праўда, кніга даўно ўжо раскуплена, і мне давялося аддаць свой асобнік. Спадзяюся, што твор спадабаецца хлопцу...

### *Трымаецца...*

2.04.2011. З чацвярга мама ў Ракаўскай бальніцы на прафілактыцы. Сёння ў яе будзе мой малодшы брат Вова, а я ў аўторак паеду адведаць. 19 красавіка маме споўніцца 81 год. Трымаецца...

## *Шпакі*

2.04.2011. Сёння і ў нашым двары з'явіліся шпакі. Я іх напаткаў, ідучы ў майстэрню да Алеся Квяткоўскага. Гледзячы на птушак, адразу ўзгадаў вёску, дзе заўсёды для мяне быў святам іхні прылёт. Цяпер жа, не спыняючыся, я пайшоў далей, сумна думаючы пра бацьку, які адзін у вёсцы, і пра маці, якая ў бальніцы...

## *Лаўка*

2.04.2011. Каля пад'езда ўжо некалькі гадзін пра нешта сваё цікавае гамоняць старыя жанчыны. Тры сядзяць на лаўцы, а чацвёртая стаіць. Час ад часу адна старая ўстае, каб даць пасядзець той, якая ўжо настаялася. І думаецца мне, што і мая мама магла б вось гэтак сядзець на лаўцы і гаманіць, але ў кожнага сваё жыццё і свая доля. Ды лаўка каля па'езда, калі яе ніхто з мужыкоў не паламае, ніколі не будзе пуставаць...

## *Песня і абяцанне*

2.04.2011. Недзе перад Новым годам напісаў песню. І толькі ўчора за яе атрымаў ганарар. Дваццаць працэнтаў аддаў дачцэ і сыну, бо абяцаў столькі даць ім за дапамогу. Дзеці спакойна ўзялі грошы, і я зразумеў, што яны не забыліся пра маё даўняе абяцанне...

* * *

2.04.2011. Працуеш, каб жыць. Але жывеш з думкай, каб не працаваць...

## *Фільмы і жыццё*

2.04.2011. Паглядзеў з Людмілай запар дзве ўдалыя экранізацыі — «Татарская пустка» па Дзіна Буцаці (1976) і «Нарвежскі лес» па Харука Муракамі (сучасны, рэж. Чан Ан Хунг). Цяпер у галаве шмат думак і сярод іх ёсць самая галоўная — у гэтым свеце варта жыць нават толькі для таго, каб паглядзець гэтыя фільмы, а потым задумацца...

* * *

2.04.2011. Пасля ўчарашняга дажджу паветра загусцела і запахла бярозавым сокам...

## *У час паводкі*

2.04.2011. Наўзбоч сцяжыны праз Мухлю пачарнелы снег і ручаіны праз сцяжыну нагадалі мне, як гадоў трыццаць назад у час паводкі я дабіраўся ў свае Пугачы. Аўтобус тады дайшоў да Бузуноў і вярнуўся назад у Мінск, а я і яшчэ некалькі чалавек пайшлі далей. Да Пугачоў было кіламетраў пятнаццаць. Абапал насыпной дарогі цякла вада, на дарозе стаяла балота, а месцамі і дарогі не было. Ішоў доўга. Амаль цэлую вечнасць. Успамінаў пражытае за свае дваццаць, чытаў сам сабе свае вершы, лічыў крокі і шкадаваў, што не паехаў, як некаторыя, назад у Мінск. Ды, чым бліжэй было да Пугачоў, тым было весялей на душы. Ніхто мяне дома ў час паводкі не чакаў. Напачатку бацькі абрадаваліся, а потым задумаліся, як жа цяпер мяне ў горад пераправіць. А я нікуды не спяшаўся, бо нідзе не працаваў (ніхто не ведаў пра гэта), і таму ў вёсцы прабыў да таго дня, пакуль не прыйшоў аўтобус з Мінску. Дома з бацькамі было хораша...

## *Песні*

3.04.2011. Патэлефанавала кампазітар Валянціна Сярых і прапанавала напісаць песню на яе старую музыку, што яшчэ пры Савецкім Саюзе гучала. Я сказаў, што падумаю, а Валянціна, каб падбадзёрыць мяне, паведаміла: «Мы ўсе ведаем песню Уладзіміра Будніка пра Янку Купалу. А ў свой час на гэтую ж музыку гучала расейскамоўная песня, якая пачыналася: “Родина наша. Родина наша...”»

* * *

3.04.2011. Праходзіў каля Кальварыйскіх могілак. У думках павітаўся з усімі пісьменнікамі, якія там спачываюць...

## *Не помніцца...*

3.04.2011. Сёння сніў нешта цікавае. Адразу не запісаў, а цяпер нічога ўспомніць не магу. Амаль гэтак жа не помніцца і тое, што было на пазамінулым тыдні...

## *Сумна...*

3.04.2011. На вуліцы змяркаецца. Паглядзеў на заходзячае сонца і раптам стала сумна. Здавалася б, радуйся, што вясна прыйшла. Ды не. Сумна. А сумна, што яшчэ адна зіма мінула...

*Да мамы...*

4.04.2011. Заўтра зранку еду да мамы ў Ракаўскую бальніцу. Сабраў сумку сёння, а хвалююся ўжо некалькі дзён...

*Ракаўская вада...*

5.04.2011. Ракаў мяне сустрэў дробным дажджом. Па дарозе да бальніцы, дзе падлечваецца мама, спыніўся на мастку праз рачулку. Паглядзеў, як віруе, і паслухаў, як шуміць ракаўская вада. Без сонца сумнавата, нібыта восенню...

*Мама і вокны*

5.04.2011. Чым бліжэй падыходзіў да Ракаўскай бальніцы, тым пільней углядаўся ў яе вокны, спадзеючыся ўгледзець маму. Каля акон нікога не было. І ад гэтага на душы стала крыху трывожна, хоць я і ведаў, што мама не ведае, калі я прыеду. А пачуццё трывогі ўзнікла ад незабыўнага — калі ў вёску прыходзіў аўтобус, мама заўсёды была на прыпынку або глядзела на вуліцу з акна хаты...

*Лёгкі на ўспамін...*

5.04.2011. Дзверы ў маміну палату былі адчынены. З яе чуліся галасы. Мама ў палаце была не адна — з Пугачоў адведаць прыехала яе малодшая сястра Аля з сынам Сярожам, ягонай жонкай Светай і іх малымі дзецьмі. «А мы тут толькі што пра цябе гаварылі!» — вітаючыся, сказала цётка, і ўсе замоўклі...

*Вершы і пацыенты*

5.04.2011. Каб даведацца, калі выпішуць з бальніцы маму, пайшоў да галоўнай дакторкі, якая з нашых Пугачоў, піша вершы па-беларуску і да ўсяго яшчэ яна Шніп. Маму выпішуць у пятніцу. На маё пытанне: «Як справы з вершамі?», Ірына ўсміхнулася і паказала на стол завалены тоўстымі карткамі сваіх пацыентаў...

*Ракаўскія лебедзі*

5.04.2011. Вяртаючыся з бальніцы на аўтобусны прыпынак, здалёк убачыў на ракаўскай азярыне двух белых лебедзяў. Пакуль я прыйшоў да вады, лебедзі падплылі да берага. Нічога ядомага ў мяне не было, і я, пастаяўшы каля птушак нейкую хвіліну і пагаварыўшы з імі, паспяшаўся сваёй дарогай далей...

*Свой цягнік...*

9.04.2011. У краме сустрэў мастака, які жыве ў суседнім пад’ездзе. Ужо нямала гадоў мы знаёмыя, а я не ведаю, як яго завуць, і цяпер няёмка пытацца, бо знаёміліся ж. Гадоў дзесяць у адзіноце мастак глядзіць хворую маці, і мы, сустрэўшыся, заўсёды гаворым пра здароўе сваіх матуль. Сёння на маю скаргу, што я мінулую ноч правёў, як у цягніку ў плацкартным вагоне, мастак сказаў: «Я ўжо год у сваім цягніку. А днём спаць не магу, бо працаваць трэба...»

*Ноч прайшла...*

10.04.2011. Мама ноччу часта ўставала. І для мяне зноў ноч прайшла, як у цягніку ў плацкартным вагоне. Цяпер галава баліць. Праўда, дапісаў верш:

*Гэта сонца прад ноччу, як пляшка віна,*
*Што звалілася ў п’янага Бога з акна*
*На асфальт панядзелка, дзе ўсе мы жывём*
*І, нібы па віне, мы па часе плывём*
*Невядома чаго, невядома куды,*
*Адзінокія, быццам бы кроплі вады,*
*У зямным акіяне зямнога быцця,*
*Дзе век кветак нямнога, а многа смецця,*
*З-за якога не бачна, як пляшка віна*
*Паляцела ад п’янага Бога з акна,*
*І разбілася пляшка, з якой выцек дзень,*
*Нібы з сонца прад ноччу за промнем прамень...*

*Стары і людзі*

10.04.2011. «Каля пад’езда дома, што насупраць нашага, паваліўся нейкі дзед з торбай. Людзі, як сляпыя, праходзяць міма, а ён не можа ўстаць!» — паведаміла Людміла. Я хуценька накінуў куртку на плечы і выбег да старога. Узяўшы пад пахі, я падняў дзеда з зямлі і пасадзіў на лаўку, падаў торбу з пляшкамі «чарніла». Стары мне падзякаваў за дапамогу і закурыў. Я, вярнуўшыся ў кватэру, пачаў з акна назіраць за ім. Недзе праз паўгадзіны да старога падышоў другі стары і забраў торбу з пляшкамі. Пасядзеўшы яшчэ з паўгадзіны на лаўцы, дзед пачаў спрабаваць зайсці ў пад’езд з кодавым замком. Старому ніхто не адчыніў, і ён сваім кіем стаў грукаць у акно

каля дзвярэй. Выглянула жанчына, але хутка зачыніла акно і занавесіла фіранкай. Дзед яшчэ з гадзіну стаяў каля дзвярэй, пакуль прыйшла дзяўчына, якая жыве ў гэтым доме, і ўпусціла яго ў пад'езд...

### *Жудаснае...*

12.04.2011. Учора пасля тэракту ў Мінскім метро па БТ прагучала, што ў вагоне, дзе загінулі людзі, ляжалі пачкі акрываўленага цукру. Да вядомых «кроў з малаком» і «малако з крывёй» дадалося новае і жудаснае «цукар з крывёй»...

### *Лёсы...*

12.04.2011. Учора многія маглі быць у метро ў 17 гадзін 56 хвілін і стаць ахвярамі тэракту, але адны станцыю «Кастрычніцкая» пакінулі раней, а другія не паспелі ва ўзарваны цягнік. Аглядаючыся ў чорны дзень, успамінаю, што мяне да сябе ў офіс пасля трох гадзін запрашаў Фінберг, каб пагаварыць пра будучую кніжку, прысвечаную аркестру. Я папрасіў перанесці сустрэчу на іншы дзень. Пасля чатырох гадзін патэлефанаваў Алесь Марціновіч з холдынга і паведаміў, што выйшла кніжка, дзе ёсць і мае творы, і я магу прыйсці набыць яе. Мне тут жа захацелася займець кнігу, але, адмовіўшыся ад сустрэчы з Фінбергам, я вырашыў і ў холдынг не ехаць. А мог жа паехаць і да Фінберга, і ў холдынг пайсці, дзе б засядзеўся да канца іхняга працоўнага дня, а потым мог патрапіць у метро якраз у смяротны цягнік так, як патрапіла супрацоўніца холдынга Галіна Пікулік...

### *Крывавыя берагі Нямігі...*

14.04.2011. Ідучы на працу, раптам у сабе пачуў радкі: «Зноў берагі Нямігі азмрочаны крывёй...» Узгадалася «Слова пра паход Ігаравы». Мінула сотні гадоў, а берагі Нямігі і ў нашым часе крывавяцца. Адзін бераг ракі — гэта станцыя метро «Няміга» — быў акрываўлены 31 мая 1999 года, а другі бераг — гэта станцыя метро «Кастрычніцкая» — 11 красавіка 2011 года...

* * *

16.04.2011. Чытаў пра загінулых у метро і плакаў...

## *Дзеці і Нарбут*

18.04.2011. Быў у школе № 213 на сустрэчы з вучнямі 6—10 класаў, якія цікавяцца беларускай літаратурай. Прыйшло чалавек пяцьдзясят. Слухалі, пыталіся. Пасля ўсяго да мяне падышлі старшакласнікі і запыталіся, ці ёсць у мяне балада пра Людвіка Нарбута. Пачуўшы што няма, дзеці папрасілі напісаць твор, і я абяцаў выканаць просьбу...

* * *

19.04.2011. Сёння ў мамы дзень народзінаў. Ёй 81 год...

## *Бацькі і дзеці*

21.04.2011. «У адных толку ад бацькоў і пры жыцці не было, а ў іншых і пасля іх смерці ганарары 50 гадоў налічваюцца...» Адразу ж падумалася пасля пытання дачкі аднаго з пісьменнікаў: «А ці будзе за кніжку ганарар?»

## *Дубцы і дрэвы*

23.04.2011. Вяртаючыся з крамы, у сваім двары ўбачыў, як хлапчук, гадоў сямі, ламае куст, а два меншыя ўжо са свежымі дубцамі, разінуўшыся, стаяць побач. «Што ты робіш! Зараз я табе наламаю!» — пракрычаў я, і хлапчук тут жа адбегся ад куста. Каля пад'езда я азірнуўся і ўбачыў, што малы зноў спрабуе выламаць дубец. Я ўжо зусім разлаваўся: «Вон адсюль! Сёння ты, гадасць, кусты ламаеш, а заўтра пойдзеш метро ўзрываць!» Пачуўшы мой крык, дзеці тут жа паўцякалі з двара. Я ж, прыйшоўшы дамоў, задумаўся: «А ці трэба было так злавацца?» І ўзгадалася, як недзе ў гадоў дзесяць у гэткі ж вясновы дзень каля вясковай крамы, дзе толькі што ў час суботніка былі пасаджаны дрэўцы, я спрабаваў зламаць бярозку. Не паспеў зламаць, бо нейкі дзядзька, што ішоў міма, нічога не кажучы, даў мне па спіне дубцом. Праўда, каля крамы так і не выраслі дрэвы...

* * *

24.04.2011. Маё першае святкаванне Вялікадня, якое памятаецца, адбылося ў Лягезах, дзе я жыў у бабулі Ганны. Мне было гадоў пяць. З сябрамі, Людай і Сашкам, нас родныя адправілі ў

жачкі на хутар да Такушоў. Гаспадары ўжо святкавалі, таму і нас, малых гасцей, адразу пасадзілі за стол. Далі нам выпіць віна. І я нічога болей не памятаю...

### *Кітайцы ў горадзе...*

28.04.2011. У раёне станцыі метро «Інстытут культуры», чакаючы патрэбны аўтобус, за хвілін пятнаццаць убачыў каля пяцідзесяці маладых кітайцаў, якія вучацца ў нашых вузах. Часам на прыпынку іх было нашмат болей, чым мінчукоў, і мне здавалася, што наш горад стаў кітайскім...

### *Старая Грушаўка*

28.04.2011. На Вялікдзень з Людай пайшлі ў раён старой Грушаўкі, які непадалёк, дзе мы жывём. Хадзілі, нібыта па забытым уладамі і Богам раённым цэнтры. Няспешна разглядалі драўляныя, зрэдку цагляныя даваенныя дамы пад велізарнымі дрэвамі. Прыпыняліся каля калонак з вадой, каля платоў, за якімі старыя сады. Побач з кучай смецця на бярвяне сустрэліся з учарнелым бамжом, што нажом лупіў, як кару з бярозавых дроў, этыкеткі з пляшак. Амаль на ўваходзе вялікага сквера на зямлі, разаслаўшы газеты, сядзелі дзве маладыя жанчыны і святкавалі Вялікдзень. Далей, узлезшы з нагамі на лаўкі, частаваліся маладзёны. Там-сям дзяўгалі сабакі, зрэдку праязджалі шыкоўныя машыны, нібыта раптам у савецкім часе з'яўлялася трэшчына, і яны праз яе трапілі з XXI стагоддзя. Ды і мы сябе адчувалі чужымі...

### *Вераціла*

29.04.2011. Сёння паэту Сяргею Верацілу 50 гадоў. А пазнаёміліся мы з ім у снежні 1981 года ў Каралішчавічах на Рэспубліканскім семінары маладых літаратараў. Яскрава памятаецца зімовы вечар пасля вячэры, калі Сяргей паклікаў мяне на вуліцу пакурыць. На месцы стаяць было немагчыма, бо мароз не дазваляў, і мы кругамі хадзілі вакол дамоў і размаўлялі пра паэзію, чыталі вершы, дзівіліся з Анатоля Сыса, які ўжо некалькі дзён сядзеў, як манах, у сябе ў пакойчыку і вечарам нікуды не выходзіў. А потым... А потым праляцела амаль трыццаць гадоў. За гэты час я сто разоў казаў Сяргею, каб падрыхтаваў кнігу сваіх твораў. Ён слухаў, абяцаў і нешта нават рыхтаваў, але так да канца і не давёў пачатае. Магчыма, таму што Сяргей

аднойчы вырашыў: «Хачу быць вядомым паэтам, які за сваё жыццё не выдаў ніводнай кніжкі!» Паглядзім. А пакуль што Сяргей Верацiла жывы і здаровы, і няхай і надалей будзе такім...

## *Падземны параход*

29.04.2011. Ідучы з тралейбуса № 23 на прыпынак аўтобуса № 10, што ў раёне станцыі метро «Інстытут культуры», здалёку чую, як з падземнага перахода, з якога з усмешкамі выходзяць людзі, вылятае нейкае вухканне. Заходжу і я пад зямлю, і, убачыўшы велізарнага хлопца, які іграе на велізарнай трубе, выходжу, усміхаючыся, на другім баку вуліцы, нашэптваючы: «На параходзе музыка іграла...»

## *У размове...*

30.04.2011. У размове з разведзеным знаёмым, пытаючыся, ці плаціць ён аліменты, забыўся слова «аліменты» і замест яго сказаў: «Партыйныя ўзносы на дзіця...»

# ТРАВЕНЬ

* * *

1.05.2011. Здаецца, гэта было ўчора, калі я сустракаў сваё 18-годдзе. Я тады заканчваў вучобу ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме. У мяне ўжо былі публікацыі ў «Чырвонай змене» і «ЛіМе». І наперадзе было столькі часу і праблем жыццёвых, што здавалася, ці змагу дажыць да 2000 года. І на табе! Сёння нашаму з Людмілай сыну Максіму — 18!

## *Валянціна Коўтун*

1.05.2011. Учора ў Пінску (відаць ездзіла на сустрэчу з чытачамі) памерла Валянціна Коўтун. Так атрымалася, што ў кватэры, дзе цяпер мы жывём, да 1990 года жыла Валянціна Міхайлаўна. 7 красавіка ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры прайшла вечарына, прысвечаная яе 65-годдзю. Мы былі запрошаны з Людмілай. На жаль, па сямейных абставінах не змаглі паўдзельнічаць у святкаванні. І тады мы думалі, што яшчэ шмат разоў зможам пабыць на вечарынах Валянціны Міхайлаўны. Але, але...

## *Тор*

1.05.2011. У кінатэатры «Rubin Plaza 3D» разам з сынам і ягонымі сябрамі паглядзеў фільм «Тор». Напачатку галоўны герой, якога завуць Тор і які жыве ў далёкай галактыцы, практычна бессмяротны: неверагодна дужы, можа лётаць і ў яго ёсць молат, які кантралюе буры. Але так здараецца, што ў адзін дзень Тора за ваяўнічасць выганяюць на Зямлю, дзе ён павінен жыць сярод людзей. Апынуўшыся на Зямлі ў пустэльні, Тор трапляе пад калёсы машыны астрафізіка Джэйн Фосцер (Наталлі Портман). А далей пайшла і паехала прыгожая паэтычная фантастыка для падлеткаў. І ўсё ж некаторымі сцэнамі яна кранала мяне да слёз...

## *Валянціна Коўтун і Леся Беларуска*

1.05.2011. На пачатку лета 2008 года да мяне ў выдавецтва прыйшла Валянціна Коўтун і прынесла рукапіс кнігі Лесі Беларускі, у існаванне якой, дзякуючы публікацыям Валянціны Міхайлаўны, я верыў. Кнігу мы адразу запланавалі, і яна павінна была выйсці ў пачатку наступнага года. Але праз пару месяцаў у выдавецтва зноў прыйшла паэтка і сказала, што Леся Беларуска — гэта яна, і з'явіліся людзі, якія гэтае імя і творы хочуць прысвоіць, таму «кніжку трэба тэрмінова выдаць пакуль я жывая». На жаль, тэрмінова выдаць Лесю Беларуску ў нашым выдавецтве не атрымоўвалася і Валянціна Міхайлаўна рукапіс забрала. Маю просьбу нікому больш не прызнавацца, што Леся Беларуска — гэта Валянціна Коўтун, Валянціна Міхайлаўна праігнаравала і на адной з вечарын сказала, што Леся Беларуска — гэта яна. І сваім прызнаннем Валянціна Коўтун разбурыла самой жа створаны цудоўны вобраз паэткі-змагаркі, у якую ўжо многія паверылі, а я нават і «Баладу Лесі Беларускі» напісаў:

*Ты ўсё стрывала, і ты ўсё змагла,*
*Прайшла жыццё і ўпэўнена, і прама.*
*Апекавала Ефрасіння Храмы,*
*Ты ж душы, нібы Храмы, берагла,*
*Таму і снег, нібы анёл, ляціць,*
*Цябе, заледзянелую, цалуе*
*За Беларусь далёкую, жывую,*
*Якую не клялася ты любіць,*
*А ўсё жыццё яе любіла ты,*
*Хаця і ненавідзець права мела...*
*Паэзія — зняможанае цела,*
*Якое не пакінуў дух святы,—*
*Была з табой і жыць натхняла ўсіх*
*І верыць, што і гэта ўзвея пройдзе,*
*І застанецца кветкамі на лёдзе*
*Калючы дрот з крывёй сяброў тваіх,*
*Бо ты стрывала ўсё і ўсё змагла,*
*Прайшла жыццё і ўпэўнена, і прама.*
*Апекавала Ефрасіння Храмы,*
*Ты ж душы, нібы Храмы, берагла...*

## *Учора і сёння*

2.05.2011. Учора сыну споўнілася 18 гадоў. А сёння яму з самага ранку прынеслі павестку ў ваенкамат «для уточнения учетных данных»...

## *Радаўніца*

3.05.2011. На Радаўніцу звычайна бывае сонечна. І сёння ў 11 гадзін пасвятлела, нібыта нашы продкі паглядзелі з неба на нас...

## *Вазоны і грады*

4.05.2011. Гэты тыдзень наша выдавецтва не працуе, і ўсім супрацоўнікам выпала па дзесяць дзён выхадных. У нас у кожным пакоі шмат вазонаў, якія трэба, хоць зрэдку, паліваць. І, каб вазоны не пасохлі, я прапанаваў жанчынам, каб яны пакінулі ў прыёмнай ключы, а я ў вольны час падыду і палью іх расліны. Сёння хадзіў у выдавецтва. Паліваючы вазоны, узгадалася школьная практыка, калі ў час летніх канікул трэба было тыдзень пахадзіць у школу і паліваць грады. Часцей за ўсё грады я паліваў адзін...

## *Аднаму страшна...*

4.05.2011. Патэлефанаваў сябрук. Пагаварылі пра жыццёбыццё. Сябрук узгадаў Янку Сіпакова: «Як ён там цяпер ляжыць у зямлі? Аднаму ж, відаць, страшна?»

## *Градуснік*

9.05.2011. Пяты дзень як хварэю. Сёння прачнуўся ў сем гадзін. Захацеў памераць тэмпературу, а градусніка няма — на тумбачцы ляжыць пусты футлярчык. Стаў шукаць. Усё перабраў, што можна. Няма. І, калі сеў адпачыць, раптам адчуў, што градуснік у мяне пад адзеннем на спіне. Шчасце маё, што спаў на баку і не варочаўся пасля таго, як паклаў градуснік пад паху...

## *Кожнаму сваё*

11.05.2011. Іна Фралова ўдзельнічала ў літаратурным конкурсе, што праводзіў Фрунзенскі раён Мінска. Журы конкурсу прызнала яе пераможцай. З Інай мы добра знаёмыя, і яна, атрымаўшы ўзнагароду, прыслала мне па электроннай пошце

гісторыю, што адбылася з ёй у час урачыстасцяў: «Мне за конкурс далі гадзіннік з лагатыпам Фрунзенскага раёна, грамату ўручала рэдактар «Маладосці» (паэтычны раздзел) — маладзенькая дзяўчынка. А людзі на лавачках у мяне пыталіся: «Што далі?» Кажу: «Гадзіннік!!!» І паказваю — во, вялікі!!! А яны: «А, г...». А са мной ішлі мае сябры, бацюшка (святар) і матушка. Святар кажа тым людзям: «Дык што вы хацелі, каб ёй літр гарэлкі далі?» Усе паляглі са смеху».

### *Іна, ветэран і «васпітанная»*

11.05.2011. У Дзень Перамогі Іна вярталася дахаты на метро. І так атрымалася, што яна села побач з ветэранам вайны, які быў вельмі падобны да Інінага памерлага дзеда. Людзі ў добрым настроі, якія былі побач з ветэранам, усю дарогу яго амаль цалавалі. Іне таксама захацелася што-небудзь добрае зрабіць старому і, распытаўшыся, дзе ён жыве, прапанавала яму бясплатна пасля метро падвезці на машыне да самай хаты. Стары не адмовіўся, і Іна патэлефанавала мужу, каб ён пад'ехаў да станцыі «Каменная горка». Размову з ветэранам чула пажылая жанчына, якая хутка падала свой голас: «Куды вы паедзіце з ёй! Яна можа аказацца бандыткай!» — «Што вы кажыце, як хворая!» — абурылася Іна. «Я очань васпітанная жэншчына, а вы мяне называеце бальной!» — усхапілася цётка і пачала агітаваць ветэрана, каб ён дахаты дабіраўся на аўтобусе, і ў старога хутка прапала жаданне, каб яго падвезлі. «Што я знасілую дзеда, ці што?» — пакрыўджана сказала Іна і выйшла з цягніка, які спыніўся...

### *Хварэем...*

12.05.2011. Мы працягваем хварэць. Людміла ў бальніцы, я дома. Да абеду драмаў і слухаў Данчыка і Мулявіна. Пасля песень захацелася напісаць, што-небудзь для Люды. Атрымалася сумнае:

*Нібы ў ямах з халоднай вадой,*
*Мы жывём тут сягоння з табой.*
*І глядзім мы праз вокны адны,*
*Нібы з ям, што не знаюць вясны.*
*А на вуліцах зелень, краса,*
*Сонца, як залатая сляза*
*Продкаў нашых, якія глядзяць*
*І не могуць нічога сказаць,*

*І нічым не сагрэць нас з табой*
*У жыцці, нібы ў яме з вадой,*
*Таму нам застаецца маліцца,*
*Каб не даў Бог нікому ўваліцца*
*Ні ў калюгу, ні ў яму з бядой...*

## *Мужчына і жанчына*

20.05.2011. На лавачку каля нашага пад’езда з гадзіну назад прысеў высокі сівы, лысаваты мужчына гадоў за шэсцьдзясят, які ўсё яшчэ не стаміўся ад жыцця. Па букеце было бачна, што чалавек тут прысеў не проста час збавіць, а ён канкрэтна некага чакае. Раптам мужчына ўстаў, бо ў двары пачуўся грукат абцасаў, якія, відаць, яму добра знаёмыя. І вось да нашага пад’езда падышла дзябёлая чарнявая жанчына гадоў сарака пяці. Мужчына шчыра і радасна, жанчына радасна і крыху стрымана ўсміхнуліся адно аднаму. Мужчына падарыў кветкі, і, пацалаваўшыся, жанчына сказала: «Сяргей Іванавіч, гэта так нечакана для мяне! Дзякую!» Пасля пацалунка мужчына яшчэ больш заўсміхаўся, а жанчына, каб не заўважыў госць, два разы рукой выцерла вусны. І незнаёмыя пайшлі ў наш пад’езд...

## *У кожнага сваё...*

26.05.2011. Сёння бачыў шчаслівага чалавека. Гэта быў мужчына гадоў трыццаці пяці, які адыходзіў ад абменніка валюты з памятай купюрай у 20 даляраў. Выгляд у чалавека быў, нібыта ён толькі што атрымаў пропуск у рай...

## *Са школы вярнуўся...*

26.05.2011. Са школы вярнуўся сын адзінаццацікласнік і, сказаўшы: «Усё! Здаў усе падручнікі!», зняў з плячэй пусты ранец. І ў мяне праз душу праляцеў апошні самалёцік, зроблены з паперы, вырванай са школьнага сшытка...

## *Кроў з пальца*

28.05.2011. Апошні раз аналіз крыві з пальца здаваў у 1991 годзе. Тады ў Саюза пісьменнікаў яшчэ была свая паліклініка. Кроў з пальца бралі на трэцім паверсе ў Доме літаратара, дзе

было ў канцы калідора некалькі медкабінетаў. Не памятаю, ці то я добра прыхварэў у той год, ці па іншай прычыне, але мне трэба было абавязкова здаць аналіз крыві. Паехаў пад канвоем Людмілы, бо яна ведала, што адзін не даеду і ўцяку дамоў. Боязь здаваць кроў з пальца ў мяне была са школы. І вось прыехалі мы з Людмілай да Дома літаратара. Яна засталася на вуліцы чакаць мяне, а я пайшоў. І чым бліжэй падыходзіў да медкабінетаў, тым мне рабілася страшней, і было такое адчуванне, што вось-вось у мяне спыніцца сэрца. Толькі падумаў уцякаць, як з кабінета выйшла дакторка і паклікала мяне да сябе. Я ёй расказаў, што баюся здаваць кроў з пальца і мне пры гэтым робіцца дрэнна. Дакторка пасмяялася і пачала расказваць, што кроў з пальца здаваць небалюча. Яна гаворыць, а ў мяне ад жаху дух займае. Скончылася тым, што адна дакторка мне расказвала анекдоты, а другая брала кроў. Праз паўгадзіны ў кабінет зазірнула Людміла, бо ёй на вуліцы надакучыла чакаць мяне. І калі яна зайшла, то ўбачыла мяне ляжачым на кушэтцы з нашатырам пад носам...

## *Да гісторыі маёй Валожыншчыны*

29.05.2011. У фрэндстужцы «gorliwy_litwin» вычытаў: «Воложинский район 18—20 мая посетили потомки семьи Каганович, представительница которой Ида Розенталь, урожденная Каганович, считается изобретательницей современного бюстгалтера (1928). Она выехала в США с родителями в 1904 г. в возрасте 18 лет из Ракова. Другая ветвь семьи, жившей в Ракове и Воложине, выехала в Палестину в 1924 г.».

## *Мама і тата...*

30.05.2011. З васьмі месяцаў да сямі гадоў з паловай я жыў не ў Пугачах у сваіх бацькоў, а гадаваўся ў вёсцы Лягезы ў бабулі Ганны, дзе цётку Алю называў мамай, а дзядзьку Ваню татам. Сваіх жа бацькоў я не ведаў і не бачыў да школы і, калі мяне забралі ў Пугачы, я доўга не разумеў, што адбылося са мной і чаму я павінен жыць у новым месцы. І мне сёння часцей сняцца Лягезы, чым Пугачы. І хоць мінула больш сарака гадоў, як мяне бацькі забралі з Лягез, па сённяшні дзень ува мне жыве светлая дзіцячая любоў да цёткі Алі і дзядзькі Вані, якія для мяне былі ў мае першыя сем год жыцця сапраўднымі мамай і татам...

*Не трэба нам бераг турэцкі...*

31.05.2011. Яму ўжо за шэсцьдзясят, а ён, як хлапчук, гойсае па Беларусі, ствараючы сцэнарыі свят і праводзячы іх. Мы даўно бачыліся. І я крыху здзівіўся, калі ён, пасля хвілін дзесяці размовы па справе, сказаў: «А ты, маладзец, не загунурыўся!» — «А чаго мне гунурыцца!» — засмяяўся я, і мы пачалі расказваць пра сваіх дзяцей. І ён пахваліўся: «Дачка мая тры гады назад выйшла за турка. Нядаўна ездзіў да яе ў Стамбул. Парадаваўся ўнуку. Белабрысы, з блакітнымі вачыма. Славянін». А ў маёй душы следам за словам «славянін» прагучала «янычар»...

## ЧЭРВЕНЬ

### *Суботні ранак...*

4.06.2011. У цяньку на лавачцы каля суседняга пад’езда сядзіць стары і няспешна курыць. Каля яго ног трэцца чорны кот і стаіць палатняная торба з адкаркаванай пляшкай «чарніла». Час ад часу стары дастае пляшку і, зрабіўшы з яе глыток, ставіць назад у торбу. Мінула паўгадзіны, гадзіна, а стары ўсё шыкуе, а я назіраю. Але, адвярнуўшыся на пару хвілін ад акна, я не заўважыў, як п’яны стары зваліўся пад лаўку, а пустая пляшка адкацілася ад яго на некалькі метраў, спудзіўшы чорнага ката...

### *У Храме...*

5.06.2011. З Людмілай быў у царкве. Паспавядаліся, прычасціліся. Напрыканцы службы перад намі ў некалькіх кроках сталі дзве дзяўчыны гадоў пад дваццаць. Адна была з непакрытай галавой і ўвесь час хіхікала, і каментавала сяброўцы ўсё, што адбывалася навокал. Другая хоць і ў хустцы, але і яна паводзіла сябе, нібыта ў чарзе за півам. Мне хацелася падысці да дзяўчат і выгнаць з Храма, але...

### *Уладзімір Конан*

6.06.2011. Памёр Уладзімір Конан. Цудоўны беларускі філасаф і светлы чалавек. Ён некалькі разоў быў у нас дома, калі Людміла ў «ЛіМе» вяла рубрыку «За гарбатай у Шніпоў». У нашым сшытку «Альбом сустрэч» застаўся запіс спадара Уладзіміра: «Ваш, дарагая спадарыня Людміла, літаратурны салон — першы ў наш драматычны час і другі пасля салона Янкі Купалы і цёткі Уладкі. Калі б, не дай бог, наша Беларусь зноў стала Забраным Краем, то і тады яна адродзіцца ад Вашых сяброў і Вашай сям’і. 24.01.1997 г.». Дзякуем Вам, спадар Уладзімір, за тое, што мы былі ў Вашым жыцці...

*Мікола Казлоў*

9.06.2011. На 67-м годзе жыцця памёр мастак Мікола Казлоў. У свой час ён шмат гадоў працаваў у выдавецтвах «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва». У нас дома ў цудоўным афармленні спадара Міколы ёсць двухтомнік выбранай паэзіі Рыгора Барадуліна, вершы Максіма Танка, зборнікі «Дзень паэзіі» і шмат кніжак для дзяцей. У афармленні Міколы Казлова і ягонай жонкі Наталлі Суставай у 2008 годзе ў выдавецтве «Літаратура і Мастацтва» выйшла кніжка казак маёй Людмілы «Карона на дне віра». На самым канцы красавіка ў галерэі сучаснага мастацтва была адкрыта выстава твораў Міколы Казлова «Тонда» (круг), якая стала для ўсіх, хто быў на ёй, своеасаблівым развітаннем мастака з сябрамі і з гэтым светам...

*У двары...*

11.06.2011. У двары, хто мае машыны, з самага ранку збіраюцца і з’язджаюць за горад. На лавачках застаюцца старыя, як на беразе мора, якое ў іх жыцці ўжо амаль высахла...

*Па дарозе на выпускны...*

12.06.2011. Учора цэлы дзень прасядзеў дома ў чаканні выпускнога вечара ў сына і вяртання Людмілы з Вязынкі, куды яна ездзіла журыць конкурс «Купалаўскія вакацыі». Баяўся, што Людміла не паспее вярнуцца і мне аднаму з Максімам давядзецца ісці ў школу, але яна прыехала своечасова. Выйшлі з дому за гадзіну да вечара. Каля опернага тэатра вырашылі пад’ехаць на тралейбусе яшчэ адзін прыпынак. І толькі зайшлі ў патрэбны, як да Людмілы падышла незнаёмка і пачала прасіць аўтограф. Аказалася, што дзяўчына канчае вучобу і піша дыплом па творчасці Людмілы...

*Сумна...*

12.06.2011. Наш Максім закончыў 11 класаў мастацкай школы. Учора на выпускным вечары атрымаў атэстат. А мне сумна, што ўжо ніколі не буду хадзіць на бацькоўскія сходы...

*13*

13.06.2011. Зазірнуў у сынаў атэстат. Нармальна. Але магло быць лепей. Звярнуў увагу, што атэстат выдадзены пад нумарам 13.

Кажу пра гэта сыну і чую: «Мая школа пад № 26 (гэта два разы па 13), і яна знаходзіцца на вуліцы Камуністычнай № 52 (гэта чатыры разы па 13), і да дзявятага класа я быў у журнале пад № 26...»

### *Святлана Явар*

15.06.2011. На пачатку сакавіка мне прысніўся сон пра дзесяць пісьменніцкіх магіл. З таго часу не стала Сіпакова, Маеўскай, Коўтун, Конана, Місько... Сёння даведаўся, што ў сваёй кватэры мёртвай знайшлі адзінокую паэтку Святлану Явар (малодшая дачка Барыса Сачанкі, нарадзілася ў 1968 годзе) з вершам, прысвечаным бацькам...

### *Званок*

15.06.2011. Зранку мне патэлефанавала невядома адкуль нейкая англічанка. З усяго, што яна гаварыла, я зразумеў, што ёй патрэбна Аксана. Пытаюся: «Аксана Спрынчан?» Кажа, што не. Тады я прызнаўся незнаёмцы, што я не валодаю англійскай мовай, бо ў школе вучыў нямецкую. «О'кей!» — кажа англічанка і пераходзіць на нямецкую мову. Сказаўшы некалькі слоў па-нямецку, я заявіў: «Давайце гаварыць па-беларуску!» І тут жа пачуў у адказ: «О'кей!» Не ведаю ці зразумела незнаёмка, што Аксана, якую яна пытаецца, у нас не працуе, але яна падзякавала мне па-англійску за інфармацыю і паклала трубку...

* * *

17.06.2011. Седзячы ў гасцях у Міхася Южыка і разглядаючы ягоную кватэру, убачыў і запісаў радкі:

*на сцяне на лесцы*
*вісіць карціна,*
*як маятнік гадзінніка,*
*які спыніўся*

* * *

20.06.2011. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі — гэта не той цвік, якім можна быць прыбітым да крыжа вечнасці...

## *Малады аўтар*

21.06.2011. Прыйшоў на працу а палове дзявятай. І толькі адчыніў дзверы ў кабінет, як зазваніў тэлефон: «Вас турбуе малады аўтар! У мяне да вас ёсць тэрміновая справа!» — «Што за справа?» — цікаўлюся. «У мяне напісаўся новы раман!» — «А вы друкаваліся ў часопісах?» — «Не! Але я надрукаваў ужо тры кніжкі!» — «Ведаеце, мы апошнім часам выдаём толькі тыя творы, якія ўжо былі ў рэспубліканскіх выданнях.— «Мяне рэспубліканскія выданні не цікавяць! Я хачу, каб вашы спецыялісты пераклалі мае творы на англійскую мову!» — «У нас такіх спецыялістаў ніколі не было!» — адказваю я, і малады (па голасе гадоў пад шэсцьдзясят) аўтар, паслаўшы ўсіх падалей, паклаў трубку...

## *Сястра пакойнага брата*

21.06.2011. Перад абедам прыйшла незнаёмая бабуля і заявіла: «Я сястра пакойнага брата. У вас тут недзе ляжыць ягоны рукапіс успамінаў пра вайну. Я хачу ўнесці ў яго невялікія праўкі».— «А як прозвішча вашага брата і як рукапіс называецца?» — пытаюся. Бабуля, падумаўшы, праз хвілін пяць адказала: «Не памятаю...» І, пагаварыўшы пра жыццё-быццё, мы дамовіліся са старой, што калі яна ўспомніць прозвішча свайго пакойнага брата, то патэлефануе і скажа, куды і якія праўкі ўнесці...

## *Блізкія*

22.06.2011. Са Слоніма патэлефанавала жонка Алега Лойкі Раіса Сямёнаўна. Падзялілася сваімі перажываннямі пра дом, які паціху прыходзіць у заняпад і ў які ўжо злазілі злодзеі. Міліцыя іх злавіла, тое-сёе са скрадзенага вернута, а многа безваротна прапала. Цяпер у падвале дома стаіць вада і патрэбны грошы, каб яе адкачаць. Шмат да каго звярталася Раіса Сямёнаўна, але ніхто так і не дапамог. Нядаўна ў Слоніме святкавалася 80-годдзе Алега Лойкі. Назбіралася сваякоў, а пра Раісу Сямёнаўну забыліся. Жанчына вельмі моцна не бядуе з-за гэтай няўвагі, бо памятае словы Алега Антонавіча, які незадоўга да смерці казаў: «Паглядзіш, калі памру, аб'явяцца сваякі і кожны будзе лезці да мікрафона, каб сказаць, што ён мне быў самым блізкім. А сёння ж самы блізкі мне чалавек — гэта ты!»

## *Эдуард Мазько*

22.06.2011. З Юрасём Пацюпам узгадвалі Эдуарда Мазько, які нечакана памёр 20 чэрвеня. Яму было сорак. У сорак гадоў сышла з гэтага свету і Яўгенія Янішчыц. Яна за сваё жыццё паспела зрабіць нямала. А Эдуард, на жаль, не раскрыўся цалкам ні як гісторык, ні як паэт. Шкада. І колькі яшчэ нашага брата, беларускага пісьменніка, жыве, а то і гаруе ў невядомасці і ўзгадаецца толькі ў час смерці...

## *Перачытваю...*

22.06.2011. Выдалася вольная хвіліна. Перачытваю кніжку Алеся Пісьмянкова «Я не памру, пакуль люблю». Цудоўны паэт. Колькі б яшчэ змог напісаць! Зусім нядаўна я быў за Алеся на тры гады маладзейшы, а ўжо амаль на пяць старэйшы за яго. І толькі разгарну ягоную кніжку, дык амаль заўсёды трапляю на верш:

*Вам ахвота крычаць,*
*Мне ж — паплакаць крадком.*
*Мне б крыху памаўчаць*
*З сябруком Маруком...*

І ўжо нямала маўчаць і Пісьмянкоў, і Марук, і дзясяткі іншых творчых хлопцаў і дзяўчат, якія сёння былі б не лішнімі сярод нас і ў час маўчання, і ў шумны час...

## *Анатоль Дэбіш*

23.06.2011. Гадоў дваццаць пяць назад у часопісе «Маладосць» з'явіліся першыя творы Анатоля Дэбіша. І былі яны светлыя, энергічныя і, чытаючы іх, хацелася самому гэтак жа пісаць светла і энергічна. І некаторыя маладыя паэты пісалі пад Анатоля Дэбіша. А сам Анатоль пасля першых яркіх публікацый то з'яўляўся ў друку, то знікаў на гады. І ягонае творчае маўчанне трывожала мяне, бо мне, думаю і не толькі мне, не хапала часам твораў паэта. І сёння, чытаючы новыя вершы Анатоля, радуюся, што ён не ўцёк ад музы і, ведаючы яго, кажу яму на будучае: «Не знікай!!!»

* * *

23.06.2011. Сыпануў дождж, нібыта ў небе абтросся мокры сабака...

* * *

23.06.2011. Ты ідзеш па начной вуліцы. І цяпер гэтая вуліца існуе, дзякуючы таму, што ты па ёй ідзеш...

*Вошай не было...*

25.06.2011. Надрукавалі мае новыя вершы. Шкадую, што ў «Баладзе Канстанціна Вераніцына» замест радка «Тарас на Парнасе, а ты ў Беларусі, Дзе чорныя вошы і белыя гусі...» пайшло «Тарас на Парнасе, а ты ў Беларусі, Дзе шэрыя качкі і белыя гусі...». Словам, як у нас раней не было сексу, так і вошай не было...

*Як і тады...*

25.06.2011. З Людмілай схадзілі ў архітэктурна-будаўнічы тэхнікум, цяпер каледж, у якім калісьці вучыліся. Каля нашага інтэрната агрэсіўна швэндалася некалькі падвыпіўшых хлопцаў (відаць, завочнікі), якія, магчыма, як і ў часы маёй вучобы, чакалі маладых, каб сшыбануць на выпіўку. І, праходзячы каля іх, адчуў сябе спалоханым першакурснікам, які нядаўна прыехаў з вёскі...

*Сталоўка...*

25.06.2011. Там, дзе была тэхнікумаўская сталоўка, цяпер грузінскі рэстаран «Баграціён». Хацелі з Людмілай зайсці і паабедаць, але вырашылі зрабіць гэта іншым разам. У тэхнікумаўскай сталоўцы я звычайна снедаў. Што еў — не памятаю. Памятаецца пякучка, якая заўсёды ў мяне і амаль ува ўсіх маіх знаёмых студэнтаў была пасля гэтай сталоўкі...

*Цыркулярная піла*

25.06.2011. Ходзячы па калідорах будаўнічага каледжа, я ўвесь час глядзеў праз вокны ў двор, дзе стаіць будынак з навучальнымі майстэрнямі. Глядзеў і ўспамінаў, як вучыўся класці цагляныя сцены, распілоўваць і габляваць дошкі. Асабліва памятаецца, як нас вучылі працаваць на станку з вялікай цыркулярнай пілой. Перад працай мы распісваліся ў сшытку, што калі нам паадразае пальцы або рукі, то ніхто не будзе вінаваты з нашых выкладчыкаў, а толькі мы самі. І кожны год цыркулярная піла адразала некаму то палец, а то і болей...

## *Электразварка*

25.06.2011. Акрамя цыркулярнай пілы ў тэхнікуме ўсе баяліся электразваркі. Без роспісу ў сшытку, што калі цябе заб'е токам, то ты і толькі ты будзеш вінаваты ў сваёй смерці, да працы з электразваркай нікога не дапускалі. І вось праз некалькі дзён страху я адважыўся і паставіў у сшытку свой роспіс, і мне далі смяртэльны апарат. І толькі я пачаў прыварваць арматурыну да нейкага швелера, як на сцяне на момант убачыў свой чорны цень, дзе на маёй галаве дыба стаялі валасы, а на іх ляжала, як гарэлы блін, шапка — гэта праз мяне прайшоў ток. Ачухаўся я праз некалькі хвілін каля станка, дзе цыркулярная піла сыпала на мяне пахучыя бярозавыя апілкі...

## *Плавец*

25.06.2011. Зімой у тэхнікуме на ўроках фізкультуры нас вадзілі ў адкрыты басейн у Палац воднага спорту, што каля парку Чалюскінцаў. Плаваць я не ўмеў і не навучыўся. А тут трэба здаваць залік. Хворым прытварыцца я не паспеў, таму, як і ўсе, выйшаў на старт. Вакол басейна гурбы снегу, а над вадой густая пара. І калі ўсе паплылі, паплыў неяк і я. Даплыўшы да густой пары, я тут жа бокам-бокам дайшоў да раздзявалкі, у якой нікога не было. Хуценька апрануўся і паехаў у тэхнікум на чарговую лекцыю, якая пачалася праз паўгадзіны. У аўдыторыі, акрамя мяне, нікога не было. Выкладчыца пахваліла, што я не ўцёк з яе лекцыі і адпусціла мяне ў інтэрнат. І толькі я выйшаў з тэхнікума, як, з прыйшоўшага трамвая, да мяне кінуліся мае аднакурснікі: «Дзе ты быў?! Мы думалі, што ты ўтануў у басейне і цэлую гадзіну ныралі, шукаючы цябе!»

## *Сямён Оркін*

26.06.2011. З Сямёнам Оркіным я пазнаёміўся на пасяджэнні літаб'яднання «Крыніцы» пры «Чырвонай змене». Мне было дваццаць, а Сямёну — пад пяцьдзясят. Але вялікая розніца ў гадах не стала перашкодай для нашага творчага сяброўства. Сямёна ў рэдакцыях не любілі, бо ён заводзіў з імі бясконцыя злыя перапіскі. Аднак Сямён злым не быў, ён проста хацеў справядлівасці ў адносінах да сябе. А справядлівасці не было — і гэта злавала паэта, і асабліва выводзіла яго з сябе тое, што калі ён пасылаў свае вершы ў рэдакцыі ўперамешку з вершамі класікаў, то атрымоўваў разгромныя адказы і на свае творы, і на Багдановіча, і на Ясеніна. Перапіску Сямён вёў сур'ёзна. У

яго ўсё было ў некалькіх копіях падшыта ў асобных папках і пазначана, калі і куды што адаслана. Паказваючы мне гэтыя свае папкі, Сямён смяяўся: «Я іх навучу разбірацца ў паэзіі!» Акрамя вершаў, мой сябрук пісаў гумарыстычныя творы. І дзякуючы яму я доўгі час хадзіў на пасяджэнні мінскіх сатырыкаў і гумарыстаў, сярод чалавек пятнаццаці я быў самым маладым. Збіраліся таемна ў нейкім падвале, дзе была нейчая майстэрня. Чыталі свае творы, абмяркоўвалі, планавалі сумесныя публікацыі ў Маскве і ў замежжы, гаварылі пра палітыку і пра тое, што трэба з'язджаць з гэтай краіны. І, відаць, усе тыя гумарысты і сатырыкі з'ехалі, як з'ехаў у Ізраіль Сямён Оркін, бо нікога з іх больш ні ў жыцці, ні ў нашым друку не сустракаў...

## *На Маскоўскіх могілках*

26.06.2011. З Людмілай ездзілі на Маскоўскія могілкі. Пакланіліся любімым пісьменнікам. Уразіла магіла Барыса Сачанкі, да якога ў мінулым годзе была падхавана ягоная жонка. Цяпер помнік выглядае так, нібыта пад ім нехта капаўся, шукаючы золата і не знайшоўшы нічога, прыкрыў кучу зямлі вянком...

Ужо хутка будзе шэсць гадоў, як няма помніка мастаку Яўгену Чамадураву. Магіла зарасла быльнягом, з якога сіратліва выглядае драўляны крыж. Цяпер разумею старога, які пражыў больш за 90 гадоў і апошнія сілы аддаў, каб у «Мастацкай літаратуры» выйшла ягоная кніжка ўспамінаў пра сябе і сваіх родных у серыі «ЖЗЛБ». У кніжцы ўсе сваякі мастака чулыя і клапатлівыя людзі...

Магіла Васіля Быкава засыпана кветкамі. І камень на ягонай магіле, як цэнтр болю беларусаў за Беларусь...

Магілу Уладзіміра Караткевіча нядаўна прыбіралі. На свежым пяску мурашкі здужалі пчалу, і, пакуль мы ў думках размаўлялі з Уладзімірам Сямёнавічам, яны ў яе забралі жыццё...

Ніколі не мінаю Анатоля Грачанікава. Пасля яго з Людмілай падышлі да Яўгеніі Янішчыц. Анатоль і Яўгенія — гэта мая маладосць...

Па могілках хадзілі амаль дзве гадзіны. На некаторых магілах вясна, на некаторых лета, а на некаторых ужо восень...

## *Раман Тармола-Мірскі*

27.06.2011. З інтэрнэту даведаўся, што 25 чэрвеня на 76-м годзе жыцця памёр паэт Раман Тармола-Мірскі. Гадоў пятнаццаць назад яму выразалі злаякасную пухліну ў страўніку. Пасля

чаго спадар Раман не перастаў быць аптымістам і, відаць, ягоны аптымізм дапамог яму яшчэ нямала пажыць. У той час паэт быў частым госцем у «ЛіМе» ў Барыса Пятровіча і мяне. Яго было цікава слухаць, з ім было добра гаварыць і маўчаць. Дзякуючы Барысу многае з новага, што пісаў Тармола-Мірскі, друкавалася ў «ЛіМе». І калі сышоў з тыднёвіка Пятровіч, знік некуды і Раман. Некалькі разоў я спрабаваў адшукаць паэта, але так і не змог знайсці яго. Я нават думаў, што ён памёр і ніхто гэтага не заўважыў...

### *Званок ад Пташнікава*

28.06.2011. Тэлефонны званок. Падымаю трубку і чую хрыплаваты голас вельмі падобны на Івана Курбекі, які некалькі гадоў назад памёр. Нават на момант падумалася, што гэта і тэлефануе сам Курбека. «Віктар, цябе турбуе Іван Пташнікаў. Дапамажы мне звязацца з выдавецтвам «Беларусь». Там па «ШБ» выдаюць мае творы...» — сказаў Іван Мікалаевіч. Адшукаўшы патрэбныя нумары тэлефонаў, я пацікавіўся ў Пташнікава пра здароўе. «Так сабе...» — адказаў празаік. «Што-небудзь новае цяпер пішаце?» — «Пішу крыху...» Пажадаўшы адзін аднаму ўсяго найлепшага, мы развіталіся. Пасля размовы я зазірнуў у пісьменніцкі даведнік: «Іван Пташнікаў нарадзіўся 7 кастрычніка 1932 года...»

### *Мужык з касой*

28.06.2011. Вяртаюся дахаты. На прыпынку «Тэатр музкамедыі» ў аўтобус з касой зайшоў пажылы мужык. Людзі моўчкі расступіліся, даючы дарогу касцу. На наступным прыпынку мужык з касой выйшаў і пайшоў у краму. Хлопец, які стаяў побач са мной, прашаптаў сяброўцы: «Нейчая смерць пайшла...»

### *Сумна...*

28.06.2011. На працу да мяне заходзіўся Казімір Камейша. Пагаварылі пра жыццё-быццё. Узгадалі добрым словам нядаўна памерлага Рамана Тармолу-Мірскага. Пашкадавалі яго як чалавека. На развітанне Казімір Вікенцьевіч, сумна ўсміхнуўшыся, працытаваў эпіграму Міколы Татура: «Я быў на вечары Тармолы. Кароль жа голы...»

## *Дэзірцір...*

29.06.2011. «Расійскі дэзірцір Пацееў выехаў у ЗША праз Беларусь...» — гэтая інтэрнэтаўская інфармацыя напомніла мне пра мінулагоднюю паездку ў адзін з раёнаў нашай краіны. Выступаў я ў вясковай бібліятэцы, і, як звычайна, пасля бібліятэкарка павяла да сябе дамоў паабедаць. Па дарозе даведаўся, што жанчына некалькі гадоў таму выгнала мужа, які не хацеў нічога рабіць і толькі п'янстваваў. Цяпер у яе ўжо другі год жыве трыццацігадовы хлопец, які ўцёк з Чачні, дзе ваяваў па кантракце...

## *Маналог*

30.06.2011. Мастак Валерый Рагалевіч прынёс пачытаць часопіс «Монолог» (Свободное творчество) № 15. Зроблена па-еўрапейску. Амаль усё цікава. Заселі ў галаве радкі Веніяміна Блажэннага:

*Я последним покинул концертную залу,*
*Потому что уже я недужен и стар,*
*Потому что душа мая скрипкою стала*
*И я ждал, когда скрипку уложат в футляр...*

## ЛІПЕНЬ

### *Літаратурнае прадмесце*

1.07.2011. Учора ў Музеі Янкі Купалы пафарбавалі падлогу, і сваё «Літаратурнае прадмесце» Людміла Рублеўская прыняла дамоў. На жаль, не ўсе змаглі дабрацца да нас, а тыя, хто не пабаяўся грамадскага транспарта (Мікола Кандратаў, Юрась Нераток, Юрась Пацюпа з сяброўкай-паэткай Зояй, Таццяна Пратасевіч, Наста Грышчук, Наталля Кучмель і Віктар Лупасін), абмеркавалі рукапіс новай кніжкі Міколы Кандратава. Гаварылі шмат. Мікола з нечым згаджаўся, недзе маўчаў, а часам і спрачаўся. Прысутныя сышліся на адной думцы — кніга атрымалася цікавай і амаль усе вершы ў ёй напісаны на добрым мастацкім узроўні. Потым, як звычайна, усе чыталі свае новыя вершы. Пачалі з Пацюпы, які агучыў творы з «Дзеяслова» № 52, і закончылі маімі вершамі з «Полымя» № 6...

### *Зноў, як у цягніку...*

2.07.2011. Зноў мама ў нас. І мая ноч прайшла, як у цягніку, які спыняўся разоў дзесяць...

* * *

2.07.2011. Дождж. Пад ліпамі абляцелы цвет, як вялікія мёртвыя пчолы...

### *На «Птушыным востраве»...*

2.07.2011. Два тыдні таму ў парку на Камсамольскім возеры з маёй працы былі жанчыны. Ім там усё спадабалася, а на «Птушыным востраве» яны бачылі толькі дзвюх варон, пра якіх так весела расказалі, што і мне захацелася на іх паглядзець. І вось сёння мы з Людмілай выбраліся на Камсамольскае возе-

ра. На жаль, увесь час ішоў дробны дождж. І ўсё ж гуляць пад парасонамі па парку было хораша. Заглянулі мы і на «Птушыны востраў», дзе амаль адразу напаткалі дзвюх варон, якія, пакуль мы хадзілі, увесь час былі непадалёку, нібыта віжавалі за намі. І калі мы ўжо збіраліся дамоў, як пачуўся параходны гудок і, нібыта вынырнуўшы з XIX стагоддзя, міма вострава ў дажджлівай прасторы праплыў белы цеплаход...

## *Секс і філасофія*

2.07.2011. З Людмілай паглядзелі фільм іранскага рэжысёра Махсена Махмальбафа «Секс і філасофія». Мінула гадзіна пасля прагляду, а ў мяне перад вачыма запаленыя белыя свечкі, чырвоная ружа, чырвоны парасон, чырвонае віно, адзін туфель белы, другі чырвоны, першы белы снег і жоўтае апалае лісце, якім замятаецца падлога, дзе танцавалі дзяўчаты, сярод якіх былі каханыя галоўнага героя фільма. Мне найбольш спадабалася першая дзяўчына, сцюардэса, якая прыйшла на сустрэчу з ружай і якая, развітваючыся, не дала сябе пацалаваць і горда пайшла ў сваё жыццё. Ад дзяўчыны, што была ў рознага колеру туфлях, я сам бы ўцёк, а не пайшоў бы ноччу за ёй услед, як гэта зрабіў галоўны герой фільма. З трэцяй дзяўчынай знаёмства адбылося ў бальніцы, куды трапіў наш герой, атруціўшыся малаком. На пытанне, якая ў вас прафесія, атручаны адказаў: «Я паэт...» — «І я вершы пішу...» — адказала дакторка-прыгажуня. З ёй я таксама асабліва б не звязваўся, але не таму, што ў мяне жонка паэтка. Чацвёртая палюбоўніца была аднагодкай паэта. Яна не дачакалася, калі яе палюбоўнік развітаецца з маладымі саперніцамі і сышла дамоў, выпіўшы ўсё віно. Потым яна патэлефанавала паэту і запрасіла яго дахаты на 12 гадзін ночы. Паэт прыйшоў да жанчыны, а ў яе за гасцінным сталом, дзе гараць белыя свечкі, ужо сядзяць тры мужчыны. Звяртаючыся да мужчын, жанчына адразу ж прызналася, што яна пераняла вопыт у паэта. Пачуўшы гэта, адзін мужчына тут жа ўстаў і, ударыўшы жанчыну па твары, сышоў. Следам пайшоў другі, за якім і пабегла жанчына. За сталом засталося трое чалавек — паэт, незнаёмы мужчына і я...

* * *

3.07.2011. З Людмілай схадзілі ў царкву. І дождж стаў светлым...

## *Ахілес дагнаў чарапаху*

3.07.2011. Паглядзелі фільм Такешы Кітано «Ахілес і чарапаха». Хлопчыку, якога назвалі ў гонар Маціса, у дзяцінстве задурылі галаву, што ён будзе мастаком. Да ўсяго сябар бацькі, вядомы мастак, хлопчыку падарыў берэт са сваёй галавы, нібыта німб таленавітасці. І вось Маціс кожны дзень малюе, але ад яго малявання толькі адны непрыемнасці і для яго і для блізкіх. Ідуць гады, меняецца свет, а Маціс ніяк не можа вылезці з-пад падоранага майстрам берэта, які з німба ператварыўся ў пятлю. У канцы фільма гучыць за кадрам: «І ўсё ж Ахілес дагнаў чарапаху!» Сумна, але справядліва...

* * *

4.07.2011. Знайшоў у чарнавіках два радкі: «Белы лёд тваіх вачэй. Чорны снег маіх начэй...» Нешта ў іх ёсць, але ўжо мінула больш трох месяцаў з дня запісу і цяпер гэтыя радкі, як чужыя, і не патрабуюць працягу...

## *Вісельнікі*

4.07.2011. Даведаўся ад аднавяскоўца, што тыдзень таму ў Пугачах павесіўся трыццацідзевяцігадовы хлопец. Ён збіраў па вёсцы малако для дзяржавы. Любіў выпіць. Некалькі гадоў таму павесіўся бацька гэтага хлопца. У старога быў рак лёгкіх. А яшчэ раней павесіўся брат малакавозчыка. Усе гэтыя вісельнікі спынілі сваё жыццё ў хляве на адным і тым жа круку...

## *Настрой*

4.07.2011. Захмурэлае неба. Час ад часу сыпле дробны дождж. Сумна і не хочацца працаваць. Узгадалася вясковае, нярэдка жартам сказанае бацькам: «Ці ж я дурань працаваць? Няхай працуе трактарыст!»

* * *

5.07.2011. Сёння ў маёй Людмілы дзень народзінаў. Каб нешта талковае купіць і падарыць ёй, няма дастаткова грошай. Хацеў верш напісаць, але не напісаў. Знайшоў ранейшы, які канкрэтна прысвечаны Людміле:

*Ты ў мяне адна, нібыта неба раннем*
*Светлае, нібы царкоўнае віно,*
*У якім надзея, вера і каханне*
*Злітыя, нібыта ў сонца, у адно*
*Светлае, святое і, як кроў, зямное,*
*Без якога не пачнецца вечны шлях...*
*Дзень прайшоў і сум, нібы згарэла Троя.*
*Я з табой, як попел на тваіх нагах.*

## *Губараў і Аляхновічы*

6.07.2011. Нарэшце Наталля Шаранговіч прынесла рукапіс кнігі пра мастака Валянціна Губарава. Гадоў дваццаць таму ён працаваў у «Мастацкай літаратуры», потым паехаў у Францыю, дзе апошнім часам часцей за ўсё і жыве. Чытаючы рукапіс кнігі, даведаўся, што жонка мастака Ларыса Карыткіна нарадзілася ў Аляхновічах, якія ў шасці кіламетрах ад маіх Пугачоў. У свой час яна завочна вучылася ў паліграфічным інстытуце ў Маскве, дзе і пазнаёмілася з Валянцінам. Пад уражаннем прачытанага я тут жа пазваніў мастаку. Аказалася, што Валянцін з жонкай доўгі час жыў у Аляхновічах і там выраслі іх дзеці, там і цяпер жыве іх сваяк дзед Ракоць. Ходзячы па наваколлі, мастак бываў і ў маёй вёсцы. І амаль усе ягоныя карціны з краявідамі — гэта мае родныя мясціны, ды і людзі на карцінах у большасці — гэта мае землякі. Дамовіліся як-небудзь восенню разам паехаць у Аляхновічы і ўзгадаць як стваралася карціна «Восень у Аляхновічах»...

## *Міра, дарога і Сыс*

8.07.2011. Міра Лукша, прыехаўшы з Беластока на фестываль беларусаў свету, не абмінула нашу хату. Раней заўсёды спынялася ў нас і мы па вечарах доўга гаварылі пра паэзію і наогул пра літаратуру. Цяпер у нас мая хворая мама і ўжо няма ўмоў для тых шумных пасядзелак, што былі раней. На гэты раз вячэралі спакойна і ўспаміналі маладыя гады. Позна вечарам, праводзячы Міру на тралейбус, узгадаў, як гадоў дзесяць таму вось гэтак я з Анатолем Сысам вёў дварамі нашу сяброўку і яна ўвесь час казала: «Я такой дарогай ніколі да вас не хадзіла!» А дарога да нас дамоў была выбрана спецыяльна, каб Анатоль яе не запомніў...

* * *

8.07.2011. Міра Лукша, узгадваючы сваё сяброўства з Анатолем Сысам, прызналася, што Анатоль, гаворачы пра мяне і Людмілу, нярэдка ўскіпаў: «Гэта ж трэба! Такую дзеўку Шніп адхапіў! Як яму ўдалося?»

### *Застаўся без трох дыпломаў...*

10.07.2011. Прачнуўся ў гадзіну ночы. Спаць не хацелася, і я ўзяў пачытаць свежы нумар «Краязнаўчай газеты». Адразу ж натрапіў на рэцэнзію Міхася Маліноўскага на кнігу Мікалая Півавара «Краязнаўцы Віцебшчыны», у якой зачапіўся за радок: «Крытыкаваць пачну не аўтара, а рэцэнзента...» І за што ж крытыкуе спадар Міхась Віталя Скалабана, які на кніжцы пазначаны, як рэцэнзент? За ўхвальную рэцэнзію на рукапіс кніжкі Півавара? Не, бо рэцэнзіі ў кніжцы няма і я думаю, што спадару Міхасю рэцэнзію ніхто не паказваў. Таму крытыкаваць Скалабана за тое, што ў кніжцы Півавара адсутнічаюць артыкулы пра некаторых краязнаўцаў Віцебшчыны неяк несур'ёзна, а тым больш што ў самой рэцэнзіі Скалабана маглі быць заўвагі, якія не ўлічыў Піварар і якія пасля выхаду кнігі сталі прадметам крытыкі вядомага даследчыка. Да ўсяго ў кожнай кніжкі ёсць рэдактар, які не менш, чым аўтар, адказвае за змест выдання. Аднак у рэцэнзіі Маліноўскі пра рэдактара нават не ўзгадвае, нібыта ў кніжкі яго і не было. Дарэчы, трэба адзначыць, што Маліноўскі кніжку прачытаў уважліва: «А мяне дык увогуле пакінулі без «дырэктарства» ў Ашмянскім краязнаўчым Музеі імя Францішка Багушэвіча і трох дыпломаў аб адукацыі... Пра свае заўвагі я напісаў і Віталю Скалабану ў Мінск, і Мікалаю Півавару ў Лужасну, але яны пакуль маўчаць». І, прачытаўшы да канца рэцэнзію, я не змог яшчэ доўга заснуць. Думаў пра тое, каб газета з рэцэнзіяй Маліноўскага не трапіла на вочы Віталя Скалабана, які нядаўна перанёс вельмі цяжкую аперацыю...

### *Караткевіч глядзіць у бок Пугачоў...*

10.07.2011. У Ракаве на доме Вячаслава Рагойшы, дзякуючы раённым уладам, скульптару Івану Міско і самому Вячаславу Пятровічу, была адкрыта мемарыяльная дошка з надпісам: «Гэты дом часта па-сяброўску наведваў класік беларускай літаратуры Уладзімір Караткевіч». Пасля ўрачыстасці Рагойша падышоў да мяне і сказаў: «Караткевіч глядзіць у бок тваіх Пугачоў!» —

«І не дзіўна, што глядзіць у бок Пугачоў, бо ён там хоць і адзін раз, але ўсё-ткі бываў»,— адказаў я, памятаючы тое, што мне расказвала мая цётка Валянціна Іосіфаўна, у якой, працуючы ў Пугачоўскай школе, жыў будучы доктар філалагічных навук Павел Дзюбайла і да якога з Радашковіч часта ў госці прыходзіў супрацоўнік раённай газеты Адам Мальдзіс. Дзякуючы Мальдзісу, Караткевіч і быў у Пугачах...

*У Івана Міско*

10.07.2011. Вярнуўшыся ў Мінск з Ракава, дзе на доме Рагойшы была адкрыта мемарыяльная дошка, прысвечаная Уладзіміру Караткевічу, мы з Людмілай, дзякуючы Анатолю Бутэвічу і Міхасю Кеньку, трапілі ў госці ў майстэрню да скульптара Івана Міско. Амаль чатыры гадзіны Іван Якімавіч расказваў пра сваё творчае жыццё і ўвесь гэты час на нас з паліц і пастаментаў глядзелі сотні скульптур. Часам, слухаючы Івана Якімавіча, мне было страшна, бо здавалася, што мы сядзім у пекле сярод адрэзаных акамянелых галоў, а часам было на душы светла і ўзнёсла, як быццам мы ўсе трапілі ў рай. Раней у будынку, дзе цяпер майстэрня, была канюшня. Пачуўшы гэта, падумалася: «Пры Саветах не толькі Храмыператваралі ў канюшні, але часам і канюшню аддавалі пад Храм...»

*Бухгалтарка*

13.07.2011. Некалькі гадоў таму старая жанчына прынесла ў выдавецтва рукапіс успамінаў свайго памерлага брата. На жаль, прапанаванае па сваіх мастацкіх якасцях вельмі слабое. Пра гэта было пісьмова паведамлена жанчыне, якая, атрымаўшы адмову, недзе праз паўгода пачала патрабаваць выдаць кніжку брата, нібыта рукапіс быў адобраны. Старая патэлефанавала і сёння. На гэты раз яна сказала: «Вы гаворыце няпраўду, што на выданне такой кніжкі, як у майго брата, трэба 50 мільёнаў. Я ўсё жыццё прапрацавала бухгалтаркай і ўчора ў кіёску даведалася, што пачак паперы прадаецца за 59 тысяч, а гэта значыць, што адзін ліст каштуе 118 рублёў. У кніжцы брата 250 старонак. Значыць, на адну кніжку трэба 125 лістоў паперы, а калі ліст падзяліць на два, то хопіць і 65. Цяпер памножце 65 на 118 і атрымаеце 7 670 рублёў на адну кніжку. На тыраж у 1000 асобнікаў трэба 7 670 000 рублёў. А вы мне кажыце 50 мільёнаў. Я бухгалтарка і ўмею лічыць грошы!» Мае тлумачэнні, што каб выдаць кніжку трэба заплаціць не толькі за паперу, але і за паліграфічныя

паслугі і яшчэ шмат што ўваходзіць у сабекошт кніжкі, жанчыну не супакоілі, і яна на ўсё, што казаў, крычала: «Я бухгалтарка!»

* * *

14.07.2011. Глянуў на вокладку адной кнігі, і ў галаве тут жа прагучала: «Яна была цудоўнай, як палена...»

*Горача*

15.07.2011. Муха заляцела ў кватэру і лётае за мной, нібыта я вінаваты, што і ёй горача...

*Кроплі мёду*

16.07.2011. Пад ліпамі першае жоўтае лісце, як вялікія кроплі мёду, якія пчолы не паспелі сабраць з квецені...

*Каштанавы воск*

16.07.2011. Каштанавыя свечкі даўно адсвяцілі і цяпер першае апалае лісце пад каштанамі, як воск ад каштанавых свечак...

*Храм, масток і замкі́*

16.07.2011. Па дарозе з Мінска ў Маладзечна ў раёне Драздоў колькі разоў мы з Людмілай бачылі новы Храм. І вось сёння мы выбраліся паглядзець на яго зблізку. Выходзілі з дому пры пагодзе, а па дарозе трапілі пад дробны дождж, які ўсё ж нас не напалохаў. Храм цяпер рамантуецца, з яго зняты пазалочаны купал, які тут жа ля Храма ляжыць у траве, як шалом велікана. Абышоўшы ўсе царкоўныя збудаванні, мы пайшлі да святой крыніцы, дзе на жалезным мастку маладажонамі падчас вяселля начэплена на шчасце некалькі дзясяткаў замкоў. Пасля наведвання царквы і малітвы замкі на мастку мне падаліся паразітамі, якія харчуюцца жалезнымі мастамі...

*Наша Кальварыя*

17.07.2011. Сёння Людміла Рублеўская для свайго «Літаратурнага прадмесця» (змаглі прыйсці: Мікола Кандратаў, Таццяна Барысюк, Наталля Кучмель, Дар’я Лосева, Маргарыта Аляшкевіч і Юрась Нераток) правяла цікавую і змястоўную экскурсію па Кальварыйскіх могілках. І хоць я для сябе нічога новага

не пачуў, бо падобныя экскурсіі Людміла праводзіць для ўсіх нашых сяброў і знаёмых вельмі часта, але выпадкова на радасць усіх экскурсантаў знайшоў магілу Яна Матусевіча, які з 1990 года быў пробашчам першай грэка-каталіцкай парафіі ў Мінску. Янам Матусевічам быў пасвечаны крыж у Курапатах, пастаўлены на месцы масавых расстрэлаў у трыццатыя гады. У красавіку 1989 года Ян Матусевіч удзельнічаў у першым маршы «Чарнобыльскі шлях». Быў сябрам Рады Таварыства беларускай мовы ў Мінску, ад моманту заснавання ТБМ. За дзве гадзіны экскурсіі па Кальварыі мы абышлі ўсе вядомыя нам магілы дзеячаў культуры і ўсклалі да іх палявыя кветкі. Праўда, на некаторых і так расла трава...

### *Для чаго ты пішаш?*

18.07.2011. З Людмілай паглядзелі фільм «Пока не наступит ночь» пра лёс кубінскага пісьменніка Рэйнальда Арэнаса — зоркі кубінскай паэзіі, надзеі кубінскай рэвалюцыі і любімца Фідэля Кастра. Фільм «Пока не наступит ночь» расказвае пра трагічны лёс пісьменніка і яго існаванне «па-за грамадствам»... На пытанне сябра: «Для чаго ты пішаш?», Рэйнальд Арэнас адказаў: «Каб адпомсціць!» На гэтае ж пытанне і ў мяне ёсць свой адказ: «Каб зайздросцілі і злаваліся!»

* * *

19.07.2011. Калюжына, як Еўропа...

* * *

21.07.2011. Гарачыня. Думкі ў галаве, як з мёду...

### *Пачарнелы і светлая...*

22.07.2011. У тралейбус зайшоў п’яны, пачарнелы, як вэнджаны, мужык гадоў пад сорак са светлай дзяўчынкай гадоў дванаццаці. Пракампасіраваўшы талончык, малая села каля вэнджанага, які тут жа яе абхапіў, як мужык жонку, і пачаў драмаць. Дзяўчынка, амаль не міргаючы, стала глядзець перад сабой, нібы гаворачы: «Гэта мой бацька...»

* * *

22.07.2011. На вуліцы дождж. У пакоі змрочна. Мама спіць пад жоўтай коўдрай, як матыль, пад апалым кляновым лістом...

* * *

22.07.2011. Еду ў метро пад Кальварыйскімі могілкамі, нібы ў тунэлі праз Той свет...

* * *

22.07.2011. Ідучы на радыё, праходжу праз двор каля дома, дзе на першым паверсе гадоў восем назад была рэдакцыя часопіса «Крыніца». Заглядаю ў акно і бачу Алеся Разанава, які праз хвіліну ператвараецца ў незнаёмца...

* * *

23.07.2011. Раніцай хмары каля сонца, як вата прыкладзеная анёламі да Божай раны...

* * *

23.07.2011. У мамы пад падушкай каляндар «Родны край», з якога яна час ад часу адрывае лісты. Сёння ў мамы яшчэ 18 ліпеня...

### *Чарга за «Осенним хлебом»*

23.07.2011. Хадзіў у краму. Натрапіў на смярдзючую чаргу з алкаголікаў і бамжоў (чалавек трыццаць) — куплялі «чарніла» «Осенний хлеб». Некаторыя, як інтэлігенты, віталіся з касіркай. Большасць на мяне з малаком і мінералкай глядзела, як на «ворага народа»...

### *Пятнаццаць хвілін*

23.07.2011. Люда не змагла, і я пайшоў адзін на Мухлю глядзець на качак. Сеў на лавачку каля вады і стаў слухаць з мабільнага музыку. І чым далей сядзеў, тым мацней адчуваў дыскамфорт ад таго, што я сюды прыйшоў без Люды. Праз пятнаццаць хвілін вярнуўся дамоў...

## *Станюта, час і памяць...*

25.07.2011. З Аляксандрам Станютам (пісьменнікам і сынам актрысы Стэфаніі Станюты) я знаёмы ўжо гадоў дваццаць пяць. За гэты час мы сустракаліся разоў дзесяць і наогул апошні раз бачыліся даўным-даўно. Нягледзячы на гэта, пісьменнік з маёй памяці не знік. І сёння, калі да мяне прыйшоў ягоны сын Дзмітрый і прынёс падпісаныя кнігі, мне было вельмі прыемна даведацца, што Аляксандр Аляксандравіч не забыўся пра мяне, і вельмі мяне засмуціла тое, што ён цяпер невылечна хворы...

## *Стэфанія*

26.07.2011. Сярод падораных мне кніг Аляксандрам Станютам найбольш зацікавіла «Стэфанія», выдадзеная ў 1994 годзе ў выдавецтве «Беларусь». І чамусьці адразу ж кніга разгарнулася вось на гэтых словах Стэфаніі Станюты: «Мінулую восень Мая Кляшторная — я добра яе ведаю, бацька ейны — пісьменнік, быў рэпрэсіраваны,— дык яна расказвала. Прыйшла, як і шмат іншых людзей на Дзяды, увечары на вуліцу Урыцкага, да гэтай вядомай усім будыніны. Свечку запаліла, як і ўсе — у памяць родных, што загінулі без віны. І нічога ж не рабілі, ціха стаялі, сядзелі. Не, не падабаецца — падыходзяць да іх раз за разам і ўсё: «Ідзіце дадому, ноч на дварэ, ідзіце і кладзіцеся спаць». Але больш за ўсіх шчыравала нейкая п’яная кабета, што апынулася там на досвітку. «А чаго вы тут тырчыце, га? Няма чаго рабіць? Усе людзі даўно спяць, а вы...» — так і растак!.. І гэткія во — самыя небяспечныя. Яны нейкім асаблівым нюхам беспамылкова заўсёды ўчуюць, дзе і хто жыве нечым большым, чым яны,— тым, да чаго ім не дацягнуцца. І такіх людзей яны не выносяць фізічна. Заўсёды хочуць сцягнуць іх уніз, на свой узровень: калі ўсе ўнізе, дык іх не заўважаеш. Галоўнае, каб ніхто не вытыркаўся. Цяпер я шмат чаго разумею, дазналася».

## *Памяць*

28.07.2011. Працягваю чытаць у «Полымі» раман-дзённік Уладзіміра Гніламёдава «Сем год у ЦК». Спыняюся на запісах:

«1972 год. 10 сакавіка. У цэху футаралаў Мінскага радыёзавода пад раніцу здарылася буйная аварыя. Загінула шмат рабочых. Сітуацыя надзвычайная, такога яшчэ не было. Меў рацыю малады і мудры У. Караткевіч, калі пісаў (у адным з вершаў — «Баладзе»): «Трагедыі не знікнуць і пры Камуне...»

11 сакавіка. Шмат загінулых і параненых у цэху футаралаў. Трагедыя! Дастаюць з-пад завалаў. Пакуль што налічылі 82 чалавекі. Сэрца разрываецца. У апошні час у нас стала болей розных ЧП, пажараў, паводак, землятрусаў, вывяржэнняў вулканаў.

15 сакавіка. Стала вядома, што ў цэху футаралаў загінула больш за 100 чалавек, звыш 200 паранена...»

Мне тады было 12 гадоў, і я на ўсё жыццё запомніў, як у нашы Пугачы з Мінска прывезлі труну з загінулай дачкой Зіны Руткевіч. І ў той дзень я ўпершыню ўбачыў мёртвай маладую дзяўчыну і гэта разбурыла маё дзіцячае перакананне, што паміраць і гінуць могуць толькі старыя людзі і салдаты на вайне...

## *Гарадніцкі і Чабан*

29.07.2011. Сёння майму земляку літаратуразнаўцу Яўгену Гарадніцкаму спаўняецца 60 гадоў. Ён быў у ліку першых, з кім я пазнаёміўся ў 1977 годзе на калідоры рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». У той час Яўген заканчваў вучобу ў БДУ, працаваў у выдавецтве разам з Міколам Селешчуком і жыў у Ракаве. Нейкі час мы сустракаліся толькі на пасяджэннях літаб'яднання «Крыніцы», а потым, калі ў Ракаве была прададзена хата і куплена ў Мінску, я часта прыходзіў да Яўгена, і мы чыталі адзін аднаму вершы, марылі на роварах аб'ехаць усю Беларусь. Нічога не аб'ехалі. Яўген нават ровара не купіў. Закончыўшы вучобу ў БДУ, мой сябра стаў працаваць у інстытуце літаратуры. Праца яму была даспадобы. Аднак Яўген, расказваючы пра сваіх супрацоўнікаў, часта скардзіўся на Тамару Чабан: «Яна прыйшла ў інстытут намнога пазней за мяне, а ёй зарплату большую далі... Яна многа піша... Яна многа друкуецца... Яна... Яна...» Час ішоў і аднойчы Яўген прызнаўся мне, што сабраўся жаніцца. На маё пытанне: «З кім?», сябра адказаў: «Прыходзь у нядзелю, у мяне будуць госці і я цябе пазнаёмлю з будучай жонкай...». І я прыйшоў. На лавачцы каля хаты Тамара Чабан скрэбла бульбу і я падумаў: «Ну Яўген! Прымушае гасцей працаваць! Што ж ён мне загадае рабіць?» Зайшоўшы ў хату, я запытаўся: «А дзе ж нявеста?» — «Як дзе? Бульбу шкрабе...» — адказаў мой сябра. «Дык там жа на вуліцы адна Тамара Чабан...» — не разумеючы нічога, сказаў я. «А яна і ёсць мая будучая жонка...» — заўсміхаўся Яўген...

## *Сватаўства*

29.07.2011. Калі памерла Тамара Чабан, Яўген Гарадніцкі застаўся адзін з малым сынам Паўлікам і гадавалай дачкой. Гледзячы як цяжка Яўгену аднаму з дзецьмі, праз пэўны час сябры пачалі шукаць жанчыну, якая б хоць нечым замяніла сіротам родную маці. Ну і я таксама па-сяброўску ў гэтай справе не застаўся ўбаку. І вось, атрымаўшы запрашэнне ў госці, я з Надзеяй Вусавай, якая нядаўна развялася, павёў да Яўгена ў сваты Надзіну сяброўку. Сватаўство прайшло добра, і я, вярнуўшыся дахаты, патэлефанаваў Яўгену, каб даведацца, ці спадабалася яму новая знаёмая. «Не спадабалася!» — адказаў Яўген. «А чаму?» — «Па-беларуску гаварыць не ўмее!» — «Навучыцца з табой!» — «Не трэба! Мне спадабалася Надзя. Перадай ёй пра гэта». Пасля размовы з Яўгенам я патэлефанаваў Вусавай, ад якой даведаўся, што і Яўген ёй спадабаўся, але яна баіцца, што не справіцца з яго дзецьмі і сваім малым сынам...

## *Гарадніцкі і але...*

29.07.2011. Недзе гадоў трыццаць таму Яўген Гарадніцкі задумаў напісаць раман пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. І ўжо было напісана тое-сёе, і, па-мойму, было напісана цікава. Але, але...

## *Стары і галубы...*

29.07.2011. Нядаўна рэдагаваў зборнік вершаў Алега Салтука. Нешта правіў, нешта адкладаў назусім убок. На самым канцы рукапісу быў верш «Стары і галубы». Глянуўшы толькі на назву і будучы ўжо стомленым ад рэдагавання, я тут жа, не чытаючы, адклаў верш. А потым, адпачыўшы, захацеў пачытаць «Старога і галубога». І пачытаў. А верш аказаўся не пра старога і блакітнага, а пра старога і галубоў...

## *Які ўжо раз...*

30.07.2011. Які ўжо раз, едучы па шашы ў бок Ракава ці адтуль і ўгледзеўшы каля сажалак мужыкоў, кажу Людміле: «Паглядзі, можа, недзе там і Федарэнка сядзіць з вудай...»

## *Першыя Лысагорскія Танкаўскія чытанні*

31.07.2011. З Людмілай і сябрамі суполкі «Літаратурнае прадмесце» ўдзельнічаў у першых Лысагорскіх Танкаўскіх чытаннях, якія арганізавала Аксана Спрынчан у сябе на лецішчы. Дабіраліся на электрычцы. Таццяна Пратасевіч спазнілася і, паехаўшы на маршрутным таксі, раней за нас прыехала да Аксаны. Дробны летні дождж і вогнішча з сасновых дроў давалі ўсім магчымасць уявіць сябе на беразе Нарачы. Вялікі партрэт Максіма Танка, Збор твораў і дзявятыя нумары «Полымя» (паэт амаль усё жыццё друкаваўся толькі ў вераснёўскім «Полымі») стваралі атмасферу прысутнасці самога паэта. На жаль, не ўсе, хто збіраўся выступіць, змаглі прыехаць на першыя Лысагорскія Танкаўскія чытанні, але вельмі цікава было паслухаць «Рэцэпцыю твораў Максіма Танка» (выступ Таццяны Барысюк), «Касмаграму Максіма Танка» (выступ Міколы Кандратава), «Невядомыя аўтографы Максіма Танка» (выступ Людмілы Рублеўскай). Ну а я расказаў як мяне Максім Танк прымаў у Саюз пісьменнікаў. Дзякуючы Аксане Спрынчан, у перапынках паміж дакладамі, гучалі вершы Танка. Алесь Емяльянаў іграў на гітары і спяваў. Напрыканцы чытанняў да нас далучыліся Сяргей Вераціла, Галіна Дубянецкая і Сяржук Сыс...

## *«ЛіМ» за 13 лютага 2004 года*

31.07.2011. Палячы вогнішча на лецішчы Аксаны Спрынчан, знайшоў «ЛіМ» за 13 лютага 2004 года. І тут жа ўзгадаў, што гэта мой апошні штотыднёвік, які я пад кіраўніцтвам Анатоля Казлова рыхтаваў да друку, бо ўжо 23 лютага быў на працы ў «Мастацкай літаратуры». Пагартаўшы «ЛіМ», я было хацеў яго спаліць, як і астатнюю кучу газет, але перадумаў: «Няхай паляжыць, можа хто яшчэ пачытае...»

## *Што?*

31.07.2011. Хадзілі з Людай у відэацэнтр у «Сталіцы», дзе паказвалі фільм Рамана Паланскага «Што?», які быў зняты амаль сорак гадоў таму. Мне было прыемна паглядзець на маладую, наіўную аж да маразму і часта голую фіміністку. Мяне Люда не раўнавала...

# ЖНІВЕНЬ

* * *

1.08. 2011. Павінны былі сёння паехаць адпачываць на Нарач, але не атрымалася. І цяпер адчуванне, нібыта адсталі ад цягніка, і ў нас у кватэры, як на вакзале...

*Трава ў двары*

1.08.2011. Учора ў нашым двары скасілі траву. І трава да сёняшняй раніцы была сенам. Цяпер жанчыны з ЖЭСа яе грабуць, як смецце...

*Сям'я*

1.08.2011. Галіна Дубянецкая і Сяржук Сыс. Яна спакойная, а ён — Сыс...

* * *

1.08.2011. Ад гарачыні першая жоўтая лістота пад бярозай скруцілася ў трубачкі і цяпер ляжыць, як недапалкі дарагіх цыгарэт з пазалачанымі фільтрамі...

*Адпачынак пачаўся...*

1.08.2011. Першы дзень адпачынку. З дому не выходзіў, нібыта пакараў сябе за тое, што маму не слухаўся. А мама амаль увесь дзень спіць...

*У цёмным двары...*

2.08.2011. Цямнее. У двары равуць, як рэзаныя, два чорныя каты, якіх ловяць старыя гаспадыні, каб занесці дамоў... Праз паўгадзіны сцямнелася, катоў амаль не чуваць, і толькі галасістыя бабулі на ўвесь двор клічуць дамоў сваіх чорных катоў, якіх не бачна ў цемры...

* * *

3.08.2011. Застудзіўся. Цяпер баляць зубы. І наш папугай Северус лётае за мной па хаце, як зачараваны доктар Айбаліт...

*Нарач. Першы дзень...*

4.08.2011. На Маскоўскі аўтавакзал на таксі з Людмілай ехалі моўчкі (Максім наогул паехаў на метро), нібыта пасварыліся. Замест чаканага камфартабельнага аўтобуса, які быў абяцаны пры куплі самых дарагіх білетаў (40 тысяч) на Нарач, на прыпынку нас чакала звычайная маршрутка. Пасажыраў набралася 12 чалавек, з якіх два казахі і два лысыя п'яніцы. Казахі ўсю дарогу баяліся праехаць Мядзел, а п'яніцы пілі гарэлку, запіваючы мінералкай, і прыставалі да дзяўчыны, якая сядзела папераддзе іх. Першы прыпынак быў у Ілы. Гледзячы расклад, прыклееены каля білетнай касы, стары з нашай маршруткі сказаў мне: «А я ў Красным працаваў...» — «Там побач Ракуцёўшчына, дзе некалькі месяцаў жыў Максім Багдановіч...» — дадаў я. «Так...» — працягнуў стары размову, якая тут жа перарвалася, бо нас паклікалі ехаць далей. На прыпынку ў Мядзелі выйшлі казахі. І як толькі наша маршрутка скранулася з месца, больш шабутны п'яніца закрычаў: «Стойце! Казахаў забыліся!» — «Яны прыехалі!» — паведаміў шафёр. «Ага! Паглядзіце, казахі ўжо пад дрэвам моляцца! Відаць, да нас хутка Назарбаеў прыедзе!» — дадаў спакайнейшы п'яніца. У курортны пасёлак Нарач заехалі за дзве з паловай гадзіны. Гаспадыня кватэры, дзе мы сабраліся адпачываць, сустрэла нас на прыпынку. Жыллё нам спадабалася. Пераапрануўшыся і перакусіўшы, пайшлі да Нарачы, каля якой Максім прапанаваў паглядзець санаторый «Нарачанскі бераг», дзе мы адпачывалі восем гадоў таму. Падышоўшы да санаторыя, нібыта трапілі ў 2003 год — каля будынка на лавачках інтэлігентныя старыя, побач каля іх бегаюць шустрыя дзеці і стаіць гіпсавы Ленін. На танцпляцоўцы расійская папса, якую мы чулі і ў 2003 годзе. Дзяўчаткі танцуюць, а хлопцы глядзяць, старэйшыя кураць. Нічога новага. У кватэру вярнуліся, калі ўжо сцямнела...

*Нарач. Другі дзень...*

5.08.2011. Пакуль Люда і Максім спалі, зрабіўшы сняданак, схадзіў у краму. Купіў алею за 17 700, які ў Мінску каштуе 13 тысяч. Усё астатняе, здаецца, не даражэйшае...

З дому выйшлі ў 12 гадзін. Пайшлі па беразе Нарачы. Прыпыніліся каля старых пісьменніцкіх лецішчаў. Праходзячы

каля нас, пажылы мужчына сказаў: «Гэта дачы нашых пісьменнікаў: Лынькова, Куляшова і Танка...»

Ужо другі дзень бачу на Нарачы човен пад белым ветразем. Адчуванне, нібыта на чоўне няма людзей...

Малькі ў чыстай вадзе каля берага, як брудныя льдзінкі...

Каля аддзялення «Беларусбанка» цэлы дзень чарга. У чарзе адныя і тыя ж людзі — скупляюць валюту. Праз дарогу каля будынка, дзе пахаронныя паслугі, лавачкі таксама не пустуюць — тут спыняюцца маршруткі з новымі адпачываючымі, якім прапануюцца кватэры, а я напачатку, гледзячы на кучу людзей, падумаў, што нехта памёр...

На пляжах стаяць знакі з папярэджаннем, што нельга карміць качак і лебедзяў. А гэтых птушак і не бачна...

Усе баяцца купацца, бо ў вадзе, кажуць, ёсць нейкая зараза ад птушак. Але многія купаюцца...

## *Нарач. Трэці дзень...*

6.08.2011. Сніўся Анатоль Сыс. Ён мне чытаў свае новыя вершы. Казаў, каб пасылаў усіх падалей, хто будзе вучыць, як жыць...

Разбудзіў тэлефонны званок ад мастака Алеся Квяткоўскага. Ён цяпер з жонкай у сяброў у Вілейцы. Пахваліўся, што амаль усю ноч спявалі песні на вершы Сыса, Адамовіча, Рублеўскай і мае...

З акна праз дарогу бачу, як на сваю будоўлю на новенькай машыне прыехаў мужчына гадоў сарака. Фундамент ужо зроблены, а каля яго навернуты кучы пяску і цэглы. Па-гаспадарску пахадзіўшы па будоўлі, мужчына сеў у машыну і паехаў...

Хадзілі ў вёску Нарач, якая раней называлася Кабыльнік. Нас цікавілі Храмы. Царква была збудавана ў 1875 годзе. Мураўёўка. Усе абвесткі па-руску. Замкнутая. Касцёл быў збудаваны ў 1901 годзе. Адчынены. Усе абвесткі па-беларуску. Каля касцёла пахаваны ксяндзы. Адзін у 1922 годзе. Пражыў 27 гадоў. Другі пахаваны ў 1942 ва ўзросце 42 гадоў. Відаць, быў расстраляны. На тэрыторыі пры Храме стаіць скульптура Яну Паўлу II.

У цэнтры вёскі Нарач, дзе мог стаяць гіпсавы Ленін, сціплы помнік землякам, якія загінулі ў партызанах і на фронце. Надпісы па-беларуску...

Вяртаючыся з вёскі Нарач, дзівіліся яе велічыні. Асабліва ўразілі шыкоўныя лецішчы, якія абляпілі вёску...

Прыпыніліся каля верталётнай пляцоўкі. Можна палётаць над Нараччу. 10 хвілін каштуе 700 тысяч...

Пад вечар хадзіў з Людай да Нарачы. Ветрана. Хвалі, як на моры. На чорным небакраі човен пад белым ветразем, як прывід...

Вечар. У краме людна. Шмат моладзі. Усе купляюць гарэлку і піва. А мы сок і малако...

### *Нарач. Чацвёрты дзень...*

7.08.2011. Люда купалася ў Нарачы, а я не палез у ваду, бо ўсё яшчэ баліць зуб. Тэмпература паветра была 24 градусы, а вады — 21. Пакуль чакаў Люду з вады, над Нараччу лётаў верталёт — відаць, нехта не пашкадаваў 700 тысяч...

У траіх каталіся на катамаране. Нядарага — за гадзіну 10 тысяч. Заплывалі далёка за буйкі, дзе глыбока і вялікія хвалі. Гледзячы толькі на ваду, я ўяўляў, што мы сярод бяскрайняга мора...

Часта сустракаюцца маладыя кітайцы. Сярод іх ёсць вельмі сімпатычныя кітаянкі...

Нарачанскія хлопцы прапанавалі купіць рыбу. Мы адмовіліся. Але калі б яны прапанавалі парыбачыць, то мы б з радасцю ў іх узялі вудачкі...

У газетным кіёску пацікавіліся, ці прадаюцца якія-небудзь беларускамоўныя літаратурныя выданні. Не прадаюцца...

### *Нарач. Пяты дзень...*

8.08.2011. Прачнуўся ад шуму дажджу за акном. Адчыніў фортку — і ў пакой заляцеў матылёк...

Калі дождж прыціх, з Людай пайшлі да Нарачы. На пляжах пуста. На вадзе каля берага плавалі качкі, якіх нельга карміць...

Ідучы па пантоне, назіралі за рыбамі. Следам за намі на пантонны астравок прыйшлі хлопец з дзяўчынай. Ён яе абдымаў і называў «сонейкам», а дзяўчына ўсё пыталася: «Ці любіш мяне?..»

Пахадзілі па тэрыторыі санаторыя «Нарач». Паназіралі, як на лавачцы пад дрэвамі хлопчык пазіраваў мастачцы. І потым яшчэ ўбачылі лысага з вялікім жыватом мужчыну, які нёс згорнуты ў трубку гатовы партрэт сына і, гледзячы далёка перад сабой, задаволена ўсміхаўся, а хлопчык, як сабачка, плёўся следам...

### *Нарач. Шосты дзень...*

9.08.2011. Выбраліся на экскурсію. Першы прыпынак быў на страусавай ферме. Праўда, там толькі два страусы, таму гэта ферма больш свінаферма, бо ў загонах дзясяткі свіней розных парод...

Праязджалі каля вёскі Агароднікі, дзе нарадзіўся Уладзімір Дубоўка. Экскурсаводка падрабязна пераказала ўсю біяграфію рэпрэсаванага паэта. Нават зачытала асобныя радкі з вершаў...

Вёска Лучаі, як маёнтак, упершыню ў летапісах упамінаецца ў 1542 годзе. На сённяшні дзень Лучаі — даволі немалая вёска. Касцёл Святога Тадэвуша, нібыта чакаў нас, быў адчынены і на ўвесь двор гучала арганная музыка. Мы думалі, што гэта іграе арган. Ды не! Магнітафонны запіс. Ксяндза Мікалая не было, і мы ўсе вольна адчувалі сябе ў Храме, які ў свой час быў распісаны мастаком Казімірам Анташэўскім. З касцёла выходзілі пад песню «Авэ Марыя»...

У Паставах наш аўтобус спыніўся на цэнтральнай плошчы, на якой у гарвыканкам «ідзе» гіпсавы Ленін. Царква зачынена. З яе на рыштаваннях мужчына са шланга змываў пабелку, і пырскі бруднай вады выляталі аж на вуліцу. І мы пайшлі ў касцёл Святога Антонія Падуанскага 1880—1887 гг. і беззаганнага зачацця Прасвятой Дзевы Марыі. На касцёле вісіць шыльда, якая паведамляе ўсім, што будынак ахоўваецца дзяржавай. Герб жа дзяржавы зацёрты да непазнавальнасці. У касцёле ўсё па-беларуску. Мы якраз прыехалі перад службай і, вяртаючыся ў аўтобус, бачылі, што ў касцёл ідзе шмат моладзі...

Напрыканцы вандроўкі, экскурсаводка расказвала пра Тызенгаўзаў. І было вельмі прыемна чуць апладысменты, калі яна скончыла свой расповед пра нашых слаўных землякоў і прачытала верш пра Беларусь Анатоля Грачанікава...

### *Нарач. Сёмы дзень...*

10.08.2011. Захацеў купіць якую-небудзь газету. Падышоў да кіёска, а там стаіць маладая кіяскёрка, усміхаецца і корміць неўмаля...

З Людай пайшлі па беразе Нарачы ў бок Мядзеля. Прайшоўшы метраў пяцьдзясят, вярнуліся да дарогі — сцяжына, па якой мы хадзілі восем гадоў назад, зарасла трыснягом і кустамі...

...І ўсё ж праз кусты прабраліся да нарачанскага берага, на якім высяцца векавыя сосны...

У трыснягу знайшлі замаскіраваны вялікі човен. Магчыма, кантрабандысцкі. Паплаваць на ім не змаглі, бо човен быў прывязаны да ўбітага ў нарачанскае дно жалезнага кала...

Праз гадзіну па беразе Нарачы дайшлі да дарогі з аўтастанцыяй, адкуль можна паехаць у Мінск. А потым, згледзеўшы ўказальнік, з якога даведаліся, што праз 400 метраў знаходзіцца рыбны магазін, пайшлі па рыбу. На жаль, у рыбным магазіне нарачанскіх вугроў не было...

Які ўжо дзень у адпачынку, а я ўсё ніяк не магу расслабіцца — старасць і нямогласць бацькоў, як бомба, якая можа ў любы момант узарвацца, у маёй галаве і ў сэрцы...

*Нарач. Восьмы дзень...*

11.08.2011. Пахаладала. 15 градусаў. Змрочна. Але ўсё роўна адпачываючыя ходзяць каля Нарачы, як каля сваёй здзейсненай мары...

Сніўся памерлы аднакласнік Сашка Балотнік. Я хадзіў да яго дапамагчы ўключыць у хаце святло. Не дапамог...

Глядзелі дакументальны фільм пра Ота Юльевіча Шміта. З выгляду замухрышка, але добры авантурыст і шчаслівчык, які ўмеў забалабоніць усё і ўсіх, і ў тым ліку самога Сталіна. Калі «Чалюскінец» затануў і больш ста чалавек высадзіліся на льдзіну, Ота Юльевіч не даў нікому замерзнуць і так стараўся абагрэць усіх, што амаль усе жанчыны (іх было дзесяць) зацяжарылі. Не абмінуў Шміт і прыбіральшчыцу...

Упершыню за сем гадоў працы ў выдавецтве ўжо тыдзень адпачываю за межамі горада. А так звычайна даводзілася амаль кожны дзень забягаць на працу і вырашаць нейкія творчыя пытанні, якія б маглі вырашыцца і без мяне...

Люда з Максімам ходзяць у санаторый «Белая Русь» у басейн. Хваляцца, што там вельмі добра...

*Нарач. Дзявяты дзень...*

12.08.2011. Адпачынак на Нарачы адпачынкам, а дома ўсё роўна лепей пры любым надвор'і...

Сёння не выспаўся. Нічога страшнага. У нашым жыцці сон — не самае галоўнае...

Раніца. Цяплее. Ужо 17 градусаў. Сіноптыкі абяцаюць 20. Буду чакаць, бо ўчарашнія 15 мяне замардавалі...

Ужо 22 градусы, і мая душа пачынае вызваляцца са змроку ўчарашняга дня і холаду мінулай ночы...

Сяджу адзін у чужой кватэры на пятым паверсе, як у вежы рэстаўраванага на сучасны лад замка...

Навальніца. Жадання пабегаць босым пад дажджом ужо няма...

На Нарачы хвалі, як на беларускім моры...

З Людай прайшлі каля лецішчаў Лынькова, Куляшова і Танка. Угледаліся ў зарослыя двары, нібыта спадзяваліся ўбачыць старых гаспадароў...

Цямнее. Старыя і пажылыя вяртаюцца ад Нарачы па сваіх дамах, а моладзь, нягледзячы на дождж, ідзе да вады...

### *Нарач. Дзясяты дзень...*

13.08.2011. Адпачываць можна і нікуды не выязджаючы з Нарачы, што многія і робяць, седзячы ў шашлычных. Мы ж прыехалі, каб спазнаваць мясціны, у якіх цяпер часова жывём. На жаль, цікавых экскурсій для адпачываючых прапаноўваецца малавата...

Па дарозе ў вёску Княгініна ад экскурсаводкі даведаўся, што раней наш курортны пасёлак называўся мястэчкам Купа. І гэтае мястэчка было не менш слаўнае, чым цяпер, маючы назву, курортны пасёлак Нарач...

Вёска Княгініна вядомая з XV стагоддзя. У ёй Троіцкая царква збудавана ў канцы XVII стагоддзя. Храм драўляны, невялікі, захаваліся вельмі старыя іконы. У царкве каля сценкі стаіць прыгожы крыж з пазнакай: «Жертва воина Константина Дубяго. 25 марта 1914 года». Каля Храма пахаваны а. Мітрафан (1864.V.25—1928.X.1) і ягоная жонка Алена (1864.V.20—1949.IX.13), а таксама мітрафорны протаіерэй Мікалай Башко (1927.29.03—1996.28.02)...

Праязджаючы каля Пількаўшчыны, экскурсаводка паведаміла, што гэта родная вёска Максіма Танка і прачытала ягоны верш пра Нарач. На жаль, наведванне магілы паэта не ўваходзіць у экскурсійны маршрут...

У Будславе мы з Людмілай і Максімам ужо былі два гады назад. Частка касцёла цяпер рэстаўрыруецца, а так нічога не змянілася. Праўда, сёння сам Храм мне падаўся не такім велізарным, якім я ўбачыў яго ўпершыню...

Крыху ад'ехаўшы ад Будслава, экскурсаводка падзякавала за ўвагу і сціхла. І амаль гадзіну мы ехалі дамоў сярод цікавых мясцін, чытаючы ўказальнікі...

### *Нарач. Адзінаццаты дзень...*

14.08.2011. У доме, дзе мы кватаруем, на другім паверсе мае кватэру паэт-гумарыст Уладзімір Ермалаеў. Ён учора вечарам прыехаў з Мінска і, адпачыўшы, сёння нас запрасіў да сябе паспрабаваць кавуна. Мы з радасцю пайшлі, бо крыху засумавалі без гутарак з творчымі людзьмі. Павінен быў да нас далучыцца Мікола Шабовіч, які жыве каля Нарачы ў 30 кіламетрах, але не паехаў, бо пабаяўся кепскага надвор'я. І, відаць, правільна зрабіў, што не прыехаў, бо, як толькі мы селі за стол, пачалася

страшная залева, якая ў двары пазатаплівала машыны. Пазней мы даведаліся, што ў Мінскай вобласці наогул быў вялікі буран і град. І пакуль бушавала навальніца, Уладзімір Фаміч чытаў нам свае пародыі, і ўсім нам было весела і светла...

Некалькі дзён назад мне снілася вёска. Прыйшоўшы да сажалкі, што на перакрыжаванні, я сустрэў Уладзіміра Ермалаева, які выдаваў ровары пакатацца. На роварах ужо каталіся мае памерлыя аднакласнікі Сашка Балотнік і Вова Звярок. І так хутка яны ездзілі па вуліцы, што аж страшна было. І я ад страху прачнуўся. Сёння, гасцюючы ў Ермалаева, я ўбачыў у яго два ровары, і Уладзімір Фаміч, згледзіўшы куды я гляджу, сказаў: «Можаце ўзяць пакатацца...»

## *Нарач. Дванаццаты дзень...*

15.08.2011. Яшчэ ў першы дзень кватаравання заўважыў, што ў ложка, на якім сплю, няма адной ножкі, а замест яе пакладзены тры кніжкі. Сёння пачытаў назвы: першая кніжка — падручнік для 4 класа па англійскай мове, другая — нейкая таксама замежная і трэцяя — «Судьбы книг. В. Сажин. Книги горькой правды»...

Уладзімір Ермалаеў спецыяльна для Людмілы і мяне прынёс з бібліятэкі кніжку Генадзя Малышава і Алега Карзеёнка «Нарочанское эхо Вердена. К 90-летию Нарочанской трагедии Первой мировой войны (18.03.— 28.03.1916)». На жаль, дзе гэтая кніжка выйшла і якім накладам — невядома. А зацікавіла мяне гэтае выданне найбольш таму, што ў 1916 годзе на вайне загінуў мой прадзед Яська Шніп...

Першую сусветную вайну ў рускай арміі называлі Еўрапейскай вайной...

У кніжцы шмат фотаздымкаў з фронту, які праходзіў па нарачанскім краі. Гледзячы на здымак з подпісам «Тоска по женщине. Художник (разведчик Алексеев) и его скульптура из сырого песка», узгадаў Геніка Лойку з яго легендарнымі скульптурамі...

У Свята-Ільінскай царкве ў вёсцы Кабыльнік (цяпер Нарач) быў нямецкі шпіталь 21-га армейскага корпуса...

За час Еўрапейскай вайны было збіта 12 250 самалётаў (нямецкіх і рускіх). Большасць паветраных баёў адбылося ў беларускім небе...

У 80-я гады мінулага стагоддзя каля вёскі Беркаўшчына Княгінінскага сельсавета (цяпер вёска не існуе) было знішчана пахаванне рускіх салдат, якія загінулі ў час газавай атакі: спачатку бульдозерамі знеслі драўляныя крыжы, а потым экскаватарамі

бралі пясок на падсыпку дарогі да птушкафермаў... У вёсцы Варашылкі прама на немецкім пахаванні пабудаваны дом, каля якога валяецца каменная пліта з нямецкім надпісам...

Над Нараччу кожны дзень лётае па некалькі разоў верталёт. А гэта значыць, што ў адпачываючых грошы яшчэ не скончыліся...

### *Нарач. Трынаццаты дзень...*

16.08.2011. Першае, што сёння зрабіў — павіншаваў сваю малодшую сястру Валю з днём народзінаў...

Вужык, як шнурок з бацінка велікана, перапоўз лясную сцяжыну...

У паветры запахла школай. У гэткі час у дзяцінстве перад 1 вераснем мяне стрыг бацька. Стрыг пад нуль, і я прыходзіў у школу калючы, як вожык...

Па тратуары два мужыкі валакуць газонакасілку. Старэйшы кажа: «Ты ведаеш, а ў нашай працы на Нарачы ёсць вялікі плюс!» — «Які ж?» — пытаецца маладзейшы і чуе: «Вельмі многа прыгожых маладых жанчын!»

### *Нарач. Чатырнаццаты дзень...*

17.08.2011. І дамоў не хочацца, і на Нарачы ўжо амаль усё аблазілі. І я гляджу праз акно на нарачанскія сосны і сумую па першых днях адпачынку...

Уладзімір Ермалаеў усё прапануе і прапануе пакатацца на яго роварах. А я ніяк не магу забыцца пра сон, дзе на яго роварах каталіся мае аднакласнікі Сашка Балотнік і Вова Звярок, якія памерлі...

У кніжцы Генадзя Малышава пра Еўрапейскую вайну і Нарачанскую трагедыю (18.03 — 28.03.1916 г.) ёсць і старонка пра каханне, дзякуючы якому не згубіўся журнал ваенных дзеянняў ад 19 ліпеня 1914 года з імёнамі 202-х Георгіеўскіх кавалераў 22-га Ніжагародскага палка. Журнал захавала Лідзія Ільінічна Дунец, 1918 года нараджэння, якая яшчэ нядаўна жыла ў доме, збудаваным яе бацькам у 1902 годзе ў вёсцы Баяры Мядзельскага раёна. У Еўрапейскую вайну, па словах Лідзіі Ільінічны, у іх доме кватараваў палкоўнік, які і пакінуў журнал. Аднак журнал, відаць, захоўваўся не таму, што ў ім спіс Георгіеўскіх кавалераў, а таму, што ў ім запісана чатырохрадкоўе, прысвечанае Лідзе Дунец: «Я помню всё и голос милый и ласки, ласки без конца. Я буду помнить до могилы черты любимого лица. К. 23.06.40 г.». Як не

спрабаваў Генадзь Малышаў даведацца ў 87-гадовай гаспадыні журнала, хто ж хаваецца за «К», яна так і не прызналася. І ўсё ж бабуля расказала, што яна адналюбка і, калі «К» прысвячаў ёй вершы, яна кахала другога, а той другі быў закаханы не ў яе. Так Лідзія Дунец і не выйшла замуж. На жаль, не ўсе старонкі журнала захаваліся. Магчыма, сярод Георгіеўскіх кавалераў быў і мой прадзед Яська Шніп...

Пад вечар патэлефанаваў Уладзімір Ермалаеў і папрасіў, каб да яго тэрмінова зайшоў наш Максім. «Відаць, хоча, каб хлапец яму дапамог нешта зрабіць...» — падумаў я. І калі Максім праз пару хвілін вярнуўся, мы даведаліся, што Ермалаеў яго пазнаёміў з дзяўчатамі і ён ужо сёння вечарам з імі ідзе на танцы...

### *Нарач. Пятнаццаты дзень...*

18.08.2011. Чацвер. У нядзелю збіраемся вярнуцца дамоў. Мне ў панядзелак на працу, а Людміле — 29 жніўня. Праўда, цяпер, калі Максім пазнаёміўся з дзяўчатамі, можа так атрымацца, давядзецца ехаць у Мінск аднаму...

У курортным пасёлку ўжо тыдзень жывуць і ходзяць па вуліцах шумнай і вясёлай кампаніяй маладзенькія цыганкі. Старэйшай недзе гадоў дваццаць, а меншай паўгода, і яе цыганкі па чарзе носяць з сабой. Усе чыста і модна апранутыя, сімпатычныя і не прыстаюць пагадаць...

Вельмі шмат пажылых расіян. Ходзяць парамі і ўспамінаюць маладыя гады...

Які ўжо дзень бачу п’янага расіяніна. Ён прыстае да ўсіх, каб разам выпіць. Ахвотных з ім піць няма, і ён п’е адзін...

У нарачанскіх белых чаек белае гаўно...

У лесе вельмі шмат сыраежак і смецця...

### *Нарач. Шаснаццаты дзень...*

19.08.2011. Білетаў на выязную экскурсію не было, і мы вырашылі схадзіць на каталіцкія могілкі ў вёску Кабыльнік (цяпер Нарач). І каб дарэмна не блукаць, выйшаўшы з курортнага пасёлка, я ў першага сустрэчнага запытаўся: «А дзе тут старыя могілкі?» Мужчына аказаўся гаваркім. Растлумачыўшы як ісці да могілак, ён ні з таго ні з сяго сказаў: «Хопіць нам дзвюх моў: беларускай і польскай. А без рускай мы не памром!»

Амаль у самым цэнтры могілак пад соснамі стаіць манумент салдатам 21-га армейскага корпуса нямецкай арміі, а каля яго ладны пляц з крыжамі. Захавалася недзе каля 350...

Успамінаючы свайго прадзеда Яську Шніпа, які загінуў у час Еўрапейскай вайны ў 1916 годзе і ляжыць недзе ў брацкай магіле, я вырашыў запісаць на памяць некалькі прозвішчаў немцаў. Магчыма, сярод гэтых немцаў ёсць і тыя, у баі з якімі загінуў мой прадзед...

Вюрстэр Густаў. Загінуў 8.10.1915

Мюлер Густаў. Загінуў 1.02.1916

Расне Вальтэр. Загінуў 20.03.1916

Залеўскі Ёган. Загінуў 22.03.1916

Зуттэ Хайнріх. Загінуў 11.04.1916

Карл. Загінуў 8.07.1916

Эрдман Ёган. Загінуў 6.05.1917

За дзесяць дзён баёў каля Нарачы (18.03—28.03.1916 г.) з боку рускіх загінула каля ста тысяч салдат і афіцэраў, а з нямецкага — каля 40 тысяч...

На сучасных помніках шмат надпісаў па-беларуску. Я запісаў некаторыя: «Мітуневіч Ванда.11.1.1926—5.03.2003», «Ворса Леанарда Вікенцьеўна. 18.02.1918— 5.04.2009» і побач яе муж «Ворса Валерый Іосіфавіч. 16.04.1915—7.01.2001», «Шніткоўскі Міхал. 17.09.1906—3.10.2002. Памёр у веку 96 гадоў. Божа, будзь да яго міласэрны», «Ліхадзіеўскі Вацлаў Іванавіч 1912—1972...».

Шмат пахавана людзей, якія пражылі па 90 і болей гадоў. Сярод іх — Ганна Дунец. Пражыла 105 гадоў. Магчыма, яна маці або сваячніца Лідзіі Дунец, у якой захаваўся журнал Георгіеўскіх кавалераў Еўрапейскай вайны...

У цэнтры старых пахаванняў разбураны склеп, які зарос травой і мохам. Захавалася пліта з надпісам «Свентаржыцкая Францыска. Памерла ў 1844 годзе». За пагнутай і паржавелай агароджай помнік: «Юзэф Бачкоўскі. Памёр у 1858 годзе».

Каля аднаго з уваходаў на могілкі прыгожы помнік на дзве магілы з пашкоджанымі фотаздымкамі, на якім напісана: «Збігнеў Каласінскі. Харцар 10-й Віленскай дружыны. Загінуў на возеры Нарач 23 чэрвеня 1933 года, ратуючы калегаў. Матка і саюз асаднікаў». І тут жа: «Ян Панек. Сакратар рады ваяводскага саюза асаднікаў. Кавалер крыжа храбрых. Загінуў на возеры Нарач 11 ліпеня 1935 года»...

Па могілках з Людай хадзілі амаль дзве гадзіны. Дамоў ісці не спяшаліся, але дробны дождж напомніў, што пара вяртацца пакуль надвор’е нядрэннае і не сцямнела...

У вёсцы Нарач зайшлі ў касцёл. Якраз трапілі на віншаванне пробашча з імянінамі. Прыемна было чуць беларускую мову. Я сябе адчуваў чамусьці ў XIX стагоддзі...

А царква і сёння на замку...

Вярнуліся дамоў а палове дзявятай. Недзе праз гадзіну пайшоў вялікі дождж...

## *Нарач. Сямнаццаты дзень...*

20.08.2011. Усю ноч ішоў дождж. І наш дом, нібы карабель, плыў праз зялёнае сасновае мора...

Чарга каля аддзялення «Беларусбанка» не прападае. Прыезджыя здаюць валюту, а мясцовыя тут жа купляюць. Усё па спіску, які ў сябе трымае мажная дзелавая жанчына. Кожны дзень па чарзе ў абменніку можна, калі пашанцуе, купіць як мінімум 100 даляраў і 3 тысячы расійскіх рублёў...

Па дарозе ў санаторый «Белая Русь», там дзе сустрэліся з вужыкам, бачылі вавёрку. «Відаць, у іх тут партал з аднаго лесу ў наш...» — пракаментаваў Максім...

Амаль кожны дзень ходзім у басейн плаваць. Сёння натрапілі на нейкую паўп'яную кампанію маладых мужыкоў і жанчын і ў басейне было, як у танным бардэлі...

У белых лебедзяў чорныя ногі...

## *Нарач. Васямнаццаты дзень...*

21.08.2011. Дзень пачаўся з таго, што даведаліся пра смерць Віталя Скалабана...

Ідзе дождж. І мы збіраемся дамоў у Мінск. Жадання вяртацца аніякага — мне заўтра на працу...

Да прыпынку нас правёў Уладзімір Ермалаеў. Ён усё дзівіцца, як гэта Людміла можа пісаць так цікава гістарычныя творы...

У Мядзелі перад намі села маладая сям'я з дзяўчынкай, у якой увесь твар у кропках з зялёнкі. Малая хварэе на вятранку і ў яе тэмпература за 38...

Чым бліжэй пад'язджалі да Мінска, тым больш неба хмурэла, а на душы весялела з таго, што мы нядрэнна адпачылі...

Зайшлі ў сваю кватэру, як у падводную лодку...

## *Па просьбе...*

23.08.2011. Пяць гадоў таму праз наш дом прайшоў капітальны рамонт. Па просьбе пенсіянераў былі пакінуты ў кватэрах газавыя калонкі для нагрэву вады. Нядаўна наша калонка пацякла, і я сёння патэлефанаваў майстру, каб яе адрамантаваць. «Дэталь, якую трэба памяняць каштуе 500 тысяч. За працу будзе

тысяч 250. Прыязджаць?» — запытаўся майстра. «Прыязджайце...» — без інтузіязму адказаў я. Майстра працаваў гадзіны дзве, і я даведаўся, што ў нашым раёне ўжо ў многіх калонкі псаваліся і яму даводзілася чуць просьбы ад некаторых пенсіянераў: «Унучак, я атрымоўваю пенсію 600 тысяч, а тут трэба 750. Такіх грошай у мяне няма і не будзе, таму зусім адключай калонку!»

## *Чытачка*

24.08.2011. Учора да Міхася Казлоўскага ў бібліятэку прыйшлі дзве дзяўчыны і адна з іх узяла чытаць маю кніжку «Страла кахання, любові крыж». Міхась тут жа запытаўся: «А чым вас Шніп зацікавіў?» — «Гэта — мой зямляк, і ён з маім старэйшым братам Грышкам аднакласнікі!» — адказала бландзінка. Сёння Міхась быў у Мінску і, зайшоўшы да мяне, расказаў пра знаёмства з маёй зямлячкай Ліляй Сасноўскай і папрасіў падпісаць ёй «Баладу камянёў», якую яна хоча пачытаць, бо «там вельмі шмат пра нашы родныя мясціны»...

## *Памянулі Скалабана*

25.08.2011. Людміла на гэтым тыдні яшчэ ў адпачынку, і таму пасяджэнне суполкі «Літаратурнае прадмесце» адбылося ў нас дома. Прыйшлі: Мікола Кандратаў, Сева Гарачка, Наталка Кучмель, Таццяна Пратасевіч, Юрась Нераток, Рагнед Малахоўскі, Алесь Емяльянаў і Аліна Агрэніч. Памянулі Віталя Скалабана, які быў частым госцем і ў нас дома, і на пасяджэннях суполкі. Людміла зачытала артыкул падрыхтаваны разам з Віталем Уладзіміравічам, які, спадзяёмся, будзе хутка надрукаваны ў «СБ». За гарбатай чыталі вершы, жартавалі. Найбольш запомнілася сказанае Рагнедам Малахоўскім: «О, Беларусь — мая Людміла!..»

## *Аляксандр Станюта...*

25.08.2011. Памёр Аляксандр Станюта. Месяц таму перад маім адпачынкам ягоны сын Дзмітрый прынёс мне падпісаныя кнігі. Людміла збіралася, выйшаўшы на працу, напісаць у свой «Кніжны навігатар» пра адну з іх. А я збіраўся на наступным тыдні пазваніць Аляксандру Аляксандравічу...

### *Мог бы быць, але...*

26.08.2011. Гляджу на пачатак зносу пяціпавярховіка, дзе быў інтэрнат філфака БДУ, і ў думках лаюся: «Гэта ж мог бы быць вялікі літаратурны музей з мемарыяльнымі пакоямі многіх нашых класікаў, якія ў свой час, будучы студэнтамі, жылі ў інтэрнаце!»

### *Усё было хораша...*

27.08.2011. З 26 па 28 жніўня ў Маладзечне праходзіць XI Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2011». Недзе ў васьмі фестывалях я браў удзел. Быў і сёння. Усё было хораша хоць і не лепей, чым мінулы раз. І вельмі шкада, што за цэлы дзень шлях дзесяці паэтаў, якія былі ўдзельнікамі фестывалю, ні разу не перасекся са шляхамі выканаўцаў песень...

### *Няма таго...*

28.08.2011. На вуліцы Румянцава, каля Дома літаратара, нядаўна знеслі стары Дом журналіста. Цяпер там велізарная яма, як пасля выбуху бомбы...

### *Пара...*

28.08.2011. На пытанне: «Як там Наталля? Ці піша вершы?» — паэт, аўтар трох, а мо нават і ўжо чатырох кніжак вершаў Сева Гарачка, хвіліну памаўчаўшы, сказаў: «Усё! Пара сабраць грошы і выдаць першую кніжку жонкі!» Жонка ў Севы Гарачкі паэтка Наталля Бурдзейка...

### *Дзеці...*

28.08.2011. Пад вечар у госці зайшоў сябра, які ў нас не быў цэлы год. Калі пачало цямнець, госць пацікавіўся: «А дзе ж вашы дзеці?» І мы з Людай амаль хорам адказалі: «Выраслі!»

### *Шышкі*

29.08.2011. На сцяжыне праз сасоннік сухія пачарнелыя шышкі, як малыя вожыкі, якія прытварыліся мёртвымі, убачыўшы мяне...

* * *

29.08.2011. У кожным дурні ёсць нешта разумнае, а ў кожным разумным ёсць нешта дурное...

* * *

31.08.2011. Рана ці позна канчаецца ўсё. І вось закончыўся сыр у мышалоўцы...

* * *

31.08.2011. Вазон вырас такі вялікі, што спатрэбілася падпорка, каб ён не паламаўся. І я прынёс з вуліцы дубец. Праз месяц вазон засох, а дубец прарос...

## *Школа*

31.08.2011. Цяпер амаль усе дзеці пішуць так, што нічога не разбярэш. А ўсё з таго, што ў школе не карыстаюцца пропісямі, па якіх можна навучыцца прыгожа пісаць. Помню па сённяшні дзень, як мне пасля першага класа з-за дрэннага почырку настаўніца задала на лета перапісаць у сшытак усю пропіс. Прайшоў месяц, прайшоў другі, праз тыдзень у школу, а я і не браўся за летняе заданне. Відаць, нічога б і не рабіў, калі б, не сустрэўшыся з настаўніцай, не пачуў грознае: «У школу прыходзь з перапісанай пропіссю, а калі ж нічога не пісаў, то можаш і далей гойсаць па палях!» Пасля гэтага цэлы тыдзень з раніцы да вечара, сапсаваўшы кучу сшыткаў, я выводзіў літаркі і ў школу прыйшоў з выкананым заданнем. І мая першая настаўніца, Марыя Вікенцьеўна Шніп, мяне пахваліла...

# ВЕРАСЕНЬ

* * *

1.09.2011. Ідучы на працу і гледзячы на школьнікаў, у якіх пачаўся новы навучальны год, адчуў сябе шчаслівым. Нашы Вераніка і Максім — студэнты...

*Каля школы...*

1.09.2011. Каля школы, пазнаўшы здалёку сваіх аднакласніц, хлопец радасна пабег да іх. Дзяўчаты тут жа заўсміхаліся і былі, напэўна, гатовыя да абдымкаў, але хлопец, падбегшы да аднакласніц, разгублена спыніўся, убачыўшы, што за лета сяброўкі амаль на цэлую галаву сталі вышэйшымі за яго...

*Яшчэ канікулы...*

2.09.2011. У Веранікі і Максіма заняткі ў Акадэміі мастацтваў пачнуцца ў кастрычніку. Жылі б мы, як даўней, на вуліцы Бірузова, і быў бы жывы там наш сусед, ужо сёння б пайшоў ліст у міліцыю, што нашы дзеці нідзе не вучацца і не працуюць. Сусед на мяне пісаў, калі я жаніўся і хадзіў у часопіс «Беларусь», дзе працоўны дзень быў з 14-й гадзіны па 17-ю...

* * *

3.09.2011. Каля суседняга пад'езда стаяць алкаголікі не з нашага двара і гучна расказваюць адзін аднаму пра мінулую ноч. Я праходжу каля іх, як кот каля сабак...

*Алесь Адамовіч*

3.09.2011. Сёння споўнілася б 84 гады Алесю Адамовічу. Аднак гэта «пашпартны» дзень народзінаў. У сапраўднасці Алесь Адамовіч нарадзіўся 3 жніўня 1926 года. У час вайны маці перапісала яго на год пазней, каб не пагналі ў Германію.

Пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС Адамовіч, наперакор кіраўніцтву БССР, сцвярджаў, што сапраўдныя маштабы трагедыі і тое, наколькі Беларусь ад яе пацярпела, утойваюцца. Ён быў ініцыятарам ліста беларускіх навукоўцаў Міхаілу Гарбачову. За гэта партыйнае кіраўніцтва Беларусі пачало цкаваць яго, і Адамовіч мусіў з'ехаць у Маскву. Памятаю, як зімой 1987 года мы з Людмілай Рублеўскай пасля заняткаў у Літінстытуце ездзілі да Алеся Адамовіча ў бальніцу. Для яго наш прыезд быў вельмі нечаканым і прыемным. Гаварылі недзе каля гадзіны. На развітанне Алесь Міхайлавіч нам сказаў: «Абавязкова пасля вучобы вярніцеся ў Беларусь і беражыце адно аднаго!»

### *Валун на магіле...*

3.09.2011. Восенню 2003 года з Вольгай Іпатавай, Лідзіяй Савік і Людмілай Рублеўскай ездзіў у Глуск на святкаванне юбілею Сяргея Грахоўскага. Па дарозе ў гарадскі пасёлак не абмінулі могілкі каля вёскі Глуша Бабруйскага раёна, дзе пахаваны Алесь Адамовіч, які памёр 26 студзеня 1994 года. Могілкі не надта вялікія, але вельмі зарослыя дрэвамі і кустамі. І калі б мы не ведалі, што на магіле ляжыць велізарны валун, на якім выбіта «Алесь Адамовіч», то, магчыма, і не знайшлі б, дзе пахаваны пісьменнік. Ужо тады надпіс было цяжка прачытаць, бо ён закарэў і пачаў зацягвацца мохам...

### *Геня Садоўская*

5.09.2011. Хлопец быў вельмі цікаўны. І вось ён дзеля свайго нейкага дзіцячага эксперыменту падпаліў два кілаграмы пораху, што былі ў бацькі, які зрэдку хадзіў на паляванне. Порах хлопцу спаліў увесь твар. Пра гэтую бяду даведаліся яўрэі, якія тут жа параілі бацькам знявечанага схадзіць да Гені Садоўскай, якая лячыла апёкі. Старая яўрэйка вылечыла хлопца і ў яго на твары не засталося ні шрамчыка. І калі ж Геня Садоўская звярнулася да Машэрава, каб ён даў ёй лепшую кватэру і пенсію, а яна пасля гэтага перадасць сакрэт лячэння апёкаў, замест кватэры і пенсіі на Геню Садоўскую завялі крымінальную справу за незаконнае лячэнне людзей...

### *Угольнікаў у ліфце*

7.09.2011. На працы, вяртаючыся з абеду, у ліфт зайшоў з мужчынам і дзвюма жанчынамі. Глянуўшы на мужчыну, які стаяў высока задзёршы нос, пазнаў у ім расійскага артыста Ігара

Угольнікава. На шостым паверсе, дзе Міністэрства культуры, артыст выйшаў. Жанчыны тут жа ажывіліся: «Угольнікаў! Ну і гунуровы! Стаіць, як востры вугал праглынуў!» Прыйшоўшы да сябе ў кабінет, я заглянуў у інтэрнэт і даведаўся, што Ігар Угольнікаў цяпер старшыня тэлерадыёвяшчальнай арганізацыі Саюзнай дзяржавы...

### *Трэніруюцца...*

7.09.2011. Ужо тыдзень, як кожны дзень даю інтэрв'ю практыкантам розных выданняў. Пытанні ў большасці звычайныя, але ёсць і нечаканыя, і цікавыя. З нагоды ўсіх інтэрв'ю ў галаве ажыла прыпеўка: «Меня милый не целует. Говорит: «Потом! Потом!» Я иду, а он на крыше тренеруется с котом...»

### *«Лакаматыў» Яраслаўль...*

7.09.2011. Усё лета чакаў хакея... А хакея заўтра не будзе... Будзе жалоба...

### *Панаехала гасцей...*

9.09.2011. Мастак Алесь Квяткоўскі, завёзшы свае карціны ў Валожын, вяртаючыся дамоў, хацеў зазірнуць на якую гадзіну да Алеся Лася або Фэліка Янушкевіча. Сустрэцца не атрымалася — абодва мастакі заняты замежнымі гасцямі...

### *І я быў крытыкам...*

9.09.2011. На пачатку 80-х гадоў у «ЛіМе» ў аддзеле крытыкі працаваў Анатоль Сідарэвіч і я, як і многія з майго пакалення, дзякуючы яму, стаў пісаць рэцэнзіі. Крытыкуючы па заказе, я не адразу зразумеў, што займаюся не тым, чым трэба. І хоць я супрацоўнічаў з «ЛіМам» гады два, але за гэты час паспеў пакрыўдзіць некалькі добрых паэтаў. І сёння мне даўным-даўно сорамна за тое, што я быў «крытыкам». А трыццаць гадоў назад некаторыя мае літаратурныя аднагодкі «вучылі пісаць» і Танка, і Шамякіна, і Гілевіча, і Барадуліна...

* * *

9.09.2011. Чым больш графаманісты чалавек, тым больш крыўдлівы...

* * *

10.09.2011. У апалай лістоце ёсць золата і смецце майго жыцця...

*Дзесяць гадоў таму...*

11.09.2011. Дзесяць гадоў таму, на другі дзень пасля тэрактаў у Амерыцы, мы з Людмілай ехалі ў цягніку Мінск—Вільнюс на выступленне ў Смаргонь. Было страшна, бо здавалася, што тэрарысты прылятуць на самалётах і ў Мінск. У нашым вагоне ехалі кантрабандысты, якія везлі цыгарэты і гарэлку на продаж. Праехаўшы Маладзечна, яны звярнуліся да нас, каб мы дапамаглі ім правезці іх тавар праз мытню. Пачуўшы, што выходзім у Смаргоні, кантрабандысты нам не паверылі і, раззлаваўшыся, больш ні да кога ў нашым вагоне не прыставалі...

* * *

11.09.2011. У прыцемку вялікі белы кот выйшаў з пад’езда і лёг на апалае на асфальце лісце. І цяпер ён як белая хмарка на зорным небе...

* * *

12.09.2011. Вечарэе. Чайкі над Свіслаччу, як вялікія белыя мухі над чорным восеньскім мёдам...

*Ішоў прыгожа...*

12.09.2011. Едучы на аўтобусе з працы па праспекце Пераможцаў, убачыў народнага артыста. Ён у рудой скуранцы, з кіёчкам у правай руцэ, пакульгваючы на левую нагу, з голай сівой галавой і ў чорных акулярах няспешна, час ад часу спыняючыся, ішоў сярод амаль бягучых людзей. Ішоў прыгожа, як кот Базіліа, у якога ў левай кішэні ляжалі пяць залатых манет ад Бураціна...

*«Белтэлеком», хакеры і мы...*

13.09.2011. З кіпы старых папер вывалілася паведамленне з «Белтэлекома» за 04.12.2006 года: «Вами не призведена оплата за услуги электросвязи в сумме 567 060 рублей. В случае неоплаты до 15.12.2006 г. телефон подлежит отключению». Так-так! Была

справа! Гэта тады да нас праз інтэрнэт падключыліся хакеры і карысталіся нашым тэлефонам, як хацелі. Хакеры ababралі не толькі нас. У некаторых былі сумы па 2 мільёны. Нашы заявы, што мы невінаватыя і не тэлефанавалі ў Новую Зеландыю, нам не дапамаглі, і давялося выкласці 567 060 рублёў, каб зусім не застацца без тэлефона...

*Кампазітарка...*

13.09.2011. Па радыё невядомая мне кампазітарка хваліцца: «Нядаўна я сама пачала пісаць тэксты. Наш мэтр паэт Зотаў мне сказаў, што ты мяне без працы пакінеш, а я на гэта толькі пасмяялася, бо сапраўды ў мяне добрыя тэксты атрымоўваюцца. Нядаўна за дзень напісала чатыры песні і я думаю, што я цяпер абыдуся без паэтаў...»

*На канцы свету...*

14.09.2011. Патэлефанавалі з бібліятэкі, што ў Чыжоўцы, з просьбай выступіць перад чытачамі. «Добра, прыеду хоць вы і на канцы свету...» — рыфмаванкай адказаў я. «Так, за намі Чыжоўскія могілкі...» — працягнула тэму бібліятэкарка...

*Еду...*

14.09.2011. Еду ў тралейбусе. Падыходзіць кантралёр: «Вашы праяздныя дакументы?» — «Я студэнт!» — спакойна адказваю я. «А чаму сівы?» — «Цяжка вучыцца!»

*З Раісай Баравіковай...*

15.09.2011. З Раісай Баравіковай выступаў перад школьнікамі ў бібліятэцы № 11. Калі б мы самі праз амаль дзве гадзіны не спынілі імпрэзу, то школьнікі, відаць, замэнчылі б нас пытаннямі. Дамоў з Раісай Андрэеўнай вярталіся, як з маленькага і кволага беларускамоўнага раю...

*На праспекце...*

16.09.2011. На праспекце Пераможцаў сёння пачалі бурыць пяціпавярхоўік, дзе быў філфакаўскі інтэрнат, у якім жылі многія сёння вядомыя пісьменнікі. Пыл уздымаецца, як дым ад рукапісаў, якія гараць...

## *У краме…*

17.09.2011. У краме, аплачваючы пляшку «чарніла», бамжыха, якая стаяла перада мной у чарзе, упусціла з рук кучу драбязы і пайшла. Я падняў грошы і, дагнаўшы жанчыну, аддаў ёй. І пачуў: «Благаславі вас Бог!»

## *Матылі і мухі*

17.09.2011. Яна не магла спаць, бо ў ейным жываце былі матылі. І ён не мог спаць, бо ў ягоным носе былі мухі. А паміж імі былі незамкнутыя дзверы…

## *«Тайное сияние»*

17.09.2011. З Людай хадзілі ў відэацэнтр, што ў «Сталіцы». Глядзелі артхаусную драму «Тайное сияние». Аўтар сцэнару і рэжысёр карэйскі міністр культуры Лі Чхан Дон. У зале акрамя нас былі яшчэ дзве дзяўчыны. Адна ўвесь фільм ела цукеркі, а другая то драмала скурчыўшыся, то, выцягнуўшы перад сабой свае доўгія ногі, балдзела ад фільма. Пасля «Тайного сияния» з Людай зайшліся ў кафэшку «Гарадок» і пасядзелі, п'ючы гарбату і абмяркоўваючы фільм, сярод маладых і закаханых…

* * *

18.09.2011. Неба чыстае, як Божае сумленне…

* * *

19.09.2011. У кніжках цішыня, як на могілках…

## *Мне…*

20.09.2011. У сакратаркі на стале ўбачыў спісак супрацоўнікаў выдавецтва, дзе пазначана колькі каму гадоў. Мне… Няўжо столькі?

## *Нібыта ўчора…*

21.09.2011. У часопісе «Маладосць» я ўпершыню надрукаваўся ў верасні 1979 года. Гартаючы нумар, натрапіў на артыкул Васіля Быкава «Пазначана высокаю гармоніяй» пра мастака Арлена Кашкурэвіча. Чытаецца, нібыта напісаўна ўчора, а вось

гэтыя радкі прымушаюць задумацца над хуткаплыннасцю жыцця: «Некалькі год таму Арлен Кашкурэвіч здзейсніў даўнюю мару — ілюстраваў «Фаўста» Гётэ. У верасні Арлену Міхайлавічу спаўняецца 50 гадоў...» А ў гэтым годзе 15 верасня мастаку ўжо было 82...

*Евгений вомифроТ з Уладзівастока*

22.09.2011. З Уладзівастока ў выдавецтва прыйшла вялікая бандэроль з кніжкамі Яўгенія Трафімава. Аўтар спадзяецца, што мы іх перавыдадзім і заробім шмат грошай і для выдавецтва, і для яго. На вокладцы кніжкі «Морская береста» пад партрэтам аўтара змешчаны радкі з подпісам:

*Судьба меня жала, что может быть краше,*
*А после дрожала под палубой нашей!*
*С чего и явилась такая проблема —*
*Душа разучилась писать неумело...*
*От спонсоров нету, поверьте, отбоя —*
*К ответу привлечь, как морской шум прибоя?!!*

*Евгений вомифроТ*

*Сярод пылу...*

23.09.2011. Пад вокнамі на працы ўжо другі тыдзень бурыцца былы філфакаўскі інтэрнат. Ад пылу, які пранікае і ў наш дом, цяжка дыхаць. У некаторых супрацоўнікаў выдавецтва пачалася алергія. Гляджу праз акно на разваліны інтэрната і бачу, як сярод пылу ходзяць Яўгенія Янішчыц, Алесь Пісьмянкоў, Віктар Стрыжак, Уладзімір Марук і яшчэ каля сотні маладых, якіх я не магу пазнаць з-за пылу, будучых вядомых паэтаў і празаікаў, і шукаюць свае ненапісаныя творы...

*Псіхолаг*

23.09.2011. Наша суседка працавала псіхолагам у школе. Мы разам некалькі разоў пілі гарбату. Пры сустрэчы суседка, як псіхолаг, вучыла нас, як трэба жыць, каб усё было добра, як у яе. І толькі мы пачалі верыць у псіхалагічныя парады, як адным восеньскім вечарам псіхолаг прыбегла да нас у кватэру са слязамі на вачах і крыкам: «Ратуйце! Мяне муж хоча застрэліць з паляўнічага ружжа!»

* * *

24.09.2011. Вечарам, як стала цямнець, на страху былога філфакаўскага інтэрната, які разбураецца, селі чайкі, што днём лёталі над Свіслаччу. І пакуль цямнела, чайкі бачыліся чыстымі блакнотамі, якія чакаюць новых вершаў...

* * *

24.09.2011. Мастацкія творы — каштоўныя каменьчыкі ў пяску жыцця, які прасыпаецца праз сіта вечнасці...

*Не забівайце!*

24.09.2011. Не забівайце матылька, калі ён заляціць да вас у хату. Матылёк і так жыве ўсяго два дні...

*Чытаю Маркеса...*

25.09.2011. Чытаю новы твор Маркеса «Воспоминания моих несчастных шлюшек». Гэта аповесць «о поре, когда желания еще живы, а силы уже на исходе,— и о странной, почти мистической любви, настигшей человека в конце бездарно прожитой жизни, полной унылой работы и пошлого, случайного секса». Сексам мяне не здзівіш, а засеў у мазгах вось гэты радок: «Ребенком я услышал, что когда человек умирает, вши, гнездившиеся в его волосах, в ужасе расползаются по подушке, к стыду близких...»

* * *

25.09.2011. Згорбленая старая з белым вялікім катом на плячы ходзіць па двары. Быў бы чорны кот, я б напісаў, што згорбленая старая, як ведзьма, ходзіць па нашым двары...

*Кветкі*

25.09.2011. Дамоў вярнулася Вераніка. Нанесла кучу розных кветак і цяпер у нас у кватэры, як у вершах Леаніда Дранько-Майсюка...

* * *

26.09.2011. На падлозе ляжыць куча кніжак, як куча распілаваных дошак, з якіх яшчэ нядаўна можна было збіць труну...

* * *

26.09.2011. У Басё прачытаў хоку «В доме поэтессы Сономэ»:

*Нет! Не увидешь здесь*
*ни единой пылинки*
*на белизне хризантем.*

Адразу ж узгадалася пісьменніца Марыя Вайцяшонак. У яе таксама не ўбачыш дома і на лецішчы ні адной пылінкі, і яна ў госці не пакліча, калі не будзе ўсё ў парадку ў гаспадарцы...

### *Неба белае...*

27.09.2011. Неба белае, нібы пабеленае чайкамі, бо на чорным асфальце іх белае гаўно, як кроплі белай фарбы...

* * *

27.09.2011. Выйшла так, што некаторыя прыехалі ў сталіцу, каб напіцца і памерці, а думалі ж пра... А Бог іх ведае, што яны думалі... Памерлі ж...

* * *

27.09.2011. Шэрыя вераб'і і мышы ў шэрай траве шаргацяць апалым лісцем, як шэрыя мышы і вераб'і...

### *Бабкіна і прыбіральня*

28.09.2011. У адну вайсковую частку прыязджала з канцэртам расійская спявачка Бабкіна. Для яе спецыяльна была пабудавана прыбіральня, у якой, жартам кажучы, можна жыць. Бабкіна выступіла і паехала далей, не зайшоўшы ў прыбіральню...

### *Быць у дарозе...*

28.09.2011. «Быть в дороге. Иллюзия счастья. Гарантированные 12 часов возможности не решать проблему»,— піша пісьменніца. Так, сваю праблему можна і не рашаць, аднак ніхто не дае гарантый, што самалёт ці цягнік, якім ты падарожнічаеш, не ляснецца...

* * *

28.09.2011. З памяці ўсплыло ці цяпер зарыфмавалася:

*Забудзь мяне, і я цябе забуду,*
*Як попел забывае пра агонь*
*У час дажджу, які нібы атрута,*
*Што прапякла Хрыстовую далонь...*

* * *

30.09.2011. Стаю на прыпынку каля цырка. І раптам прыгожая і маладая каля мяне, як каля смерці, прайшла...

### *Узгадалі Уладзіміра Юрэвіча*

30.09.2011. Выступаў у Музеі Янкі Купалы на вечарыне, прысвечанай 95-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Юрэвіча. Узгадалася, як у 1996 годзе мы разам адпачывалі ў Доме творчасці «Іслач». Уладзімір Міхайлавіч быў з дачкой Галінай, а я з жонкай і малымі дзецьмі Веранікай і Максімам. Амаль кожны дзень разам гулялі па лесе. Уладзімір Міхайлавіч расказваў дзецям цікавыя гісторыі пра лясных жыхароў, а з Людмілай і мной гаварыў пра літаратуру. У сталовай кармілі не заўсёды добра — і я атруціўся. І вось сяджу на лавачцы, трымаюся за жывот і грэюся на сонцы ні на што не спадзеючыся. Лякарства аніякага ні ў нас, ні ў здраўпункце. І калі б Уладзімір Міхайлавіч не даведаўся пра маю хваробу, то, відаць, мы б раней тэрміну вярнуліся дамоў, а так ён прыслаў да нас дачку з лекамі, і я, выпіўшы пару таблетак, хутка ачуняў. Пасля майго выздараўлення мы яшчэ бліжэй пазнаёміліся і кожны дзень праводзілі ў шчырых і доўгіх размовах...

# КАСТРЫЧНІК

## *Нельга забыць...*

1.10.2011. З Людмілай хадзілі ў Музей Янкі Купалы на паэтычны канцэрт да Міжнароднага дня музыкі, арганізаваны і праведзены Вікай Трэнас і Юляй Новік. Тры гадзіны ў паўнюткай зале праляцелі незаўважна, бо ўсё было цікава і непаўторна. Думаю, што найбольш з паэтаў усім запомняцца Георгій Барташ і Віктар Лупасін, а з музыкаў гурт «Нельга забыць». Галасавая паэзія Дзмітрыя Строцава абудзіла варон у Купалаўскім скверы, і яны, пакуль паэт шаманіў, з вар'яцкім карканнем кружыліся над музеем, дзе, акрамя жывых слухачоў, прысутнічалі: бронзавы Купала, нядаўні юбіляр Уладзімір Юрэвіч (партрэт, яго вечарына прайшла ўчора) і развешаныя на сценах вялікія фотаздымкі жыхароў Афрыкі...

* * *

2.10.2011. Быў у Алеся Квяткоўскага. Малюе Канстанцыю Буйло. Пакуль што паэтэса мёртвая...

## *Бунін і сучкі*

2.10.2011. З Людмілай паглядзелі фільм Учыцеля «Дзённік ягонай жонкі» пра жыццё Буніна ў эміграцыі. Фільм павучальны — нават Нобелеўскаму лаўрэату няма чаго ў старасці бегаць за маладымі дзеўкамі, бо ўсё скончыцца тым, што свае новыя творы будзеш чытаць сабаку, прынесенаму з вуліцы: «Адной сучкай дома болей ці меней — усё роўна...» Ад таго, што ў фільме не прагучала аніводнага верша Буніна, я знайшоў томік паэта і мы з Людай пачыталі ягоныя вершы ўслых адно аднаму. Хацелі пачытаць і вершы, напісаныя ў эміграцыі, але ў кніжцы, якая выйшла ў Маскве ў 1986 годзе пасля твораў, якія пазначаны 1927 годам, адразу ідуць творы за 1947 год...

## *НЛА над Маладзечнам*

3.10.2011. Пад абед з Маладзечна да мяне на працу прыехаў Міхась Казлоўскі і адразу ж з парога: «Слухай! Не паверыш, што я сёння раніцай бачыў! Сэрца і цяпер калоціцца! Ідучы каля могілак на электрычку на прыпынак «Фестывальны», раптам убачыў высока ў небе велізарнае кола, якое складалася з невялікіх колаў і круцілася то ў адзін бок, то ў другі, час ад часу знікаючы і зноў з'яўляючыся! Я перапалохаўся! А тым больш што нікога нідзе побач! Што гэта было? Не ведаю!» — «Відаць, іншапланетны карабель прылятаў на нашы «Дажынкі» паглядзець...» — я выказаў сваё меркаванне, і Міхась, пагадзіўшыся са мной, яшчэ раз эмацыйна расказаў пра НЛА, убачаны над ускрайкам Маладзечна...

## *Мой Маладзечанскі край*

4.10.2011. У выдавецтве «Беларусь» выйшла кніга «Маладзечанскі край». Укладанне і фота зрабіў Ігар Пешахонцаў-Міцкевіч, тэксты напісаў Міхась Казлоўскі. Тэлефаную Міхасю і, віншуючы з выхадам цудоўнай кнігі, кажу: «Добра, што на беларускай мове!» — «А я па-руску б і не браўся рабіць кнігу!» — адказвае сябра.

## *Аляхновічы*

У 1483 годзе ў летапісах упамінаецца ваявода віленскі Алехна і, магчыма, назва вёскі Аляхновічы мае дачыненне да яго прозвішча. А наогул сама вёска згадваецца пачынаючы з XVIII стагоддзя пад назвамі Алехнаўцы, Алехнаўка. У 1872 годзе праз вёску была пракладзена чыгунка, пабудаваны вакзал, які лічыцца помнікам архітэктуры пачатку XX стагоддзя. З Аляхновіч да маіх Пугачоў праз Еленку недзе кіламетраў дзевяць. У Аляхновічах жыў настаўнік мясцовай школы Яраслаў Масеевіч Касцюк (люты 1928 — зіма 2009). Да яго некалькі разоў у госці я хадзіў з Міхасём Казлоўскім. І сёння памятаецца, як аднойчы зімой, заседзеўшыся ў Яраслава Масеевіча, мы засталіся начаваць. У тую ноч быў такі моцны мароз, што мы ў зале спалі апрануўшыся і ў шапках. Раніцай грэліся гарбатай і маімі вершамі...

## *Гарадок*

Вёска Гарадок вядома з XVII стагоддзя. У розныя гады належала Радзівілам, Галынскім, Карпіцкім, Тышкевічам. З'яўлялася цэнтрам культурнага, сацыяльна-эканамічнага і рэлігійнага

жыцця рэгіёна. Тут адбываліся кірмашы, працавалі народныя вучылішчы, беларуская гімназія, праваслаўныя цэрквы і сінагогі. З мінулага да нашых дзён захаваліся царква (помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю) і вадзяны млын (помнік парамысловай архітэктуры з элементамі готыкі). З Гарадка да маіх Пугачоў 8 км. З гарадоцкай кнігарні, калі мне было дзесяць гадоў, бацькі прывезлі аповесць «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра, якая стала адным з маіх любімых твораў...

## *Краснае*

Назва Краснае Сяло ўпамінаецца ў XV стагоддзі як вялікакняжацкае ўладанне. З'яўлялася цэнтрам Красносельскага староства ў Менскім павеце і ваяводстве Вялікага Княства Літоўскага. 15 жніўня 1908 года закладзены каменны касцёл Унебаўзняцця Найсвяцейшай Марыі Панны, узвядзенне якога было завершана ў 1912 годзе. Помнік архітэктуры неаготыкі. Думаю, што Максім Багдановіч у 1911 годзе, жывучы ў Ракуцёўшчыне, якая ў некалькіх кіламетрах ад Краснага, бачыў як будуецца касцёл...

## *Плябань*

Плябань вядома з XV стагоддзя. У 1800 годзе «плябан Красносельскі канонік Казімір Харэвіч касцёл мураваны заснаваў з закрыстыяй з правага боку». У 1872 годзе касцёл быў перабудаваны пад праваслаўную царкву. У Плябані знаходзіцца раённая мастацкая галерэя, на мясцовых могілках пахаваны паўстанцы атрада Юльяна Бакшанскага. У свой час краязнаўца Міхась Казлоўскі быў праваднікам для сяброў суполкі «Літаратурнае прадмесце» да гэтай магілы...

## *Радашковічы*

Радашковічы размешчаны на ўскрайку Мінскага ўзвышша пры зліцці рэк Вязынка і Гуйка. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 1447 годзе, калі віленскі кашталян заснаваў тут касцёл. Радашковічы з'яўляліся ўласнасцю князёў Гаштольдаў, Глябовічаў, Агінскіх і Радзівілаў. У 1569 годзе Радашковічы атрымалі магдэбурскае права, а ў 1792 годзе — герб: на срэбраным полі паясная выява Святога Стафана, пабітага камянямі. У 1939 годзе з Радашковіч мой дзед Юзя адпраўляўся ў войска польскае ваяваць з немцамі, а ў 1951 годзе мой бацька ішоў служыць Сталіну...

## *Ракуцёўшчына*

Ракуцёўшчына ўпершыню ўпамінаецца ў XVII стагоддзі. У 1897 годзе — вёска (11 двароў, 81 жыхар) і фальварак (1 двор, 17 жыхароў). У 1911 годзе ў фальварку два летнія месяцы жыў Максім Багдановіч. На жаль, калі я вучыўся ў школе, мае настаўнікі не ведалі пра Ракуцёўшчыну, якая ад маіх Пугачоў у 20 кіламетрах, а то я схадзіў бы да Максіма Багдановіча з вершамі, як у 1972 годзе хадзіў у Вязынку да Янкі Купалы...

## *Хоўхлава*

Хоўхлава ў афіцыйных крыніцах згадваецца з XV стагоддзя. У 1565 годзе пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага ў Хоўхлава прыехаў і нейкі час там жыў Сымон Будны. Менавіта ў гэтым старажытным паселішчы ім была напісана кніга «Аб зачацці сына Божага». У памяць аб славутым жыхары некалькі гадоў назад на будынку мясцовай школы з'явілася мемарыяльная шыльда. У 1738 годзе у заходняй частцы вёскі на ўзвышшы быў узведзены касцёл Найсвяцейшай Марыі Панны. Храм драўляны, пабудаваны ў стылі барока з элементамі класіцызму. У 1846—1847 гадах мясцовы пан Вікенцій Язвінскі збудаваў за касцёлам каменную капліцу, якая выконвала ролю пахавальні для мясцовых магнатаў. З маіх Пугачоў да Хоўхлава кіламетраў дваццаць...

* * *

5.10.2011. Сёння закончылі разбураць былы філфакаўскі інтэрнат. І цяпер па велізарнай кучы будаўнічага друзу і смецця лазяць экскаватары і пагрузчыкі, як жалезныя бамжы...

## *Праблемы...*

6.10.2011. Праблемы са старымі бацькамі не даюць спакойна жыць і працаваць, таму і з'явіліся вось гэтыя радкі:

*Як на чорнай галеры,*
*Да вясла прыкаваны,*
*Ты і сёння на працы.*
*І глядзіш на шпалеры,*
*Як на ціш акіяна,*
*Як праз краты, праз пальцы.*
*На адным з іх пярсцёнак*
*Залаты, як былое,*

*Калі ты быў дзіцёнак*
*І было залатое*
*Нават тое, што смеццем*
*Пад нагамі ляжала...*

* * *

6.10.2011. «А я па праспекце не хаджу, а ўсё па завулках і тупіках...» — падумалася, гледзячы на людзей з аўтобуса на праспекце Незалежнасці...

* * *

6.10.2011. Калі вучыўся ў архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, некаторыя заняткі ў нас адбываліся ў бомбасховішчы. І мне, галоднаму студэнту, часам здавалася, што мы на вайне...

* * *

6.10.2011. Рэдактар сярод мёртвых рукапісаў, як Харон...

*Не былі і былі...*

8.10.2011. Пра імпрэзу «Зярно к зярняці...», якая была прысвечана 95-годдзю з дня нараджэння пісьменніка Уладзіміра Юрэвіча і прайшла ў Музеі Янкі Купалы, я ўжо запісваў у сваім дзённіку. Пра гэтую імпрэзу ў некаторых газетах з'явілася інфармацыя. «На вечарыне апроч пісьменнікаў і навукоўцаў Вячаслава Рагойшы, Міколы Аўрамчыка, Анатоля Бутэвіча, Навума Гальпяровіча ды іншых выступілі студэнты і выкладчыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі» — так піша адна газета, але ж на вечарыне ні Рагойшы, ні Аўрамчыка, ні Бутэвіча не было. Гэта значыць, што інфармацыя напісана з прэс-ліста, які быў распаўсюджаны загадзя. У другой газеце чытаем: «Сярод гасцей былі і вядомыя літаратуразнаўцы, пісьменнікі: Навум Гальпяровіч, Міхась Пазнякоў, Уладзімір Мазго, Віктар Шніп, Мікола Аўрамчык, Вячаслаў Рагойша, Алесь Бадак». Зноў у пераліку ёсць пісьменнікі, якіх не было ў музеі: «М. Аўрамчык, В. Рагойша, А. Бадак». Дарэчы, карэспандэнтка з гэтай газеты прысутнічала і ўвесь час нешта запісвала. На вечарыне выступала Галіна Шаблінская, але, мяркуючы па прыведзеных інфармацыях, яе не было...

9.10.2011. Учора з супрацоўнікамі выдавецтва быў у вандроўцы. Сёння адчуваю сябе крыху прастылым, але задаволеным тым, што не прасядзеў дома перад камп'ютарам...

Усю дарогу ішоў дождж. Праязджаючы праз Смаргонь ад нашага гіда Яраша Малішэўскага даведаліся, што вуліца, на якой была славутая Смаргонская мядзведжая акадэмія, раней называлася Мядзведжай, а цяпер носіць назву Танкістаў...

Па дарозе ў Солы праязджалі каля вёсак Лубянка, Васюкі, Крапіўна...

Нязжатая кукуруза каля дарог, як хрушчоўскія лясы...

Месцамі на палях зелянее рунь, і, калі б не восеньскі холад, можна было б уявіць, што на вуліцы не кастрычнік, а красавік...

У аграгарадку Солы жыве паэт Мар'ян Дукса, але пра гэта ў нашым экскурсійным аўтобусе акрамя мяне ніхто не ведае...

«4 снежня 1917 года ў Солах падпісан дагавор аб перамір'і паміж ВРК Заходняга фронту і ўпаўнаважанымі нямецкага камандавання Усходняга фронту. Упершыню ў гісторыі ажыццёўлен Ленінскі Дэкрэт аб міры» — напісана на шыльдзе, што на сельсавецкім будынку...

Касцёл Маці Божай Ружанцовай у Солах пабудаваны ў 1926—1934 гадах. У Храме ўсё па-беларуску і па-польску. Фрэскі ў большасці традыцыйныя, але дзве, на якіх паказаны вайскоўцы са зброяй, якія б'юцца за веру, надаюць Храму незвычайнасць...

На азёрах лебедзі, як вялікія восеньскія гарлачыкі...

Холадна. Вёска Ізабеліна нагадала віно «Ізабэла»...

Едучы ў Астравец назіралі за будаўніцтвам дарог, якія будуць весці да АЭС...

На Астравеччыне дасведчаныя людзі ведаюць свайго земляка Іосіфа Гашкевіча, які быў дыпламатам, вучоным-мовазнаўцам, даследчыкам Японіі і Кітая. Ён жыў у маёнтку Малі. Цяпер гэта вёска. Сядзіба не захавалася...

У самім Астраўцы будуюцца новыя мікраараёны для будучага персаналу АЭС...

На цэнтральнай плошчы Астраўца стаіць чорны Ленін, які ўзнятай рукой паказвае на краму, дзе прадаецца піва. На помніку слова «Ленін» напісана па-беларуску...

Калі мы зайшлі ў касцёл, пачулі, як пад кіраўніцтвам манашкі пад гітару спяваюць мясцовыя дзяўчаткі песні пра Бога...

Каля касцёла жоўтае апалае лісце і апенькі...

Адна з нашых жанчын, убачыўшы апенькі сярод магіл каля касцёла, пачала іх збіраць у торбу. Хутка да яе далучылася

другая. Калі жанчыны зайшлі ў аўтобус з апенькамі, я сказаў: «Цяпер дамоў прывезяце поўныя торбы грахоў!»

У Астраўцы каля касцёла за студняй і за помнікамі ксяндзам у метрах шасці новенькая прыбіральня...

Едучы праз Варняны да касцёла Святога Георгія, збудаванага ў XVIII стагоддзі, заўважылі, што на кожным доме на сцяне вісяць упрыгожаныя кветкамі і каляровымі стужкамі іконы. Сёння свята — з Польшчы прыехаў біскуп...

На плошчы каля касцёла ў доме аптэкара XVIII стагоддзя размешчаны «Пункт охраны общественного правопорядка» і тут жа «Ритуальные товары. Памятники», а праз дарогу — крама «Водка. Вино»...

У касцёл зайшлі на некалькі хвілін. Поўна народу. Служба ішла па-польску...

Каля нашага аўтобуса на ўпрыгожаным чырвонымі лентамі кані, у паношаным сінім гарнітуры праехаў, як варанянскі Дон-Кіхот, мужчына і, усміхаючыся, памахаў нам рукой...

Ад Варнян да Гервятаў 10 кіламетраў...

На лузе мокрыя каровы і авечкі. Без пастуха...

Каля вёскі Газа ўзгадалі сектар Газа, што ў Палесціне...

Пад'ехаўшы да касцёла Святой Тройцы ў Гервятах, адна з нашых жанчын выгукнула: «Францыя!»

Служка Божы, які выйшаў з касцёла, адразу ж паклікаў нас за сабой паслухаць арган. Хвілін дзесяць гучаў арган, і ў Храме ластаўка лятала, якую, па-мойму, амаль больш ніхто акрамя мяне не ўбачыў. «Як яна будзе тут жыць? Наперадзе ж зіма?» — думаў я і слухаў «Авэ Марыя»...

У касцёле ідзе рамонт і ў ім пахне свежай фарбай, як у школе на пачатку новага навучальнага года...

* * *

9.10.2011. Ужо стала традыцыяй, што там, дзе адбылася аўтааварыя і загінулі людзі, ставіць невялічкія крыжы і класці вяночкі. Усё гэта выглядае не толькі, як смутак па загінулых, але як і напамін тым, хто любіць хуткую язду, што калі будзеш ляцець на машыне на злом галавы, то можа здарыцца так, што і па табе паставяць такі прыдарожны крыжык. Учора на Астравеччыне з акна экскурсійнага аўтобуса бачыў каля пятнаццаці мясцін, дзе загінулі людзі...

## *Пісьмянкова і здымкі*

10.10.2011. На працу да мяне прыходзіла жонка Алеся Пісьмянкова Алена, каб расказаць пра прэзентацыю кніжкі былога лімаўца Уладзіміра Крука «На фотахвалях памяці». Падчас размовы Алена паказала мне некалькі здымкаў Алеся, якія яшчэ нідзе не друкаваліся. Сярод іх быў і здымак з Усесаюзнай нарады маладых літаратараў у Маскве, якая там праходзіла 15—21 траўня 1994 года. Гэты здымак быў зроблены мною. На ім Алесь Асташонак, Міхась Барэйша, Алесь Пісьмянкоў і Людміла Паўлікава. Хлопцаў ужо даўно няма...

## *Расказала Пісьмянкова*

10.10.2011. Малодшы сын Пісьмянковых Лёшка вярнуўся са школы дамоў і стаў хваліцца, што сёння ў іх класе была пісьменніца Вольга Іпатава. Пісьмянкоў выслухаў сына і сказаў: «Сынок, я пісьменнік не горшы за Іпатаву...», і не паспеў Алесь Уладзіміравіч сказаць усё, што хацеў, як Лёшка заявіў: «Які ты пісьменнік! Ты ж мой бацька!..»

## *Абвестка*

11.10.2011. Стаю на аўтобусным прыпынку і чытаю абвесткі. Самая нечаканая: «Были утеряны костюмные мужские брюки синего цвета. Просьба вернуть за возногрождениие!» — і тут жа дадзены нумар тэлефона...

* * *

12.10.2011. Паблізу з выдавецтвам, дзе працую, на праспекце Пераможцаў ужо амаль збудаваны трыццацідвухпавярховы дом і цяпер на яго садзяцца вароны, як горныя арлы...

* * *

12.10.2011. Патэлефанавала з Валожына Валянціна Гіруць-Русакевіч, каб запрасіць мяне на вечарыну, прысвечаную памяці Пятра Бітэля. 18 кастрычніка будзе дваццаць гадоў, як наш зямляк памёр і быў пахаваны ў Вішневе побач з Канстанцыяй Буйло. На жаль, не змагу паехаць, бо якраз у гэтую суботу трэба быць абавязкова ў Пугачах, дзе жыве мой бацька, якому ў мінулым месяцы споўнілася 80 гадоў...

* * *

12.10.2011. Сёння ў выдавецтва прыходзіў кітайскі паэт і перакладчык Лі Цзо з жонкай. Прапановы і планы ў яго вялікія, як Кітай...

* * *

12.10.2011. Апалыя кляновыя лісты, як абгорткі, у якіх былі вершы...

### *Уладзімір Вялікі*

13.10.2011. З Германіі, дзе жыве больш дзесяці гадоў, у выдавецтва прыязджаў былы савецкі афіцэр, гісторык, а цяпер пісьменнік Уладзімір Вялікі (Яшын). Пакінуў мне пачытаць пяць кніжак, якія выдаў за свае грошы ў Расіі і Украіне. Хоча выдаць і ў нас раманы пра жыццё савецкіх людзей і салдат у ГДР. З кнігі «Клятвоотступник» даведаўся, што за амаль паўвекавую савецкую акупацыю праз нямецкую тэрыторыю прайшло каля 7 мільёнаў савецкіх салдат і афіцэраў. У розныя гады там працавала каля 400 тысяч дактароў і інжынераў, а таксама жыло каля 1 мільёна 500 тысяч членаў сям'яў вайскоўцаў. Спадзяюся, гэтая інфармацыя не самая цікавая, што змешчана ў кнігах, напісаных былым савецкім афіцэрам, які служыў у ГДР...

### *Кміток*

13.10.2011. У маім дзяцінстве, калі ў мамы быў вясёлы настрой, яна называла мяне Кмітком. Па сённяшні дзень я не ведаў чаму, а тут раптам на працы на вочы трапіла разгорнутая кніжка «Памяць. Валожынскі раён», дзе ў спісках загінулых прачытаў: «Кміт Ганна Сямёнаўна, нарадзілася ў 1918 годзе, загінула ў вёсцы Крапіўнікі». Мая мама нарадзілася ў вёсцы Лягезы ў 1930 годзе, а праз рэчку Яршоўку якраз і знаходзяцца Крапіўнікі. І, відаць, мая мама была знаёмая з малодшым братам Ганны Кміт і таму, жывучы ў Пугачах, гледзячы на мяне, узгадвала крапіўніцкага Кмітка, на якога я быў нечым падобны...

### *Валерый Хахлоў*

14.10.2011. Валерый Хахлоў працаваў выкладчыкам дзіцячай музычнай школы ў Валожыне. Ён актыўна супрацоўнічаў з вакальна-інструментальным ансамблем «Надзея», падбіраў рэпертуар, акампаніраваў, спяваў сам. З ім я пазнаёміўся ў 1984 годзе

на пасяджэнні літаб'яднання «Рунь», якое працавала пры раённай газеце. Валерый прыйшоў спецыяльна, каб са мной напісаць на беларускай мове песню пра дарогі. Праз месяц, пакуль я пісаў, Валерый Хахлоў памёр. Кампазітару было 46 гадоў...

### *Уладзімір Градоўкін*

14.10.2011. З паэтам Уладзімірам Градоўкіным (нарадзіўся 1 студзеня 1926 года ў вёсцы Мазурына Шумілінскага раёна) я пазнаёміўся на пачатку 80-х гадоў на пасяджэнні літаб'яднання «Рунь», на якое ён некалькі разоў прыязджаў з Івянца. У Саюз пісьменнікаў Уладзімір Градоўкін не ўступаў, бо лічыў, што паэт павінен быць вольным у жыцці і ў творчасці. Пасля сябе пакінуў пяць кніг паэзіі на рускай мове...

### *Уры Фінкель*

14.10.2011. Гартаючы «Памяць. Валожынскі раён», даведаўся, што 8 кастрычніка споўнілася 115 гадоў з дня нараджэння Уры Фінкеля. У артыкуле пра пісьменніка Вячаслаў Рагойша напісаў: «Ракаўцы — землякі Уры Фінкеля — яшчэ добра памятаюць невысокага сівога дзядулю з пышнымі вусамі. Пастукваючы сваёй нязменнай кавенькай, ён хадзіў па мястэчку, распытваў у местачкоўцаў пра іх жыццё-быццё. У панядзелак, калі ў Ракаве збіраўся вялікі кірмаш, яго можна было лёгка знайсці сярод прыезджых з навакольных вёсак — ён нешта старанна запісваў у свой нататнік. Кожны ведаў, што гэта настаўнік рускай літаратуры мясцовай дзесяцігодкі, але далёка не кожны — што ён яшчэ і вядомы крытык, таленавіты літаратуразнавец, своеасаблівы белетрыст...» Уры Фінкель напісаў аўтабіяграфічную аповесць «Паўвека таму назад», прысвечаную падзеям 1905 года на Міншчыне. Урывак з гэтага твора быў надрукаваны ў «ЛіМе» 16 чэрвеня 1956 года. На жаль, аповесць цалкам не была надрукавана і яе лёс невядомы. Уры Фінкель памёр 5 снежня 1957 года...

### *У час абеду...*

14.10.2011. Побач з працай ёсць кафэ, дзе можна паабедаць, і я туды амаль кожны дзень хаджу. Ужо месяцы два назіраю, як маладая худзенькая жанчына з гадавалым хлопчыкам у вазочку прыходзіць у кафэ і есць сама, і малога корміць. Гляджу на жанчыну з дзіцем і думаю: «Ці ёй часу няма гатаваць, ці няма на чым, ці не ўмее?»

## *Мінск—Пугачы*

15.10.2011. З горада выязджалі амаль гадзіну. Спыняліся на трох прыпынках. Жадаючых ехаць было вельмі шмат. Кіроўца сам абілечваў пасажыраў, якія цярпліва стаялі ў чарзе. Даўней ніхто чаргі не трымаўся, і хто быў больш нахабны і здаравейшы, той і прарываўся ў аўтобус і займаў лепшае месца для паездкі...

Паўнюткі аўтобус людзей, а знаёмых анікога...

У Ракаве стаялі пару хвілін. Па дарозе, па якой я хадзіў да мамы ў Ракаўскую бальніцу, прабег сабака, падобны да нашага, што цяпер у вёсцы пры бацьку...

Куды ні гляну, бачу тое, што было дзесяць, дваццаць, а то і трыццаць гадоў назад. Уявілася, што я герой драматычнага фільма, які едзе да сябе ў вёску, дзе яго ўжо ніхто не чакае. Фільм чамусьці японскі. Мо таму, што апалае чырвонае лісце, як маё разбітае японскае сонца...

У Бузунах аўтобус амаль апусцеў. Тут цяпер вельмі шмат лецішчаў, ды і мясцовых хапае. Гадоў трыццаць назад Бузуны з-за таго, што ў іх было вельмі шмат жыхароў, называлі Кітаем, а бузуноўцаў — кітайцамі...

Чым бліжэй пад'язджаў да Пугачоў, тым часцей паўтараў у думках: «Усё будзе так, як не думаю...»

Усе дзверы ў хату былі адчынены, нібыта з яе ўцякалі...

Сабака вылез з будкі і адзін раз гаўкнуў, нібыта прывітаўся...

Бацька сядзеў у зале на канапе апрануты, як быццам на вуліцы зіма...

У хаце нязвыкла ціха. Я зірнуў на насценны гадзіннік. Не працуе. Накруціў спружыну, гайдануў маятнік, і ў роднай хаце працягнулася маё жыццё...

Бацька, паеўшы, стаў расказваць пра тое, што было тады, калі ён быў малады. Узгадаў, што даўно памерлі яго малодшы брат Славік і малодшыя сёстры Ноня і Галя: «А я во ўсё жыву...»

На сцяне ў зале вісіць тэрмометр. Яго мне падарылі ў Вязынцы на пачатку 80-х гадоў, калі я там выступаў на свяце паэзіі. Цяпер у хаце 10 градусаў. Зімой раніцай бывала і 7 градусаў цяпла. Падлога халодная, як лёд. І мы, дзеці, не вылазілі з ложкаў, пакуль бацька не запальваў печку...

Холадна. Паравое ацяпленне адключана і апламбіравана. Я гатоў сарваць пломбу і ўключыць ацяпленне, але не ведаю, як яго ўключаць, а бацька не памятае...

За мной па хаце бегае кот. Я ведаю, чаго ён хоча. Кот хоча малака, якое я прывёз бацьку...

Скрабу бульбу. Бульба дробная, як дробныя нашы жыццёвыя праблемы для суседзяў...

Дзе раней садзілі бульбу, расце быльнёг, а ў ім месцамі ніткі саломы, як у нямытай галаве...

З паштовай скрынкі забраў «Звязду» і раёнку «Працоўную славу». Бацька газет не чытае, але выпісвае, бо іх чытала мама...

У паветцы сухія дровы. Іх засталося мала...

Хлеў пусты. З гною тырчыць салома, як промні затаптанага сонца...

У садзе ў траве знайшоў вялікі яблык, які нібыта схаваўся ад людзей, каб дачакацца майго прыезду...

На шыферы хлява лапік травы, нібыта зялёны астравок у пустэльні...

У вясковай краме ёсць амаль усё, што і ў гарадскіх. Няма пакупнікоў...

Ідучы з крамы, спыняюся каля агарода Валянціны Іосіфаўны, маёй сваячніцы, былой настаўніцы беларускай мовы і літаратуры. Цётцы ўжо 83 гады. Жыве адна. Дзеці раз’ехаліся па гарадах і прыязджаюць рэдка. Скарджуся цётцы, што ў бацькавай хаце холадна. «А я пломбу сарвала і падключыла ацяпленне! Няхай штрафуюць!» — кажа Валянціна Іосіфаўна і распытваецца пра маё жыццё-быццё. Развітваючыся, думаю падысці да плота, за якім цётка, і пацалаваць яе на развітанне, але чамусьці не падыходжу. Цяпер шкадую, што не падышоў...

Заглянуў да бацькавага стрыечнага брата дзядзькі Шуры, які жыве, вярнуўшыся з Маладзечна, па-суседстве ў матчынай хаце. Дзядзька быў у двары з малодшым сынам Андрэем. Сваякі абрадаваліся майму прыходу. Пагаварыўшы на вуліцы, мяне паклікалі ў хату. Толькі я прысеў, каб запісаць нумар дзядзькавага тэлефона, як да мяне падышоў малы гадоў пяці з маёй кніжкай «Проза і паэзія агню» і папрасіў яе падпісаць. Я запытаўся ў хлопца, як яго завуць. «Арцём Шніп!» — адказаў малы і заўсміхаўся...

Дзень праляцеў хутка так, як упаў на зямлю жоўты ліст з яблыні, на якую я глядзеў у дзяцінстве праз акно, марачы пра сваё дарослае жыццё...

Сярод жоўтых дрэў пачарнелыя сцены згарэлай хаты Антона Янушкевіча. Хутка будзе год, як няма гаспадара. І хата нікому не патрэбна...

На аўтобусным прыпынку было шмат моладзі, і я спыніўся побач на беразе сажалкі, дзе ў дзяцінстве лавіў рыбу. Раней тут усе вяскоўцы чакалі аўтобус з Мінска і мы, дзеці, нярэдка пасля таго, як аўтобус адыходзіў у горад, знаходзілі ў траве згубленыя

капейкі. І вось нешта, як капейка, бліснула ў траве. Нагнуўся. Шкельца ад разбітай пляшкі...

У цемры на сажалцы белыя качкі, як белыя плямы на тым, што было...

З Пугачоў у Мінск сабралася ехаць чалавек дзесяць. Нікога знаёмага...

Аўтобус напоўніўся пасажырамі толькі ў Бузунах. Жанчыны, якія сядзелі перада мной, усю дарогу гаманілі. Выходзячы на прыпынку «Каменная горка», адна з іх сказала: «Як адправіла мяне мама ў горад з торбай вучыцца, так па сённяшні дзень з торбай я і езджу туды-сюды!»

* * *

16.10.2011. У аўтобусе было холадна, як у дзіравай бляшанцы з-пад беларускіх шпротаў...

* * *

19.10.2011. Уздоўж дарогі ў раўчуку кляновае лісце, як залатая вада...

### *Час лечыць...*

20.10.2011. На выдавецкім калідоры сустрэўся з Яўгенам Рагіным — прыйшоў у Міністэрства культуры па ўзнагароды, якія супрацоўнікам газеты «Культура» далі да 20-годдзя. Узгадалі «ЛіМ», калі мы там разам працавалі. У Яўгена пару гадоў назад памерла жонка. На маё пытанне: «Як ты цяпер адзін?», сябра адказаў: «Час лечыць. Ужо нават пачаў заўважаць прыгожых жанчын...»

### *Хоку*

20.10.2011. Тыдзень назад напісаў хоку:

*манашкі грудзі*
*нібы купалы Храма*
*дзе жыве манах*

Прачытаў сваёй Людміле, і яна гэты мой верш забракавала. Сёння гэты верш я знайшоў у чарнавіку і, як апалы з дрэва лісток, змясціў у сваім дзённіку. Няхай будзе на памяць...

*Было...*

21.10.2011. У 1989 годзе, калі мяне выбралі старшынёй прафкама Саюза пісьменнікаў, старшыня партыйнай пісьменніцкай арганізацыі, даведаўшыся, што я беспартыйны, вырашыў рыхтаваць мяне ў камуністы, заявіўшы, што ўзначальваць прафкам не можа чалавек, які не ў партыі. І аднойчы для таго, каб я быў вартым кандыдатам у кандыдаты ў партыю, старшыня партарганізацыі даручыў мне з празаікам Віктарам Супрунчуком з'ездзіць у выцвярэзнік і забраць адтуль аднаго з ранейшых старшынь партарганізацыі. Купіўшы пляшку каньяку, мы паехалі выконваць партыйнае даручэнне. Прыехалі ў выцвярэзнік, а там ужо няма нашага калегі. І мы даведаліся, што наш былы старшыня партыйнай арганізацыі, убачыўшы, што ён знаходзіцца сярод мноства людзей, адразу ж пачаў праводзіць партыйны сход і тут жа прымаць у партыю беспартыйных. Партыйны сход скончыўся толькі тады, калі супрацоўнікі выцвярэзніка выклікалі жонку пісьменніка і яна яго забрала дамоў...

* * *

22.10.2011. Раніца. Ветрана. І чорны воран шалёна лётае ў двары, як шматок чорнай ночы, якую парвалі восеньскія вятры...

*Будучыня...*

22.10.2011. Будучыня — гэта чарапаха, якой многія кіруюць ці спрабуюць кіраваць, і гэтую чарапаху ні прыспешыць, ні прыпыніць...

*Пазнавальна...*

23.10.2011. Учора з Людмілай схадзілі на фільм Тыдня польскага кіно — «Дзень псіха». Вельмі шмат пазнавальнага. Саракадзевяцігадовы настаўнік літаратуры, які піша вершы і атрымлівае на працы капейкі, якога не слухаюць вучні, дастаюць суседзі і сабакі і які спрабуе агрызацца ўсім, знаходзіць суцяшэнне ў сексуальных думках пра маладую жанчыну, у якую ён быў закаханы яшчэ да жаніцьбы з другой. Я глядзеў на польскага няшчаснага псіха і месцамі ў ім бачыў некаторых сваіх знаёмых...

* * *

23.10.2011. У двары незнаёмая рудая дзяўчына збірае каштаны. Гляджу на яе з акна сваёй кватэры, як з неба...

### *Быў у мяне акардэон...*

23.10.2011. Гадоў дзесяць я іграў на акардэоне, які мне, школьніку, падарыў дзядзька Славік. На выхадныя, асабліва зімой, калі мне было сумна, я іграў на акардэоне з раніцы да вечара. Іграў адно і тое ж, але ўсе родныя цярпелі маю музыку, бо калі я не іграў, то круціў пласцінкі і спяваў так, што хоць ты з хаты ўцякай...

### *Дзявятка Камоцкага*

23.10.2011. Слухаю «Дзявятку» Алеся Камоцкага. Светлае, сумнае, нашае, беларускае, роднае, шчымлівае, балючае... Хочацца піць і плакаць. Не п'ю, таму і не плачу, а проста, балдзею ад усяго гэтага светлага, сумнага, нашага, беларускага, роднага, шчымлівага, балючага...

### *Чытаюць...*

24.10.2011. У «Рубін плазе» з Людмілай паглядзелі польскі фільм «Лэдзі» — халтурны рэмэйк амерыканскага «Сексу ў вялікім горадзе». І ўсё ж вярталіся дамоў у добрым настроі, бо, калі стаялі ў чарзе ў кіназалу, маладая жанчына звярнулася да маёй жонкі: «Вы Людміла Рублеўская?» — «Так...» — адказала Людміла. «Ваша кніжка «Прыгоды мышкі Пік-Пік» самая любімая ў маіх дзяцей!» — паведаміла незнаёмка і ветліва ўсміхнулася.

### *Вяртанне...*

25.10.2011. Патэлефанавала жанчына, каб даведацца, як можна выдаць кнігу, каб атрымаць ганарар. Піша прозу і паэзію. Я ёй расказаў усё, і жанчына прызналася, што ў верасні вярнулася з Францыі, дзе пражыла 17 гадоў. Муж быў французам. З ёй у Беларусь прыехалі двое дзяцей, якія акрамя французскай іншых моў не ведаюць. Старэйшаму хлопцу 16 гадоў, а меншаму — 11. На маё пытанне: «Чаму вы вярнуліся да бацькоў, калі цяпер некаторыя стараюцца з'ехаць?», жанчына адказала: «У Францыі сярод французаў немагчыма жыць, калі ты не француз!»

* * *

26.10.2011. Высока-высока ў небе праляцеў самалёт і за ім застаўся белы след, як драпіна на блакітным шкле саркафага, у якім існуе жыццё...

* * *

26.10.2011. Каля дарогі пад дрэвамі стаяць вялікія белыя мяшкі з лісцем, як з бульбай...

### *Сярод чырвоных сукенак...*

28.10.2011. Учора Людміла звадзіла мяне на вечарыну чырвоных сукенак у Нацыянальную школу прыгажосці — міжнародны дабрачынны праект, падчас якога збіраюцца сродкі на лекаванне хворых на сэрца. Арганізатары — «Жаночы часопіс» і МТС. Цяпер адчуваю сябе, нібыта ўчора пабыў у замежжы, дзе многа прыгожых жанчын. І ўсё ж мая Людміла прыгажэй...

* * *

29.10.2011. Няхай наша смерць думае пра нас, а не мы пра яе, бо мы думаем пра Беларусь...

### *Прывезлі бацьку...*

29.10.2011. З вёскі забралі знямоглага бацьку. Крыху аглядзеўшыся ў кватэры, бацька сказаў: «Сюды мяне прывезлі, а дамоў трэба будзе пяшком ісці. Далёка...»

* * *

29.10.2011. У бацькі выгляд, нібы ў вызваленага з палону...

### *З бацькам у адным пакоі...*

30.10.2011. Бацька заснуў пасля шасці гадзін раніцы, а за ім і я. З мамай было прасцей. Калі яна не спала, дык маўчала, а бацька ў цемнаце ўвесь час гаварыў то пра сабаку, то пра ката, якія ў вёсцы засталіся адны...

### *Бацька і дом*

30.10.2011. «Пайду дамоў. Папраўлюся і пайду...» — кажа бацька. «Да дому ж 50 кіламетраў»,— напамінаю я. «Дайду! Я ў салдатах Волгу пераплыў, а тут нейкіх 50 кіламетраў...» — упэўнена адказвае бацька.

* * *

31.10.2011. Мы да смерці гліна, і нас жыццё ўсё лепіць і лепіць, пакуль не абрыдне...

## ЛІСТАПАД

* * *

1.11.2011. Бацьку не спіцца, і я ўжо тры ночы амаль не спаў. Хаджу, як абліты гарачай вадой...

*Уявіце!*

3.11.2011. Чытаю ў «Камсамолцы» інтэрв'ю з Анжэлікай Агурбаш, у якім яна кажа: «Муж высадил под окнами сто кустов сирени. Представляете, как он был виноват?» Вы ўяўляеце гэта?

*Бацька кватарант*

5.11.2011. Бацьку, прывезенаму з вёскі, мы знялі кватэру. Клопату дабавілася, але цяпер можна ноччу спаць і выспацца. Яго і не адсялялі б, каб ён маўчаў ноччу, калі з ім ніхто не гаворыць, і не хроп, калі засынаў. Словам, бацька цяпер жыве ў дзесяці хвілінах хады ад нас і там ён поўны гаспадар. Кватэра двухпакаёвая, і можна, калі што, начаваць з бацькам. Хаджу да яго два разы на дзень. Кожны раз, калі прыходжу, бацька кажа: «Мне было блага...», але, паеўшы, тут жа паведамляе: «А цяпер добра...»

* * *

6.11.2011. У лесе спілаванае дрэва, падаючы, на сваім шляху смерці ламае ўсё, як буран...

* * *

6.11.2011. Сонца — гэта цэнтр павуціны, у якую ўсе мы трапілі...

*Палякі...*

7.11.2011. «Чатыры танкісты і сабака» — адзін з маіх любімых фільмаў, якія глядзеў у дзяцінстве. На мінулым тыдні гэты фільм

прагледзеў яшчэ раз і ўпершыню звярнуў увагу на кадр, дзе паказаны захоплены Берлін і рэйхстаг, на якім трапечуцца два сцягі. Адзін сцяг савецкі, а другі — польскі...

* * *

7.11.2011. Які ўжо раз, прыходзячы ў краму, кладу сваю торбу для захоўвання ў скрынку пад № 13, бо ўсе астатнія занятыя...

### *Сумна...*

9.11.2011. Памерла мая цётка Манька, якая амаль усе свае 94 гады жыла ў Крапіўніках, што каля Лягез, дзе я да школы гадаваўся ў бабулі Ганны. Заўтра паеду на пахаванне. Сустрэнуся са сваімі стрыечнымі братамі і сёстрамі. Некаторых родных апошні раз бачыў на пахаванні дзядзькі Пашкі ў 2003 годзе...

* * *

9.11.2011. Сёння ўжо чатыры гады, як здзекуюся сам з сябе — не п'ю...

### *Пахаванне цёткі Манькі*

10.11.2011. Едучы з сястрой Валяй і яе мужам Віцем у Крапіўнікі на пахаванне цёткі Манькі, успамінаў сябе малога і маладых цётак і дзядзькаў, якіх у мяне было шмат. Першым памёр дзядзька Ваня (1926—1996), потым памерла цётка Надзя (1922—2002), следам — дзядзька Пашка (1928—2003), а цяпер — цётка Манька (19.08.1918—9.11.2011). Цётка Шурка (1923) жыве ў Татарах, там жа — цётка Аля (1939), а ў Лягезах — дзядзька Віця (1933)...

Каля Салаўёў павярнулі на дарогу, якая вядзе ў Крапіўнікі. Праехалі метраў трыста і дарога скончылася. Наперадзе поле парослае быльнягом...

У Яршэвічах каля дарогі царква, як сірата...

Ля хаты цёткі Манькі сваякі і аднавяскоўцы. Не адразу ўсіх пазнаю...

Дочкі цёткі Манькі Аня і Валя ў слязах і ў клопатах...

Усе пытаюцца, як там наша мама, як бацька...

У хаце поўна людзей. Кветкі, вянкі. Цётка Манька ў труне, як у чоўне, у якога ўжо ніколі не будзе вёслаў...

Пеўчыя спяваюць. Гарыць свечка і плача...

На пахаванне прыйшоў старшыня Яршэвіцкага сельсавета Уладзімір Пашкевіч. Я з ім знаёмы з таго часу, калі ён у 80-я гады працаваў у раёнцы. Валодзя прынёс пасведчанне аб смерці і, гледзячы на крыж, на якім напісана: «Ліхтаровіч Марыя Міхайлаўна (19.08.1918—9.11.2011)», сказаў: «Па пашпарце цёткі Марыі 103 гады...»

З Ракава прыехаў святар. І ўсе за ім пайшлі ў хату, як за Ноем у каўчэг...

Кіламетры паўтары па вёсцы да крыжа неслі цётку Маньку і вянкі. Я ішоў з цёткай Лёдзяй. Яна нядаўна адзначыла 75. Пасля смерці дзядзькі Вані ўжо амаль 16 гадоў жыве адна...

Спыніліся каля крыжа. І засвяціла сонца...

Яршэвіцкія могілкі параслі лесам. А мне яны помняцца адкрытымі вятрам і небу...

Далакопы грэліся каля вогнішча, як інквізітары...

Пахавалі цётку Маньку каля мужа Уладзіміра, які пражыў 51 год і памёр у 1961 годзе...

«Смерць бярэ паравых, а не гадавых...» — сказала старая другой, якая, пасля таго як пахавалі цётку Маньку, выдыхнула: «Я тут самая старая, і наступнай памру я...»

За памінальны стол па наказе цёткі Манькі паклікалі ўсіх аднавяскоўцаў. У Крапіўніках засталося 17 жыхароў...

За 10 месяцаў гэтага года ў Яршэвіцкім сельсавеце памерла 43 чалавекі, а нарадзілася 5...

Цётка Манька за дзядзьку Валодзю выйшла замуж на самым пачатку вайны. Вяселле разагналі немцы з паліцаямі...

Дзядзька Валодзя хораша іграў на цымбалах. «У яго была добрая банда! Ніводнае вяселле ва ўсім наваколлі не абыходзілася без іх музыкі!» — паведаміў мне стары, што сядзеў за памінальным сталом насупраць мяне...

«А я вашу маму ў юнацтве часта праводзіў дамоў з танцаў!» — гледзячы з усмешкай на мяне і на маю сястру Валю, сказаў расчырванелы стары, выпіўшы пару чарак гарэлкі...

У хаце цёткі Манькі ў 60-я гады была бібліятэка...

На вуліцы да мяне падышоў сівы мужчына: «Ці пазнаеш мяне?» — «Не...» — адказаў я. «Я ж Сашка Буры! Ты вучыўся ў чацвёртым класе, а я дзясяты закончыў і з Пугачоў пераехаў з бацькамі ў Крапіўнікі...» — абдымаючы мяне, сказаў былы аднавясковец...

«Калі будзеш у Лягезах у дзядзькі Віці, ты ж і да мяне заходзься!» — цалуючы мяне, прашаптала цётка Лёдзя...

Развітваючыся са сваякамі, праслязіўся: «Якія яны ў мяне цудоўныя! І старыя...»

«Пішы вершы, а мы будзем чытаць!» — на развітанне выгукнуў незнаёмы мужык, што стаяў каля Сашкі Бурага, і памахаў мне рукой...

Толькі выязджаючы з Крапіўнікаў, заўважыў, што каля вуліцы, дзе раней былі соткі, стаіць быльнёг, як малады ссохлы лес...

* * *

11.11.2011. У скверы невялічкія кучы апалага лісця, як залатое кратавінне...

*Санкі і кроў*

11.11.2011. З Сашкам Бурым пасля школы ідзём катацца на санках. Санкі адны і мае, таму я першым з'язджаю з гары. З'язджаю няўдала — стукаюся ў бярозу і разбіваю нос. Убачыўшы кроў, кідаю санкі і бягу няведама куды ў глыб лесу. Снег у лесе стаптаны, але па кроплях крыві Сашка мяне знаходзіць і потым на санках вязе дамоў, як параненага барына...

* * *

12.11.2011. Ужо два тыдні, як забралі бацьку з вёскі. Гляджу, як малое дзіця...

*Брат і Міхалок*

12.11.2011. Чытаючы пра рок-музыку Васіля Шугалея, чамусьці падумалася, што мой брат Вова яго добра ведаў, бо ў свой час расказваў, што вучыцца ў культасветвучылішчы разам з вельмі арыгінальным хлопцам. Тэлефаную Вову: «Ты з Шугалеем вучыўся?» — «Не!» — адказвае брат. «А з кім?» — «З Сяргеем Міхалком! Ён іграў на баяне. Жылі мы ў інтэрнаце на адным паверсе. Яшчэ студэнтамі ён і я адначасова атрымалі ганаровыя граматы "За ўклад у беларускую культуру"...»

* * *

13.11.2011. Учора, заходзячы ў краму, звярнуў увагу на абвестку: «Патрабуецца грузчык. Зарплата — 3 100 000 рублёў». Сёння, праходзячы міма крамы, яшчэ раз пералічыў нулі ў зарплаце...

### *Мама і бацька*

14.11.2011. Мама, жывучы ў нас, гаварыла мала, але часам вельмі арыгінальна. Бацька гаворыць шмат, але ўсё паўтарае сказанае раней...

* * *

15.11.2011. Дзень карацее, нібыта светлая палонка на рацэ часу зацягваецца чорным лёдам...

* * *

18.11.2011. Колькі алкаголіка ні кармі, ён усё роўна на пляшку глядзіць...

### *Бацька і падарункі*

19.11.2011. «Я зарання падарункі купіў. Хадзіў за хлебам і купіў. У хаце не пакінуў, бо кошка можа з'есці. Занёс на гарышча. Цяпер баюся, што там пацукі падарункі паядуць...» — расказвае бацька. «А якія падарункі купіў?» — пытаюся. «Не помню!» — адказвае бацька і махае рукой.

### *Ужо тры тыдні...*

19.11.2011. Ужо тры тыдні, як наша хата ў вёсцы без бацькоў. Мама жыве ў сястры, бацьку гляджу я. Брат сёння ездзіў у вёску. Каля хаты яго сустрэў наш сабака, а ў хаце — наш кот...

### *Бацька і лязо*

19.11.2011. Галю бацьку. На ягонае пытанне: «Што за лязо?» — адказваю: «Не ведаю...» — «Відаць, калхознае...» — разважае бацька. «Чаму?» — «Бо дзярэ, як калхоз!»

### *Бацька і стрыжка*

20.11.2011. Пастрыг бацьку. Ён упершыню прасіў, каб не чапаў чуб. Чаму? Відаць, бацька ўспомніў, як ён мяне нажніцамі стрыг заўсёды пад качана...

## *Прыгажуня і жаніхі*

22.11.2011. У друку з'явілася інфармацыя, што ў Мазыры за адну дзяўчыну загінулі тры мужчыны. Праўда, загінулі недарэчна. Аднак мне ўзгадалася легенда пра Дзявочую гару, што ў шасці кіламетрах ад маіх Пугачоў. Даўным-даўно ў нашай мясцовасці жыла прыгажуня і ў яе былі закаханыя тры хлопцы, якія адначасова прапанавалі ёй выйсці замуж. «Выйду за таго, хто хутчэй ускоціць валун на гару!» — сказала прыгажуня. Гара была высокай, а валуны цяжкія, і ў хлопцаў ад натугі разарваліся сэрцы. Пасля гэтага мясцовыя людзі схапілі прыгажуню і на гары закапалі жывой разам з памерлымі жаніхамі, паклаўшы на магілу тры валуны...

## *Сярод кніг і дзяцей*

22.11.2011. У кнігарні «Кнігі і кніжачкі» з Людмілай Рублеўскай і Аксанай Спрынчан прэзентавалі выданні «Мастацкай літаратуры». У школьнікаў было вельмі шмат пытанняў, дзякуючы якім, мы на цэлую гадзіну забыліся, што на вуліцы змрочна і хутка зіма...

## *Пытанне*

25.11.2011. Бацька пасля вёскі ачуняў і цяпер кожны раз, як прыношу яму на кватэру паесці, пытаецца: «Колькі ўжо буду я сядзець у гэтай турме?»

## *Чужая кроў*

25.11.2011. Апошнім часам бацька кожны дзень, калі прыходжу да яго, кажа: «У войску пры размініраванні ўзарваўся снарад і мяне паранiла. У госпіталі няруская дахторка заліла ў мяне два літры чужой крыві і ўсю жызь мне сапсавала! Цяпер во мучаюся!»

* * *

26.11.2011. З Пугачоў патэлефанавала цётка Аля. Ад яе даведаўся, што ў мінулую нядзелю Сашка Буры ў Крапіўніках ноччу спаліў сваю хату і перабраўся ў Пугачы. Цяпер ён і Тонік Руткевіч, нідзе не працуючы, жывуць, як прымакі, у Зіны Амельяніхі, якой ужо 71 год...

* * *

27.11.2011. На вуліцы змрочна, як на закінутых могілках...

* * *

28.11.2011. Іду да бацькі і радуюся, што іду да бацькі, з якім можна пагаварыць і пажартаваць...

### *Сто грамаў і паўлітра*

29.11.2011. Дзень прайшоў у дзелавых сустрэчах. Стаміўся ад рознай інфармацыі. З усяго найбольш запомнілася, што ў рукапісе апавядання (перададзена нам у выдавецтва) у студэнцкім перакладзе з нямецкай мовы была недакладнасць — сто грамаў гарэлкі, якія выпіў мужчына, было перакладзена на беларускую мову як паўлітра...

### *Бацька і карова*

30.11.2011. Сёння, калі прыйшоў да бацькі на кватэру, адразу з парога пачуў: «Едзь у вёску! Там карова ацялілася! Забяры цялё, а то яго немцы зарэжуць!» — «Добра!» — адказаў я, памятаючы, што ўжо два гады ў нас сваёй каровы няма...

# СНЕЖАНЬ

* * *

1.12.2011. А яна прыйшла нечакана, як добрая думка...

* * *

3.12.2011. З пад'езда выйшаў стары. Увесь у чорным. Барада белая, як з дым ад цыгаркі, што ў старога ў зубах...

* * *

3.12.2011. Сухое лісце, як пялёсткі сонца, якое адцвіло...

## *У Ракуцёўшчыну...*

3.12.2011. З Маладзечна патэлефанаваў мой сябра Міхась Казлоўскі і расказаў пра сённяшнюю паездку ў Ракуцёўшчыну, якую арганізавала Валянціна Гіруць-Русакевіч для членаў валожынскага літаб'яднання «Рунь». І мне, слухаючы Міхася, захацелася да сваіх землякоў у фальварак, дзе два летнія месяцы 1911 года жыў Максім Багдановіч...

## *Да бацькі...*

4.12.2011. Гаспадыня кватэры, дзе цяпер жыве бацька, папярэдзіла мяне, каб не знаёміўся з суседзямі, бо яны нехарошыя людзі. І я да бацькі хаджу, як падпольшчык на кансператыўную кватэру...

* * *

5.12.2011. Сённяшні дзень, як яма, у якой жыву і ў якую сыплецца і сыплецца снежаньскі дождж...

* * *

5.12.2011. Дождж. Ідучы праз змрочны сквер да бацькі на кватэру і вяртаючыся дамоў, спрабую радавацца жыццю... Але і не плачу...

* * *

6.12.2011. Быў дома ў Леаніда Маракова, які заканчвае працу над дакументальна-энцыклапедычнай кнігай «Галоўная вуліца Мінска. 1880—1940 гг.». Рукапіс рыхтуецца для «Мастацкай літаратуры». Прыемна было пачуць ад Леаніда, што да гэтага выдання яго натхніла кніга Рублеўскай «Я — мінчанін», якую ў свой час Людміла яму падарыла...

* * *

8.12.2011. «Яна яго любіла, і ён яе любіў. Яна яго забіла, а ён яе не паспеў...» Адкуль гэтыя радкі ў мяне? Начытаўся рукапісаў...

*Геня, камбайн і дзеці*

11.12.2011. Сёння даведаўся, што тры тыдні назад у Пугачах памёр сусед дзядзька Геня Балотнік. Яму было 85 гадоў. Да пенсіі працаваў на трактары, а ў час жніва заўсёды быў камбайнерам. Пасля працы дзядзька ставіў камбайн каля хаты і ягоны сын Віцька (маладзейшы за мяне на год) пускаў Тоніка Руткевіча, Сашку Балотніка і мяне ў кабіну гуляць у карты і курыць. У камбайне гулялася ў карты, як на сёмым небе, бо мы з вышыні ўсё і ўсіх бачылі, а тое, чым мы займаемся, аніхто...

*Бацька і Геня*

11.12.2011. Паведамляю бацьку, што памёр Геня Балотнік. Бацька, памаўчаўшы некалькі хвілін, сказаў: «Геня ў войску не служыў...»

*Шніпы*

12.12.2011. Мікітка Шніп пры цару ў Пугачах быў старастам вёскі. Потым служыў у Дзянікіна. Калі дзянікінскую армію разграмілі бальшавікі, Мікітка, які быў снабжэнцам, набраў нітак, колькі можна было панесці, і пайшоў з Крыма дамоў. Дзякуючы ніткам, у дарозе ў Мікіткі быў і начлег, і харчаванне. У Пугачы Мікітка прыйшоў, калі ў Заходняй Беларусі ўжо была

польская ўлада. Васіль Шніп быў чырвонаармейцам, бачыў Леніна, слухаў Троцкага, біў дзянікінцаў. У Пугачы вярнуўся незадоўга да далучэння Заходняй Беларусі да Польшчы. Пры паляках, пры немцах і пры Саветах Васіль маўчаў, што быў у Чырвонай Арміі, а Мікітка маўчаў, што быў дзянікінцам, і аднавяскоўцы маўчалі. І пражылі Мікітка і Васіль па восемдзесят гадоў, і пахаваны на адных могілках...

### *Федзюковіч і банькі*

14.12.2011. Жывучы ў Мінску, паэт Мікола Федзюковіч як член Саюза пісьменнікаў, стаў на ўлік у беллітфондаўскую паліклініку. І неяк зімой, добра застудзіўшыся, Мікола пайшоў да дактароў. Тыя паслухалі дыханне і прапісалі банькі. Паставіўшы банькі на спіну хворага, дактары выйшлі з працэдурнага кабінета. І вось ляжыць паэт паўгадзіны, гадзіну і ніхто не прыходзіць. «Відаць так трэба!» — думае Мікола і церпіць невыносны боль ад баняк. І толькі праз дзве гадзіны дактары ўспомнілі, што яны лечаць паэта...

### *На адкрыцці выставы...*

17.12.2011. З Людмілай быў у Мастацкім музеі на адкрыцці выставы «Белая пляма ў цэнтры Еўропы» Віктара Альшэўскага. Усё было цікава, але мне найбольш спадабалася нявеста міністра культуры...

### *Просіць бацька...*

18.12.2011. «Ты мне прынясі пласкагубцы!» — просіць бацька, убачыўшы, што я з яго кватэры збіраюся дамоў. «Мышам зубы будзеш ірваць?» — жартам пытаюся і чую: «Буду кошыкі плесці. Пройдзе зіма, а там і бульбу трэба садзіць...»

### *Памёр Кім Чын Ір*

19.12.2011. Некаторыя карэйцы галосяць, як смяюцца...

### *Пісьменнік усміхаецца...*

20.12.2011. Каля крамы «Рамашка» сустрэў пісьменніка. Кажу: «Прыйдзі ў выдавецтва і забяры свае выкупленыя кнігі!» — «А навошта мне яны!» — адказвае пісьменнік і ўсміхаецца...

*Бацька без настрою...*

22.12.2011. Сёння бацька зноў быў без настрою і патрабаваў: «Выпусціце мяне з гэтай турмы! Завязіце ў вёску!» Мае тлумачэнні, што ў вёсцы няма нікога хто б яго даглядаў, не супакоілі бацьку: «Калі памру, дык дома...»

*Бацька і даўняя песня*

23.12.2011. Бацька ўспомніў радкі даўняй песні: «Наш Ленін радной жалезнай рукой к пабедзе вядзе, крывапіўца...» Пытаюся: «Можа Сталін з жалезнай рукой?» — «Не! Ленін!» — сцвярджае бацька і дадае, што гэтую песню спявалі расійскія салдаты. На маё пытанне: «А калі гэта было?» — чую: «А я ўжо не памятаю...»

*Маю права!*

24.12.2011. Коля Ганьчын прыйшоў п'яны на вяселле і, закрычаўшы: «Маю права!», ускочыў на святочны стол і пачаў танцаваць. Праз пару хвілін усе госці следам за маладымі выбеглі з хаты. За сталом застаўся дзед з бабай, які, выпіўшы сто грамаў, запытаўся: «А чаго гэта ён? Здурэў, ці што?» — «Гэта ж ягоная дзеўка замуж выходзіць!» — адказала старая...

*Бацька і армія*

24.12.2011. Пытаюся ў бацькі: «Чым цябе зімой у арміі кармілі?» — «Абы-чым! Ломам надзяўбуць мерзлай бульбы, наварацЬ і як свінням дадуць! Адзін хлеб быў больш-менш нармальны!» — адказаў бацька, які служыў у арміі ў апошнія гады жыцця Сталіна...

* * *

25.12.2011. «Не магу піць гэтую гарадскую ваду!» — кажа бацька. «А якой ты хочаш?» — пытаюся. «Хачу калхознай!» — адказвае бацька...

*Голая паэтка*

25.12.2011. Хадзіў у майстэрню Алеся Квяткоўскага. Працуе для Валожына. «Я тут заканчваю маляваць нашу зямлячку Канстанцыю Буйло. Падкажы, у што яе апрануць?» — паказваючы партрэт голай паэткі, запытаўся Алесь. Паглядзеўшы на

маладзенькую Канстанцыю, я параіў пакінуць паэтку голай, а для Валожына намаляваць такую ж, але апранутую...

*Вяселле...*

25.12.2011. «П'яны Коля Ганьчын, натанцаваўшыся на вясельным стале і выпіўшы пляшку самагонкі, зваліўся на падлогу, як забіты. І пакуль госці бегалі па полі па гурбах за маладой і маладым, дзед з бабай напусцілі ў хату дзяцей, сабак і катоў, якія тут жа пачалі піць і есці, што засталося на сталах і валялася на падлозе...» — сёння бацька працягнуў расказваць пра вяселле, на якім дзяўчына Колі Ганьчынага выходзіла замуж за другога. «А што далей было?» — пытаюся ў бацькі, які, расказваючы, смяецца. «Шафер Славік у гурбе каля хаты знайшоў поўны бітон самагонкі і праз паўгадзіны ў вёсцы ўсе былі п'яныя!» — завяршыў бацька свой успамін пра вяселле, на якім і ён быў...

* * *

26.12.2011. Іду праз сквер да бацькі. Снег растаў — і стала цёмна, нібыта выключылі святло...

* * *

26.12.2011. На працы адчуваў сябе чалавекам, які спазняецца на апошні цягнік, на якім можна пакінуць горад, што вечарам будзе здадзены ворагам...

*Пасля вяселля...*

27.12.2011. Пасля вяселля, на якім Коля Ганьчын танцаваў на стале, гаспадары хаты заўважылі, што госці паелі не толькі, што было пастаўлена на закуску, але і ўвесь часнок і ўсю цыбулю, якія віселі каля печы на шасце...

*Берлінская мазаіка мастака*

28.12.2011. Прачытаў кніжку мастака Алеся Тарановіча «Берлінская мазаіка», які ўжо даўно жыве ў Нямеччыне. Мы знаёмыя з часу маёй працы ў часопісе «Беларусь», дзе я пісаў пра Алесевы карціны. З прачытанага запомнілася: «Памру і стану нямецкай зямлёю. Змяшаюся з прахам Гётэ і Дзюрэра. Не, лепш Рэмарка. Мне ён падабаецца больш».

*Песні...*

30.12.2011. Недзе каля паўгадзіны глядзеў, пераключаючы з канала на канал, «Песні года Беларусі» і юбілейны канцэрт Юрыя Антонава. Далёка ўсім нашым разам узятым да аднаго Антонава! Цяпер разумею словы Ігара Лучанка: «Я памёр!»

*Алесь Чобат*

31.12.2011. Чытаю «Дзеяслоў» № 55. Параніўся сэрцам і душой аб шчырасць Алеся Чобата, у якога ўзяў інтэрв'ю Андрэй Масквін. На пытанне: «Як жыве паэт Алесь Чобат цяпер?» — паэт адказаў: «Калі мне было 12 гадоў, бацька выбіў мне левае вока. Які ж пасля гэтага ён бацька? А цяпер я вымушаны жыць з ім пад адной страхой. Добра яшчэ, што адзін аднаго не пазабівалі. Час ад часу ён выклікае міліцыю, у якой дарэчы працуюць палякі. Калі яны прыходзяць да мяне, я ім паказваю часопіс «Наша Вера», у якім ёсць мой верш, прысвечаны Яну Паўлу II. І яны спакойна сыходзяць. Я калека, а калека жыве, як атрымліваецца. Гэта толькі чалавек жыве, як умее...»

* * *

31.12.2011. У «Дзеяслове» № 55, дзе надрукавана гутарка з паэтам Алесем Чобатам, змешчаны і здымак Алеся. Пытаюся ў дзяцей: «На колькі выглядае гэты паэт?» Максім сказаў: «На гадоў 65!», а Вераніка: «Недзе пад 80!» А Чобат жа толькі на год старэйшы за мяне...

## СТУДЗЕНЬ

* * *

1.01.2012. «Чаму ты мне да сённяшняга дня пісталет не прынёс?» — пытаецца бацька. «Нашто ён табе і дзе яго табе вазьму?» — не разумею я. «Усю ж ноч стралялі!» — кажа бацька. «У горадзе на Новы год заўсёды страляюць!» — усміхаюся і яшчэ раз віншую бацьку з Новым годам...

### *Бацька і зубы*

2.01.2012. «Трэба ехаць да Ладыжэнкавага хлапца, каб ён мне паставіў новыя зубы. Можна і жалезныя, але хаця б два залатыя былі наперадзе для красаты!» — кажа бацька. «А дзе ён табе золата возьме?» — пытаюся. «Не ведаю, але калі захоча, дык і знойдзе!» — адказвае бацька...

### *Бацька і ялінка*

4.01.2012. Са старым нямоглым бацькам хаджу па лесе. Шукаем ялінку, каб паставіць на Новы год. Знаходзім. Бацька замахваецца сякерай, а ялінка, страпянуўшыся, кажа: «Не сячы мяне, стары! Я для цябе выканаю любое жаданне!» Бацька доўга не думаючы, просіць: «Хачу быць маладым!» І бацька робіцца маладым, а я — хлапчуком. Праз некалькі хвілін мы з бацькам па заснежаным лесе вяртаемся дамоў, цягнучы за сабой ссечаную ялінку, якая нядаўна выканала бацькава жаданне...

### *Бацька і яма*

5.01.2012. «Трэба тэрмінова капаць яму!» — заявіў сёння з самага ранку бацька. «Для чаго?» — цікаўлюся. «Будзем бульбу ссыпаць! На Юстынавай гары — далёка! Капай каля хаты! Калі будуць бамбіць, дык можна будзе схавацца!» — тлумачыць бацька, а я слухаю не ўсміхаючыся і абяцаю купіць яму добрую вострую рыдлёўку...

* * *

5.01.2012. Нядаўна снілася рыба. А калі мне сніцца рыба — гэта на хваробу. Баяўся прыхварэць, і на табе — прыхварэў. А мне хварэць нельга! Трэба ж бацьку глядзець...

### *Бацька папярэджвае...*

5.01.2012. «Яму выкапаў?» — пытаецца бацька. «Выкапаў!» — сур'ёзна адказваю я. «Ну тады глядзі не ўваліся ў яму!» — папярэджвае бацька...

### *Святло ў хаце...*

5.01.2012. (Прыснілася). Іду басанож па снежным цаліку. Марозу не адчуваю. Далёка наперадзе свеціцца акно ў белай, як гурба, хаце. Падыходжу да акна. Стукаю. І святло ў чужой хаце гасне...

* * *

6.01.2012. Зіма як хвароба. І трэба зіму перазімаваць, як хваробу перахварэць...

* * *

6.01.2012. Хварэю. Мне холадна. Сяджу каля камп'ютара, як каля тлеючага вогнішча, і капаюся ў інтэрнэце, як у попеле...

* * *

6.01.2012. Сарока, як злепленая са снегу і чорнай зямлі, праляцела каля майго акна...

### *Бацька і спявачка*

7.01.2012. «Сёння не спаў! Нейкая баба па радыё ўсю ноч спявала. Відаць, была ў партызанах і там яе мужыка забілі!» — расказвае бацька пра мінулую ноч. «Трэба было радыё выключыць! І адкуль ты ведаеш, што яна была ў партызанах?» — пытаюся. «Так жаласліва спяваюць толькі тыя, што былі ў партызанах!» — адказвае бацька...

* * *

7.01.2012. Адведаць мяне хворага і павіншаваць з Калядамі прыходзіў Алесь Квяткоўскі. Пілі толькі гарбату. Гаварылі пра літаратуру і мастацтва. На маё пытанне: «Як табе мастак Губараў» — Алесь адказаў: «Кіно...»

* * *

7.01.2012. На вуліцы светла, як у Храме...

### *Напалеон*

7.01.2012. (Прыснілася). Трэці месяц, як у вёсцы пустуе родная хата. Прыязджаю. Навокал усё замецена. Заходжу ў хату і бачу на канапе Напалеона, які ляжыць ухутаны ў маміны хусткі і накрыты бацькавым кажухом. Пытаюся: «Што тут робіш?» Напалеон кажа: «Грэюся. Масква ж згарэла...»

### *У чорным...*

7.01.2012. Іду да бацькі. Цямнее. На вуліцы марозна. Час ад часу сустракаю людзей у чорным. Вяртаюся дамоў. Цёмна. Зноў сустракаю людзей у чорным. Прыходжу дадому. Гляджу на сябе і бачу, што я таксама ў чорным...

### *Ніхто*

7.01.2012. (Прыснілася). Могілкі. Тут пахаваны немцы, якія загінулі ў 1916 годзе. Да мяне падыходзіць жанчына. Пытаецца: «Хто яны для вас: ворагі ці свае?» — «Ніхто...» — адказваю я, і жанчына знікае, як мроіва...

* * *

7.01.2012. «У нашу яму хто-небудзь уваліўся?» — пытаецца бацька. «Пакуль што ніхто...» — адказваю. «А ты туды бульбы насып!» — раіць бацька...

* * *

8.01.2012. Замардаваны прастудай і сабачым жыццём, гляджу на поўню, але выць яшчэ не хочацца...

* * *

8.01.2012. Упала знічка, а я не паспеў прашаптаць жаданне...

* * *

8.01.2012. «Усё праходзіць і гэта пройдзе...» — думаю, няспешна ідучы (баюся паслізнуцца і паваліцца) да нямоглага бацькі на кватэру...

* * *

8.01.2012. «Адвязі ты мяне дамоў і не мучайся са мной!» — просіць бацька. «А хто там цябе будзе глядзець? Там жа нікога няма!» — кажу. «Як гэта нікога няма?! А партызанкі адзінокія!» — не маўчыць бацька...

* * *

8.01.2012. Ужо трэці месяц штодзённа два разы на дзень хаджу да бацькі на кватэру праз сквер і ні разу не было такога, каб нехта не піў на лаўках...

* * *

9.01.2012. Там, дзе засталася родная хата пустой, цяпер сонца заходзіць...

* * *

9.01.2012. Ён не быў у Парыжы. І яму часта думалася, што ніякага Парыжа і няма. А ўсё, што пра гэты горад гавораць, пішуць і паказваюць па тэлевізары — выдумана для таго, каб яму хацелася трапіць у Парыж, якога няма...

* * *

9.01.2012. Яна жыла ў люстэрку. І ён Яе бачыў, калі заходзіла сонца...

* * *

9.01.2012. Там, дзе няма сонца, там няма жыцця. І яна памерла, калі зайшло сонца. І поўня ўзышла над светам, як яе душа...

## *Бацька ўзгадаў...*

12.01.2012. Бацька ўзгадаў дзядзьку Вячаслава Рагойшы — Кастуся: «Ён у нас у вёсцы ў школе працаваў. Расказваў пра гісторыю Ракава, Валожына, Маладзечна. Ведаў, калі былі збудаваны ў Ракаве касцёл і царква. Вельмі граматны быў. Хадзіў у паліто і ў капелюшы...»

*Калі б...*

12.01.2012. «Калі б палякі прастаялі ў нас крыху даўжэй, то праз Пугачы праклалі б чыгунку. Па ёй у Аляхновічы ездзілі б пагранічнікі, а так у 1939 годзе прыйшлі Саветы — і ўсё ляснулі...» — бацька ўспомніў польскую ўладу...

*Бацька і пенсія*

13.01.2012. «Дзе мая пенсія? Ужо чатыры гады мне не прыносяць грошы! Пайду на пошту і скаргу напішу!» — кажа бацька. Я маўчу, бо калі пачну тлумачыць, што да чаго і што ён цяпер жыве ў горадзе у чужой кватэры, бацька ўспомніць пра вясковую хату, якая ўжо амаль тры месяцы пустуе...

* * *

13.01.2012. Мыш залезла ў слоік з малаком і ўтанула...

* * *

13.01.2012. Снег у галаве... Галава ў снезе...

*Яшчэ далёка да вясны...*

14.01.2012. Учора з-за снегападу доўга ехаў у бібліятэку Цёткі на выступленне ў паэтычным тэатры «Арт.С», дзе паспяхова, дзякуючы Аксане Спрынчан і Ярашу Малішэўскаму, распачаўся наш год Арэхавай Вавёркі. Седзячы ў тралейбусе і думаючы пра вясну, зарыфмаваў:

*Яшчэ далёка да вясны,*
*Яшчэ далёка.*
*І пра вясну нам сняцца сны,*
*Як пра Марока.*
*І снег, нібыта яблынь квет,*
*Ляціць з аблокаў.*
*І гэты белы-белы свет,*
*Як вершы Блока.*
*Яшчэ далёка да вясны,*
*Яшчэ далёка.*
*І мне ў твае не трапіць сны,*
*Як у Марока...*

* * *

15.01.2012. Пад снегам, як пад штукатуркай фрэскі, схаваны калюгі з умерзлай у лёд восеньскай лістотай...

### *Бацька і маці*

15.01.2012. Пра маму, якую цяпер даглядае мая сястра Валя, бацька не пытаецца, але, калі я часам пачынаю яго вучыць, як жыць у гарадской кватэры, ён кажа: «Мама добрая была...»

### *Майстар і Маргарыта*

15.01.2012. Дзякуючы Алесю Емяльянаву, які ўчора пакінуў флэшку з фільмамі, з Людмілай глядзілі югаслаўскі варыянт «Майстра і Маргарыты», што быў зняты ў 1972 годзе. Дзея адбываецца зімой. І калі трамвай адрэзаў Берліёзу галаву, я ўзгадаў свой запіс, зроблены 13 студзеня: «Снег у галаве... Галава ў снезе...» Цяпер я ведаю, як гэта выглядае...

### *Танцы на стале*

16.01.2012. Коля Ганьчын, станцаваўшы на стале ў сваёй былой нявесты, якая выходзіла замуж за другога, стаў танцаваць і на іншых вяселлях, куды прыходзіў сам ці клікалі. Праз нейкі час Колевы танцы набылі папулярнаць, і ўжо, калі вяселле праходзіла без танцаў на стале, яно лічылася няўдалым. Мой будучы бацька, сабраўшыся жаніцца, хацеў запрасіць Колю Ганьчынага сватам, але мая будучая мама не дала яму на гэта згоду, бо ў яе родных Лягезах моды танцаваць на стале не было...

* * *

17.01.2012. Прыходжу да бацькі на кватэру. Ён апрануты і абуты. Боты ўсцягнуты на босыя ногі. Правы бот на левую нагу, левы на правую. Пытаюся: «Куды сабраўся?» — «У вёску дамоў!» — «Чаго?» — «Бульбу садзіць!» — «Зіма ж яшчэ».— «Пакуль дайду, вясна будзе!»

* * *

17.01.2012. У скверы над снегам свецяцца ліхтары, як зімовыя гарлачыкі, якія распускаюцца, калі пачынае цямнець...

## *Прыходзіў мастак...*

18.01.2012. Прыходзіў мастак. Даволі вядомы. Прынёс афармленне кнігі. Паглядзелі, нібыта пабылі ў Савецкім Саюзе, дзе няма ні сексу, ні камп'ютараў, ні добрай паперы...

## *Свіння*

20.01.2012. Хлопец прыехаў у вёску, каб дапамагчы старым бацькам закалоць свінню. Закалоў. І бачаць — са швайкай у грудзях, на акрываўленым снезе, ляжыць брыгадзір, які восенню не даў старым каня, каб разараць бульбу...

## *Бацька і маці*

20.01.2012. «Мая Ніна ў мяне добрай бабай была!» — хваліцца бацька, даведаўшыся, што мама ўсё слабее і слабее. «Чым жа яна была добрая?» — пытаюся. «Камандавала! Ідзі есці! Ідзі на работу! Ідзі спаць!» — адказаў бацька...

## *Дома...*

22.01.2012. (Прыснілася). З электрычкі іду па снежным цаліку. На шэрым даляглядзе мае Пугачы. Выходжу на дарогу, па якой зрэдку праязджаюць грузавыя машыны і легкавушкі. Хачу пад'ехаць, але руку не падымаю, каб хто спыніўся, і ніхто не спыняецца. Падыходжу да роднай сялібы, а на месцы хаты стаіць сячкарня, з якой сыплецца і сыплецца белая сечка снегу...

## *Раней і цяпер...*

23.01.2012. На выхадныя мой малодшы брат ездзіў у вёску. Раней, выйшаўшы з хаты, гасцей сустракала мама з бацькам. Цяпер ранкам насустрач Вову з хлява, дзе яшчэ засталася салома, выбегла на некрануты снег, брэшучы, каля дзясятка незнаёмых сабак, сярод якіх быў і наш малы...

* * *

24.01.2012. На працы холадна. Паперы на сталах, як снег...

## *Малькі дыназаўраў...*

25.01.2012. «У яе зялёных валасах кішэлі вошы, як малькі дыназаўра ў водарасьлях марскіх...» — гэты радок з’явіўся, калі ў тралейбусе ўбачыў п’яную жанчыну з пафарбаванымі валасамі...

## *Сын*

25.01.2012. Зіма. Вечар. Каб крыху пагрэцца і паслухаць жывых паэтаў Анатоль Сыс прыйшоў на пасяджэнне «Літаратурнага прадмесця», якое праходзіла ў Музеі Янкі Купалы. Сядзеў спакойна, і яго ніхто не бачыў і не адчуваў. Калі пасяджэнне закончылася і ўсе паэты пакінулі памяшканне, дзяжурная вырашыла здаць музей на сігналізацыю і пайсці дахаты. І толькі жанчына захацела выключыць святло, як Сыс прамовіў: «Не пакідайце ж мяне, каб не ўмёрлі!» — «Хто вы такі?» — грозна запыталася дзяжурная. «Я — сын Янкі Купалы!» — адказаў Сыс. Жанчына не спалохалася. І з таго вечара ў музеі начуе сын Янкі Купалы...

## *Янішчыц*

26.01.2012. З Магілёва патэлефанавала аднакурсніца Яўгеніі Янішчыц Тамара Аўсяннікава з прапановай да 70-годдзя паэткі выдаць яе Збор твораў у 5-ці тамах. Дамовіліся, што яна, Калядка і сын Яўгеніі Іосіфаўны зоймуцца гэта справай. Ад Тамары Аўсяннікавай даведаўся, што продак Яўгеніі Янішчыц Герман Чугай у сярэдзіне XIX стагоддзя прыехаў у Беларусь з Германіі. Ажаніўшыся з мясцовай дзяўчынай, выгадаваў двух сыноў Паўла і Пятра. Адзін з іх і стаў прадзедам паэткі...

## *Ацяпленне і вечарына*

27.01.2012. Вечарам прыйшоў на кватэру да бацькі. У пакоях, як у лядоўні. Што такое? Гляджу, а награвальная калонка паравога ацяплення не працуе. Як яе ўключыць? Не ведаю. Інструкцыі аніякай. Пайсці да суседзяў? Гаспадыня казала, каб ні з кім не меў спраў. І пачаў сам уключаць. Недзе з паўгадзіны калупаўся, пакуль разабраўся, што да чаго. Ад бацькі дамоў вярнуўся амаль праз тры гадзіны, а збіраўся ж пабыць з паўгадзіны і паехаць у Музей гісторыі беларускай літаратуры на вечарыну, прысвечаную 10-годдзю суполкі «Літаратурнае прадмесце»...

*Бацька ўспомніў...*

27.01.2012. Пакуль прыбіраў у бацькавай кватэры, наслухаўся ўспамінаў. Упершыню даведаўся, што ў бацькі, акрамя брата Славіка і сясцёр Ноні і Галі, была яшчэ сястра Іра. Яна пражыла тры гады і памерла ад нейкай даваеннай эпідэміі. Тады ў Пугачах хварэлі амаль усе дзеці. Бацька хварэў таксама, але неяк ачухаўся, а Іра памерла. Пахавана ў Дубровах...

* * *

28.01.2012. Як крынічная вада, неба чыстае і халоднае, і самалёт у ім, як белая льдзінка...

* * *

28.01.2012. Сёння дома заўважылі, што ў нас яшчэ стаіць навагодняя ялінка. Прыбралі...

* * *

29.01.2012. Снілася мама. Маладая. Па-святочнаму апранутая. Прыехала на возе ў госці. Болей нічога не магу ўспомніць...

*Мікола Макарцоў*

29.01.2012. З рэжысёрам і акцёрам Міколам Макарцовым я пазнаёміўся, працуючы ў «ЛіМе», куды ён пры рэдактарстве Алеся Пісьмянкова прынёс свае вершы. Тое-сёе паправіўшы, мы прапусцілі некалькі твораў у друк. Мікола быў жыццярадасным і поўным рэжысёрскіх і паэтычных планаў. Па ягоных сцэнарыях прайшло шмат літаратурна-мастацкіх свят у абласных і раённых цэнтрах. У Міколы была адна вялікая мара выдаць сваю кніжку вершаў. І ён яе выдаў, і 24 студзеня на 64-м годзе жыцця памёр членам СПБ...

*Квяткоўскі і жарты*

29.01.2012. Вечарам да нас дахаты заходзіў Алесь Квяткоўскі, каб наш Максім яму перакінуў на камп'ютары здымкі з аднаго дыска на другі. Крыху пагаварылі пра мастацтва і новыя працы Алеся. Развітваючыся, я жартам прапанаваў земляку прыўнесці ў ягоныя карціны нечаканасцей. Так, у карціне «Балота» намаляваць Сабаку і Граждана, якія плывуць па балотнай

вадзе ў труне і назваць яе «Пераправа». У карціну, дзе наша зямлячка Канстанцыя Буйло, дамаляваць Уладку Станкавічанку і Паліну Мядзёлку, якія гуляюць у карты на распрананне. Тут жа на канапе пад белай прасцінай павінен ляжаць паэт у адным гальштуку і чакаць тую, якая прагуляецца да гала. Карціну назваць «Няроўны шлюб». Людміла ад душы пасмяялася, Алесь жа абяцаў скарыстацца маёй жартаўлівай прапановай...

### *Бацькаў выбар...*

30.01.2012. Сёння ад бацькі даведаўся, што ў яго ў пяцідзясятыя гады пасля службы ў Савецкай Арміі быў выбар: ісці працаваць участковым у Чысьці, што каля Ракуцёўшчыны, ці быць салдатам ізраільскай арміі, куды яго клікаў сябар Антон, што іміграваў з Савецкага Саюза. Бацька выбраў пасвіць кароў...

* * *

31.01.2012. У скверы каля дарожак з-пад снегу віднеюцца кучы пяску, як мурашнікі...

## ЛЮТЫ

### *Бацькавы суседкі...*

1.02.2012. Калі на кватэру, дзе зімуе бацька, прыходзіла гаспадыня, я пацікавіўся: «Хто тут жыве па суседстве?» — «За адной сценкай прастытутка, а за другой дзеўка з трымя малымі дзецьмі!» — адказала гаспадыня кватэры...

* * *

1.02.2012. У заснежаным скверы па сцяжыне, якую я праклаў да бацькі тыдзень назад, цяпер ходзяць людзі...

* * *

2.02.2012. Калі праходзіш міма маладой жанчыны, і ў мароз адчуваеш яе цеплыню...

### *Пісьменнік і вераб'і*

3.02.2012. Тэлефанаваў з Віцебшчыны пісьменнік. Жыве ў вёсцы. Мінулай ноччу было 33 градусы марозу. Казаў, што зімой корміць вераб'ёў і траціць на іх па 400 тысяч рублёў у месяц...

### *Мама! Матуля мая!*

4.02.2012. Слухаю і слухаю песню Сяргея Новіка-Пяюна «Мама! Матуля мая!». Плачу, бо бачу перад сабою сваю маму. Успамінаю Сяргея Міхайлавіча, з якім мы жылі побач і, калі прыходзілі да яго ў госці, ён нам спяваў гэтую песню. А цяпер спявае Адась Матафонаў. Цудоўна спявае! Цудоўна!!!

* * *

5.02.2012. Люда пайшла ў царкву. Максім яшчэ спіць. А я, вярнуўшыся ад бацькі, сяджу каля камп'ютара і цягаю інфармацыю, як з палонкі рыбу...

* * *

5.02.2012. Прачынаюся ў вёсцы ў роднай хаце. Холадна. Уключаю святло і бачу, што знаходжуся ў сваёй гарадской кватэры. Выключаю святло, і я ізноў у вясковай хаце і мне холадна...

*Бацька і кубак*

6.02.2012. Раніцай, прыйшоўшы да бацькі, убачыў, што на стале няма аднаго кубка. Было тры. Амаль гадзіну шукаў і не знайшоў. У бацькі пра кубак не пытаўся, бо зразумеў, што ён яго разбіў і схаваў. І толькі вечарам у калідоры за старой і непатрэбнай газавай плітой заўважыў адзін са схаваных аскалёпкаў кубка...

*Крыху вясновае...*

7.02.2012. Мароз марозам, а ў галаве па дарозе з працы зарыфмаваліся вясновыя радкі:

*О, як хачу табе я пазваніць,*
*Нібыта самы чорны лес спаліць,*
*Каб ён адразу неба асвяціў,*
*Дзе я табе ўсе зоркі прысвяціў.*
*Але табе я болей не званю,*
*Каб не парушыць нашу цішыню,*
*Што паміж намі, нібы чорны лес,*
*Які я пасадзіў, балбес...*

*Чатыры пакеты*

9.02.2012. Учора вечарам, калі ішоў на кватэру да бацькі, побач з ягоным домам у метрах дзесяці ад сметніцы, сярод шырокай сцяжыны, стаялі чатыры поўныя пакеты. Хацеў паглядзець, што там у пакетах, але пабаяўся, падумаўшы, што гэта, можа, якія бомбы. Праз паўтары гадзіны, калі ўжо ішоў дахаты, пакеты яшчэ стаялі, а сёння раніцай іх не было, і на дзвярах пад'езда я прачытаў абвестку: «Хто знайшоў чатыры пакеты з пультамі ад тэлевізара, просьба вярнуць за ўзнагароду...»

*Купала і малады чалавек*

9.02.2012. Прадаём факсімільнае выданне кнігі Янкі Купалы «Шляхам жыцця», якая ўпершыню выйшла ў 1913 годзе. І тут раптам малады чалавек пытаецца: «А вы часам не рэдагавалі Купалу?» — «Дык гэта ж факсімільнае выданне! І гэта ж Янка Купала!» — абураюся я. «Ну тады добра! А то некаторыя і ў

факсімільныя выданні ўносяць свае праўкі»,— кажа малады чалавек і купляе кнігу...

*Багдановіч і дзеці*

10.02.2012. На кніжнай выставе прэзентавалі кнігу з серыі «ЖЗЛБ» «Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы», якую склала Таццяна Шэляговіч. Прэзентацыю ўпрыгожылі і надалі ёй паэтычнасць вучні са школы № 185 літаратурна-музычнай кампазіцыяй па творах Багдановіча. Кіравала дзецьмі завуч школы Марына Емяльянава. Алесь Наварыч, які стаяў побач са мной, сказаў: «Гэта самае лепшае за тры дні выставы, што можна было тут пачуць і ўбачыць!»

*Кнігі...*

10.02.2012. Набыў кнігу Томаша Главінскага «Забыты гарнізон. Аддзелы Корпуса аховы памежжа ў Івянцы ў 1924—1937 гадах». Мне, як валожынскаму чалавеку, усё, што звязана з роднымі мясцінамі вельмі цікава. Чамусьці адразу пасля набыцця гэтай кнігі ўзгадалася, як недзе ў 1996 годзе я з нашым тэлебачаннем тры дні ездзіў па Валожыншчыне. Здымалі невялікія сюжэты пра маіх таленавітых, знакамітых і працавітых землякоў. У адной з вёсак каля Івянца былі ў хаце васьмідзесяцігадовага мясцовага інтэлігента. Ён гаварыў па-польску і вельмі радаваўся знаёмству са мной, бо чытаў мае вершы. На сценах у хаце віселі невялікія карціны і старыя фотакарткі ў рамках пад шклом. У зале стаяла піяніна, на якім нам гаспадар сыграў паланэз Агінскага. Развітваючыся, я запісаў адрас старога інтэлігента і абяцаў выслаць яму сваю кнігу. На жаль, не выслаў...

* * *

10.02.2012. На кніжнай выставе, як у Ноевым каўчэгу...

* * *

11.02.2012. Мароз. Мужчына з выставы нясе ахапку кніжак, як ахапку дроў...

*Працяг гасцявання...*

12.02.2012. Учора з Людмілай былі ў гасцях у цудоўных людзей, дзе было шмат нашых добра знаёмых і сяброў. Дамоў вярнуліся позна і ў вясёлым настроі. З лёгкасцю заснуў і прысніў

працяг нашага гасцявання, у якім, перад тым як разыходзіцца па дамах, паэтка А. прапанавала ўсім паглядзець, што там робіцца ў іншых гаспадарскіх пакоях, дзе мы яшчэ не былі. І мы пайшлі. Зайшлі ў адзін. А там буцік, у якім, каб мы ўсе змаглі выйсці з яго, трэба хоць нешта купіць. Людміла купіла прыгожы шалік, і мы пайшлі ў другі пакой, у якім паэтка А. выкупіла падарожжа ў маю вёску. На жаль, у вёску мы не трапілі, бо па лясной дарозе назбіралі грыбоў, з якімі вярнуліся да гаспадароў нашага гасцявання і аддалі на кухню смажыць. Потым мы ўсе зайшлі ў пакой, дзе я купіў матор з прапелерам, на якім можна лётаць. Хацеў усіх звазіць у вёску, але не было гаручага, і мы пайшлі ў наступны пакой. І толькі мы зайшлі ў пакой, як нейкі здаравяка схапіў спявака З. і, накінуўшы на яго сабачы ашыйнік з шыпамі, загнаў яму ў галаву велізарны мядзяны цвік. Крыві не было. У жаху ўсе разбегліся, а я прачнуўся...

* * *

12.02.2012. Раніцай вярнуўшыся дамоў ад бацькі, раптам падумаў, што забыўся выключыць газ, на якім грэў гарбату. І ўявілася мне, што сапраўды газ гарыць і вось-вось закончыцца вада ў чайніку, і пачнецца пажар. Амаль бягом вярнуўся да бацькі на кватэру. Зайшоў на кухню. Газ выключаны...

* * *

12.02.2012. Матылі — гэта парэшткі адзення памерлых...

### *Вечарам...*

12.02.2012. Вечарам з Людмілай сустрэлі трох музыкаў з інструментамі. Малы нёс велізарны кантрабас. Гледзячы на музыкаў, падумаў: «Відаць, вяртаюцца з пахавання... А можа, спазняюцца на вяселле...»

* * *

12.02.2012. Прачнуўся сярод ночы. І з нечаканай думкай, што ў вёсцы ў пустой хаце памерзлі вазоны, не мог доўга заснуць...

### *Белы і калекцыя*

12.02.2012. Жонка Анатоля Белага Ала Мікалаеўна праз Яўгена Гучка перадала мне каталог калекцыі прыватнага мастац-

кага музея Анатоля Белага ў горадзе Старыя Дарогі «Раскрылі крылы музы». Белы памёр, і ўсё багацце, што ён сабраў, засталося на роднай зямлі. А некаторыя баяліся даваць яму свае мастацкія творы...

## *Чорны кот*

13.02.2012. З суседняга пад'езда выйшаў чорны кот. Пастаяў, паглядзеў на заснежанае навакалле і пайшоў назад, мяўкнуўшы, нібыта сказаўшы: «Марцаваць яшчэ ранавата!»

## *Бабуля і ўнук*

13.02.2012. Ідучы праз сквер да бацькі, напаткаў бабулю з унукам гадоў пяці. Бабуля, ні на кога не звяртаючы ўвагі, гучна пыталася ў дзіцяці: «Колькі будзе пяць дадаць сем?» Малы ў адказ плакаў, а бабуля ўсё роўна не адчэплівалася: «Колькі будзе пяць дадаць сем?!» — «Дванаццаць!» — сказаў я і ўбачыў у сябе перад носам дзіцячы чырвоны пісталет, які бабуля, падышоўшы да мяне, дастала з кішэні чорнай курткі...

* * *

13.02.2012. У скверы зноў на лаўках з'явіліся любіцелі выпіць і закусіць на прыродзе. Відаць, болей маразоў не будзе...

## *Міша Сапега*

14.02.2012. На другі дзень кніжнай выставы Мікола Нікалаеў з Санкт-Пецярбурга, сустрэўшыся са мной, падарыў невялічкую кніжку, якую я тут жа паклаў у партфель і толькі сёння дастаў, каб паглядзець, што за падарунак атрымаў. А атрымаў я кніжку Мішы Сапегі «Рознае», якую на беларускую мову пераклаў Мікола Нікалаеў. Ва ўступным слове напісана: «Час пазнаёміць Беларусь з адметнай з'явай сучаснай піцерскай культуры. Гэта Міша Сапега — ён нарадзіўся ў раёне Маскоўскага праспекта, які за царом называўся Забалканскім праспектам. Дзед Мішы — Міхаіл Васільевіч Сапега, ураджэнец вёскі Сапегі Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці, пасяліўся тут каля 1929 г. і стаў шліфоўшчыкам на ваенным заводзе. Бацька Мішы Сапегі Генадзь Міхайлавіч і дзядзька Віктар Міхайлавіч сталі маракамі. І Міша Сапега стаў мараком. Ён вучыўся ў Макараўцы (зараз акадэмія імя адмірала Макарава) і дзеля практыкі нават хадзіў

матросам па вялікай сібірскай рацэ Калыме. Але пасля гэтага змяніў курс. Міхась далучыўся да «Міцькоў». Група «Міцькі» — гэта «піцерская» субкультура Ленінграда напярэдадні перабудовы і рэспектабельныя дзядзькі з настальгічнага Ленінграда ў Піцеры нашых дзён. На мяжы тысячагоддзя (1995—2011) часткай праекта «Міцькі» стала выдавецтва «Чырвоны матрос», заснаванае Мішам Сапегам. «Чырвоны матрос» выдаў каля двухсот кніг... З кнігай Сапегі ў дом прыходзяць невыдуманыя віды прыгожага і жывога Піцера, апалітычныя рэфлексіі з прахадных двароў нашага горада, успаміны дзяцінства і іранічная філасофія патомнага пецярбуржца з беларускім княжацкім прозвішчам». Не магу не працытаваць:

*Санкт-Пецярбург.*
*А ў маім Ленінградзе*
*столькі варон не было...*

*

*слухаючы музыку,*
*пальцы часам абпаліш,—*
*толькі тады і заўважыш,*
*што цыгарэта сатлела...*

* * *

14.02.2012. У бацькі выгляд, нібыта ён вываліўся з Ноевага каўчэга, і цяпер на чужой канапе плыве на Божы суд, не разумеючы, дзе ён і што адбылося з ім...

* * *

14.02.2012. І пастукала да бацькі ў акно варона, каб даць яму кусок сыру. А бацька паслаў варону падалей і застаўся галодным...

* * *

14.02.2012. Чорныя і светлыя птушкі, як чорныя і светлыя думкі, узляцелі з Пішчалаўскага замка...

* * *

14.02.2012. Жыццё з мамай, як вядро з жывой вадой, якое, абарваўшыся, падае назад у цемрыва студні, дзе вада як неба, і неба як вада...

* * *

15.02.2012. Сёння раніцай у 7 гадзін 15 хвілін памерла мая мама. 19 красавіка ёй было б 82...

## *Мама была добрая...*

15-16.02.2012. Свае апошнія паўгода мама жыла ў маёй сястры Валі. І я ўвесь гэты час кожную раніцу, ідучы да бацькі, баяўся тэлефонных званкоў...

«Як там наша мама? Жывая?» — пытаецца бацька. «Жывая. Але ўжо вельмі слабая...» — адказваю я, і ў гэты момант мой мабільны кліча да сябе. Тэлефануе брат Вова і паведамляе, што толькі што ў 7 гадзін 15 хвілін памерла наша мама...

Іду ад бацькі па ранішнім скверы, і ліхтары, якія яшчэ нядаўна былі, як апельсіны, бачацца свечкамі...

Дома яшчэ ўсе спяць. Нікога не буджу. Паўтараючы адно слова «мама», гляджу, як узыходзіць сонца, як залатая ікона...

Тэлефануе заплаканая сястра. Пытаецца, што будзем рабіць...

Тэлефаную ў Ракаў цётцы Марыі і прашу дапамагчы ў пахаванні...

Дзень праходзіць, як вечнасць...

Дзве крамы «Рытуальныя паслугі», якія паблізу нас, закрыліся назаўсёды...

Еду на Альшэўскага. Стаю на прыпынку. І раптам нехта мяне кранае за локаць. Паварочваюся. Анікога...

Вяртаюся дамоў з вянком, як са шчытом...

Люда і дзеці побач. Мамы няма...

Спрабую заснуць. Баліць сэрца, і я баюся не прачнуцца...

У шэсць гадзін я на кватэры ў бацькі. Пра маму нічога не кажу. Кармлю яго і ледзьве стрымліваю слёзы. Бацька ж паўтарае: «Мама была добрая...»

У восем гадзін выязджаем у Ракаў, дзе трэба ўсё падрыхтаваць да пахавання, пакуль маму ад сястры звозяць у Пугачы, каб прыйшлі аднавяскоўцы развітацца. Едзем моўчкі. Я ўсю дарогу гляджу на гадзіннік і на прыдарожныя слупы, па якіх даведваюся, колькі кіламетраў засталося да Ракава...

З цёткай Марыяй едзем да кафэ, дзе па дамоўленасці з гаспадыняй, якая жыве ў Мінску, будзе памінальная вячэра. Дзевяць гадзін. Кафэ на замку...

Цётка Марыя ідзе да жанчыны, якая працуе ў кафэ, каб даведацца, чаму няма гаспадыні, калі дамаўляліся сустрэцца ў дзевяць гадзін. Мінула дзесяць хвілін, дваццаць, паўгадзіны. Цётка не вяртаецца...

Тэлефануе сястра, і я даведваюся, што яны затрымліваюцца з выездам, бо аўтобус не заводзіцца...

Ідзём з Людай шукаць цётку Марыю. Не знаходзім...

У дзесяць гадзін з'явілася цётка, якая зайшла ў суседні дом з кафэ і загаварылася. У гэты час прыехала з Мінска гаспадыня кафэ. Тут жа патэлефанавала сястра і паведаміла, што яны выехалі...

Тэлефаную бацюшку, каб напомніць, што мы з ім дамовіліся на адпяванне на 12 гадзін. Не можа на гэты час, бо ён у Мінску ў епархіі. Дамаўляемся на 13...

У вёсцы каля нашай хаты сябраліся вяскоўцы, каб развітацца з нашай мамай...

У 12 гадзін з Пугачоў маму прывозяць у Ракаў. Мароз і сонца. У царкве, як у лядоўні. Агеньчыкі свечак, як з раю залатыя пчолы...

Бацюшка адпявае. Гляджу на маму і мне здаецца, што яна вось-вось сядзе і скажа: «Ну добра! Хопіць мерзнуць! Пойдземце на вуліцу, парадуемся сонцу!»

Дол для мамы выкапаны на ўзгорку. Гляджу на дно магілы, а там пакладзены яловыя лапкі, а праз іх свеціцца, як неба, вада...

«Тут усюды вада, бо месца крынічнае»,— кажа далакоп, і я ўспамінаю, што ў метрах трохстах адсюль стаіць каплічка са святой крыніцай...

Развітваемся з мамай. Цалую ў лоб і рукі. Чую голас цёткі: «Пацалуй маме ногі на ўдачу...» Цалую і праз слёзы бачу, што мама ўсміхаецца мне...

Вяртаемся дамоў і, як малітва, гучыць ува мне: «Мама была добрая...»

* * *

17.02.2012. «Як там мама?» — запытаўся бацька. «Ляжыць. Адпачывае...» — адказаў я і адвярнуўся, каб бацька не бачыў слёз...

## *Да мамы ў Ракаў...*

17.02.2012. Ранкам патэлефанавала сястра Валя і прапанавала: «Паехалі да мамы!» З учарашняга дня да мамы будзем ездзіць ужо не ў Пугачы, а ў Ракаў...

Люда і я сустрэліся з Вовам, Валяй і яе мужам Віцем на прыпынку «Каменная горка». Такой кампаніяй у дарогу да мамы мы сабраліся ўпершыню...

Раней за нас маму адведаў наш стрыечны брат, сын цёткі Марыі Ігар. Ён абгарадзіў магілу, каб і нашаму бацьку было месца каля мамы...

Успаміналі, якой была мама і якімі мы былі ў мамы. Выязджаючы з Мінска, планавалі пабыць з мамай хвілін пятнаццаць, бо марозна. Прабылі з мамай больш за гадзіну...

На могілках адведалі роднага брата мамы, мужа цёткі Марыі Паўла, які памёр ў 2003 годзе. Узгадалася, што, калі нашы бацькі пабраліся шлюбам, дзядзька Павел клікаў маладажонаў будавацца ў Ракаве. Бацька не захацеў пакідаць сваіх бацькоў, таму хату збудавалі ў Пугачах. Мама часта ўспамінала магчымасць жыць у Ракаве і шкадавала, што не паслухаліся Паўла. Цяпер яна побач з братам на Ракаўскіх могілках...

Заехаліся да цёткі Марыі, каб падзякаваць за дапамогу ў пахаванні і пачулі: «А я тут чытаю Псалтыр, каб Ніне было лягчэй».

Старэйшая маміна сястра Шурка другі тыдзень як у Ракаўскай бальніцы. Зайшлі да яе ў палату, і яна адразу нас усіх пазнала. Цётцы 89 год...

На пытанне: «Як жывяце?» — цётка Шурка адказала: «Жыву, як гарох пры дарозе. Усе шчыпаюць!»

Мама была добрай, з мамай было добра...

* * *

20.02.2012. *Няспешна вяртаюся з Храма,*
*І неба над мною, як мама...*

* * *

20.02.2012. Чытаю малітвы, нібыта праз вечнасць іду ў пошуках мамы...

* * *

20.02.2012. Магіла мамы стала для мяне цэнтрам маёй зямлі, маёй Беларусі...

* * *

21.02.2012. *Гэты свет, нібы двор прахадны,*
*Ад калыскі вядзе да труны...*

* * *

22.02.2012. Для мяне жыццё падзялілася на жыццё з мамай і без мамы...

* * *

23.02.2012. Сёння дзевяць дзён, як у мяне няма мамы...
*На слова «мама» мне ніхто не адгукнецца,*
*І пройдзе гэта ноч, і новы дзень пачнецца,*

*І буду я цяпер да скону сіратой,*
*Без мамы, як без сонца, без вады жывой...*

### *Сёння ў «ЛіМа» свята...*

24.02.2012. Сёння «ЛіМ» святкуе сваё 80-годдзе. Я ў ім адпрацаваў амаль дзесяць гадоў. Узгадалася першая публікацыя ў штотыднёвіку: «Калі я вучыўся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, жыў на вуліцы Змітрака Бядулі. Яна знаходзілася зусім блізка ад Захарава, 19, дзе была і ёсць рэдакцыя «Літаратуры і мастацтва».

На той час я ўжо друкаваўся ў «Чырвонай змене», наведваў «Маладосць», а ў літаб'яднанні «Крыніцы» мне параілі схадзіць у «ЛіМ». І я, сямнаццацігадовы, вырашыў знайсці гэтую рэдакцыю. У мяне звычайна часу не было: гэта ж не лета, калі дзень доўгі, а восень — тут і заняткі, і цямнее рана... Я ж вясковы хлапец, які прывык не бадзяцца па незнаёмым горадзе, тым больш што маці гаварыла — нікуды па вечарах не хадзі, сядзі дома. І я сядзеў у інтэрнаце.

Але неяк вечарам выпадкова праходзіў з сябрамі па вуліцы Захарава і заўважыў шыльду «Газета "Літаратура і мастацтва"». Запомніў. Пасля падрыхтаваў вершы, спецыяльна на заняткі не пайшоў і выправіўся ў «ЛіМ». Хадзіў-хадзіў недзе гадзіны дзве, усё там абышоў — не знайшоў. Цяпер толькі дзіву даюся — як жа можна было не знайсці?..

Калі ж адшукаў, адразу скіраваўся ў аддзел паэзіі. Там працаваў Юрась Свірка. Вершы мае ўзялі і сказалі зайсці праз месяц.

Я зайшоў праз месяц — Свірка кажа: «Не чытаў, братка. Зайдзі яшчэ праз два». Заходжу праз два — не чытаў. Праз тры месяцы — не чытана нічога. Цякучка (як і цяпер). Тады хоць і людзей ў штаце было многа, але не паспявалі чытаць.

Праз год прыходжу і чую — будзем друкаваць. У якім нумары? «А вось хутка будзе Ленінскаму камсамолу 60 гадоў...»

У тым нумары (27 кастрычніка 1978 года, № 43) надрукаваліся Пятрусь Броўка, Рыгор Барадулін, Васіль Зуёнак, Мікола Мінчанка, Уладзімір Васько, Вольга Русілка, Тадэвуш Чарнавус, Леанід Пранчак, Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Мазго, Леанід Якубовіч, Валерый Шкурын, Таццяна Дзмітрусёва і я. Верш называўся «На адкрыцці абеліска». Патрыятычны такі... Пад нумар падбіралі. Для мяне гэтая публікацыя была вельмі значная, бо я ведаў, што ў такім узросце на той час друкаваліся толькі 17-гадовы Анатоль Шушко і Алесь Разанаў, яшчэ школьнік. Хоць на год і выходзіла 52 нумары газеты, пачатковец мог туды

трапіць толькі ў сувязі з такімі вось датамі ці прадстаўляючы нейкае літаб'яднанне.

Наступная публікацыя ў «ЛіМе» адбылася толькі праз тры гады — 11 снежня 1981 года (№ 50). Да гэтага маё прозвішча ўпаміналася хіба што ў аглядах. Нумар быў прысвечаны нарадзе маладых у Каралішчавічах. На адным развароце змяшчаліся творы Алеся Жыгунова, Алега Мінкіна, Васіля Сахарчука, Валянціны Хамчук, Леаніда Галубовіча, Адама Глобуса, Міраслава Шайбака і мае.

*Ходзячы дарогамі зямнымі,*
*Прыкмячаю, што ў краях далёкіх*
*Гэтак, як і ў нас, красуюць кветкі,*
*Жыта спее, зелянеюць дрэвы,*
*Аднаго там не хапае — маці...*

З белымі вершамі тады наогул складана было. У Разанава не хацелі нават кніжку выдаваць.

Увесь час, калі я працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», патрабаванні да аўтараў былі вельмі высокія. Нават да старэйшых ставіліся строга. Лепшыя творы друкаваліся на восьмай і дзявятай старонках. А дванаццатую адводзілі для твораў «З літаратурнай пошты». І тут друкавалі тых, каго не маглі не друкаваць, бо стары, заслужаны, але на восьмую і дзявятую старонкі не дацягвае. Пра гэта ведалі толькі ў рэдакцыі. Гэта было даўно, але гэта было...

## *Мужык і Верка*

25.02.2012. «Мужык Верку Мацюшыкаву на ланцуг навязваў...» — расказвае бацька пра Пугачы. «Чаму?» — цікаўлюся я. «А таму што надта была красівая!» — адказвае бацька.

* * *

25.02.2012. Сёння паэту Алесю Пісьмянкову было б 55. Учора з гэтай нагоды ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася вечарына «Рыцар паэзіі». Восем год назад я быў маладзейшы за Алеся на тры гады, цяпер я старэйшы на пяць. Час ляціць! Выступоўцаў хапала, але, на жаль, аніводнага не было літаратара з сённяшніх маладых...

* * *

26.02.2012. Пагаліў і падстрыг бацьку. Ён увесь час быў маўклівы і сумны, як трынаццаты апостал, які заблудзіўся ў вечнасці...

*Свая гісторыя...*

26.02.2012. Нядаўна глядзеў па расійскім тэлебачанні, як дзве прыгажуні сур'ёзна разважалі пра вайну 1812 года. Адна дагаварылася, што Напалеон сканаў у Маскве ад пажару. Другая таксама паказала сваю мудрасць, сказаўшы, што помнік Мініну і Пажарскаму — гэта помнік двум мужыкам, адзін з якіх ставіў міны, а другі паліў Маскву...

*Сумна...*

26.02.2012. *Па дарозе ў Вільню*
*Менее бяроз.*
*Снег, як пілавінне,*
*Сыплецца з нябёс.*
*Ды не знікне тое,*
*Што павінна быць,*
*Бо яно святое,*
*Бо душа баліць*
*І за нашу Вільню,*
*І за шум бяроз,*
*І за пілавінне,*
*Што ляціць з нябёс...*

* * *

27.02.2012. Бацька расказвае пра золата, якое было ў Мацюшыкаў. На маё пытанне: «Дзе яно цяпер?» — бацька адказаў: «Што Пеця Мацюшыкаў не прапіў, тое бабы пакралі, якія да яго лезлі ў жонкі...»

*Бацька і Кукабэка*

29.02.2012. «Ці скора Вялікдзень?» — пытаецца бацька. «Яшчэ трэба пачакаць...» — адказваю я. «Падгаворым Кукабэку! У яго ёсць гармонік. І пойдзем у валачобнікі. Спачатку ў Еленку!» — працягвае бацька. «Колькі ж гадоў твайму Кукабэку?» — цікаўлюся. «Ды ён даўно памёр»,— чую ў адказ. «А як ён мёртвы пойдзе?» — «Калі добра падгаворым, дык і ён пойдзе!» — кажа бацька і пачынае расказваць, якім добрым гарманістам быў Кукабэка...

* * *

29.02.2012. Сёння чатыры месяцы, як бацьку прывезлі ў горад. Пра вёску амаль ужо не пытаецца. Жыве ўспамінамі пра час да сваёй жаніцьбы...

# САКАВІК

* * *

2.03.2012. «Мама хварэць не ўмела. Мама мая не хварэла...» — напісаў два радкі і спыніўся, бо спынілася маміна сэрца...

* * *

2.03.2012. Прыходзіў Вераціла, у якога трынаццаць зубоў. Прыводзіў падобнага на сябе мастака, у якога яшчэ амаль усе зубы...

* * *

2.03.2012. «Дзед у сенцах гнаў самагонку — расказвае бацька.— Раніцай прыходзілі мужыкі пробаваць. Пробавалі цэлы дзень...»

* * *

2.03.2012. Яшчэ зусім нядаўна думаў, што мама дажыве да часу, калі прыйдзе Бог і скажа: «Усе, хто дажыў да сённяшняга дня, будуць здаровыя і будуць жыць вечна!»

* * *

2.03.2012. Думаю толькі пра маму. Стараюся не заглыбляцца ва ўспаміны і гэтым ратуюся ад слёз...

* * *

2.03.2012. Без мамы жыць цяжка. Глыбіню гэтых слоў зразумеў, страціўшы маму...

* * *

2.03.2012. Ужо сёння мама планавала б, у які дзень будзем садзіць бульбу...

*Лёнька*

4.03.2012. Даведаўся, што амаль месяц назад у Татарскіх памёр Лёнька Якаўлеў. Яму было 53 гады. У школе ў мяне з ім былі добрыя адносіны. Падчас службы ў войску Лёнька ўпаў з вышкі і, атрымаўшы траўму галавы, быў камісаваны. Жыў пры маці, якая працавала паштальёнкай, і, калі застаўся адзін, быў пад наглядам аднавяскоўцаў...

*Мама і «Звязда»*

4.03.2012. Мама амаль 50 гадоў выпісвала газету «Звязда». І свае першыя вершы, калі мне было 12, я паслаў у гэтую газету. Апошнія тры гады «Звязду» выпісваў бацька, хоць яе і не чытаў. Выпісваў для мамы. Цяпер «Звязду» ў вёсцы і бацька не выпіша...

* * *

4.03.2012. Мне на дзень народзінаў мама падарыла цёплыя скураныя пальчаткі. Прыехаўшы дамоў, захацеў пахваліцца маміным падарункам. Гляджу, а пальчатак няма. Згубіў. З таго дня мінула больш за дваццаць гадоў...

* * *

5.03.2012. Сёння тры гады, як мама атрымала інсульт. Бацька не разабраўся, што адбылося, і мама амаль суткі праляжала на ложку. І, каб не зайшоў вясковец, мама б ужо тады памерла, а так выклікалі «хуткую», на якой маму завезлі ў Ракаўскую бальніцу, дзе і адратавалі. Потым мама ўспамінала пра інсульт: «Раптам у вачах шуганула маланка — і я ўпала. Болей нічога не памятаю».

*Свідруюць...*

5.03.2012. На месцы разбуранага філфакаўскага інтэрнату пачаліся падрыхтоўчыя работы да новага будаўніцтва. Ужо два тыдні машыны свідруюць зямлю і бяруць пробы грунту. Свідруюць, нібыта шукаюць нафту...

*Аньця Бельская*

6.03.2012. Аньця Бельская была партызанкай. Пасля вайны працавала піянерважатай у Пугачоўскай школе, дзе вучыўся малодшы брат майго бацькі Славік. Аньця мела кніжку пра Канька-Гарбунька. І аднойчы яна дала яе пачытаць Славіку. Дома кніжку

Славік чытаў услых і, слухаючы казку пра Канька-Гарбунька, бацька запомніў яе на ўсё жыццё. Аньця ж выйшла замуж у Гарадок за Гарбачоўскага, які працаваў настаўнікам у Пугачах. І сёння, слухаючы пра Канька-Гарбунька, мне ўзгадалася, як перад сном бацька часта расказваў гэтую казку мне і маім малодшым сястры і брату. Ад успаміну стала светла і сумна...

* * *

7.03.2012. Глядзеў тэлевізар. На пару хвілін задрамаў. Прыснілася мама. Светлая. Добрая. Прачнуўшыся, успомніў толькі два маміны словы: «Пішы... Запісвай...»

* * *

8.03.2012. Ніколі ў маёй сям'і ў вёсцы 8 Сакавіка не было вялікім святам, але заўсёды мы віншавалі маму. Сёлета ўпершыню мы не павіншуем маму...

* * *

9.03.2012. Неба чыстае, як шкло на іконе...

* * *

9.03.2012. Кожны вечар чытаем малітвы. Люда сваю, а я сваю. І я спакойны за маміну душу...

* * *

9.03.2012. Тры гады таму ў гэты дзень я ішоў у Ракаўскую бальніцу да мамы. Гэтак жа, як і сёння, свяціла сонца і неба было чыстым, але тады была мама, а цяпер яе няма. І я ў думках іду да мамы ў Ракаўскую бальніцу...

Па дарозе да Ракаўскай бальніцы бачу, як на возеры растае лёд і шум вады, якая цячэ пад мостам, запаўняе мне душу невыказнай самотай. І раптам мабільны тэлефон напамінае мне, што сёння працоўны дзень. Незнаёмы пытаецца пра свой рукапіс. Я прызнаюся, што яшчэ не чытаў, бо не было часу. Мужчына злуецца, і я кажу, што іду да мамы ў бальніцу і мне цяпер не да вершаў...

У палаце мама не адна. Усе бабулькі, як толькі я зайшоў, прыселі і пачалі глядзець на мяне, як на саломінку, якая раптам з'явілася на іх рацэ часу і за якую можна ўхапіцца і не патануць. Маме нядаўна ставілі кропельніцу, і яна мне паказвае руку, дзе застаўся велізарны сіняк ад уколаў. Плача. Спрабуе нешта расказаць, але ў яе не атрымоўваецца, і яна зноў плача. Побач з

маміным ложкам на падаконніку стаіць букет. Мама, убачыўшы, што я гляджу на кветкі, кажа: «Салім... Салім...» І я разумею, што гэта Вовін сябра Салім прыязджаў і павіншаваў нашу маму, а мама Саліма далёка-далёка ад Беларусі...

У бальнічнай палаце змрочна. Мама, не кранаючыся нагамі падлогі, сядзіць на ложку, як на краі свету...

Мама, стоячы на каленях на бальнічным ложку, глядзіць праз акно і махае мне ўслед рукой. І мама ў аконнай раме, як на іконе...

Каля мамінага бальнічнага акна лётае голуб, як анёлак...

* * *

9.03.2012. Лета. Мне шаснаццаць. Мама прыехала ў Мінск, і я з ёй разам упершыню хаджу па крамах у пошуках абновак для мяне. Мама ў запыленых туфлях і ў паношанай куртцы, і я саромлюся мамы...

...Мне хутка пяцьдзясят. Мама пасля інсульту жыве ў мяне. Апрануўшы маму ў што ёсць у яе, выводжу на вуліцу. І, узяўшы маму пад руку, іду з мамай, як з каралевай...

### *Бацька і міліцыя*

9.03.2012. Вярнуўшыся з войска, бацька пайшоў у Радашковічы, каб стаць на вайсковы ўлік. Там яго ўгаварылі быць міліцыянерам у Чысьці з перспектывай працы ў Маладзечне. Вечарам бацька вярнуўся дамоў. Бабуля Параска, убачыўшы сына ў форме міліцыянера, адразу ж закрычала: «Не хапала нам тут паліцыянтаў! Заўтра ж раніцай пойдзеш і здасі гэтае барахло!» І назаўтра бацька пайшоў у Радашковічы і здаў назад міліцэйскую форму...

* * *

12.03.2012. Прыходжу да бацькі. Бацька сядзіць цёпла апрануты, трымаючыся за колік, з якім яго прывезлі з вёскі. Не паспяваю запытацца, куды гэта сабраўся, як чую: «Звадзі ты мяне ў Амерыку! Тут па радыё ўсё гавораць і гавораць пра Амерыку, а я там ні разу не быў!»

* * *

13.03.2012. Амаль кожную раніцу, калі прыходжу да бацькі, чую: «Ты там каня напаі! Дай два вядры вады і каб не халодная была!» Відаць, бацька думае, што я прыязджаю да яго на кані і, як ён у свой час, працую на ферме падвозчыкам кармоў...

* * *

14.03.2012. Здаецца, гэта было ўчора, калі мама, жывучы ў нас, чакала мяне з працы. Цяпер дома мяне чакае мамін партрэт...

* * *

15.03.2012. Раніцай бацька даў мне заданне: «Купі дзесяць мяшкоў цэменту. Будзем рабіць склеп. Пара абжывацца ў горадзе!» — «А дзе будзем капаць?» — пацікавіўся я. «У двары! Там не будзе зацякаць вада. А тут пад вокнамі балота стаіць!» — адказаў бацька і нагадаў, што трэба купіць дзесяць мяшкоў цэменту...

* * *

16.03.2012. Не магу супакоіцца ад пытання: «Чаму ўчора на вечарыне памяці Янкі Сіпакова не было анікога з родных?» Тое, што яны займаюцца бізнесам і вельмі занятыя — гэта не прычына...

* * *

17.03.2012. У вёсцы ў нашу пустуючую хату ўжо нехта лазіў. У шафах узламаны дзверцы. Бачна, што злодзей шукаў і выбіраў, што яму ўкрасці, няспешна, не раскідваючы рэчы, як у час ператрусу...

### *Навошта бібліятэкі?*

18.03.2012. У інтэрв'ю Людміле Рублеўскай вядомы расійскі пісьменнік, літаратурны крытык і загадчык аддзела культуры «Российской газеты» Павел Басінскі (дарэчы, мы з ім адначасова вучыліся ў Літінстытуце) сказаў: «У Амерыцы ў любым гарадку ёсць шыкарная бібліятэка. Чытачоў няма, а бібліятэка ёсць. Ведаеце, чаму? Таму што ў Амерыцы лічаць, што бібліятэка — гэта фундамент дэмакратыі. У бібліятэцы ўсе роўныя, таму што могуць усе атрымаць любую кніжку, любую газету, любую інфармацыю пра свет...»

* * *

18.03.2012. У мяне праз тыдзень дзень народзінаў, але ўжо ўчора мастак Алесь Квяткоўскі мяне павіншаваў і падарыў карціну, якую напісаў паводле майго верша: «Неба — гэта возера святла, на дне якога занесеная ветрам жоўтая лістота з райскага саду...» Сёння Алесь прыходзіў паглядзець, куды ягоны падарунак я прыладзіў...

*Пытанне...*

18.03.2012. Ідучы да бацькі на кватэру, каля крамы, дзе прадаюцца моцныя напоі, прачытаў пытанне, напісанае на асфальце рознакаляровай крэйдай: «Мама, ты любіш мяне?»

*Не ведаю...*

18.03.2012. Хутка будзе пяць месяцаў, як я з лыжкі кармлю бацьку. Сёння ён быў нейкі не такі, як звычайна, і называў мяне Славікам. І я запытаўся: «Скажы, як мяне завуць?» — «Не ведаю...» — адказаў бацька. На пытанне: «Хто я для цябе?» — бацька таксама сказаў: «Не ведаю...» І ўзгадалася, што, калі я нарадзіўся, бацька хацеў назваць Славікам, але мама назвала мяне Віцем, і я стаў Віцем...

*Дзеці і кніжкі*

21.03.2012. Раённы цэнтр. У кнігарню, куды мяне запрасілі выступіць, прывялі дзяцей з дзіцячага садка. Пакуль я расказваў казкі, дзеці панабіралі кніжак і, калі я закончыў выступаць, малыя пабеглі на вуліцу, а следам за імі кінуліся прадаўцы, каб забраць неаплочаныя кніжкі. Хвілін пятнаццаць каля магазіна стаяў дзіцячы крык і плач...

* * *

21.03.2012. Спрабую ўспомніць нумар тэлефона, па якім тэлефанаваў бацькам у вёску. Не ўспамінаецца. Замест лічбаў у памяці бачу маму з бацькам...

* * *

22.03.2012. *Нашая мама была залатая...*
*Мама пра гэта не знала й не знае...*
*Бог ёй пра гэта ніколі не скажа,*
*І ці пачуе ўжо мама нас наша*
*Там у раі, дзе усе, як святыя,*
*І дзе ўсе мамы душой залатыя...*
*Нашая мама была залатая!*
*Мама і сёння нас дома чакае...*

* * *

23.03.2012. Сонечна. З-за дома даносяцца крыкі падобныя на крыкі варон. Заходжу за дом і бачу дзяцей з дзіцячага садка...

## *Сорак дзён*

24.03.2012. Заўтра будзе сорак дзён па маме. А сёння ў Ракаве ў царкве збіраліся сваякі на памінальную службу. Мы з Людай і Максімам у Ракаў заехалі дзякуючы нашым сябрам Іне і Алегу, які завёз нас на машыне. Выехалі а палове восьмай. У Мінску было два градусы цяпла, а ў Ракаве два градусы марозу. За намі ў Ракаў плыло сонца, як маміна душа...

У Ракаве каля царквы сустрэлі майго брата Вову. Ён прыехаў раней на гадзіну на аўтбусе Мінск—Пугачы, на якім ездзіў у вёску да мамы, пакуль яна там жыла...

Забраўшы з дому цётку Марыю і заехаўшыся да майго стрыечнага брата Ігара, паехалі ў царкву, дзе нас ужо чакала сястра Валя з мужам і дзецьмі.

Служба адбывалася ў царкоўным прытворы. Падлога ў ім драўляная і пафарбаваная ў руды колер, як у нас дома пафарбаваная мамай...

З прытвора ў царкву час ад часу хадзілі жанчыны, якія прыслужваюць у царкве. Дзверы рыпелі, як у нас дома з сенцаў у кухню і з кухні ў сенцы, калі мама рыхтавала для сям'і ежу...

У прытворы печка цёплая, як у нас дома, калі яе распальвала мама...

Служба ішла чатыры гадзіны. Думаў, што да канца не дастаю і не дастаяў бы, калі б не мама...

На могілках каля мамы ўжо новыя перасяленцы. І ўсе маладзейшыя за яе...

На вярбе каля мамінай магілы зажаўцелі коцікі, як залатыя кропелькі мамінай душы...

На магіле зямля адтала і, патрэскаўшыся, крыху асела, нібыта не вытрымала колькасці вянкоў і кветак...

Цётка Марыя з нявесткамі паспявалі маме святыя песні. Мама іх пачула...

Я зазірнуў у гушчыню вянкоў, нібыта захацеў пераканацца, што гэта не сон, а ява, і на крыжы прачытаў: «Шніп Ніна Міхайлаўна. 19.04.1930—15.02.2012».

У мамы пры жыцці было кароткае прозвішча і кароткае імя, і сама мама была невысокага росту, і гэта была мая МАМА...

За памінальным сталом успаміналі маму, і мама слухала нас...

Вярталіся дамоў ад мамы, і сонца, як маміна душа, было над Ракавам...

### *Сашка Буры*

25.03.2012. Ад стрыечнай сястры Ані з Крапіўнікаў даведаўся, што перад мінулым Новым годам павесіўся мой сябра дзяцінства Сашка Буры. Напачатку, недзе праз тыдзень пасля пахавання цёткі Манькі, ён спаліў сваю хату. Потым Сашка перабраўся на нейкі час у Пугачы да Амельяніхі, а вярнуўшыся ў Крапіўнікі, жыў у чужой пакінутай хаце. Быў на саракавінах па цётцы Маньцы. Аня тады добра яго пакарміла і надавала паесці з сабой. Калі яда скончылася, Сашка ўключыў па ўсёй хаце святло, каб людзі, якія яшчэ засталіся жыць у Крапіўніках, заўважылі, што ён павесіўся...

* * *

25.03.2012. Паведамляю бацьку: «У Крапіўніках Сашка Буры павесіўся!» І чую: «Ну й дурны!!!»

* * *

25.03.2012. З хворай мамай было цяжка, а без мамы яшчэ цяжэй...

### *Сонечны ранак...*

26.03.2012. Сёння мой першы дзень народзінаў без мамы, але мама павіншавала мяне, падарыўшы мне сонечны ранак...

### *Экспромт ад Барадуліна*

26.03.2012. Пераглядаў старыя паштоўкі. Сярод іх знайшоў ад Рыгора Барадуліна:

*Калі б, калі б, калі б*
*Такія ўсе былі,*
*Як годны Віктар Шніп,*
*Сьвятлела б на зямлі!*
*дзядзька Рыгор*

*P. S.*
*Хай доўжыцца вярста*
*Ад сарака да ста!*

*26.03.2000*

* * *

26.03.2012. Каля сцяжыны, па якой хаджу да бацькі на кватэру, сёння расцвіў дзьмухавец. Дзьмухавец, як прывітанне ад мамы. І я сарваў кветку, і прынёс дамоў...

*Валодзя Ціханчык*

27.03.2012. Валодзю Ціханчыка я ведаў мала. Ён быў старэйшы за мяне на восем гадоў. Апошні час жыў адзін у вёсцы Татарскія, што ў трох кіламетрах ад маіх Пугачоў. Усё жыццё працаваў трактарыстам і, калі хто прасіў, мог за пляшку, вяртаючыся дахаты, скінуць мяшок мукі ці зерня. Мінулай восенню Валодзя пайшоў на пенсію і тады ж згарэў у роднай хаце. Родных у Валодзі нікога не было, і яго хаваў сельсавет...

* * *

29.03.2012. Гляджу праз аконнае шкло і праз маму на вуліцу, дзе вясновы дождж ідзе...

* * *

29.03.2012. Учора выступаў на літаратурна-мастацкай вечарыне ў бібліятэцы, якая знаходзіцца зусім блізка ад дома, дзе жыву. Прэзентавалі карціну Алеся Квяткоўскага «Кош», якую ён намаляваў паводле майго верша. Людзей было нямнога, чалавек трыццаць. З іх два — не старыя мужчыны, а ўсе астатнія — пенсіянеркі. Нязвыкла было выступаць перад такой аўдыторыяй, але ўсё прайшло нармальна. Я чытаў вершы, Алесь расказваў пра свой «Кош», а Вікторыя Ільінская спявала песні на мае і Людмілы Рублеўскай вершы. Ідучы на вечарыну, думаў, што праз гадзіну вярнуся дамоў, а затрымаўся на тры з паловай...

* * *

30.03.2012. «Ёсціка бабы горш, чым вошы, бо прыстаюць да таго, хто мае грошы!» — заявіў бацька, успамінаючы памерлага Пецю Мацюшыкава, у якога было золата...

* * *

31.03.2012. Я прывык, што да мяне людзі звяртаюцца, як да дзядзькі, як да бацькі, як да дзеда. Сёння жанчына, старэйшая за мяне на гадоў дзесяць, падышла і сказала: «Хлопчык, дай закурыць!..»

# КРАСАВІК

* * *

1.04.2012. Над невялікім штучным азярцом, якое завецца Мухляй і зусім блізка ад нашага дома, лётаюць чайкі. Праходзячы побач азярца, думаю пра мора і маму, якая пражыла амаль 82 гады і ніколі не была на моры. А каля нашай Мухлі я вадзіў маму за руку...

## *«Блакітны сьвін» і госці...*

1.04.2012. Учора быў на ўручэнні «Блакітнага сьвіна», якое праходзіла ў невялічкім кафэ «Квін» на вуліцы Мяснікова. Урачыстасць пачалася а палове другой і ўжо ў дзве гадзіны Людміла Рублеўская ўручыла Наталцы Кучмель, Юліі Новік, Юрасю Нератку і Георгію Барташу належныя ім узнагароды. І толькі было расстаўлена па століках разлітае з дзвюх пляшак шампанскае і разнесены чатыры талеркі з бутэрбродамі, як у кафэ зайшоў высокі здаравенны мужчына ў форме рабочага, але ў даволі чыстай, і сеў на ўваходзе за столік. Афіцыянтка тут жа паднесла яму меню. Мужчына выбраў піва. Седзячы за столікам, незнаёмы выглядаў, як самы галоўны сярод нас, і хутка, праслухаўшы вершы Наталкі Кучмель, сказаў па-беларуску: «Канчайце гаварыць на трасянцы!» Пару чалавек з нашых нешта жартоўнае адказалі незнаёмаму, і ён пачаў далей павучаць нас, як трэба чытаць вершы. Юліі Новік мужчына прапаноўваў залезці на крэсла і адтуль выступаць. Мы зноў пасмяяліся і перасталі звяртаць увагу на нашага «настаўніка». Хутка да мужчыны прыйшоў другі мужчына гэтак жа апрануты, і яны пачалі шаптацца. Афіцыянтка прынесла меню. Другі мужчына палістаў яго і, дапіўшы піва свайго сябра, выйшаў. Першы мужчына яшчэ паслухаўшы, што мы гаворым і некалькі раз сфатаграфаваўшы нас на мабільнік, не разлічыўшыся, пакінуў кафэ. Следам за незнаёмым выбегла афіцыянтка і прымусіла яго разлічыцца. Незнаёмец думаў, што

тут «всё включено» і яму ні за што плаціць не трэба. Праз хвілін дзесяць першы мужчына зноў зайшоў да нас і, падышоўшы да барменнай стойкі, пачаў прасіць афіцыянтку, каб яна з ім выйшла пагаварыць. Напарнік афіцыянткі не пусціў дзяўчыну, сказаўшы, што ёй няма часу размаўляць. Яшчэ крыху нешта пабубнеўшы, незнаёмец пакінуў кафэ. На маё пытанне, што гэта былі за нечаканыя госці, Юрась Нераток сказаў: «Хахлы са Львова!»

## *Чаму?*

1.04.2012. Да нас шпакі прылятаюць ярка-чорныя, як пазалочаныя, а адлятаюць проста чорныя, як паношаныя дзіцячыя чаравікі...

* * *

1.04.2012. Знічка, як пісьмо ад мамы, якое не даляцела да мяне...

* * *

1.04.2012. У пад'ездзе дома, дзе дажываюць свой век адзінокія старыя, драўляныя паштовыя скрынкі, як макеты трун, прыбітыя да сцяны...

* * *

2.04.2012. Дзень пачаўся з зімовай завірухі. Прыходджу да бацькі і чую: «Як там бедныя шпачкі?»

* * *

2.04.2012. У скверы па дарозе да бацькі сёння снежна і поўна чаек. І любіцелі выпіць, якія гучна гамоняць, здаюцца мне марскімі ваўкамі...

* * *

2.04.2012. Сёння было неба чорнае, як зямля, а зямля была белая, як неба. А я ішоў да бацькі, успамінаючы маму...

* * *

3.04.2012. З акна на працы ўвесь год бачыў, як будаваўся трыццацідвухпавярховы дом. Нарэшце, здаецца, будынак завершаны, і цяпер ён другі месяц апранаецца ў шкло, нібыта зацягваецца лёдам...

* * *

4.04.2012. Прыходзіў мастак, які ўжо шаснаццаць гадоў піша вершы. Творы цікавыя і месцамі вельмі нядрэнныя. Праўда, рыфмы не ўсе дакладныя. Амаль паўгадзіны давялося даказваць, што «рэдзька — феня» і «река — вода» не рыфмуюцца... Разышліся мірна...

* * *

4.04.2012. Кармлю бацьку з лыжкі, і ён на мяне глядзіць, як на Хрыста. А я ж усяго бацькаў блудны сын...

* * *

5.04.2012. Выступаў перад школьнікамі восьмага класа ў бібліятэцы № 6, што на вуліцы Алега Кашавога. Імпрэза была прысвечана юбілеям Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ці то жартам, ці то ў сур'ёз на пытанне супрацоўніцы бібліятэкі: «Хто першым ацаніў творы Купалы?» — адзін з вучняў адказаў: «Пушкін!» Праўда, тут жа некалькі ягоных аднакласнікаў выгукнулі: «Купала і Пушкін жылі ў розныя часы!» Прыемна было даведацца, што сярод прысутных ёсць дзяўчына, якая піша вершы. Піша пабеларуску і нядрэнна для яе ўзросту. Вяртаючыся дамоў, хацеў заглянуць у кнігарню, у якую я раней нярэдка заходзіў. Кнігарні няма. На месцы кнігарні крама абутку...

* * *

5.04.2012. Іржавы каналізацыйны люк у калюзе, як савецкая капейка, якая вырасла пад вясновым сонцам...

*Жыццё і вершы*

6.04.2012. Паэт Глеб Артханаў (Юра Аляксееў) прыехаў на пару тыдняў дамоў з Санкт-Пецярбурга, дзе зарабляе грошы для сям'і, працуючы архітэктарам і мастаком-рэстаўратарам. Пры сустрэчы гаварылі пра бацькоў, якія ў нас засталіся адны. Бацька Юры жыве ў Ялце і яму 84 гады. Паэт баіцца, што цяпер у любы дзень можа так здарыцца, што яму давядзецца кінуць усё тут і ехаць да бацькі, каб даглядаць яго. На развітанне Юра падарыў мне сваю новую кнігу вершаў «Зеркальный ковчег». Я разгарнуў яе і адразу ж напароўся на радкі:

*Я умер — узнали не скоро —*
*На юге в конце февраля.*
*Мятутся шторма в эту пору*
*Сквозь розовый дым миндаля...*

*На ялтинском кладбище горном*
*Под сизую зелень огня,*
*В лазурь, в родовые просторы —*
*К отцу положили меня...*

* * *

6.04.2012. Бацька ўспомніў, што ў вёсцы засталося ў лядоўні сала. А як мяне завуць — не ўспомніў...

* * *

7.04.2012. Бацька, даведаўшыся, што ў вёсцы ягонае сала пакралі, сказаў: «Злодзея трэба злавіць і расстраляць!» Пра расстрэл бацька гаварыў два дні, а сёння, калі я ўжо адчыніў дзверы, каб ісці дамоў, сказаў: «Не трэба расстрэльваць!»

* * *

7.04.2012. Сыплецца снег, як змерзлы дым з комінаў вясковых хаты...

* * *

7.04.2012. Мы, як вузлы ў сетцы, на якой над прорвай нябыту наша Беларусь...

### *У межах двара...*

7.04.2012. У двары кантэйнеры поўныя смецця. Да іх падляцелі галубы. Тут жа праз хвіліну іх прагналі з двара чайкі, а чаек прагналі вароны, а варон прагналі бамжы. І толькі шэрыя вераб'і не ўцякаюць за межы двара...

### *Свята*

8.04.2012. Сёння католікі святкуюць Вялікдзень, праваслаўныя — Вербную, а каля тралейбуснай станцыі «Лермантава»

жэсаўскія рабочыя ўжо да васьмі гадзін раніцы назграбалі кучы смецця і бруднага пяску. Узгадалася, што мама не прымушала нас, дзяцей і бацьку, наогул нешта рабіць нават у звычайную нядзелю, калі можна было тое зрабіць у буднія дні...

* * *

8.04.2012. Прынёс бацьку некалькі галінак вярбы і пачуў: «Праз тыдзень Вялікдзень...»

* * *

8.04.2012. Сніліся Лягезы. Я з хаты прыйшоў у сад. Сонечна. І раптам загудзелі звышгукавыя самалёты, час ад часу пікіруючы на вёску. Я схаваўся пад яблыню. Успомніў маму — і навокал стала ціха...

* * *

8.04.2012. Дзеці былі малыя, і мы, іх бацькі, самі былі, як дзеці. І хацелася нам, як дзецям, сустракацца, і мы сустракаліся з такімі ж маладымі бацькамі, і было нам усім пра што гаварыць і чым заняцца разам. Дзеці выраслі, і цяпер мы сядзім сумныя і разумныя па сваіх кватэрах, як ахоўнікі таго, чаго ўжо няма і ніколі не будзе...

* * *

9.04.2012. Іду дахаты і бачу, што на лавачцы каля пад’езда сядзіць мама. Падыходжу... Мама, але не мая...

* * *

9.04.2012. Бацька пра маму ўжо не пытаецца, нібыта ведае, што мамы няма...

* * *

9.04.2012. Кучы смецця і бруднага пяску, якія былі ўчора з самага ранку нагрэблены каля дыспетчарскай станцыі «Лермантава», сёння яшчэ не звезены. І трэба было на Вялікдзень зганяць людзей на працу?

* * *

10.04.2012. Каля сцежкі, што вядзе на кватэру да бацькі, зацвілі дзьмухаўцы. Раніцай, убачыўшы іх, хацеў сарваць і занесці бацьку. Не сарваў, падумаўшы: «Няхай лепей расквітнеюць!» Вечарам ужо дзьмухаўцоў не было — нехта сарваў...

* * *

11.04.2012. Апошнім часам бывае, што прыходзіш да бацькі, а ён на дыване ляжыць, як памерлы. Прыслухаешся, прыгледзішся. Дыхае! І сам пачынаеш дыхаць...

* * *

12.04.2012. Па запрашэнні сястры Уладзіміра Марука Вольгі Буйневіч выступаў у СШ № 203 перад настаўнікамі Першамайскага раёна Мінска, якіх хвалюе тое, што дзеці ўсё меней і меней чытаюць кніжкі. З Вольгай узгадалі Валодзю. Ужо трэці год, як яго няма...

*Помніцца...*

12.04.2012. Сёння дзень народзінаў празаіка Алеся Масарэнкі. Я пра гэта ўзгадаў, калі глядзеў па тэлевізары фільм пра Гагарына. У свой час Алесь Герасімавіч ганарыўся тым, што нарадзіўся ў Дзень касманаўтыкі. І, калі я патэлефанаў яму, ён адразу пазнаў мяне па голасе. У наступным годзе Масарэнку будзе 75 гадоў. А мне помніцца, як на пачатку 90-х гадоў пры «Чырвонай змене» Алесь Герасімавіч кіраваў літаб'яднаннем «Крыніцы» , як дамогся, каб для моладзі пачаў выходзіць часопіс «Першацвет», на старонках якога многія сёння вядомыя пісьменнікі пачыналі свой творчы шлях, і на старонках якога былі надрукаваны першыя апавяданні Людмілы Рублеўскай...

* * *

13.04.2012. Гледзячы на першую красавіцкую траву, зарыфмавалася балючае:

*...Мама стане травою,*
*Мама будзе жывою,*
*Пакуль будзе трава*
*І нябёс сінява*
*Над зялёнай травою,*
*Як над мамай маёю...*

* * *

14.04.2012. Мама на Вялікдзень заўсёды пякла шмат булак, і амаль усе яны былі вялікія. Вялікія, як сонца. І цяпер для мяне сонца ў небе, як вялікая велікодная булка ад мамы...

* * *

14.04.2012. На лаўцы каля пад'езда мужыкі з самага ранку пачалі піць гарэлку. З пад'езда выйшла жанчына і прагнала іх. На месца мужыкоў неўзабаве селі хлопцы гадоў дваццаці і пачалі піць піва, і ніхто не выйшаў з пад'езда і не прагнаў іх...

* * *

14.04.2012. Тонкія свечкі, як стрэлы з артбалета...

*Хрыстос уваскрос!*

15.04.2012. Бацька быў першым, з кім я сёння адзначыў Вялікдзень. Дамоў вяртаўся, праслухаўшы святочную песню ў выкананні бацькі...

* * *

15.04.2012. Першы Вялікдзень без мамы сумны і светлы. І, здаецца, што мама недзе блізка, нават побач, але яна не паказваецца і назірае, як мы далей без яе ў гэтым свеце жывём...

* * *

15.04.2012. Устаючы з-за святочнага стала, бацька кажа: «Мама была добрая...» І я за бацькам паўтараю, як малітву: «Мама была добрая...»

* * *

15.04.2012. Бацька, як апошні з магікан, еў паляндвіцу з хрэнам...

*Лётчык і хлопчык*

16.04.2012. Сніўся сон, што я ў вёсцы каля роднай хаты стаю і гляджу, як высока-высока ў небе ляціць самалёт. І тут раптам самалёт запыняецца і праз хвіліну падае на зямлю, і ўзрываецца. «Чаму гэта лётчык не катапульціраваўся?» — пытаюся ў незнаёмага хлопчыка і чую ў адказ: «Гэта ж быў паэт!»

* * *

17.04.2012. У вёсцы памерла наша суседка Манька Генява. Апошніх пяць гадоў яе даглядала дачка Жанна. Цётцы было 85. Цяпер у цэнтры Пугачоў амаль ніхто не жыве са старых жыхароў, і вёска стала, як дрэва з вымерлай сэрцавінай...

*Віталь Гарановіч*

17.04.2012. Сёння на 61-м годзе жыцця памёр паэт Віталь Гарановіч. Яшчэ зусім нядаўна, а гэта было на пачатку года, ён заходзіў да мяне ў выдавецтва — прыносіў вершы ў зборнік «Глыбоччына літаратурная», які плануецца да Дня беларускага пісьменства. Узгадалі, як мы пазнаёміліся ў час святкавання 30-годдзя Алеся Жыгунова, у 1984 годзе. Віталь тады працаваў у школе, і я змог пабыць у яго на ўроках і выступіць перад вучнямі. Потым нярэдка сустракаліся ў «ЛіМе», дзе я працаваў з Алесем Пісьмянковым. Пашкадавалі Алеся, які так рана і нечакана памёр. Апошнія гады Віталь Гарановіч працаваў у раённым прафсаюзе работнікаў адукацыі і, дзякуючы гэтаму, час ад часу прыязджаў у Мінск і наведваў сяброў і знаёмых...

* * *

18.04.2012. Заўтра ў мамы дзень народзінаў. Маме было б 82. Мне ўпершыню не трэба баяцца, што забудуся павіншаваць...

* * *

18.04.2012. Бацька, як Ван Гог, любіць сланечнікі, але пра Ван Гога анічога не ведае...

* * *

18.04.2012. Вераб'і ў траве, як рудыя вошы ў фарбаваных валасах...

*Шляхамі сейбітаў і ратаяў...*

19.04.2012. У Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя М. Багдановіча адбылася навукова-краязнаўчая канферэнцыя «Шляхамі сейбітаў і ратаяў», прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння паэтаў Максіма Танка і Пятра Бітэля. Арганізаваў усё і правёў краязнаўца Міхась Казлоўскі...

Вячаслава Рагойшу, Людмілу Рублеўскую і мяне ад станцыі метро «Каменная горка» забраў на машыне Уладзімір Мароз. Усю дарогу да Маладзечна ішоў дождж і мы сядзелі ў машыне, як у падводнай лодцы...

У бібліятэцы холадна. Слухачоў сабралася шмат, але ўсё роўна было холадна...

Гледзячы на партрэты Танка і Бітэля, узгадаў святкаванне 70-годдзя Ніла Гілевіча, калі ён выступаў у гэтай зале гадзіны тры і народу было паўнютка...

Пра радавод Пятра Бітэля павінна была расказаць ягоная ўнучка Тамара Бярэзіна. Яна не змагла, бо на мінулым тыдні трапіла ў бальніцу. Чакалі, што замест яе прыйдзе і прачытае даклад яе маці Ала Пятроўна. Не прыйшла і яна, і не прыйшоў сын Бітэля Андрэй Пятровіч. І мы падумалі, што ў іх дома яшчэ нешта здарылася. А калі закончылася канферэнцыя даведаліся, што Бітэлі пераблыталі час пачатку канферэнцыі і збіраліся ў бібліятэку на 17 гадзін...

Пасля канферэнцыі паехалі праз Валожын у Вішнева. Ехалі доўга. Мужчыны жартавалі, жанчыны смяяліся...

На Вішнеўскіх могілках нас чакаў бацюшка, які правёў службу па Пятру Бітэлю і ягонай жонцы Ніне Пятроўне, а таксама не забыўся і пра Канстанцыю Буйло. Малітва ляцела ў неба, а з неба ляцеў дождж...

Спыніліся каля хаты Пятра Бітэля. Хата прададзена і ў ёй жыве старая. На выхадныя да яе прыязджае сын. Убачыўшы нас, гаспадар выйшаў на вуліцу, павітаўся. На пытанне Валянціны Гіруць-Русакевіч, як ён глядзіць на тое, што на хату будзе прымацавана памятная дошка, мужчына адказаў станоўча...

Касцёл, дзе доўгі час гаспадарыў ксёндз Уладыслаў Чарняўскі, быў зачынены. І мы, набраўшы вады са святой крыніцы і пакланіўшыся праху ксяндза Уладыслава, пайшлі ў аўтобус. І як толькі мы селі ў аўтобус і зрушыліся з месца, адчыніліся дзверы Храма і на вуліцу выйшаў цяперашні ксёндз...

У Вішнеўскім Доме культуры наведалі бібліятэку. Кожны з прыезджых пісьменнікаў на асобнай паліцы ўбачыў сваю кнігу...

Вярталіся праз Валожын. Па дарозе да Маладзечна Міхась Казлоўскі хацеў заехаць да сваёй любімай настаўніцы, якой ужо 88 гадоў і пазнаёміць усіх нас з ёю. Шафёр адмовіўся ехаць...

* * *

20.04.2012. Вечарам праз балкон да цябе ў кватэру на святло заляцеў матыль, каб пагрэцца. А ты яго забіў...

* * *

21.04.2012. Хацеў абстрыгчы бацьку пазногці. Ён не даў і паглядзеў на мяне, нібыта я захацеў яму рукі адрэзаць...

*«Сонцаварот» Марыі Вайцяшонак*

21.04.2012. Люда прынесла дахаты новую кнігу Марыі Вайцяшонак «Сонцаварот» з дэдыкацыяй. І я цяпер чытаю, і балдзею ад вось такіх радкоў: «Голуб белы, як слова з боскіх вуснаў, ляціць ад алтара проста да мяне...», «З табой пагавару бы высушу пасля цёмнай ночы падушку на сонцы», «Ваш зборнік на століку каля майго ложка; ноччу я пэўна трымаю вас за руку, каб перайсці з рыфмы дня ў сон белага верша...», а такіх цудоўных радкоў у кнізе нямала. Шкада, што Маша вершы пачала пісаць толькі некалькі гадоў назад...

* * *

22.04.2012. У старога мазгі ператварыліся ў дзіцячую хвічку...

* * *

22.04.2012. У сне з памерлым Антонам Мікалаевічам (мой траюрадны брат) лічыў грошы. Налічылі 150 тысяч даляраў...

* * *

22.04.2012. Апошні снег, як белая атава...

*На Кальварыйскіх могілках...*

23.04.2012. Сонечна. У дванаццаць гадзін з Людай пайшлі на Кальварыйскія могілкі...

Могілкі прыбраны. Выразана шмат старых дрэў, і цяпер, дзе былі галінастыя кроны, агалілася неба, нібыта на Храме месцамі разабрана страха...

Абход пісьменніцкіх магіл заўсёды пачыналі з Алеся Асташонка. На гэты раз каля магілы Алеся Пісьмянкова здалёку ўбачылі Уладзіміра Ягоўдзіка і Анатоля Зэкава. Падышлі, і я, забыўшыся, запытаўся: «А Валодзя Марук прыйдзе?»

На ўваходзе на могілкі прадаюцца кветкі. Накуплялі букетаў пісьменнікам і назаўтра маме...

Каля магілы Янку Лучыне стаялі два мужыкі і спрачаліся, якой магла б быць Беларусь. Я паклаў на магілу кветкі і спакайнейшы мужчына сказаў: «Дзякую!»

Падышлі да магілы Вячаслава Адамчыка. Якраз былі Ніна Уладзіміраўна і Міраслаў. Пагаварыўшы, я іх і Люду сфатаграфаваў на памяць...

Пастаялі каля магілы Ніны Гілевіч. Дзве цукеркі, як два анёльскія пацалункі, былі пад крыжам...

Хутка будзе чатыры гады, як памёр Генадзь Кісялёў. Помнік чорны, а памяць светлая...

Алесь Траяноўскі на ўскрайку могілак. І хоць ў спадара Алеся не засталося нікога з родных, магіла ягоная дагледжаная...

У метрах дзесяці ад Кальварыйскіх могілак па вуліцы Берута пад ліпамі маленечкія магілкі, абкладзеныя камянямі і каляровымі пліткамі — тут закапаны сабакі і каты...

Хвілін пятнаццаць ішоў дождж. Цёплы і светлы...

## *Радаўніца ў Ракаве*

24.04.2012. Дзякуючы сябрам Барысу і Людміле і іх машыне, я з Людай і Вовам наведалі маму...

Ракаўскія могілкі густа абстаўлены машынамі. Машыны, нібыта жалезныя чаўны вакол вострава нябыту...

Машыну пакінулі на ўзбочыне дарогі і пайшлі да мамы напрасткі па полі. Ідучы, узгадаў: «Жыццё пражыць — не поле перайсці...»

Маміну магілку Вова ўчора прыбраў, і нам сёння нічога не давялося рабіць. Запалілі свечку, Люда пачытала малітву, і мы памаліліся. І я пабачыў маму і слёзы на яе вачах. Не ўсе прыехалі...

Непадалёк ад могілак святая крыніца. Людзі бяруць ваду, як вечнасць...

Мама пахавана на ўзгорку. У метрах дваццаці ад мамы тыдзень назад быў выкапаны дол, але чалавека не змаглі там пахаваць, бо з зямлі прабілася крыніца...

Мяміна магілка абгароджана так, каб потым можна было пахаваць каля мамы бацьку. Праўда, я намераў зямлі каля мамы яшчэ на чатыры магілы...

Адразу ж каля мамінай магілы кустоўе, у якім мы разгледзелі некалькі старых ўтравелых помнікаў. З аднаго даведаліся, што тут пахаваны людзі, якія памерлі сто гадоў назад. Значыць, і дзе пахавана мама, таксама месца не пустое, але забытае...

Ходзячы па кустоўі і расшукваючы старыя помнікі, Людміла знайшла гняздзечка з трыма блакітнымі яечкамі, як кропелькамі неба...

Развітаўшыся з мамай, вырашылі знайсці магілу літаратуразнаўцы Тамары Чабан. Магілу не знайшлі, але сярод кустоў, дзе заканчваюцца цяперашнія могілкі, знайшлі цагляную браму, праз якую сто гадоў назад людзі хадзілі на могілкі. Цяпер за брамай трава і кусты, і зрэдку ў траве бачны каменныя помнікі, як акамянелыя мачты караблёў, што плылі ў вечнасць...

Наведалі магілу мамінага брата Паўла. Ідучы да машыны, нечакана сустрэлі цётку Марыю з нявесткамі. Родныя душы...

На могілках усе і мёртвыя, і жывыя, як сваякі...

Пасля чатырох гадзін людзі пачалі раз'язджацца па дамах і над могілкамі, дзе былі пакінуты памерлым вялікодныя яйкі і цукеркі, закружыліся груганы. Закружыліся, як над полем бітвы...

## *У Смаргонь да чытачоў*

26.04.2012. З Людмілай ездзілі ў Смаргонь, дзе ў музычнай школе цэнтральная раённая бібліятэка арганізавала сустрэчу чытачоў з намі...

Дзень для мяне пачаўся ў шэсць гадзін з дажджу і дарогі да бацькі. Ішоў па мокрым асфальце і ўвесь час баяўся наступіць на чарвякоў, якія павыпаўзалі з зямлі, нібыта цяпер чэрвень. Баяўся наступіць не таму, што гадка, а таму, што чарвякі жывыя...

У Смаргонь маршрутка ад'ехала ў 9 гадзін з «Каменнай горкі». Білеты па 30 тысяч. Пасажыраў назбіралася 10 чалавек...

Праязджаючы каля Ракава, узгадаў Радаўніцу, калі мы ездзілі да мамы. Усё навокал зелянее, а мама ўжо гэтаму не радуецца. Цяпер у яе свае радасці...

Указальнік на Яршэвічы. Узгадаліся вёска Крапіўнікі і цётка Манька, маміна старэйшая сястра, якая памерла 9 лістапада мінулага года, пражыўшы 93 гады. Калі маме сказалі пра тое, што яе сястра памерла, мама ўжо не заплакала, бо ёй самой заставалася пражыць крыху больш за тры месяцы...

Вёска Доры. Раней тут быў калгас, якім кіраваў Сямён Шарэцкі і які доўгі час хацеў наш «Бальшавік» далучыць да сваёй гаспадаркі. У маіх Пугачах амаль усе баяліся далучэння і самога Шарэцкага...

У Дорскай школе гадоў дзесяць таму я выступаў з Людмілай. Запрашалі яшчэ, але не атрымалася пад'ехаць...

На ўзлессях яшчэ сівая трава...

Некаторыя людзі ўжо садзяць бульбу. А ў нас дома ў Пугачах у гэтым годзе будзе расці трава...

За спінай у нас сядзела маладая пара. Хлопец усю дарогу весяліў дзяўчыну. Запомнілася з іх гамонкі: «У нас у Беларусі

амаль усе дамы пафарбаваны ў зялёны і жоўты і зрэдку ў сіні колеры». І сапраўды...

Праязджаючы праз Крэва, бачылі буслоў і чырвонарудыя сцены замка...

У бібліятэцы нас чакалі. Сустрэлі, як сваіх даўніх сяброў...

На сустрэчу з намі ў музычную школу прыйшло каля ста чалавек. Вядучыя хораша вялі імпрэзу. Была музыка, было шмат пытанняў, а сваіх вершаў мы так і не пачыталі...

Едучы назад, каля Крэва ўбачыў азярыну. Захацеў даведацца назву ў жанчыны, якая села ў маршрутку ў Крэве і пачуў: «Ніяк не называецца! Проста Крэўскае возера!»

Зноў каля Ракава думаў пра маму і Пугачы без мамы...

Дзень закончыўся сонечна і дарогай да бацькі і дамоў...

*Бачна з акна...*

27.04.2012. У двары на дрэвах пачала распускацца лістота і дамы, што насупраць майго, хаваюцца ў зелені, нібыта зацягваюцца зялёнай павутой...

* * *

28.04.2012. На кватэру, якую здымаем для бацькі, прыходзіла гаспадыня. Да сустрэчы мы з бацькам, як маглі, падрыхтаваліся, і атрымалі ад гаспадыні тры яблыкі, як узнагароду...

* * *

29.04.2012. У сем гадзін раніцы, ідучы да бацькі на кватэру, убачыў каля прыёмнага пункта шклатары ў дзіцячым выгульным вазочку бамжа, які спаў. А палове дзявятай я вяртаўся ад бацькі. Бомж яшчэ спаў, як дзіця...

* * *

29.04.2012. Ноччу ў двары каля дома, дзе жыве бацька, зацвілі слівы і вішні. Адламаўшы белую ад квецені галінку, прынёс бацьку. Цяпер і ў бацькі ў кватэры вясна...

* * *

29.04.2012. Дзякуючы сябрам, былі за горадам, як у свеце, у якім заўсёды добра, бо там мы бываем рэдка...

* * *

29.04.2012. Сёння паўгода, як бацька жыве ў горадзе. І я за гэты час, ходзячы да бацькі на кватэру і назад, прайшоў амаль 1000 кіламетраў...

* * *

29.04.2012. Гарачыня пад 30. Хадзіў босы і не адчуваў зямлі пад нагамі...

* * *

30.04.2012. Прачнуўся сярод ночы і доўга не мог заснуць, думаючы пра родную пустую хату ў вёсцы, якая можа праз тыдні два зарасці травой і бызьнягом...

* * *

30.04.2012. Учора, відаць, перагрэўся на сонцы, бо сёння з ранку баліць сэрца. А на вуліцы каля пад'езда сядзіць старая суседка. Ёй летам будзе 85. Гляджу на старую і бачу ў ёй сваю маму...

* * *

30.04.2012. Па старых могілках ходзяць людзі, як мёртвыя...

*Расказала супрацоўніца*

30.04.2012. «Іду я дамоў праз сквер і раптам чую за спінай дробнае «тук-тук-тук-тук-тук-тук...» Адварочваюся і бачу малога сабаку ў баціначках!»

# ТРАВЕНЬ

## *Максім*

1.05.2012. У 10 гадзін 35 хвілін дзевятнаццаць гадоў таму нарадзіўся сын Максім. Вага была — 3 500, рост — 54 см. Цяпер Максім студэнт Акадэміі мастацтваў...

## *Да 100-годдзя Купалы...*

2.05.2012. Быў час, быў век, была эпоха... Трапіўся ў рукі часопіс «Полымя» № 6 за 1982 год. Амаль усе матэрыялы прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы, і яны друкуюцца пад рубрыкамі «Ідзе, таварышы, камуна», «Вам на памяць серп і молат...» і «З цэлым народам гутарку весці...»

## *Пісьмянкоў луг*

2.05.2012. Атрымаў запрашэнне на I абласное свята паэзіі і аўтарскай песні «Пісьмянкоў луг», якое пройдзе 19 мая ў вёсцы Бялынкавічы Касцюковіцкага раёна. Пачатак у 10 гадзін. Усё цудоўна, але, мне здаецца, што сам Алесь Пісьмянкоў (мы з ім былі знаёмыя і сябравалі амаль трыццаць гадоў) быў бы засмучаны, што запрашэнне ў свет ягонай паэзіі зроблена на рускай мове...

## *Банкамат і былы сусед*

2.05.2012. Вяртаючыся ад бацькі, захацеў зняць з карткі грошы. Падыходжу да банкамата і чую: «Прывітанне, паэт!» Гляджу і бачу перад сабой былога суседа, які ў свой час працаваў у банку. Гадоў дзесяць назад сусед развёўся з жонкай і знік з майго жыцця. «Прывітанне! Куды ідзеш і адкуль?» — спытаў я і пачуў: «Іду з поўдня на поўнач!» — «Як справы?» — пацікавіўся я. «Як бачыш, нармальна!» — «Дзе працуеш?» — «Галоўнае, не дзе працаваць, а колькі атрымоўваць!» — «Згодны!» — «Тая вунь серабрыстая

машына — мая! Купіў новую! Абрыдла купляць патрыманыя!» — паказваючы на ўзбочыне дарогі на шыкоўную машыну, сказаў сусед. І тут падышла мая чарга да банкамата. Я паглядзеў, колькі ў мяне грошай на картцы, і, нічога не зняўшы, развітаўся з былым суседам...

*Новая зямля...*

3.05.2012. У восьмым класе вясной вывучалі «Новую зямлю» Якуба Коласа. Чытаў дома. Я быў вельмі ўражаны гэтым творам і асабліва мяне кранула канцоўка, дзе апісваецца смерць Міхала. Захапіўшы паперу і аловак, я пайшоў у забалочаны лясок, што быў непадалёк ад нашай хаты. Там, абхапіўшы бярозку, доўга сядзеў на купіне сярод вады і прыдумляў працяг «Новай зямлі». Па сённяшні дзень у памяці засталіся радкі:

*Вада бяжыць.*
*Навокал ціха,*
*І недзе Міхал*
*Ў зямлі ляжыць...*

* * *

4.05.2012. З галавы не выходзіць думка пра родную хату. Па дарозе ад бацькі зарыфмавалася:

*Зялёны агонь у зялёнай траве*
*Наш дом асвяціў, дзе ніхто не жыве.*
*І ў дом я заходжу, нібыта ў той свет.*
*Гаршкі і каструлі парадам планет*
*Стаяць прада мною на пыльным стале,*
*І муха, як чорны анёл, у святле*
*Лятае самотна...*

* * *

6.05.2012. Яшчэ зусім нядаўна словы «дзеці», «дзіцячы садок», «школа», «вучоба» былі ў мяне самымі ўжываемымі, а пасля смерці мамы на першы план выйшлі «мама», «бацька», «магілкі»...

* * *

6.05.2012. Бацька ўспомніў, што да яго ў вёсцы гадоў пяць таму прыходзіў сусед і, узяўшы ножык, па сённяшні дзень не аддаў. Сусед у мінулым годзе памёр...

* * *

6.05.2012. Пад вокнамі ў двары распусціўся белы бэз. У мінулым годзе на яго глядзела мама і паўтарала: «Прыгожа... прыгожа...»

*Суседзі*

7.05.2012. Вяртаючыся ад бацькі, трапіў на вочы суседа Дзімы: «Пазыч чырвонец!» І толькі я хацеў зманіць, што грошай няма, як з-за куста бэзу выйшаў мой другі сусед, які нядаўна засяліўся ў наш пад'езд, і Дзіма тут жа заявіў: «Знаёмся! Гэта наш паэт Віктар! Жонка ў яго вядомая мастачка!» — «Яна большая за мяне пісьменніца!» — запярэчыў я, але, атрымаўшы ад мяне чырвонец, суседзі далей не захацелі высвятляць хто я і хто мая жонка...

* * *

8.05.2012. У выдавецтва заходзіў празаік Алесь Савіцкі. Бадзёры, энергічны, нягледзячы што яму 87 гадоў. Казаў, што ўсюды пішуць, што ён з 1924 года, але дакладна ён нарадзіўся ў 1925. Год нараджэння ён сам памяняў, каб у час вайны ўзялі ў партызанскі атрад. Гаворачы пра вайну, Алесь Ануфрыевіч успомніў, як ён выплаўляў тол са снарадаў: «Тол выцякае і тут жа застые і на ім з'яўляюцца карункі, як ад марозу на шыбах. Такі вось прыгожы твар смерці...»

*Любоў*

8.05.2012. Мужчына ўдаўся вельмі раўнівы. Аднойчы, прыраўнаваўшы жонку да вясковых мужыкоў, зрабіў пятлю і сілай стаў прымушаць каханую здзейсніць самагубства. Жанчына ў пятлю сама не палезла і, уцёкшы з дому, заявіла ў міліцыю на мужа. І, калі мужу далі пятнаццаць сутак, жанчына, забраўшы аднаго кабанчыка і пакінуўшы ў хляве другога, перайшла жыць да маці. Вярнуўшыся з пастарунка дамоў, і ўбачыўшы, што застаўся адзін, мужчына так раззлаваўся, што, узяўшы каністру з бензінам, абліў хату, хлеў з кабанчыкам, легкавушку і мінітрактар, і ўсё падпаліў. І калі прыехала пажарная, мужчына з крыкам «Я люблю яе!» і са стрэльбай у руках анікога не дапусціў тушыць пажар. Скончылася ўсё тым, што ўсё згарэла, а мужчыну забралі ў дурдом. Цяпер, падлечаны мужчына, жыве ў сваёй маці, а на пажарышчы расце быльнёг...

* * *

8.05.2012. Хата, спаленая маладым Піліпчыкам, раней належыла Вінцэсю Трацяку. Хата была вялікая і ў ёй, калі мой бацька быў маладым, збіралася моладзь і ладзіла танцы. Танцавалі пад гармонік, скрыпку і бубен. «На бубне іграла баба!» — кажа бацька і ўсміхаецца...

* * *

9.05.2012. Віншую бацьку з Днём Перамогі і чую: «Дзякую, але я не ваяваў!»

* * *

10.05.2012. Узрост ужо такі, што цяпер ідзеш па могілках, як па вясковай вуліцы. З помнікаў, як з акон, глядзяць родныя, сябры, суседзі...

* * *

10.05.2012. Знаёмы расказвае гісторыі пра тое, як у маладыя гады ягоныя аднагодкі аднавяскоўцы пакінулі гэты свет. Слухаю і не вельмі жахаюся, бо падобныя смерці былі і ў маёй вёсцы...

* * *

10.05.2012. Чытаю ў Анатоля Грачанікава:

*Нахмурыла хата чало,*
*Цяпер яна нібы чужая.*
*Маё гаманкое сяло*
*Маўкліва мяне сустракае...*

*Як цяжка вяртацца дамоў,*
*Як вусцішна робіцца ў хаце,*
*Калі ты дажыў да грудкоў,*
*Спачылі дзе бацька і маці...*

Цяпер, пасля смерці мамы, і я ведаю пачуццё, якое прымусіла паэта напісаць гэтыя радкі. На жаль, і самога Анатоля Грачанікава (1938 — 1991) няма сярод нас ужо больш дваццаці гадоў, а сёлета яму 8 верасня было б яшчэ ўсяго 74...

* * *

10.05.2012. Зноў тапалёвы пух! Але ўсё непаўторна ў гэтым свеце, і для мяне сёлетні тапалёвы пух, як лютаўскі снег, калі памерла мама. І гэты снег лётае так, што аж хочацца разбіць неба...

* * *

10.05.2012. Іду да бацькі праз сквер. На лаўках там-сям сядзяць адзінокія дзяўчаты і жанчыны, а па скверы бадзяюцца п'яныя мужыкі. Узгадалася, як у Маскве мы з аспірантам Андрэем Тусічышным пасля заняткаў хадзілі па Цвярскім бульвары і знаёміліся з дзяўчатамі, якія сядзелі на лаўках...

* * *

10.05.2012. У вёсцы дома ўжо была б пасаджана бульба, калі б жыла мама...

* * *

11.05.2012. Упершыню за паўгода жыцця ў Мінску ў чужой кватэры бацька сказаў: «Мне тут добра!» — «Чаму?» — запытаўся я і пачуў: «Накормлены і ніхто не крычыць!»

*У чарзе...*

12.05.2012. На пошце стаяў мужчына гадоў 70. Стары смярдзеў і смярдзеў так, што паміж ім і астатнімі ў чарзе да касы было метры два. Ён адной рукой трымаў добра паношаныя штаны, бо звальваліся, а другой разлічваўся за камунальныя паслугі. Стары быў абуты ў ірваныя белыя чаравікі на босыя ногі. Расплаціўшыся, ён гучна падзякаваў касіршы і ўсім хто стаяў у чарзе пажадаў добрага здароўя і цярпення. Стары пайшоў, а ў паштовым пакойчыку застаўся ягоны смурод. Маладая жанчына, якая стаяла перада мной, прашаптала: «Відаць, былы інтэлігент...»

* * *

12.05.2012. З Лягез тэлефанавала цётка Стася. Ад яе даведаўся, што 6 мая мамінаму брату Віцю было 79 гадоў. Нядаўна, узлазячы на воз, дзядзька ўпаў і пабіў бок. Адчувае сябе не вельмі, але пасадзілі грады і бульбу. У Лягезах на сённяшні дзень жыве чатыры чалавекі...

* * *

13.05.2012. Наш Максім апошнімі днямі хадзіў на фестываль «Мельніца моды». Учора вечарам былі аб'яўлены вынікі конкурсу, на якім Максімава сяброўка з калекцыяй касцюмаў і сукенак «Шляхам ветру» (дарэчы, так называецца адна з маіх кніг) заняла другое месца, і наш Максім гэтую падзею з сябрамі адзначаў, і ўпершыню дамоў прыйшоў у 6 гадзін раніцы...

* * *

16.05.2012. Добра напісаны раман часцей за ўсё, як збудаваны замак, а напісаны верш часам, як шпакоўня, у якой, бывае, жывуць толькі вераб'і...

* * *

16.05.2012. Учора быў настрой для вершаў і ў мяне атрымаліся вось гэтыя радкі:

*За сценкаю смяецца дзеўка маладая,*
*Сама не спіць і не дае табе заснуць*
*У час, калі чаромха з бэзам зацвітае*
*Пад небам, дзе гавораць зоркі пра вясну.*
*І ты не спіш і, гледзячы ў імглу начную,*
*Ты хочаш думаць пра Айчыны сумны лёс,*
*Але ты думаеш пра дзеўку маладую,*
*Што весела смяецца аж да слёз...*

* * *

17.05.2012. Даведаўшыся, што мы рыхтуем кнігу пра трохразовага алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Мядзведзя, нам у выдавецтва патэлефанавалі з алімпійскага камітэта Беларусі і, пачуўшы мяне, мой суразмоўца тут жа, выгукнуўшы: «О, вы гаворыце на мове!», працягнуў са мной размову па-беларуску...

* * *

17.05.2012. Прыходзіла Раіса Баравікова з просьбай перапісаць на дыск тэксты яе выдадзеных у нас кніг і асобных публікацый у зборніках: «Хачу, каб, калі што са мной здарыцца, а ў мяне ўжо ўзрост невясёлы, дзецям было меней клопатаў з маімі творамі!»

* * *

18.05.2012. Апошнім тыдням ужо каля 10 гадзін вечара проста на хаду засынаю, таму ў гэты час і кладуся спаць. Устаю, каб ісці да бацькі на кватэру, без дваццаці шэсць. Пакарміўшы бацьку, іду на працу, а з працы дамоў, каб ізноў ісці да бацькі. І так, ужо хутка сем месяцаў, кожны дзень. І каб год назад мне нехта сказаў, што я фактычна адзін буду столькі часу даглядаць бацьку, то я б не паверыў, што ў мяне на бацьку хопіць сіл і цярпення...

*Федаровічы...*

18.05.2012. Даведаўся ад сваяка Леаніда Жыткевіча, што мая бабуля Параска (27.06.1909—24.06.1992) у дзявоцтве мела прозвішча Федаровіч і яе бацька Андрэй быў са шляхетнага роду, які меў свой герб. Дарэчы, з гэтага ж роду быў і Вацлаў Пятровіч Федаровіч (25.09.1848—25.01.1911) вядомы ў свой час як краязнаўца, калекцыянер, член-карэспандэнт Кракаўскай АН. Нарадзіўся Вацлаў Пятровіч у Магілёве. Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт. З 1872 года працаваў адвакатам у Саратаве, Балашове, Царыцыне, Ерэване. З 1884 года жыў і працаваў у Віцебску. Быў намеснікам старшыні Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Дапамагаў у раскопках археолагам, калекцыяніраваў зброю, археалагічныя, нумізматычныя, сфрагістычныя, этнаграфічныя матэрыялы. Набыў у сваю калекцыю матэрыялы віцебскіх калекцыянераў Бергнера і Валковіча. У яго бібліятэцы (больш за тысячу тамоў) былі кнігі па гісторыі Беларусі і Літвы, беларускія і літоўскія выданні XVIII—XIX стагоддзяў. Свае артыкулы па гісторыі Вацлаў Федаровіч друкаваў у «Витебских губернских ведомостях». Быў складальнікам і ініцыятарам выдання літаратурна-краязнаўчага зборніка «З ваколіц Дзвіны» (Віцебск, 1912). Распрацаваў статут Беларускага вольнаэканамічнага таварыства. У 1920 годзе на базе яго калекцый арганізаваны своеасаблівы музей старажытнасцей імя В. Федаровіча, які ў 1924 годзе стаў часткай Віцебскага абласнога краязнаўчага музея...

* * *

19.05.2012. Упершыню за час кватаравання вывеў бацьку на вуліцу. Пахадзілі па двары з паўгадзіны, і бацька сам захацеў у кватэру, а я ж баяўся, што назад яго і сілай не завалаку...

* * *

21.05.2012. Заходзіў Сяргей Вераціла. Пачуўшы нашу размову наконт рукапісу Верацілы, адна з супрацоўніц выдавецтва зрабіла заўвагу: «Як гэта вы, Сяргей, размаўляеце з нашым начальнікам!» Вераціла тут жа адказаў: «Гэта для вас Шніп начальнік, а для мяне паэт! І я з ім размаўляю, як з паэтам!»

* * *

22.05.2012. У кнізе «Памяць» Валожынскага раёна вычытаў: «С 17 января 1948 года открылось регулярное сообщение Минск—Ивенец и обратно. Самолеты производят перевозку пассажиров и грузов».

* * *

22.05.2012. На Валожыншчыне, у Вішневе ў 1923 годзе нарадзіўся вядомы ізраільскі палітычны і грамадскі дзеяч Шымон Перэс (Шымон Перскі). На той час у мястэчку было 149 будынкаў, у тым ліку касцёл і дзве сінагогі. Жыло 442 палякі, 428 яўрэяў і 85 беларусаў. У 1992 годзе Шымон Перэс прыязджаў у Беларусь і пабываў на сваёй радзіме — у вёсцы Вішнева. Нядаўна мастак Алесь Квяткоўскі намаляваў карціну, прысвечаную нашаму земляку і цяпер спадзяецца, што Шымон Перэс яшчэ прыедзе ў Беларусь і ацэніць ягоны твор...

* * *

22.05.2012. Сёння трэці раз у гэтым годзе бацька са мной выйшаў на вуліцу. Былі пад сонцам паўгадзіны, прайшлі метраў дзвесце. А мама са мной хадзіла па кіламетру...

* * *

22.05.2012. Дзяўчына, відаць, яшчэ школьніца курыць каля пад'езда. Курыць няспешна, як гаспадыня нашага двара...

* * *

23.05.2012. На пачатку вёскі Выганічы Валожынскага раёна, злева ад гасцінца Ракаў—Пярэжары, стаіць мемарыяльны знак у гонар расійскага дзекабрыста Аляксандра Бястужава-Марлінскага, які ў 1821—1822 гадах знаходзіўся тут па абавязку вайсковай службы. Знак быў пастаўлены ў 1987 годзе. Выганічы з'яўляюцца роднай вёскай беларуска-польскага кампазітара XIX стагоддзя Міхала Грушвіцкага, які пахаваны на Ракаўскіх могілках. Пра кампазітара аніякага знака ў Выганічах няма...

* * *

24.05.2012. Жыццё без мамы, як паданне з абрыву ў прорву...

* * *

24.05.2012. Толькі цяпер, калі застаўся без мамы, адчуваю сябе дзіцём, якому патрэбна мама...

* * *

24.05.2012. Алена Ваенга спявае: «Моя почти святая мама, прости отца!» І гэтыя словы я паўтараю для сваёй мамы...

* * *

25.05.2012. Нашы зноў праляцелі на «Еўрабачанні». Саліст гурта «Лайт Саунд» сказаў: «Мне было безразлично, пройду я в финал или нет». Дык для чаго тады трэба было ехаць у Баку?

* * *

25.05.2012. У серыі «Беларусь мастацкая» выйшла кніга «Валентин Губарев. Важно всё». Некаторыя выдавецкія жанчыны, гартаючы кнігу, прыйшлі да думкі: «Відаць, у маладосці нейкая жанчына пакрыўдзіла мастака, і ён цяпер ёй помсціць, малюючы жанчын стокілаграмовымі!»

* * *

27.05.2012. Вярнуўся з VIII абласнога семінара маладых паэтаў Міншчыны «Слова Купалы да творчасці кліча», які арганізавала і правяла Мінская абласная бібліятэка імя А. Пушкіна. У семінары ўдзельнічала 29 літаратараў узростам ад 16 да 30 гадоў. Акрамя мяне з семінарыстамі займаліся Раіса Баравікова, Галіна Каржанеўская і Рагнед Малахоўскі. Усё было добра, але ўсё ж засмуціла мяне тое, што амаль усе пішуць рэдка і нават вельмі рэдка і тое, што з 29 паэтаў было толькі тры хлопцы. Парадавала, што амаль усе семінарысты добра валодаюць беларускай мовай...

* * *

28.05.2012. Збіраюся ад бацькі дамоў і чую пытанне: «І нашай мамы няма?» — «Няма...» — адказаў я і пачуў: «Мне ж гаварылі, што ў мяне дзве жонкі будуць...»

* * *

30.05.2012. Даўно працуем у адным доме, але ў розных выдавецтвах і на розных паверхах. Кожны дзень сустракаемся. Я вітаюся, а ён не адказвае. Глухі? Здаецца, не. І мне хочацца часам, як казаў калісьці Юры Станкевіч, «падраўняць мужыку пятачок», але я вітаюся, а ён маўчыць...

* * *

30.05.2012. Ідучы да бацькі, каля будынка «Інвестбанк» убачыў мёртвую варону. «Дакаркалася!» — сказаў я і пайшоў далей...

*Апякункі паэтычных нябёсаў*

31.05.2012. У Музеі гісторыі беларускай літаратуры рыхтуецца выстава, прысвечаная 40-годдзю выдавецтва «Мастацкая літаратура». Сёння завёз у музей нашы ўзнагароды і кнігі, за якія мы іх атрымалі. Паглядзеў выставу «Апякункі паэтычных нябёсаў», прысвечаную паэткам Еўдакіі Лось, Яўгеніі Янішчыц, Раісе Баравіковай, Веры Вярбе, Дануце Бічэль, Ніне Мацяш, Галіне Каржанеўскай, Валянціне Коўтун і Таісе Бондар. Якія ўсё ж яны ў час сваёй маладосці былі ветлыя і прыгожыя, светлыя і наіўныя! Але ўсё гэта было даўно! І ўспамінаюцца радкі Янішчыц:

*Дзе час былы з паводкай весялосці,*
*Дзе шчыры поціск вернае рукі?*
*Саманаіў расстайнай маладосці*
*Агнём на сэрцы выпіша радкі.*
*І змые час дурных здзіўленняў пену,*
*І пачуццё абвугліцца датла.*
*...Паэзія,— яна не знае тлену,*
*Калі ў душы хоць прыгаршчы святла.*

Усё мінае. Паэзія застаецца!

* * *

31.05.2012. Ідучы з працы, сустрэўся са скульптарам Іванам Міско, які адразу ж сказаў: «Я вас даўно чакаю ў госці, а вас няма ўсё і няма!» І я абяцаў, што ў хуткім часе з Людмілай і дзецьмі зазірнем да яго ў майстэрню. Крыху прайшоўшыся разам па вуліцы, я ад Івана Якімавіча даведаўся, што ён нядаўна быў у Маскве і цяпер працуе над скульптурай расійскага касманаўта-беларуса, які ў канцы гэтага года павінен паляцець у космас...

## ЧЭРВЕНЬ

### *Мама і бацька*

2.06.2012. Прысніліся Лягезы. Зіма. Усё замецена. Бязлюдна. Я жыву з бацькам у хаце дзядзькі Вані. І раптам чую на вуліцы людскія галасы. Выходжу і бачу рудога каня запрэжанага ў сані, на якіх ляжыць мая мама. Яна мёртвая. Я гляджу на яе, а на мяне глядзяць незнаёмыя людзі, і я не ведаю, што мне рабіць. Клічу з хаты бацьку. Ён выходзіць босы і спыняецца на ганку, убачыўшы на санях мёртвую маму. Людзі знікаюць, а мама, разжмурыўшы вока, усміхаецца бацьку...

### *Паэтка*

2.06.2012. У выдавецтве ёсць цэлая шафа закладзеная блакнотамі паэткі Алы Церахавай. Гэта плён яе апошняга пяцігадовага рыфмавання. Нам яна пісала амаль кожны тыдзень. Паштальёны злаваліся на паэтку і на нас, што мы несвоечасова прыходзім на пошту па яе бандэролі, а яна кожны дзень пытаецца, ці аднеслі яе вершы ў выдавецтва. Напачатку мы адказвалі Але Церахавай, што немагчыма з-за яе почырку прачытаць тое, што яна нам дасылае, а потым нават звярнуліся да яе з просьбай, каб яна больш не загружала пошту сваімі бандэролямі. Наша просьба падзейнічала, але наадварот, і нам у тыдзень сталі прыходзіць дзве, а то і тры бандэролі ад Церахавай. І вось недзе гады паўтары назад паэтка знікла і мы ўжо думалі, што назаўсёды, але на мінулым тыдні ў выдавецтва прыйшла бандэроль ад Алы з блакнотам, у якім запісаны вершы, якія нельга прачытаць з-за неразборлівага почырку. Жыццё працягваецца...

### *На крылах рамантыкі...*

2.06.2012. У «ЛіМе» Яўген Гарадніцкі ў артыкуле «На крылах рамантыкі» напомніў усім нам, пісьменнікам, што 31 мая было б усяго 60 гадоў літаратуразнаўцу Тамары Чабан. Гэтае імя час ад

часу з’яўляецца ў спасылках літаратуразнаўчых і крытычных прац, згадваецца сучаснымі даследчыкамі. Тамара пісала і вершы. Тое-сёе было пасля яе смерці (памерла 20 сакавіка 1992 года) надрукавана ў альманаху «Дзень паэзіі». Памятаю, як на гадавіну па Тамары Чабан мы з Яўгенам Гарадніцкім ездзілі на Ракаўскія могілкі. І потым яшчэ планавалі разам з’ездзіць, але так і не атрымалася. І не ведаю, як часта цяпер Яўген наведвае Тамару, але калі б ён не быў яе мужам, то наўрад сёння ў «ЛіМе» успомніў бы хто пра яе юбілей, і не таму, што яна не вартая добрага ўспаміну, а таму, што няма ў нас асабліва каму ўспамінаць нашых памерлых...

## *З прыемнасцю прачытаў...*

3.06.2012. З прыемнасцю прачытаў у «Звяздзе» за 30 мая сказанае настаўніцай беларускай мовы Таццянай Красоўскай: «Вырашыла, што лета я прысвячаю Уладзіміру Караткевічу і яго непаўторным творам. Я «падсела» на гэта яшчэ з «Каласоў пад сярпом тваім», цяпер чытаю «Чорны замак Альшанскі». Буду чытаць усяго Караткевіча, і нават перачытаю тое, з чым пазнаёмілася раней, калі была студэнткай. Мне падабаюцца яго творы за праўду жыцця, сардэчнасць і цудоўную беларускую мову. З ужо прачытанага хачу таксама параіць кнігу Людмілы Рублеўскай «Золата забытых магіл». Проста немагчыма адарвацца! Кожную вольную хвіліну аддаю чытанню. Гэты твор трымае цябе ад першай да апошняй старонкі. А яшчэ Людміла Рублеўская можа пісаць пра каханне проста і разам з тым вельмі велічна».

## *Пяць фільмаў і жыццё*

3.06.2012. Два выхадныя дні, якія былі падзмрочаны холадам і дажджом, праляцелі. І я за гэтыя два дні ў вольны час ад паходаў да бацькі прагледзеў пяць фільмаў.

Першы фільм Марка Ферэры «Я тебя люблю», які ў 1986 годзе ў Канах атрымаў «Залатую пальмавую галінку» быў пра тое, як малады чалавек, якому ўжо абрыдла празмерная ўвага з боку жанчын, знайшоў на вуліцы бралок для ключоў. Бралок не просты, а ў выглядзе сімпатычнага жаночага тварыку, які на кожны свісток гаспадара адклікаецца: «Я тебя люблю!» Праз нейкі час бралок стаў маладому чалавеку замяняць усіх ягоных палюбоўніц. Ды аднойчы здарылася бяда — малады чалавек зламаў зуб і не змог болей свістаць... Ходзячы кожны дзень да

бацькі праз сквер, на сваім шляху я знаходзіў шмат якой усячыны, а вось бралка з сімпатычным жаночым тварыкам не бачыў. Ды і не патрэбны ён мне!

Фільм рэжысёра Уладзіміра Мірзоева па аповесці Андрэя Платонава «Катлаван», на жаль, не закончаны. У ім зняліся Пётр Мамонаў, Максім Суханаў і Віктар Сухарукаў. Фільм цудоўны, і я, даглядзеўшы яго да канца, сказаў: «Дурдом!»

Трэці фільм — «Чудо». Рэжысёр Аляксандр Прошкін. Гераіня фільма на вечарынцы, не дачакаўшыся свайго жаніха, запрашае на танец Мікалая Угодніка. Хапае ікону і з ёй камянее. Жыхары правінцыйнага гарадка напалоханы гэтым незвычайным здарэннем, якое абрастае чуткамі і выдумкамі... У аснову фільма пакладзены рэальныя падзеі, якія адбыліся ў Самары ў 1956 годзе і вядомыя як «Стояние Зои». Хрушчоў у фільме — самадур у капелюшы і ў бацінках, які нядаўна вылез з гразі ў князі. Словам, ёсць пра што падумаць і ўспомніць, што Бог ёсць!

Фільм рэжысёра Вячаслава Росса «Сибирь. Монамур» расказвае пра тое, як у тайзе жыве стары старавер Іван і яго сямігадовы ўнук Алёшка. Яны чакаюць бацьку хлопчыка, які два гады назад сышоў з дому і не вярнуўся. Зграя здзічэлых сабак паядае ўсё жывое, што трапіцца на іх шляху. Хлопчык сябруе з адным з гэтых сабак. Час ад часу далёкі сваяк дзядзька Юра прывозіць дзеду і ўнуку ежу. Апошнім разам, вяртаючыся дамоў ад старавера, дзядзьку з'ядаюць сабакі. У фільме хапае стрэлаў і крыві, але ён заканчваецца добра. Гледзячы на Алёшку, які ўпаў у перасохлы калодзеж і яго адтуль не змог дастаць дзед, успомніў, што і я ў сваім дзяцінстве было ўваліўся ў калодзеж. Я ў калодзежы прабыў паўдня, і мяне адтуль дастала мая бабуля Ганна. Хлопчыка дастаў вайсковец, і ён яго назваў «татам»...

Фільм Клода Лелуша «Железнодорожный роман» пра вядомую пісьменніцу і яе літаратурнага негра. Усё канчаецца тым, што пісьменніца канчае жыццё самагубствам, бо негр не захацеў болей працаваць на яе...

Цяпер на душы, як у кінатэатры, дзе хвілін пяць назад закончыўся фільм і гледачы пакінулі залу, а я застаўся з тым, што бачыў на экране...

* * *

5.06.2012. «Деревья, как зрелые женщины, казались тщательно напудренными» — так пачынаецца раман, рукапіс якога ў мяне сёння з'явіўся на стале...

* * *

5.06.2012. Хадзіў у Музей гісторыі беларускай літаратуры. У кабінеце дырэктаркі Лідзіі Макарэвіч сустрэў Леаніда Дранько-Майсюка. 12 чэрвеня ў музеі адбудзецца прэзентацыя ягонай «Кнігі для спадарыні Эл». Дранько-Майсюк быў з вялікім чорным парасонам, як з чорнымі складзенымі крыламі...

* * *

5.06.2012. Амаль чатыры месяцы мама для бацькі была яшчэ жывой. Сёння на словы бацькі «мама наша, відаць, памерла...» я сказаў: «Памерла» і расказаў усё, як было 15 лютага, калі памерла мама. І плакаў бацька, і плакаў я...

* * *

6.06.2012. Ля царквы, як ля вогнішча, людзі...

* * *

7.06.2012. Мы з табой, як самураі, засталіся адны...

*Ракаў Вячаслава Рагойшы*

7.06.2012. Майму земляку Вячаславу Пятровічу Рагойшу два дні назад споўнілася 70 гадоў. З гэтай нагоды ў мяне напісаўся верш «Ракаў Вячаслава Рагойшы»:

*У Ракаў не прыходзяць цягнікі.*
*У Ракаве былі бальшавікі*
*І не патрэбна ім была чыгунка,*
*Якая б не спаскудзіла малюнка*
*Старога Ракава, дзе брукаванка*
*Была, нібы кальчуга велікана,*
*Што скінуў на дарогу для каханкі,*
*Каб да яго прыйшла вясною рана*
*І ножак маладзенькіх не змачыла.*
*І як прыгожа ўсё было б і міла,*
*Калі б цягнік спыніўся і народ,*
*Які даўно ўжо не сляпы, як крот,*
*З яго пайшоў, але не на базар,*
*А да здзяйснення самых светлых мар*
*У госці да Рагойшы Вячаслава,*

*Дзе кожнаму заўсёды будзе лава,*
*Каб сесці і душою пасвятлець,*
*І ў думках над Айчынаю ўзляцець,*
*І ўбачыць з вышыні, што родны край*
*І быў, і ёсць наш беларускі рай,*
*Дзе ў цэнтры Ракаў, а над ім буслы,*
*Нібыта Божыя да нас паслы...*
*У Ракаў не прыходзяць цягнікі,*
*І не бяда. У Ракаве вякі*
*Вякуюць у касцёле і ў царкве,*
*У Ракаве і Беларусь жыве,*
*І будзе жыць...*

*Дзве навіны...*

8.06.2012. Беларускі гісторык Захар Шыбека з'ехаў у Ізраіль. Статут ВКЛ вярнуўся на радзіму...

* * *

9.06.2012. Дробны дождж. Каля выставачнага павільёна, што на вуліцы Янкі Купалы, сцягі на флагштоках намоклі, нібы завялі...

* * *

10.06.2012. Машыны, на якіх абтрапаныя Георгіеўскія стужкі, выглядаюць, як толькі што скрадзеныя...

* * *

10.06.2012. Чорныя бліскучыя легкавікі ў высокай траве, як велізарныя жукі...

*На фестывалі...*

10.06.2012. Учора быў на фестывалі беларускай песні і паэзіі. Некаму, што адбывалася на свяце, спадабалася ўсё, а некаму, як паэту Міхасю Башлакову, не спадабалася, што гэта быў фестываль Фінберга і безгалосых пяюх, а не свята паэзіі Янкі Купалы...

За дваццаць хвілін, калі ў Вязынцы каля помніка Янку Купалу выступалі паэты, побач прагрукацела каля дзясятка цягнікоў...

У дзесяці кіламетрах ад Вязынкі мае Пугачы. Стараюся думаць толькі пра свята паэзіі, але ўсё роўна бачыцца пустая родная хата і трава на ганку...

Як ніколі шмат людзей з кінакамерамі. Здымаюць шмат, а пакажуць, баюся, як і раней, пару хвілін...

На новым мосціку праз рачулку, калі мы вярталіся да свайго аўтобуса, павіталіся з тутэйшымі мужыкамі, што стаялі з косамі, як купалаўскія касінеры...

Жыта каля дарогі на Маладзечна яшчэ не палягло...

Там-сям на лугах пажаўцелыя пракосы, як сцежкі ў яшчэ далёкую восень...

Могілкі каля дарогі. На помніках з партрэтаў глядзяць людзі, якія ўжо ведаюць дакладна ці ёсць Бог...

Паэтка сядзіць у аўтобусе каля вакна і ўсміхаецца, нібыта за выступленне ў Вязынцы яе пахваліў Янка Купала...

Тэлевізійныя антэны-талеркі, як велізарныя апенькі, красуюцца на дамах...

Каля дарогі мужчына, падобны на празаіка Андрэя Федарэнку, памахаў нам, паэтам, услед...

У Маладзечне ёсць свой лядовы палац. Побач на другім баку вуліцы будуецца касцёл...

У Яхімоўшчыне з’явілася адчуванне, што недзе ў кустах схаваўся Янка Купала і дзівіцца праз бінокль з прыезджых паэтаў...

Абедалі ў Маладзечне ў рэстаране-клубе «Еўропа». Я сядзеў за столікам разам з Міхасём Башлаковым, Міколам Шабовічам і Уладзімірам Мазго. Настрой быў вясёлы, і мы, пазнаёміўшыся з дзяўчатамі-афіцыянткамі, вырашылі напісаць ім у «Кнігу скаргаў» падзяку за добрае абслугоўванне. Падзяку напісаў Шабовіч, распісаўся. Распісаўся і я з Башлаковым. Да нашых подпісаў далучыўся Дзмітрый Пятровіч. А Мазго катэгарычна адмовіўся падпісацца...

Дворык Маладзечанскай музычнай вучэльні сабраў шмат народу. Над сцэнай вісеў плакат «І бачыць Бог, ёсць музыка над намі...». І Бог, спадзяюся, не толькі ўсё бачыў, але і чуў, бо было што паслухаць...

У бібліятэцы імя Максіма Багдановіча пасля адкрыцця выставы, прысвечанай Янку Купалу і Якубу Коласу, прайшла прэзентацыя кніг, што выйшлі да юбілею нашых класікаў. Міхась Казлоўскі прадставіў кнігу Рыгора Семашкевіча «Янка Купала і беларускае адраджэнне». Гаварыў натхнёна і па справе...

За цэлы дзень нашы паэтычныя шляхі не перасякліся са шляхамі песеннымі...

* * *

10.06.2012. Вечарам бацька сустрэў мяне словамі: «Ты не крыўдуй, што я цябе, бывае, называю Славікам! Я ведаю, што ты Віця, але, гледзячы на цябе, успамінаю свайго малодшага брата, які быў такі ж добры, як і ты...»

* * *

13.06.2012. Сёння майму земляку мастаку Алесю Квяткоўскаму 60 гадоў. З гэтай нагоды я падарыў яму верш:

*У майстэрні Алеся Квяткоўскага*
*Кожны дзень — сатварэнне сусвету,*
*Кожны дзень — пераход наш праз Лету,*
*Быццам бы ў Кастуся Каліноўскага*
*У скляпенні, дзе спела паўстанне —*
*Наша квола-чырвонае ранне,*
*Ад якога з крывёю дарога*
*Да Айчыны, да волі, да Бога,*
*Без якіх не было б у Квяткоўскага*
*Ні Скарыны і ні Каліноўскага,*
*Ні Сабакі і ні Граждана,*
*А была бы чужына адна.*
*Але што тут казаць, што было б,*
*Сонца наша камусьці, як клоп,*
*А для нас наша сонца — святло,*
*Што да кожнага ў сэрца зайшло,*
*Бы ў майстэрню Алеся Квяткоўскага,*
*Бы ў скляпенне-жытло Каліноўскага,*
*Каб мы помнілі хто мы такія,*
*Беларусы, не дзеці Батыя,*
*І тут наша зямля, тут Еўропа,*
*І з майстэрні, нібыта з акопа,*
*Ты выходзіш і ў Заўтра глядзіш,*
*І нясеш свой мальберт, нібы крыж...*

* * *

14.06.2012. Еду ў аўтобусе. Побач два хлопцы, відаць, учарашнія школьнікі абмяркоўваюць здачу тэсціравання па рускай мове. Адзін пытаецца ў другога: «А як правільна пісаць «мальберт» ці “мольберт”?» І чую адказ: «Калі «маляваць», то «мальберт», а калі «моль душыць», то “мольберт”»...

* * *

14.06.2012. Учора ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылося адкрыццё выставы «Няхай світае свету!», прысвечанай 40-годдзю выдавецтва «Мастацкая літаратура». На жаль, з-за дажджу шмат хто не прыйшоў, а так было чалавек пяцьдзясят. Прыкра, што амаль ніхто не прыйшоў з тых, каму былі развезены запрашальнікі, густоўна зробленыя супрацоўнікамі музея. Праўда, некаторым не спадабалася, што на запрашальніку радкі Рыгора Барадуліна з верша «Кнігары»: «Усе мы жыхары Краіны прагнай ведаў. Святло ў душы, гары — Няхай світае свету!» А некаторыя, не атрымаўшы запрашэння на выставу, пакрыўдзіліся і сёння ўжо крытыкавалі нашы новыя выданні...

* * *

14.06.2012. Дарачы свае «Выбраныя творы», Анатоль Вярцінскі тут жа выправіў у кнізе дзве памылкі. На старонцы 48 у радках: «Колькі святла навокал! А мама туды пайшла, Дзе ні рам, ні вокан, дзе ні школы, ні святла» заместа слова «школы», трэба «шкла». А ў паэме «Даруйце!» заместа «Даруйце, мая мама!» трэба «Даруй, мая мама!»...

* * *

16.06.2012. Некаторыя асуджаюць незнаёмых і малазнаёмых людзей за іх непрыстойныя паводзіны ў складаных жыццёвых сітуацыях, а потым праз нейкі час гэтыя ж «суддзі» самі гэтак жа паводзяць сябе ў падобных складаных сітуацыях, як і тыя, каго яны асуджалі...

### *З жыцця Змітро Віталіна*

17.06.2012. Не магу ўстрымацца, каб з кнігі Уладзіміра Лякіна «Тры жыцці Змітро Віталіна» не працытаваць радкі пра жыццё ў 1930 годзе: «Кагосьці ў ЦК ЛКСМБ, а можа быць, і вышэй, асвяціла ідэя стварыць у калгасах адмысловыя камсамольска-моладзевыя брыгады па адкорме свіней, ад якіх, вядома ж, чакалі выдатных вынікаў. Як водзіцца, прынялі адмысловую пастанову і далі распараджэнне «Чырвоназменке» правесці адпаведную агітацыйную працу. Апрануць заклікі і лозунгі ў вершаваную форму даручылі Віталіну. Але замест таго, каб добрасумленна збудаваць чарговую стандартную рыфмаваную «агітку», малады

паэт вырашыў, як уяўляецца, злёгку пажартаваць. Апублікаваныя 14 кастрычніка, аб'ёмам амаль на старонку «Вершы пра свіней» пачыналіся неардынарна:

*Мы голасна песні і вершы пяём*
*Пра сонца, пра зоры, машыны,*
*Але вось чаму па-за нашым акном*
*Стаяць неапетыя свінні?*

Былі там яшчэ «свінарнік-палац», «свінаматка-ўдарніца» і іншыя пасажы, відавочна, недарэчныя на старонках органа ЦК ЛКСМБ. Застаецца загадкай, як гэты верш наогул быў надрукаваны. «Аргвысновы», зразумела, былі зроблены, і на працягу доўгіх месяцаў вершаў Змітро Віталіна камсамольская газета не друкавала».

* * *

18.06.2012. Зранку да мяне на працу прыехала тэлебачанне з просьбай, каб я расказаў пра Веру Вярбу, якой 14 студзеня было 70 гадоў. На шчасце, я з Гертрудай Пятроўна знаёмы, таму гаварыць было лёгка. Праўда, я назваў яе не Гертрудай Пятроўнай, а чамусьці Маркаўнай. Магчыма, таму што з ёй пазнаёміўся яшчэ ў 1980 годзе ў рэдакцыі часопіса «Беларусь», дзе яна працавала ў аддзеле літаратуры, куды я прынёс вершы, і з памяці выветрылася дакладнае імя па бацьку. Вера Вярба запомнілася ў элегантным капелюшы, з такімі ж элегантнымі сумачкай і парасонам. Яна выглядала так, як я ўяўляў і павінна была выглядаць паэтка. Словам, нагаварыў пра Веру Вярбу кучу харошых слоў. Магчыма, яна і пачуе іх, калі глядзіць наша тэлебачанне...

* * *

19.06.2012. На працу патэлефанаваў незнаёмы і папярэдзіў, каб я сёння чакаў яго, бо ён хоча мне паказаць свае геніяльныя творы. Праз некалькі гадзін пасля тэлефанавання прыйшоў незнаёмы гадоў пяцідзясяці і прынёс рукапіс рамана. Гаварылі доўга, на развітанне мужчына сказаў: «Калі не надрукуеце да канца года, я зап'ю і буду піць да таго часу пакуль ці я памру, ці вы надрукуеце мой геніяльны твор!»

* * *

19.06.2012. «Дай ты мне, хлапец, якую-небудзь работу, а то я памру!» — сёння гэтымі словамі сустрэў мяне бацька, калі я вечарам прыйшоў да яго на кватэру...

* * *

21.06.2012. Сумна, як у той дзень, калі мама памерла...

* * *

21.06.2012. Пабыў у бацькі, як у калгасе, які вымер, а ў ім застаўся адзін мой бацька...

* * *

21.06.2012. Яшчэ далёка восень, а лістота ўжо ападае. І ты наступаеш на лістоту, як на дні не табой пражытыя...

* * *

21.06.2012. «А ці пайшла б за мяне замуж Шурка?» — пытаецца бацька. «Якая Шурка?» — «Маміна сястра!» — «Шурцы ж хутка будзе 90 гадоў!» — «Ну і што!» — кажа бацька...

* * *

22.06.2012. На аўтобусным прыпынку да мяне падышоў стары невысокі мужчына і прывітаўся. Я адразу ж узгадаў, што гэтага старога недзе бачыў і мы некалі з ім знаёміліся. І каб мужчына не падумаў, што я не пазнаў яго, я запытаўся: «Як вашы справы?» — «Не вельмі. Працую ў газеце. Тыраж дзве тысячы. Нас засталося мала...» — адказаў стары і тут жа наша размова перарвалася, бо якраз падышоў патрэбны аўтобус і мужчына, развітваючыся, дастаў з торбы газету і даў мне. Праз хвіліну я разгарнуў выданне і прачытаў назву «Коммунист Беларуси»...

* * *

24.06.2012. Колькі ні рабі людзям дабро, яны ўсё на цябе глядзяць, як ваўкі на авечку...

* * *

24.06.2012. У Вязынцы каля Музея Янкі Купалы над скошанай травой лётае белы матылёк, як белы верш...

* * *

28.06.2012. Гляджу ў акно, нібы ў ваду, дзе лета цячэ...

# ЛІПЕНЬ

* * *

1.07.2012. Высока-высока ў небе самалёт, як мамін срэбны крыжык у вадзе вечнасці...

* * *

6.07.2012. Не бачу лета. Бачу бацьку...

*У Вязынцы*

8.07.2012. Учора цэлы дзень з Людай правёў у Вязынцы на святкаванні 130-годдзя Янкі Купалы. Мора людзей не было, але некалькі тысяч — дакладна. Выступленні адбываліся каля свірна і на вялікай сцэне. На жаль, прадукцыі, прысвечанай юбілею нашага класіка, было малавата. Некаторыя мае знаёмыя скардзіліся, што абвестак пра свята амаль не мелася, таму ехалі наўгад і, прыехаўшы ў дзевяць гадзін раніцы ў Вязынку, затаміліся ў спякоце, чакаючы дванаццаці гадзін, калі афіцыйна пачалося Рэспубліканскае свята паэзіі, песні і народных рамёстваў «З адною думкаю аб шчасці Беларусі...»

Уладзімір Содаль, як заўсёды, на купалаўскай студні прадаваў кнігі. З намі пагаварыў пра вышыванкі. У Люды ёсць вышыванка. Яе мы купілі больш дваццаці гадоў назад, яшчэ тады, калі паблізу з намі жыў Сяргей Новік-Пяюн, які нас і натхніў на набыццё святочнай нацыянальнай кашулі...

Вітаўт Мартыненка прадаваў музычныя дыскі. Нам нічога новага купіць не прапанаваў...

Іван Ждановіч, убачыўшы Люду і мяне, загарэўся сфатаграфаваць нас у вобразе княгіні і князя ў стэндзе, зробленым для фатаграфавання Генікам Лойкам...

Выступаў з вялікай сцэны. Даў інтэрв'ю тэлебачанню і радыё...

Пасля выступлення да мяне падышла настаўніца з Івянца і запыталася, ці можам мы з Людай прыехаць да іх у школу і выступіць. Дамовіліся на кастрычнік...

У тры гадзіны пасля выступленняў, як ужо стала традыцыяй, з Анатолем Бутэвічам і Навумам Гальпяровічам пайшлі ў госці на лецішча да Уладзіміра Гілепа. Пакуль мы ішлі, туды пад'ехалі сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч з дачкой Марыяй і Радзім Гарэцкі з жонкай і сябрамі. Шкада, што не было дыктафона, бо вельмі цікава было паслухаць успаміны Міхася Канстанцінавіча пра Янку Купалу і Якуба Коласа, а Радзіма Гаўрылавіча пра бацьку і пра Максіма Гарэцкага...

Дамоў вярнуліся а палове дванаццатай. Сёння ад учарашняга дня яшчэ з нас не сышоў добры святочны настрой...

## *Паляўнічыя і хлапчук*

8.07.2012. Даслухаўшы мой расповед пра тое, як я ў дванаццаць гадоў хадзіў у Вязынку да Янкі Купалы, каб паказаць яму свае вершы, сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч запытаўся пра назву маёй вёскі. «Пугачы!» — адказаў я і нечакана пачуў, што зімой 1968 года Міхась Канстанцінавіч з сябрам, будучы за Ракавам на паляванні, заблудзіліся. Невядома колькі б блукалі паляўнічыя, калі б не напаткалі ў лесе на гары хлапчука з санкамі, які на іх пытанне, дзе тут бліжэйшая вёска, з якой можна выехаць на аўтобусе, адказаў, што непадалёку ёсць Пугачы, і паказаў ім, як туды зайсці. «Дык ці не Вы, Віктар, былі тым хлапчуком, які нас выратаваў?» — запытаўся Міхась Канстанцінавіч. «Магчыма!» — адказаў я і расказаў, як у дзяцінстве, катаючыся ў лесе з гары на санках, напаткаў паляўнічых, якія запыталіся ў мяне, дзе тут якая вёска, каб там быў аўтобусны прыпынак, і я паказаў дарогу ў Пугачы. Паўспамінаўшы той далёкі час, мы з Міхасём Канстанцінавічам вырашылі, што нашы гісторыі пра паляўнічых і хлапчука — гэта адна гісторыя пра нас...

* * *

9.07.2012. Ад сябра сям'і Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча доктара Саковіча даведаўся, што ў 1981 годзе, калі я праходзіў апошнюю медкамісію ў войска ад Афганістана мяне выратаваў доктар Сяргей Язерскі, які любіў беларускую паэзію і чытаў беларускія часопісы...

* * *

9.07.2012. Гарачыня. І птушкі амаль не спяваюць, і бацька амаль маўчыць...

* * *

10.07.2012. Спякотна. Высока ў небе варона, як муха...

*Сашка Балотнік*

12.07.2012. На паўзмрочным выдавецкім калідоры да мяне падышоў незнаёмы і, прывітаўшыся, запытаў: «Пазнаеш?» Агледзеўшы мужчыну, я адказаў: «Не!» — «Я ж Сашка Балотнік!» — з усмешкай прамовіў мужчына і яшчэ раз паціснуў мне руку. І я адразу ўзгадаў свайго вясковага сябрука Сашку Балотніка, які пяць гадоў назад памёр, задушыўшыся куском сала. «Ведаеш, я вярнуўся і хачу зноў заняцца музыкай! У нас з табой ёсць цудоўная песня, але яе цяпер ніхто не выканае. Давай напішам што-небудзь новае!» — сказаў Сашка Балотнік і папрасіў нумар майго тэлефона...

* * *

14.07.2012. Памерла Вера Вярба. Узгадалася, што 18 чэрвеня да мяне на працу прыязджала тэлебачанне з просьбай, каб я расказаў пра Веру Пятроўну, якой 14 студзеня было 70 гадоў. Паэтку я ведаў і размаўляў з ёю ў той час, калі яна працавала ў часопісе «Беларусь», таму і расказваў для тэлебачання пра яе, якой яна была 30 гадоў назад. Расказваючы, лавіў сябе на тым, што пра Веру Вярбу гавару ў мінулым часе...

*Мінск—Ракаў—Пугачы*

15.07.2012. Ездзіў у родныя Пугачы на свята вёскі...

У аўтобусе Мінск—Валожын на вакзале сеў не на сваё, пазначанае ў білеце, месца, бо на ім сядзела дзяўчына і таму на «Каменнай горцы», дзе ў аўтобус зайшлі новыя пасажыры, маладая жанчына папрасіла мяне ўстаць з яе месца. Да Ракава ехаў стоячы, думаючы пра тое, што я ўжо даўно не ездзіў у міжгародніх аўтобусах...

З аўтобуса выйшаў каля Ракаўскіх могілак і пайшоў да мамы. Адчуваў спінай, як услед мне з аўтобуса глядзелі людзі...

Ідучы да мамы ў канец могілак каля агароджы, чытаў на помніках імёны памерлых і лічыў, колькі хто пражыў. Вельмі шмат моладзі...

Маміны магілка прыбрана. Прыбрана так, як быццам яе прыбірала сама мама...

Расказаў маме ўсё пра бацьку і пра тое, што еду ў Пугачы выступаць на свяце вёскі...

На Ракаўскім аўтавакзале мяне чакала загадчыца Пугачоўскага клуба Наталля Сасноўская з маладой дырэктаркай Пугачоўскай школы Сафронавай Аксанай Віктараўнай, якая ў нашы мясціны трапіла з Гомельшчыны па размеркаванні і цяпер жыве каля Ракава ў Выганічах, з якіх амаль пяць гадоў ездзіць на працу ў Пугачы. Раней яна некалькі гадоў выкладала замежную мову. Усю дарогу да Пугачоў з Наталляй, якая была за рулём, гаварылі пра вёску. Напрыканцы Наталля ўспомніла, што яна са мной адзін раз танцавала ў клубе...

Каля Дома культуры нас чакалі старшыня Залескага сельсавета Арабей Галіна Аляксандраўна і загадчыца бібліятэкі Кавалеўская Наталля Леанідаўна. Я глядзеў на іх і побач з імі бачыў сваю маму...

Бібліятэка пачынаецца са стэнда «Наш зямляк — Віктар Шніп». На ім стаіць мой вялікі партрэт, які тры гады таму намаляваў Алесь Квяткоўскі, і ляжаць кнігі мае і Людмілы Рублеўскай з аўтографамі...

Святкаванне пачалося а палове дванаццатай. Аднавяскоўцаў сабралася вельмі шмат. Мікрафоны стаялі на ганку Дома культуры. Пасля старшыні сельсавета выступаў я. Глядзеў на людзей і сярод іх бачыў маму...

На сённяшні дзень у Пугачах жыве 500 чалавек. З іх 100 дзяцей...

Самая старэйшая жыхарка Пугачоў — Марыя Адамаўна Багіна. Ёй — 88. Самы малы жыхар — Шымель Дзяніс Дзмітравіч, які нарадзіўся 3 ліпеня 2012 года...

На свята з Валожына прыехалі музыкі і выканаўцы песень. Аляксандр Шаўчэнка праспяваў маю «А ў гасцях...»

Пасля свята да мяне падбеглі дзеці, каб разам сфатаграфавацца, а ўсе сваякі сталі мяне клікалі ў госці. Абяцаў, што наступным разам прыеду спецыяльна і ўсіх адведаю...

Дамоў не пайшоў. Там мамы няма...

* * *

16.07.2012. У Дубровах знаходзіцца царква Нараджэння Божай Маці (1897). Да царкоўнага прыхода адносяцца вёскі: Агароднікі, Бортнікі, Будраўшчына, Вуша, Гіравічы, Гойжава, Дубровы, Душкава, Еленка, Кайцяні, Касцюкі, Кашына, Кулакоўшчына, Навасёлкі I, Навасёлкі II, Пазнякі, Пугачы, Раманава, Сцяцкі, Татарскія. А я ўвесь час да сённяшняга дня думаў, што мае Пугачы адносяцца да ракаўскага царкоўнага прыхода...

## *Прыстойны...*

19.07.2012. Званок у дзверы. Адчыняючы, думаю: «Відаць, сусед Дзіма...» Не. Дзве жанчыны. Маладзейшая з паперамі ў руках кажа: «Нам сказалі, што тут жывуць прыстойныя людзі! Падпішыцеся за кандыдата ў дэпутаты!» І давялося мне быць прыстойным чалавекам...

* * *

23.07.2012. Падчас вяртання з Лысай гары на электрычцы «Гарадскія лініі» зарыфмаваліся радкі:

*На Лысай гары зноўку попел, як вершы,*
*І сосны наўкол, як калоны ў палацы,*
*Нябёсы трымаюць, дзе дух вершаў грэшны*
*Лятае, нібыта лістоўкі на пляцы,*
*Які апусцеў...*

## *Вера Вярба*

23.07.2012. Да мяне на працу прыходзіла Раіса Баравікова. Пагаварыўшы па справах, узгадалі Веру Вярбу, якая нядаўна памерла. «У канцы мая ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры было адкрыццё выставы, прысвечанай беларускім пісьменніцам. Сярод памерлых былі чатыры жывыя: Загнетава, Каржанеўская, Вярба і я. Калі запрашалі на адкрыццё Вярбу, яна сказала, што не пойдзе, а прыйдзе сын. Словам, Вера сама сябе яшчэ тады далучыла да мёртвых, бо ад памерлых пісьменніц былі іх дзеці і сваякі!» — так завяршыла ўспамін пра выставу Раіса Андрэеўна і, сказаўшы, што Вярба была запанібрата са старэйшымі пісьменнікамі, расказала дзве гісторыі.

Веру Вярбу з самага пачатку яе творчага шляху рэдагаваў Анатоль Вялюгін. І вось некуды ён прапаў, а Веры трэба тэрмінова здаваць кніжку і, не адшукаўшы Анатоля Сцяпанавіча, яна пазваніла Аркадзю Куляшову і сказала: «Аркадзь! Мне тут трэба адрэдагаваць некаторыя вершы, ты паглядзі і адрэдагуй, бо я нікім не чытаныя творы ў выдавецтва не здаю! Трэба тэрмінова!» І народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў прачытаў рукапіс Веры Вярбы, а потым і выйшла кніжка з ягонымі праўкамі.

Неяк выпіваючы ў кампаніі са Сцяпанам Гаўрусёвым, Вера Вярба сказала: «Сцёпка! Я мяркую, калі б ты кінуў піць, то даўно купіў бы сабе машыну!» Гаўрусёў, кульнуўшы чарку, адказаў: «Мілая Верка, калі б я кінуў піць, то даўно б купіў самалёт!»

* * *

25.07.2012. Дзякуючы Таццяне Барысюк, якая не палянавалася схадзіць у Нацыянальную бібліятэку Беларусі і пагартаць «ЛіМ» за канец 2002 года, стаў вядомы дакладны дзень першага пасяджэння суполкі «Літаратурнае прадмесце». У штотыднёвіку за 29 лістапада 2002 года напісана: «Запрашаем! 5 снежня ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» (вул. Захарава, 19) пройдзе арганізацыйнае пасяджэнне літаб'яднання. Запрашаюцца маладыя паэты, празаікі, крытыкі. Пачатак у 17 гадзін. Тэлефон для даведак: 284-44-04».

* * *

25.07.2012. Учора з Людай, з дзецьмі і Людзінай мамай адзначылі сваё сярэбранае вяселле. Цешча ўспомніла, што пяць гадоў назад напісала пісьмо на радыё з просьбай павіншаваць Люду і мяне з 20-годдзем вяселля і перадаць для нас яе любімую песню. Песню перадалі, але не тую, што хацела цешча. Наш Максім, даведаўшыся, якую песню прасіла бабуля, пайшоў у другі пакой і, знайшоўшы яе ў інтэрнэце, уключыў. Пачуўшы сваю любімую песню, цешча сказала: «Глядзі ты, праз пяць гадоў успомнілі!» і тут жа, пакінуўшы святочны стол, села бліжэй да выключанага тэлевізара і пачала слухаць. Мы з Людай і дзецьмі, усміхнуўшыся, не сталі казаць, што песня гучыць з камп'ютара ў другім пакоі...

* * *

26.07.2012. Бацька, заўважыўшы ў мяне на шыі ланцужок з крыжыкам, пацікавіўся: «Што гэта ў цябе?» — «Крыжык. Прынесці табе?» — запытаўся я. «Не! Мне яшчэ рана!» — адказаў бацька...

● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ●

* * *

27.12.2012. Вечарам 25 снежня ў 20 гадзін 6 хвілін зазвінеў мабільны тэлефон: «Гэта з Ракаўскай бальніцы. Ваш бацька памёр. Прыязджайце і забірайце...» Паехалі. Забралі. Пахавалі бацьку на Ракаўскіх могілках побач з мамай. І мне цяпер не трэба быць цырульнікам...

# Яшчэ будуць харошыя светлыя дні...

* * *

Я гляджу праз акно на задымлены горад,
У якім я жыву і ў якім я памру
За старымі дамамі, дзе цені і холад,
Дзе на ўсходзе вятры раздзімаюць зару,
Быццам прысак, які там застаўся ад Храма,
Што ў мінулым стагоддзі, як свечка згарэў,
У якім маладая малілася мама,
Каб я быў паслухмяным і каб не хварэў.

Я гляджу праз акно, як праз лёд адзіноты,
І мне цяжка ўздыхаць, і мне хочацца жыць,
А над горадам чайкі, нібы самалёты,
Што з дзяцінства майго пРыляцелі кружыць
Па-над горадам дымным і па-нада мною,
Каб тут я хоць цяпер, але ўсё ж зразумеў,
Што на свеце няма і не будзе спакою
З-за таго, што наш Храм сто гадоў як згарэў...

*30.06.2011*

* * *

Адзін сяджу ў кватэры, як у клетцы,
І не хачу зусім з яе ўцякаць
За матыльком, які аб шыбу б'ецца,
Нібы аб неба, дзе ўначы сядзяць,
Як матылі, на Млечным Шляху зоры.
І я на зоры сумныя гляджу,
Якім самотна ў залатым прасторы,
Нібыта ў кроплі вечнага дажджу,
Які праліўся і застыў на кветцы,
Якая сонцам заўтра можа стаць,
Каб матылёк, які аб шыбу б'ецца,
Не захацеў да зорак адлятаць...

*12.08.2011*

* * *

У вечнасці губляюцца дарогі,
Як павуцінне ў небе і ў агні,
Дзе нашы радасці і ўсе трывогі
У Бога, нібы соль, на далані.
І ты стаіш ля вогнішча і марыш,
Што пройдзе восень, а пасля — зіма
І знікнуць з сэрца, як і з неба, хмары,
Разваліцца самота, як турма.

І будзе добра і табе, і свету,
Дзе ты жывеш і ведаеш, што ты
У вечнасці, як дым ад цыгарэты,
А ў сёння, нібы стомлены святы...

*30.11.2011*

* * *

Па туманнай расе, па сцюдзёнай вадзе
Пастушком басаногім твой ранак ідзе.
Ты глядзіш на яго і ў ім бачыш сябе,
І душа твая плача ў асенняй журбе,
Што ў апалым лісці пад нагамі ляжыць,
І так сумна табе, што не хочацца жыць,
А тым болей што хутка надыдзе зіма,
У якой для цябе анічога няма,
Бо зіму, як любіў, ты не любіш цяпер,
Бо зіма для цябе, як палюючы звер,
Што не спіць і ўначы, і заснуць не дае...
Сёння восень і вецер — сабака яе —
Па туманнай расе, па сцюдзёнай вадзе
За табою бяжыць, а твой ранак ідзе
Пастушком басаногім, што любіць жыццё
І збірае апалае з клёнаў лісцё,
І ў лісці ён не бачыць асенняй журбы...

*7.12.2011*

## *Бацька ў горадзе*

У чорнай гарбаце, нібыта ўначы,
Ты бачыш дарогу ў свае Пугачы.
Там хата пустая, там змрочна і тло,

І ўсё ўжо, здаецца, пражыта, сышло,
І ў горадзе ты, як у панскай турме,
Глядзіш праз акно, дзе не бачна ў зіме
Нічога знаёмага сэрцу твайму.
І ты ўжо не любіш сябе і зіму
За тое, што ўжо ўсё пражыта, сышло.
І ў чорнай гарбаце, як цукар, святло
Знікае паціху, зусім растае,
І ты мне гаворыш пра думы свае,
І слухаю я тваю споведзь і сны,
І хочаш яшчэ ты дажыць да вясны,
Бо ў чорнай гарбаце, нібыта ўначы,
Ты бачыш дарогу ў свае Пугачы...

*26.12.2011*

* * *

У свеце і ў душы даўно зіма,
А снегу, як і радасці, няма,
І травы зелянеюць, як вясной,
І чорны воран ходзіць, як герой,
Па плоце, за якім чарнее сад,
Дзе шчэ нядаўна светла лістапад
Кідаў лісцё мядзянае ў траву,
Дзе вецер выў стамлёнае «Жыву!»,
Нібыта думкі паўтараў мае.
Для шчасця сёння снегу нестае.
І я іду па вуліцы і мне
Вялікі кактус кветкаю ў акне
Як сябар усміхаецца стары.
І кот руды мудруе па двары,
І можна мне зайсціся ў гэты дом,
Напоўнены спакоем і дабром.
Ды не зайду — гаспадароў няма
І ў свеце, і ў душы, як крыж, зіма...

*28.12.2011*

* * *

Першы снег мы чакалі, як свята.
І стаў белым увесь белы свет,
Дзе, як вугаль, чарнюткая хата

Патанула ў снягах, як траве
У бялюткай, як дым на пажары,
Дзе згарэлі былыя гады,
У якіх былі светлыя мары
І надзеі на час залаты,
Што вось прыйдзе, як сонца прыходзіць,
Пад якім растаюць снег і лёд.
Выпаў снег. І па снезе, па лёдзе,
Нібы снежны, спяшае народ,
У якога немнога тут святаў,
І таму першы снег, як святло,
Што на крылах было ў лістапада
І што ў нашай самоце было...

*2.01.2012*

* * *

Не кажы пра самоту нічога,
Бо самоту цяпер не люблю,
Як і пыл над вясковай дарогай,
Што ўзляцеў, каб ізноў на зямлю
Апусціцца і з пылам змяшацца,
І абсыпаць кусты і траву.
Калі можна ад пылу схавацца,
Ад самоты сваю галаву
Не схаваць, бо самота заўсёды,
Як паветра, ля нас і ў душы,
Праз якую і пыл, і лістота
Пралятаюць, праходзяць дажджы,
Пакідаючы сумныя вершы,
У якіх ёсць і лёд, і цяпло.
Што прайшло, больш таго ўжо не вернеш,
І ці трэба вяртаць, што прайшло,
І таму не кажы пра самоту,
Бо самота, як пыл, як вуглі,
Як стаптаная ў парку лістота,
Як у небе начным жураўлі...

*20.01.2012*

* * *

Ізноў вясна жаданая прыйшла,
І ў кожнай, нават незаўважнай кветцы,
Нібы анёлак, пабыла пчала,
Сваім лятаннем асвяціўшы сэрцы
Людзей, што цэлую зіму чакалі,
Калі зноў кветкі ў садзе зацвітуць,
І залатой ад сонца стане далеч,
Нібыта рыбкі залатыя там жывуць
У возеры нябесным, што адтала
І ад снягоў пазбавілася ўжо.
Пчала ў тваю кватэру залятала,
Хавалася ад ветру і дажджоў,
І ты казаў пчале, што ты сумееш
І з ёй гатоў да сонца паляцець.
А ў сонцы, быццам у дупле, вяснуе
Руды вялікі сонечны мядзведзь,
Якога бачыў ты, калі ляцела
Пчала з тваёй кватэры ў белы свет,
Дзе раніцай упаў, растаў збялела
Апошні снег у першае траве...

*16.05.2012*

* * *

Спакойнае неба Айчыны,
Як купал адвечнага Храма,
Які берагчы мы павінны,
Дзе сёння іконаю мама
Мне стала і будзе іконай
Маёю, пакуль я жыву,
Дый потым травою зялёнай
Не стане, бо сам я ў траву
Сыду, каб іконаю мама
Была нада мною заўжды,
Дзе помнікі сценамі Храма
Стаяць ля крынічнай вады
У Ракаве родным і мілым,
Дзе светла, дзе гойна, дзе я
Стаю каля кожнай магілы
І кожная з іх, як мая...

*31.05.2012*

* * *

Дажджлівая халодная вясна
Табе прысніцца, і прачнешся ты,
І паглядзіш на белы свет з акна,
Нібыта з-пад аціхлае вады,
Што ўчора бушавала і цякла
І праз тваю самотную душу,
Якая тут адвыкла ад цяпла,
Прывыкшы да бясконцага дажджу.
Ды дождж прайшоў, і наступіла лета,
І дзе была вада, цяпер трава
Буяе, і па жоўтых хвалях кветак
Плыве да вёскі белая царква...
І ты прачнуўся, і глядзіш з усмешкай
Удалячынь, дзе сонца, як акно,
Дзе лесу шнур, як у нябёсы сцежка,
І лён, нібы блакітнае віно,
Разлітае анёламі даўно...

*5.06.2012*

* * *

Цеплынёй, як вадой, заліваецца
Гэты свет, што забыў пра патоп,
Дзе на промні ў жніво рассыпаецца
Сонца спелае, быццам бы сноп
Аржаны, што звязала матуля
І пайшла адзінока ў той свет,
Пра які ўсё жыццё сваё чула,
Дзе цяпер нас чакае, жыве,
І праз зоркі глядзіць залатыя,
І яна гэтак будзе глядзець
Да тых хвіляў, пакуль мы жывыя,
Пакуль будзем да Бога ляцець...

*25.06.2012*

* * *

Маленькі павучок густою павуцінай
Аплёў ікону ў хаце, дзе людзей няма,
Дзе шыбы ў вокнах, нібы вечныя ільдзіны,
Якія тут для нас пакінула зіма,

Што адышла кудысьці з белымі ваўкамі,
Што вылі тут нядаўна, як спусцеў наш двор,
Дзе раптам разышлася глеба пад нагамі
У мамы, што глядзела на сцяжыну з зор
Па-над сабою, па-над нашым белым светам,
Дзе белага хапае, як зімой снягоў,
Якія ў дзьмухаўцах і ў павуціне летам
Жывуць, чакаючы, каб уладарыць зноў
Над намі, нібы павучкамі, што у хаце
Іконы аплялі, каб не глядзеў з іх Бог,
Які паўгода ўжо з маёй гаворыць маці,
Што да яго прыйшла, каб дараваць ён змог
Усім людзям грахі і павучку малому,
Які свайго яшчэ не мае дому...

*18.07.2012*

* * *

Яшчэ зусім далёка да зімы,
І ты глядзіш на свет і разумееш,
Што дом чужы падобны да турмы,
З якой да маразоў ты не паспееш
На волю выбрацца, і ў родны дом
Прыйсці, як вестка добрая прыходзіць
І, душы напаўняючы святлом,
Жыве і не знікае ў новым годзе,
Але яшчэ далёка да зімы
І ўсё далёкае зусім далёка,
І, як непрачытаныя тамы,
Гады шчэ непражытыя нялёгка
Лічыць і думаць: «Ці дазволіць Бог
Усё спазнаць, што ты спазнаць жадаеш?»
І ліст асенні падае да ног,
І ты яго, як зорку, падымаеш,
І ў дом чужы нясеш, каб пасвятлеў,
Як родны дом, які цябе чакае,
І дзе абрус бялюткі на стале,
Як даўні снег, ляжыць і не знікае...

*3.08.2012*

* * *

Агонь патухне і ссівее неба,
Бы шэранню ахопіцца вада,
І стане непатрэбным, што нам трэба
Было нядаўна, і ўзрасце жуда
Між камянёў забытай брукаванкі,
Дзе шчэ нядаўна грукалі вазы,
І скрыгаталі ўзімку сані й санкі
Па камянях, дзе з кроплямі расы
Перамяшаны кроў былі і слёзы,
Якімі быў затушаны агонь,
Які не грэў ні ў спёку, ні ў марозы,
А ўсё знішчаў, склікаючы варон
На свята смерці, дзе сівела неба,
Бо ў ім за зоры зачапляўся дым,
Якому нашая зямля не трэба
Была ні ў гэтым свеце і не ў тым,
Куды вядуць амаль усе дарогі,
Бо гэты свет часовы, як вада,
Што сёння нашыя цалуе ногі,
А заўтра ўжо вады і не відаць
З пяску, як з вечнасці, што нас чакае,
І будзе нас на могілках чакаць,
Дзе ўсё жывое, як вада, знікае,
Каб, знікшы раптам, болей не знікаць...

*31.08.2012*

* * *

Мог я нарадзіцца у Парыжы,
Толькі нарадзіўся ў Пугачах,
Дзе з лясоў асенні вецер рыжы
Рассыпае лісце па шляхах,
Па якіх вяртацца мне дахаты,
Дзе ёсць хата, толькі ў ёй няма
І не будзе болей мамы й таты
І чакаць іх і гукаць дарма.
І па лісці я іду асеннім,
Быццам па пражытых мной гадах,
І гатоў паўзці я на каленях,
Каб вярнуцца ў час, дзе ў Пугачах
Мы жывём усе, і нам далёка,

Быццам да Парыжа, да кладоў,
Над якімі сонца і аблокі,
Як самота наша і любоў.
І калі бацькі ўжо не чакаюць,
Нас чакаюць восень і клады,
Дзе вятры лісцё перабіраюць,
Як памерлых райскія сляды...

*20.10.2012*

* * *

Бацька ўжо не вернецца дадому,
Як з пажару не вяртаюцца, каб быць,
Ні рудыя мышы, ні салома,
Бо згарэлі, як усё гарыць
У агні, які жыццём завецца,
І ў якім нам радасць ёсць адна —
Разрываць сабе душу і сэрца,
Выпіўшы, як вечнасці, віна.
Бацька ўжо не вернецца дадому,
Бо і ён ужо стаміўся жыць
І паліць душу, нібы салому,
У якой усё ў труне ляжыць...

*23.10.2012*

* * *

Зноў бацька ў бальніцы, нібы на вакзале,
На лаўцы сядзіць, быццам бы на труне,
Што лаўкай для бацькі гаротнага стала,
Магчыма, на месяц, магчыма, і не.

І скардзіцца бацька, што кормяць тут дрэнна,
І піць так даюць, бы шкадуюць вады,
І хочацца мне белай фарбай на сценах
Пісаць: «Не трапляйце ніколі сюды!»

І бацька ўсміхаецца, быццам бы знае
Усё, што патрэбна яму заўтра знаць.
Ізноўку мяне ён на лаўцы чакае,
Забыўшыся дзень свой апошні чакаць...

*24.10.2012*

* * *

...Снегам усё замяцецца,
Нібы азораным тлом.
Мама ад ветру прачнецца,
Выйдзе на двор з ліхтаром,
І не пабачыць нічога,
Толькі бязмежнасць снягоў
Белай дарогай да Бога
Будзе прад мамай ізноў
Так, як і ўчора, заўчора,
Цэлую вечнасць назад...
Траваў зялёнае мора
З рыфамі дрэваў і хат
Бачыцца мне — гэта сніцца —
І я спяшаю дамоў,
І мне ніяк не пазбыцца
Гэтага сну, дзе ізноў
Снегам усё замяцецца,
Нібы азораным тлом.
Мама ад ветру прачнецца,
Выйдзе ў бязмеж з ліхтаром...

*31.10.2012*

* * *

Яшчэ будуць харошыя светлыя дні
І праскача па ўзгорках на белым кані
Маладая жанчына ў чырвоным плашчы,
Быццам бы мой анёлак, які Пугачы
Для мяне беражэ, каб журботны не быў
І каб з комінаў хат дым асенняй журбы
У нябёсы да мамы няспешліва плыў
І знікаў у вачах маёй мамы сівой,
Што заўсёды цяпер будзе жыць нада мной
Родным небам, дзе зараз аблокі й дажджы,
Родным полем, дзе зараз балота й глыжы,
Па якіх я іду, як выгнаннік, якому
Аніколі цяпер не прыйсці ўжо дадому,
Бо нікога ўжо дома няма і не будзе,
Але ўсё ж вы мне верце, журботныя людзі,
Яшчэ будуць харошыя светлыя дні,
І праскача па ўзгорках на белым кані
Маладая жанчына, як мама мая,
Хоць яе ўсё ж адзін буду бачыць тут я...

*8.11.2012*

# ЗМЕСТ

*2012*

**Шніп, В. А.**
Ш76 Пугачоўскі цырульнік : дзённікавая проза паэта / Віктар Шніп.— Мінск : Маст. літ., 2013.— 351 с.

ISBN 978-985-02-1427-0.

«Мы да смерці гліна, і нас жыццё ўсё лепіць і лепіць, пакуль не абрадне...» — гэта асноўны лейтматыў новай кнігі паэта Віктара Шніпа...

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Шніп** Віктар Анатольевіч

**ПУГАЧОЎСКІ ЦЫРУЛЬНІК**

*Дзённікавая проза паэта*

Рэдактар *Н. В. Філіповіч*
Мастацкі рэдактар *В. І. Сенчанка*
Тэхнічны рэдактар *Л. І. Астрэйка*
Стылістычныя рэдактары *М. У. Віцько, А. М. Анцытовіч*

Падпісана да друку 09.01.2013. Фармат 84х108$^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 18,48.
Улік.-выд. арк. 16,94. Тыраж 2000 экз. Заказ

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494049 ад 03.02.2009. Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by, e-mail: mail@mastlit.by

ААТ «Палікрафт». ЛП № 02330/0494199 ад 03.04.2009.
Вул. Кнорына, 50, корп. 4, п. 401 А, 220103, Мінск.